# Анатоль Казлоў

# Незламаная свечка



# Анатоль Казлоў

# Незламаная свечка

Аповесці



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
2000

# ДЗЕЦІ НОЧЫ

## Містычная аповесць

...мы паўінстынктыўна верым, што злыя сілы з цягам часу пакараюць самі сябе.

*Джордж Оруэл*

## I

Шасцісоты «мерседэс» на «нябачных крылах хуткасці» нёсся ў прыглушаных промнях заходзячага сонца па гладка адпаліраванай коламі машын шашы. Прыгладжаныя вечарам сілуэты дрэў наўсцяж дарогі здаваліся спуджанымі варонамі, якія разляталіся па ўзбочынах, хаваліся ў зяленіве маладой травы, уціскаліся ў роўны шнурок кюветаў і бязладных рыцвін, што засталіся пасля бульдозераў. «Мерседэс» лёгка, без аніякай натугі раздзіраў сырадойна-млелае і ўгрэтае паветра, яно лёгка, не крывавячы, адскоквала ад лабавога шкла машыны. Надзіва былі бязлюднымі і тратуары ўздоўж дарогі. Гараджане, быццам палявыя мышы перад лютай зімою, пахаваліся па сваіх норах-кватэрах. Ва ўсялякім разе, так здалося Вілену. Колы «мерседэса» ледзь краналіся асфальту. А ўперадзе, над тэхнічнымі паверхамі ёмкіх і няўклюдных камяніц, павольна апускаўся на спачын агромністы дыск сонца. Ён ужо не сляпіў Вілена, а нібы лагодна лашчыў, пры тым не забываючы падагнаць хлопца, нагадаць яму, што трэба паддаць хуткасці, спяшацца, не глядзець на чырвоныя вочкі святлафораў, якія, быццам згаварыўшыся, часцяком пераступалі дарогу «мерседэсу» сярэбранага колеру.

— За горадам можна цісканудь і пад сто дваццаць.

Вілен заўсёды, калі заставаўся сам-насам, прывык гаварыць уголас. Гэта ўелася ў яго нутро з тых часоў, калі ліпкія абдымкі адзіноты зацалоўвалі хлопца, залашчвалі. І свой голас здаваўся чужым, незнаёмым, ён абнадзейваў, не даваў звар'яцець. Адзінота мінула, а звычка засталася.

Вілену ўжо дваццаць пяць. А наперадзе...

Цяпер яму не трэба, быццам яшчарцы, адкідваць хвост перад небяспекай. Ён разумее, цвёрда пераканаңы, што чалавеку, які прыйшоў у гэты свет, патрэбны Гаспадар. Кожнаму! І не так важна, жабрак гэта ці князёк, які распараджаецца лёсамі нікчэмнасцяў. Князёк таксама шукае Гаспадара, не спіць начамі, углядаецца ў глыбіню цемры і нябесны прасцяг. Ён свідруе вачыма зямное прадонне пад нагамі — шукае Гаспадара, кліча яго, умольвае ўзяць пад сваё крыло, пад сваю моцную руку. Хоча абараніцца ад непазбежнага. Кожны хоча вечнасці. Шукае яе, тыцкаецца сляпым кацянём наўкола да таго часу, пакуль не знаходзіць свайго дабрадзея. Вілен усё гэта ўжо знайшоў. Тры лічбы пад левым саском грудзей таму пацвярджэнне. Напачатку, пакуль яны не ўеліся ў скуру, то даймалі хлопца, смылелі і пяклі, але ўсяму патрэбны час для прывычкі. Гурон так і сказаў, што, каб займець вечнасць у будучым, трэба ахвяраваць лёгкасцю сённяшняга. Ніхто не будзе шкадаваць гангрэннага пальца для выратавання ўсёй рукі...

Горад за спінаю. Баскетбольны мячык сонца цяпер над лесам.

Вось ён дакрануўся зубчастых вяршалін і, нібы спяшаючыся, хаваецца, скочваецца за дрэвы. Сонца саступае месца поўні.

— Яна, наша поўня, сёння валадарка ночы! — Вілен усміхаецца. Ягоны твар,здаецца,звужваецца і выцягваецца да падбароддзя, а ў вачах успыхваюць нябачныя днём пякельныя іскаркі вугельчыкаў. Ці не вецер з прычыненага шкла на бакавой дзверцы машыны прымусіў разгарэцца іскаркам у вачах Вілена? Мусіць, яно і так. Сам хлопец не адчувае змены на сваім твары. Яго нечакана запоўніла хваля глыбокага ўнутранага экстазу.

— Ага! Я ў экстазе, нібы шлюшка! Вакзальная шлюшка, на дармаўшчыну абапітая танным віном. Люблю вакзальных шлюх і таннае віно! — Вілен ціснуў пальцам левае рукі клыпажок стэрэамагнітафона. Салон «мерседэса» запоўніла мелодыя яго любімай культавай групы «Гумавае лона».

— Я вечны вандроўнік у пацёмках ночы. Нязменны партрэт Дарыяна Грэя.— Вілен ямчэй уціскаецца ў скураное сядзенне машыны. Ён шчыры ў сваёй усмешцы. Няма прычын

для невыноснай, халодзячай сэрца, тугі.— Ага, трэба не забыць пра добрую фразу, якую пачуў сёння са скрыні тэлевізара. Перакажу яе Гурону. Той, серыяльна-нудотны шызафрэнік (шыз і фрэнік), сцвярджаў, што менавіта ён вырашае, каму жыць, а каму памерці. Задрыпана-аблезлы пеўнік, накачаны наркатою, браў на свае дыстрафічныя плечыкі груз такога права. Нейкі абгрызены кавалак смярдзючага мяса з сабачай памыйніцы хоча стаць упоравень з намі — Дзецьмі ночы. Паскудна і гадка нават уявіць яго і нас, гуронаўцаў, побач. Не, не ты, цуцык, вырашаеш, каму жыць, а каму памерці. Гэта толькі наша права. Аблашчваем і ўзнагароджваем, караем і забіраем мы — гуронаўцы...

Фары шасцісотага залатымі цвікамі прабіваюць густаватую плёнку ночы. Поўня яшчэ з-за небасхілу не ўскараскалася на нябесную вышыню. Там, пакуль што, сіратлівыя россыпы зорак і планет. Яны чакаюць свайго няспешнага нябеснага Гаспадара. Свайго пастуха і ахоўніка. А Вілен імчыць да сваіх сяброў — братоў і сясцёр, спяшаецца ўкленчыць перад Алтаром Гаспадара. Схіліць галаву перад яго магутнасцю і сілай, каб заверыць у непахіснай адданасці...

— Дабро і зло — два бакі аднаго медаля. Мой лёс распарадзіўся так, што жыццё, кінуўшы жэрабя, перакуліла медаль на цёмны бок, падціснула пад сябе мірыядна-зданістае святло.— Пальцы Вілена няшчадна сціснулі падатлівы руль «мерседэса», які, нібы стальная страла, ляцеў па дарозе, пужаючы вадзіцеляў рэдкіх машын. Уласнікі зношаных іншамарак і айчынных тарахцелак ціснуліся да абочын — саступалі дарогу срэбранаму інаходцу Вілена. Яны, мішчанчукі, быццам ведалі, што гэты хлопец спяшаецца да закінутага і забытага ў глухім ельніку былога дома адпачынку, дома, у якім некалі нагульвалі тлушч «працаўнікі» костнага камбіната. «Лепш прытармазіць, чым зрабіць смяртэльны кульбіт у паветры»,— відаць, толькі так думалася аматарам-уласнікам, калі яны праводзілі спалоханым позіркам д'ябальскую машыну Вілена.

— Хто вінаваты, што, нарадзіўшыся, я стаў нікому не патрэбны.

Нейкая распусніца, якую звычайна завуць маткаю, гульнула з кабялюгаю ў першым, што трапіўся на вочы, забруджа-

ным пад'ездзе ці на пыльным і смярдзючым гарышчы «хрушчоўкі» здаволіла свой сверб між ног, а праз дзевяць месяцаў выціснула са сваёй вантробы яго, Віленава, ружовае цельца ў малацілку жыцця. І ўсё! Яна дала яму жыццё. Дала жыццё і забыла. А ён жа гэта жыццё не прасіў у яе, у той клятай лахудры, якая, можа, нават не зірнула на яго, калі апрасталася ад ношы...

Вілен адной рукою прыкурыў ад газавай запальнічкі. Павольна, не спяшаючыся, зацягнуўся. Араматызаваны дым тытуню запоўніў лёгкія, шчыкатнуў у грудзях, нібы там нехта нябачны правёў пушыстым хвастом сібірскага ката. Выдыхваючы, хлопец пускаў дым праз нос. Шызавата-блакітныя струменьчыкі ад пругкага паветра праз акно змешваліся ў клубок і ў наступнае імгненне паўз калені спаўзалі да пружыністых чорных красовак. Вілену захацелася падбадзёрыцца з адкаркаванай пляшкі тэкілы. Ён прыклаўся да рыльца. Зрабіў два невялікія і адзін на поўны рот глыткі. Смак пітва, пекануўшы горла, разліўся па ўсім целе, разняволіў замлелую спіну, хвалькай пакаціўся па напружаных руках і нагах. Вілен любіў гэтае зелле. Не, ён не надта ў яго ўлягаў, але і не адмаўляўся, не пазбягаў узяць «на грудзі» чарку-другую са сваімі гуронаўцамі. А раз на месяц і добра хмялеў. Гэта заўсёды адбывалася трынаццатага чысла. У гэты дзень Гурон прымаў у іхнюю сям'ю новых братоў і сясцёр. Што можа быць лепшага за тое, каб прыгубіць, на колькі хапае сілы, спірытусу з агульнай культавай чашы — жоўтага, адпаліраванага рукамі і працьмай гадоў — чэрапа. Праўда, Гурон толькі яму прызнаўся, і то па вялікім сакрэце, узяўшы з яго, Вілена, магільнае слова маўчання, што культавы чэрап гіпсавы, копія адзін да аднаго звычайнага, чалавечага. Але кожны, хто бярэ ў свае рукі гэту чашу, чашу сілы і моцы, чашу іхняга агульнага з'яднання, назаўсёды зрастаецца з імі — Дзецьмі ночы.

Вілен крыху збавіў хуткасць машыны. Зараз павінна быць паваротка з цэнтральнай маскоўскай шашы на прасёлкавую, якая цягнецца да правінцыйнага раённага гарадка. Туды хлопец некалькі разоў заязджаў. Гарадок здзіўляў сваёй закінутасцю, жабрачай беднасцю і плоймай курэй на вуліцах. Вілену першы раз, калі ён наведаў гарадок, падалося, што трапіў

у чэхаўскія мястэчкі і абавязкова ён зараз угледзіць на вуліцы і чалавечка ў футляры, і чыноўніка, які чыхнуў у тэатры на цемя Вялікаму, а вось там, за гарбатай хацінай, стаіць і бальніца гарадка з флігелем, а ў ім знакамітая палата нумар шэсць. Проста фантастыка! Вілен не мог зразумець напачатку, ды і цяпер да яго свядомасці не даходзіць: як можа існаваць недалёка ад сталіцы такое месца — гарадок-прывід.

Калі хочаш — не маўчы,
А хутчэй мяне таўчы...—

пела «Гумавае лона» ў дынаміках. Вілен сам сабе ўсміхаўся. Усміхаўся нейкай глухой абыякавасці і бяздумнасці. Ён бачыў, як у дальнім святле фар «мерседэса» паволі вымалёўваецца над дарогай вялізны сілуэт птушкі. Шырокія, распасцёртыя ў бакі, на два з паловай метры, крылы чорнага грыфа, іхняга, Дзяцей ночы, заступніка і абаронцы. Лысая птушка-гігант без сполаху набліжалася да машыны. Вілен прытармазіў, адчыніў дзверцу і выйшаў на ўрасянелую траву. Грыф, з угнутай галавою, выставіў для тармажэння ўперад сухія пружыністыя лапы і надзіва мякка сеў на капот срэбранага «мерседэса». Крушыністыя вочы птушкі пазіралі на Вілена, а скрыўленая дзюба напаўадкрылася і выкінула ў ноч каротка-хрыплаваты гук прывітання. Хлопец пяшчотна дакрануўся да голай галавы заступніка, правёў далонню па шыі і складзеных на спіне крылах.

— Чакаў мяне, дарагі? Ты, мой паслухмяны птах, засумаваў без Вілена? А Вілен табе гасцінец прывёз. Пачакай, зараз дастану з багажніка. Я пра цябе ніколі не забываю. Ты, мой верны сябар, ніколі мне не здрадзіш, як і табе не здрадзіць Вілен. Вось, глядзі, цэлы пакет свежага мяса.

Грыф, узняўшы галаву і шырока раскрыўшы кручкаватую дзюбу, сквапна заглытваў прадаўгаватыя кавалкі мяса. Вілен заўсёды спецыяльна купляў для яго адборную цяляціну на загарадным рынку. Пазіраючы на грыфа, хлопец адчуваў, як і сам ён усім сваім абліччам зараз нагадвае гэтую грозную птушку.

І сапраўды, калі б хто-небудзь старонні вокам цяпер зірнуў на Вілена пры дзённым святле, то душа і сэрца ў незнаёмца

скамянелі б ці хутчэй за ўсё ператварыліся б у лядзяш. Вытанчаны, інтэлігентны твар дзецюка з матавай скурай і глыбокімі вялікімі вачыма колеру восеньскіх каштанаў грубеў, а росчырк вузкаватых яркіх вуснаў (хто першы раз бачыў Вілена, прыхаванай усмешкай думаў пра сябе: гэты юнец з караткаватымі вусікамі падмалёўвае губы) танчэў да ніткі і бялеў, выстаўляючы напаказ дагледжаныя, быццам нацёртыя мелам, зубы. Валасы караткаватай стрыжкі на галаве ў Вілена натапырваліся, што igліца на лапках ядлоўцу. Ніхто б не засумняваўся цяпер і ў тым, што хлопец пашырэў у плячах. Верхні гузік на кашулі, здавалася, не мог стрымаць мускулістую напятасць шыі, па венах і артэрыях якой, быццам па трубах водаправода пад ціскам шматмерных помпаў, пульсавала кроў. Вілен адарваў позірк ад грыфа, страсянуў галавой. У руцэ застаўся пусты цэлафанавы мяшок.

— Вось і насыціліся мы,— хлопец шпульнуў пад нізкарослыя прыдарожныя кусты непатрэбны зараз мяшок.— Відаць, толькі дурні сцвярджаюць, што вы, грыфы, жэраце адну падлу, га, мой птах? Ці твае супляменнікі ў цёплых і пустынністых краінах усё ж любяць смакаваць мяса з душком? Можа, яно і так. А ты, жыхар нашых беларускіх земляў, не грэбуеш і свежанінай. Правільна робіш. Усё смярдзючае, аджылае пакідай воранам, гэтым няспынным крумкачам, якія наганяюць жах на палахлівых старушэнцый, калі кружляюць па небе над іх хатамі. Папярэджваюць, што аджылі сваё дзядкі-бабулькі, падыходзіць іх час пераглядваць прыхаваныя вузельчыкі з ненадзёванай апраткай, апошнім уборам, у якім і пойдуць яны ў халодныя абдымкі зямлі.

Грыф уважліва слухаў Вілена з паўадкрытай дзюбай. Часам паварочваў то ў адзін, то ў другі бок сваю лысую белавата-чырвоную галаву. І ў такія моманты ён нечым нагадваў гіганцкую курыцу, якая ловіць покліч гаспадыні перад тым, як кінуцца на яе голас па жменю прэлых зерняў ячменю.

— Ці ўсе на месцы?

Грыф лёгенька ўцягнуў галаву ў плечавое міжкрылле.

— Гурон чакае мяне?

Птах яшчэ больш заглыбіў галаву.

— Гэта прыемна, калі цябе чакаюць. Мо самае лепшае, што мае чалавек. Ты вось мяне першы сустрэў, таму што больш за ўсіх чакаў.

Грыф спружыніста таргануў галаву ўгору. Выцягнулася шыя з рэдзенькімі пярынкамі.

— Ну, давай ляці, дружбачок. Табе напрамкі блізенька, хутка і я прыкачу.

Грыф быццам толькі і чакаў гэтых слоў. Ён адштурхнуўся ад капота машыны парэпанымі лапамі і, загарнуўшы пад сябе магутнымі крыламі паветра, накрыў ценем асветленую фарамі дарогу.

Не прайшло і пары хвілін, а птушкі і след прастыў. Быццам і не было яе побач з хлопцам. Вілен агледзеўся навокал. За габарытнымі фарамі машыны, ва ўрасянелай траве, блішчэлі яркімі жаўтаватымі каралямі светлякі. Здавалася, што іх нехта шчодрай рукой наводмаш сыпануў паўз дарогу. Першы раз, калі Вілен Падкідны пабачыў у лесе светлякоў, ён па-сапраўднаму спалохаўся. Той ноччу хлопец прагульваўся з Гуронам каля іх рэзідэнцыі — былога дома адпачынку. Ноч была надзіва глухой і густою, як гудрон, на небе не праглядвала ані зоркі, толькі натужліва хрыпаты вецер цяжка і надрыўна стагнаў у вершалінах прастуджаных дрэў. Вілен зараз узгадваў, як на сэрцы і ў ягонай душы было сполахна і нудотна, усё цела, здавалася, моцна абкручана мокрай анучай. Ад гэтага скура пабралася пупырышкамі, здавалася, што яе абсыпалі просам. Ён больш маўчаў, а гаварыў Гурон.

— Ты хочаш ведаць, чаму я цябе падабраў на вакзале? — Максім Гурон чакаў адказу, а Вілен уважліва глядзеў сабе пад ногі, баяўся натыкнуцца на частыя пні ад дрэў, якіх зашмат было наўкола сцежкі.

— Не, я цябе не пашкадаваў,— Гурон глухавата рагатнуў.— Шкадаваць я не ўмею, ты сам, відаць, у гэтым ужо ўпэўніўся. Згледзеўшы цябе на лаўцы з бамжамі і з пляшкай капеечнага віна ў руках, мяне быццам токам сцебанула, я нутром адчуў, спрацавала падсвядомасць, у скроні шуганула кроў, а ўнутраны голас Гаспадара прашаптаў: «Ён ваш. Забяры яго цяпер жа і будзеш мець яшчэ адну, акрамя сваёй, правую руку. Ён пойдзе за табою, толькі пакліч». І я не памыліўся. Ці помніш, брат, якім ты быў заўшыўленым, брудным і недагледжаным?

— Ыгы,— адазваўся нарэшце і Вілен Падкідны.

— Ты быў апушчаны, згніў бы зажыва. Хоць не. Рана ці

позна цябе прывяла б дарога да нас. Не гэтым днём, то другім, але я цябе б вылічыў і знайшоў. Сам ведаеш, што вакзалы — гэта сметніца чалавечых целаў і душ, гэта наш палетак, на якім мы збіраем даніну для ахвяравання Гаспадару.

— А як жа міліцыянты? — няўпэўнена спытаў Вілен Падкідны.— Няўжо яны не шукаюць тых, хто бясследна знікае?

— Будзь рэалістам. Каму патрэбны тыя, каго само, так бы мовіць, грамадства адпрэчыла ад сябе, утаптала ў гразь, зрабіла гноем, бясплодным гноем, на якім нічога не расце. Яны, гэтыя вакзальныя адкіды, толькі муляць «прыстойным грамадзянам» вочы, назаляюць. Усім сваім выглядам і жыццём нібы гаворачы:

«Паглядзіце на нас, паважаныя, і мы некалі былі такімі ж, як і вы, але жыццё, абставіны, а найбольш, можа, лёс, кіданулі нас у багну. Не адварочвайце пагардліва твары, не заракайцеся, бо можа стацца і з вамі такое. Жыццёвыя сцежкі непрадказальныя». А каму хочацца бачыць у апушчаным бамжы самога сябе? Вядома, што такіх ахвотнікаў не знойдзеш. Бамжы што балячка на целе. Яна муляе, свярбіць, няспынна даймае. Ад яе хутчэй імкнуцца пазбавіцца, а яна ўсё больш і больш разрастаецца. Вось таму ўзгаданыя табою міліцыянты і прыкладныя грамадзяне-гарадчукі толькі радыя, калі знікае абрыдзелы бомж з іх вакзальнага поля.

Вілен на той час не задумваўся над такімі простымі, як цяпер яму здавалася, пытаннямі. Ён жыў тым жыццём, якім жыў. Лепшага не даводзілася паспытаць, і таму ён лічыў заканамерным сваё існаванне на вакзале, у гурце такіх жа, як і сам. Ён памятаў, як да сустрэчы з Гуронам, у папярэдняе лета, з іхняй кампаніі вакзальшчыкаў зніклі тры сябрукі — дзве дзяўчыны і хлопец. Гэта былі Кацька Закідон, Манька Аблавухая і Вадзім Рабы. Яны зніклі не разам, а праз нейкі час, месяцы праз два, здаецца. І сапраўды, ніхто надта пра іх не пытаўся. Няма, ну і няма. Можа, яны больш хлебнае і цяплейшае месца дзе знайшлі ці наняліся да грашовых людзей у парабкі. Чаго крывіць душою, і такое часам здаралася. Падумвалі, што маглі яны з'ехаць і ў іншы горад, ну хоць бы і ў тую ж Расію.

Вілен хацеў запытацца той ноччу ў Гурона пра сваіх былых сябрукоў. Карцела даведацца: ці не ён, Максім, са сваімі

братамі і сёстрамі, сваімі гуронаўцамі, дапамог знікнуць Кацьцы з Манькай і Вадзіму з вакзальнага зборышча бамжоў. Хацелася запытаць, але змоўчаў, пабаяўся ўгнявіць Гурона, свайго выратавальніка і цяпер ужо брата. Рашыўшы сам сабе, што ў чалавечым жыцці гэта не тое, што ў воўчай зграі, калі яны, чатырохлапыя драпежнікі, у цяжкія часіны здабываюць разам спажыву, дапамагаюць адзін аднаму выжыць. Людзі горш за ваўкоў — у гэтым Вілен быў упэўнены і перакананы, то няма чаго і клапаціцца, назаляць з пытаннямі Гурону пра нейкіх там Манек і Кацек.

— Мы павінны быць моцнымі, заставацца заўсёды адной сям'ёю,— нібы пачуўшы думкі Вілена, гаварыў далей Максім.— Толькі так мы зможам сцвердзіцца, заняць адведзеную нам нішу ў жыцці. Не бойся здавацца жорсткім і непахісным, заўсёды вер у сваю правату і непагрэшнасць. Тваім дэвізам павінны стаць словы: «Я вышэйшы і мацнейшы за ўсіх, я лепшы за ўсіх таму, што я — абраннік сілы Гаспадара!»

Галоўнае: ніколі не адчувай сябе ніжэйшым, май найвялікшы гонар і самалюбства. Я даў табе ўсё, чаго раней ты не меў і пра што нават не думаў. У цябе ёсць жытло, машына і ўлада над іншымі. Ты мой брат, а значыць — аднадумца. Асцярожней, перад тваімі нагамі пень,— Максім шмаргануў хлопца за рукаў.— Трэба вучыцца бачыць у цемры. Яна — цёмная ноч, наша маці, а мацярок варта паважаць і любіць. Калі ты да яе з душою і без боязі, то і яна прасветліць твае вочы.

Вілену той раз здалося, што ім авалодаў гіпнатычны сон. Некуды знікла нудотнасць і скруха, сэрца ў грудзях білася роўна, у такт крокаў, а цела запаўнялася лёгкасцю. І светлякі ўздоўж нябачнай сцежкі ўжо не палохалі яго, а наадварот — лашчылі вочы і нібы сагравалі, няхай сабе і халаднаватым святлом.

Вілен Падкідны цяпер ужо не памятаў, колькі часу хадзіў ён з Гуронам па лясных сцежках, бо ўсё адбывалася як у сне.

Раніцай прачнуўся ён у Доме ночы (так Гурон перахрысціў былы дом адпачынку) быццам перароджаны...

«Мерседэс» паволі каціў па калдобістай дарозе. На паваротах аб'язджаў парослыя травою рыцвіны з дажджавой вадою, якую паспела зацягнуць ужо плёнка зялёнай пратухлай

твані. Фары срэбранай машыны выхоплівалі з цемры жаўтавата-залацістыя ствалы гонкіх карабельных сосен, разлапістыя цёмна-зялёныя елкі, а ў нізінах, там, дзе пачыналіся балацявіны, фары на імгненне асвятлялі хілыя і карослівыя бярозачкі, якія ў сваёй большасці, ад празмернай вільгаці, паспелі ўжо вымакнуць. Там, у балацявінах, раскашавалі шараватыя алешыны, гладкае, маладое вербалоззе ды вечна палахлівыя д'ябальскія дрэвы — асіны.

Матор «мерседэса» вуркатаў прыцішана-лагодна, без аніякай натугі. Ён пераадольваў дарожныя перашкоды, аб'язджаў вываратні і груды высахлага ўжо голля. (Паўз дарогу некалі рабілі прасеку, дрэвы сцягнулі і забралі, а голле так і тлела пад летнім сонцам, выпетрывалася вятрамі, мокла ад няспынных восеньскіх дажджоў, а зімнія маразы трушчылі яго, руйнавалі да таго часу, пакуль не заносілася голле шчодра мяккім, пульхным снегам.)

Вілену ў салоне машыны было ўтульна і добра. Прыцішаная мелодыя навявала санлівасць, расслабляла цела, галаву апаноўвала незразумелая абыякавасць. Зусім нечакана для сябе ён узгадаў Нінку Смаляк, дзяўчыну, з якой жыў разам пад часы бадзяння на вакзале. Чарнявая Нінка з прамяністымі блакітнымі вачыма (дзіўнае гэта было спалучэнне для Вілена напачатку, пакуль ён выпадкова не пабачыў на тым жа вакзале негрыцянку з такімі ж бяздонна блакітнымі вачыма) патрапіла ў Мінск з далекаватага Дрыбінскага раёна. Яна была маладзейшай за Вілена на тры гады. Дзіўна, але Нінка пра сябе амаль нічога не расказвала, не любіла яна чамусьці ўзгадваць сваё мінулае. Мо не вельмі салодкім было яно ў дзяўчыны. З Нінкай хлопец пражыў разам амаль паўтара года. Ад нечаканага ўспаміну ў Вілена зашчымела ў грудзях, на сэрцы зрабілася нудотна, а ў вачах зашчыкаталі нябачныя слязіны. Вілен, будучы разам з Нінкай, заўсёды здзіўляўся яе чысціні і гаспадарлівай жылцы. Яна насіла доўгія валасы, заплеценыя ў касу, якая спускалася амаль да паясніцы. Два разы на тыдзень, як кажуць, кроў з носа, а павінна была схадзіць у гарадскія душавыя ці ў лазню. Вадзіла яна з сабой і Вілена, з-за чаго, іншым разам, даходзіла і да сварак.

Нінка была надзіва разумнай і кемлівай дзяўчынай. Менавіта яна ўгаварыла Вілена на зіму перабрацца начаваць

далей ад вакзала, аж у раён Сухарава. Там яны аблюбавалі цёплы тэхнічны паверх у вялікім жылым будынку.

— Тут нас не патурбуе і не заграбе аніякі мент,— перакон-вала напачатку яна хлопца.— Зімою, сам ведаеш, як шныра-юць службісты па гарышчах прывакзальных камяніц, адлоў-ліваюць нас, небаракаў, і саджаюць у клетку.— Вілен гэта і сам добра памятаў, бо не адзін і не два разы прыходзілася гібець яму зімовыя ночы за жалезнымі прутамі міліцэйскіх уста-ноў.— Нічога, што ездзіць далекавата, але затое спакойна ў цёплым месцы можна выспацца,— даводзіла яна хлопцу.

Вілен і да сённяшняга дня не ведае, адкуль Нінка прыцягну-ла даволі добры матрац і яшчэ не падраную ватнюю коўдру. Замест падушкі яны прыладкавалі мяшок, запоўнены мяккім сенам са стажка, які стаяў у прыватным сектары, вельмі блізенька ад іх дванаццаціпавярховіка.

— Ты не бойся, я не зацяжару,— супакойвала ўцешнымі начамі дзяўчына свайго каханка.

— Кожная можа падзаляцець,— не згаджаўся Вілен.

— Дурненькі ты. Я ж ведаю сябе.

— Не гавары абы-што. У вас, жанчын, такая прырода.

— Не ўва ўсіх яно аднолькава,— пярэчыла Нінка.

— Калі што якое, адразу збягу,— злаваўся хлопец.— Не тое ў нас жыццё, каб з дзіцём і пялюшкамі валаводзіцца. Не трэба на свет пускаць яшчэ аднаго пакутніка. Хопіць і таго, што я ніколі ў вочы не бачыў сваёй маці, не гаворачы ўжо пра бацьку.

— Ды супакойся ты. Ускіпеў, як гаршчок на агні.

— Трэба галавой думаць, Нінка.

— Я і думаю.

— А чаму тады не адпускаеш з сябе, забіраеш усё?

— Проста я бясплодная ад прыроды. Бяс-плод-ная! Зразу-меў нарэшце?

— Адкуль ты ведаеш? — не верыў напачатку Вілен.

— Калі гавару, значыць, упэўнена. Ты думаеш, што адзіным у мяне мужчынам быў? — пачынала нервавацца Нінка.

— Гэта не аргумент.

— Добра. Каб закрыць гэтае пытанне аднойчы і назаўсё-ды, гавару табе як на духу: некалькі разоў правяралася я, бацькі

вазілі мяне да найлепшых спецыялістаў-дактароў, і паўсюль адзін і той жа дыягназ — прыроднае бясплоддзе. Цяпер ты задаволены?

Гэта было першы і апошні раз, калі Нінка ўзгадала сваіх бацькоў. Вілен не стаў распытваць далей, бо ведаў, як да такіх пытанняў паставіцца дзяўчына. Ён меркаваў так, што калі яна захоча нешта расказаць, то зробіць гэта сама, без яго назойлівага даймання, па сваёй волі.

«Эх, Нінка, Нінка, дзе ты цяпер, маё дзяўчо?» — скрушна мільганула думка.

«Будзь заўсёды жорсткім эгаістам, вер сабе і любі толькі сябе! — быццам адказам на роспач Вілена прагучаў у яго вушах голас Максіма Гурона.— Галоўнае: не распускаць слюні, не быць слабаком, няхай тыя, хто не мае свайго Гаспадара, упадабаюцца слімакам, ды яны і ёсць слімакі.— Свідраваў слых Вілена голас Максіма.— Ты прыйшоў на зямлю, якая ўжо прагніла і заіржавела, каб кіраваць бязвольнымі, тымі, хто, як машкара-трохдзёнка, таўкуцца летнімі надвячоркамі ў парным паветры прырэчных лугоў і гарадскіх звалак з пустэльнямі!»

Хлопец страсянуў галавою, адганяючы няпрошаны і чамусьці надакучлівы голас сябра. Ён адчуў лядзяшны халадок усярэдзіне, дзесьці каля самага пазваночніка, а пальцы левай рукі сцягнула сутаргай, яны непаслухмяна і кручкавата трымалі руль «мерседэса».

Жадаючы прасвятліць галаву, хлопец збавіў і так чарапашы ход машыны і другой, незамлелай, рукой намацаў пачатую пляшку з моцным напоем і зрабіў два глыткі. Заглыбіўшыся ў сябе, ясна і прыемна адчуў, як лагоднай, сагравальна-цёплай хвалькай пракацілася тэкіла ў грудзях, адагнала халадэчу са спіны, разняволіла пазваночнік...

Перад тым як сысці з вакзала, Вілен хацеў, як гавораць, па-людску развітацца з Нінкай. Усё ж столькі месяцаў прабылі і пражылі разам, грэліся ў завірушна-сцюдзёныя ночы пад адной коўдрай, дзяліліся адубелымі перапечанымі пончыкамі. Адным словам — жылі разам. Якія ні прыводзьце довады, а ганебна і нізка сысці вось так ад чалавека і не сказаць на развітанне хоць некалькі душэўных і цёплых, шчодрых, не

падманлівых слоў. Максім сядзеў той раз з новым, толькі што падабраным братам на лаўцы ў невялічкім скверыку. Нешта гаварыў, даходліва пераконваў, а Вілен думаў толькі пра Нінку. Здавалася, што да яго не даходзяць словы, якія вымаўляў гладка паголены малады мужчына. Ён гаварыў і без перадыху курыў цыгарэты з прыемным пахам. Дымок ад іх зносіўся ветрам якраз на Вілена. Вакол кіпела прывычнае для хлопца жыццё, жыццё вакзала: паспешліва крочылі пасажыры на платформы, горбіліся пад цяжарам вялікіх сумак і кардонных скрынь, меладычны голас дыктаркі абвяшчаў пра адпраўленне цягнікоў і іх прыбыццё з розных гарадоў і краін, над галавой шапацелі лістотай тоўстыя і ўгрэтыя сонцам ліпы. Усё гэта, здавалася, было побач і ў той жа час далёка ад Вілена. Ён думаў пра Нінку. З самай раніцы яна, нават не папярэдзіўшы хлопца, некуды знікла. Такое здаралася не часта, але бывала. Відаць, што з нейкай вакзальнай таваркай адправілася на промысел, бо, як гаварыла Кірылаўна (самая старая кабеціна з іхняга тутэйшага гурта), калі прасядзіш дзень без турботаў карчом, то ноч прыкрые цябе з пустым жыватом. Вось Нінка і пасунулася шукаць шчасце некуды далей ад вакзала, каб пад вечар была работа не толькі яе зубам, але і Віленавым, каб незадаволена не бурчэлі пустыя і галодныя жываты.

— Так што хадзем разам,— нарэшце даляцеў да слыху голас новага знаёмага.— Пажывеш пакуль у мяне, а там прыгледзішся, падумаеш над маімі ідэямі і тэорыямі, калі яны падыдуць табе — станеш адным з братоў Гурона, будзеш гуронаўцам (Вілен на той час так і не зразумеў гэтых гуронаўцаў і іх тэорыі з ідэямі, але ён не быў супраць таго, каб на дармаўшчыну перакусіць, а калі пашчасціць, то і чарку кульнуць). Ён толькі пабойваўся аднаго: дай божа, каб гэты знаёмы не аказаўся гомасексуалістам. З выгляду здаецца, што не падобны, але хто іх разбярэ. Віцька Кудравы — ці не яго, Віленаў, аднагодак — аднойчы патрапіў на такое знаёмства. Пасля таго як ён расказаў пра той выпадак, уся вакзальная бамжатня з тыдзень рогатам заходзілася. (Знаўцы сцвярджаюць, што дармавы сыр бывае толькі ў мышалоўцы. Вось так яно ў жыцці часта і здараецца.) — А калі падасца табе ўсё тое, што пачуеш і паба-

чыш — чужым, вернешся на свой вакзал,— неяк проста і даверліва ўталкоўваў знаёмы.

— Прабач, Максім,— усё ж вырашыў Вілен не пакідаць недамоўкі між імі,— калі цябе цікавяць мужчыны, ну, ты ведаеш, у якім сэнсе, то я не падыходжу. У мяне агульнапрынятая большасцю гетэрасексуальная арыентацыя. Так што тут ты цяпер усё ведаеш.

— Наконт сказанага не хвалюйся,— Максім першы раз за іх даволі-такі даўгаватую размову шчыра і адкрыта ўсміхнуўся. Хвіліну памаўчаў, прыкурваючы новую цыгарэту ад недакурка, натужліва кашлянуў, цвыркнуў слінай праз зубы і загаварыў далей: — Жыццё, відаць, цябе добра пакалечыла, калі ты і ўва мне ўбачыў напачатку гея, а не сапраўдную сутнасць. Ды нічога, я не крыўдую. Прыйдзе час, і ты беспамылкова будзеш пазнаваць людзей, вось гэтых усіх людзей, якія зараз мурашамі снуюць вакол нас. Мы, і ты ў іх ліку, будзем прымаць рашэнні: каму жыць, каму памерці! — Вочы ў Максіма палыхнулі пякельнай бліскавіцай. Вілен ад нечаканасці аж перасмыкнуў плячыма. «Вось табе і на, не адно, дык другое. Мо гэты параноік збег з псіхушкі ў Навінках? Хвіліна ад хвіліны — не лягчэй».

Падкідны, скасавурыўшыся, больш пільна прыгледзеўся да новага знаёмца. Ён па-сапраўднаму здзівіўся: прамільгнула некалькі секунд, і цяпер хлопец бачыў перад сабою звычайнага чалавека са стомленымі вачыма і прыхаванай усмешкай у кутках тонкіх губ. Кучаравы чорны чуб вецер згарнуў на высокі гладкі лоб, на якім не прагледжвалася ані маршчынкі. І толькі пад даўнім ружаватым рубцом на левай скроні пульсавала трапяткая сіняватая жылка.

Вілен пакуль не разумеў чаму, але на яго раптам сышла аднекуль паўнейшая заспакоенасць і ўпэўненасць у самім сабе.

— Прабач, Максім, але мне трэба заскочыць у прыбіральню. Піва просіцца на волю.

— Бяжы, я пачакаю.

Вілен таропка падняўся з лаўкі і праз дзесятак крокаў нырнуў у шчыльны і густы людскі натоўп. Яму карцела адшукаць Нінку, папярэдзіць яе, што ён сыходзіць у госці, каб дзяўчына не хвалявалася, каб ведала, што вечарам, як і раней, яны будуць разам.

Вілен прабегся па перонах, прашмыгнуў па зале чакання, прайшоў каля кас, наведаў «грашовыя» кропкі, дзе падраблялі дзяўчаты з Нінкай, зазірнуў у міні-кафэшкі, Нінка часам дапамагала там, але нідзе яе не было.

«Нічога, пабачымся вечарам,— заспакоіў сябе хлопец.— Пайду да Максіма, а то прымусіў чалавека сядзець крукам і чакаць, пакуль набегаюся. А Нінцы пстрычку дам, добра ўстаўлю пістон, каб ведала, як сыходзіць, не папярэдзіўшы».

У госці Вілен ехаў разам з Максімам на яго новай «маздзе». Машына яшчэ захавала ў сабе пах заводскай свежасці і чысціні. Утульны салон, мяккія скураныя сядзенні, фантастычная музыка далёкіх галактык — усё гэта расслабляла хлопца, агортвала нейкай глыбокай і шчымлівай радасцю. Ён даўно ўжо, нават і не памятаў, калі было, не адчуваў такога ўнутранага задавальнення і спакою. Менавіта едучы ў машыне, Вілен зразумеў: ягоны лёс крута мяняецца, нарэшце ён схапіў, як часта паўтарала бамжыха Кірылаўна, Бога за бараду. Цяпер хлопец нават здзівіўся, што на той час у яго не з'явілася ў галаве і кропелькі сумнення ў нечакана абрынутым на яго шчасці.

Пад коламі «мазды» дарога слалася роўненькім дываном. Гладкі асфальт, які нядаўна паклалі замежныя спецыялісты па цэнтральным праспекце горада, здзіўляў Вілена. Не, ён не адзін і не два разы праходзіў па такіх жа добрых тратуарах каля гэтай абноўленай дарогі, але адна справа глядзець на яе, ідучы пешкі, і зусім іншыя адчуванні напаўняюць чалавека, калі ўзіраецца ён на такое бліскуча-гладкае хараство праз лабавое шкло дарагой і новай іншамаркі. Разметка дарогі з белых палосак, нібы няўрымслівая сваволыніца, заігрывала з пярэднімі коламі «мазды» і, быццам прысаромленая, паспешліва хавалася пад нізкавата пасаджаным днішчам машыны.

— Ты даўно абжыў вакзал? — перапыніў думкі Вілена Максім.

— Ды ўжо не першы год.

— І падабаецца?

— Нічога сабе. Гэта не на гарадской звалцы дні свае бавіць.

— Бацькі далёка дзе жывуць?

Вілен нейкую хвіліну маўчаў. Думаў.

— Я пытаюся пра бацькоў. Вядома, калі гэта вялікі дзяржаўны сакрэт — можаш не адказваць.

— Сакрэт і сапраўды вялікі,— твар Вілена перасмыкнула натужліва-вымучаная ўсмешка.— Я іх проста не памятаю, ніколі не бачыў. І, відаць, не наканавана з імі сустрэцца.

— Не вешай носа,— адхіліўшы адну руку ад руля, Максім лёгенька таўхануў хлопца ў плячо.— Без іх лягчэй жывецца. Без усялякіх сумненняў можаш паверыць мне на слова.

— Без іх адзінока,— не пагадзіўся Вілен.— З-за гэтага ў мяне нават прозвішча вычварнае і нялюдскае. Нават сорамна вымаўляць.

Яны маўчалі. У салоне зноў гучала толькі далёкая зорная мелодыя, пад якую танцавалі вясёлыя сонечныя зайчыкі. Яны заскоквалі ў «мазду» праз шкло бакавых дзверцаў, праз лабавое і задняе шкло. Сонечныя непаседы, убачыўшы машыну, адрываліся, адскоквалі ад вялізных вітрын крам і рэстаранаў, кафэ і музеяў, выставачных залаў і кавярань, адразу ж запаўнялі новы ўтульны салон машыны. Яны не толькі сляпілі Вілена, а, здавалася яму, нават шчыкаталі твар і шыю, аголеныя да локцяў рукі. Максіма хутчэй за ўсё яны не даймалі, бо ў яго на носе былі начэплены зацемненыя вялікія люстраныя акуляры.

— Падкідны я,— прыжмурыўшыся, выдыхнуў Вілен.

— Ого! Табе ў карты на падкіднога дурня не шэнціць?

— Не ад гульні ў карты нашу я такое прозвішча. Няўжо не разумееш? — бачылася, што хлопец псіхануў, далоні рук самі сабою сціснуліся ў кулакі.

— Я няўдала пажартаваў,— Максім прамовіў гэта замест прабачэння.

— Чаго ўжо мельцяшыцца,— буркнуў пад нос Вілен.— Нарадзілі і падкінулі мяне. Цяпер вось і жыву Падкідным. Дзякуй тым дзядзькам і цёткам, якія хоць імя больш-менш прыстойнае далі. А мог бы звацца і нейкім Яўтухом ці Малахам. Але ўсё гэта дробязі.— Вілен зноў адчуў, як ягонае сэрца напаўняецца невытлумачальнай радасцю. Усё ранейшае, папярэдняе — пустэча, яна назаўсёды засталася за плячыма, а наперадзе, у зусім недалёкім будучым, у яго сапраўднае жыццё, пра якое нават баяўся марыць.

— Я гэта ведаю,— уголас прагаварыў Вілен.

— Што?

— Нічога, Максім. Даўняя звычка — гаварыць сам з сабою.

— Пазбаўляйся ад яе. У нашай справе яна будзе толькі шкодзіць.— Максім зняў акуляры, паклаў іх на пярэднюю панель перад лабавым шклом.— Чытаў сённяшнюю «Вячорку»?

— Што-што?

— «Вячэрні Мінск», кажу.

— Яшчэ ж далекавата да вечара.

Максім скоса зірнуў на цяпер былога жыхара вакзала, куточкамі губ ехіднавата ўсміхнуўся.

— Ты проста дагістарычны выкапень, хлопча. Але гэта не так і важна.

— На газеты грошы трэба,— пакрыўджана буркнуў Вілен.

— «Чарніла» ж ёсць за што купіць, га?

Вілен змоўчаў.

— Вазьмі на заднім сядзенні. Прагледзь раздзел «Крымінал». Там нешта цікавае прачытаеш.— Максім шматзначна акінуў позіркам новага знаёмага.— Ты які памер адзення носіш?

— Пяцідзесяты, здаецца, а рост чацвёрты,— здзіўлена адказаў Вілен.— Навошта гэта патрэбна табе?

— Пара ўжо прышмоціцца, малады чалавек.

— Мне і так добра. Ды і грошы дзе я вазьму?

— Пазычу. Прыйдзе час, аддасі. Не ўсё жыццё ж збіраешся хадзіць ахламонам. Аблюдзіцца трэба, навесці знешні бляск. Пакуль чытай газету, а праз некалькі кварталаў заедзем у клёвы буцік і падбяром тое-сёе.

Вілен разгарнуў свежы нумар «Вячэрняга Мінска», кінуў вокам на артыкулы і інфармацыі, абыякава спыніў позірк на фотаздымках, удыхнуў на поўныя грудзі свежы пах друкарскай фарбы і, нарэшце, засяродзіўся на рубрыцы «Крымінал».

У звестках МУС пісалася пра тое, да чаго большасць грамадскасці ўжо прывыкла: п’яныя разбоі, згвалтаванні, пажары ад курэння ў ложках, рабаванні асабістай маёмасці, крадзяжы дарагіх аўтамабіляў. Падкідному даводзілася чытаць пра такія злачынствы і ў іншых газетах, якія забывалі пасажыры вакзала на лаўках ці проста выкідвалі іх каля сметніц, як непатрэбны і лішні груз. Але апошняя вестка зацікавіла Вілена. У ёй гаварылася, што за Мінскам, на мяжы з Чэрвеньскім раёнам, у мінулую нядзелю грыбнікі знайшлі

знявечаны труп маладой дзяўчыны. Як паведамілі судмедэксперты, у яе не было сэрца і печані.

— Ну, як табе? — не адрываючы позірку ад дарогі, спытаў Максім.

— Жахліва,— толькі і змог прамовіць Вілен.

— Нічога, прывыкнеш. Цяпер такі час. Прыйшло тое на зямлю, пра што гаварылі ў мінулых стагоддзях, чаго чакалі такія гаспадары жыцця, як мы — гуронаўцы. Гэта наш баль, баль нашага вялікага Гаспадара. Мы заказваем музыку, самі граем і танчым, выбіраем ахвяр і даём дазвол на жыццё.— Пальцы на руках Максіма аж пабялелі, так моцна ён абхапіў руль.— Чаго ўціснуўся ў сядзенне, як усё роўна на плечы звалілася табе стопудовая глыба мармуру?

— Не па-людску ўсё гэта. Страшна жыць, калі задумваешся, што робіцца навокал.

— Не слюнцяйся, Вілен. Я ж пазнаў адразу ў табе моц унутранага духу і светлую галаву. Яны-то і паслужаць нашай агульнай справе. А людскасць, дабрыня, спачуванне і шкадоба — пустыя словы, якімі большасць прыкрывае сваю мурашыную мізэрнасць ці, наадварот,— пацёмкі душы. Вось ты — бязбацькавіч, бомж. Хто табе першы працягнуў руку, каб вышмыргнуць з бяздоннай багны? Праўда, ты за маю руку цяпер павінен трымацца аберуч, каб яна міжволі не выслізнула.

«І хто турхануў мне ў плечы, каб я сеў у машыну да такога вар'ята? Захацелася дармавога харчу і пітва. Тут хоць бы самому жывым застацца,— спалохана скакалі ў галаве Вілена думкі.— Зараз жа трэба нешта прыдумаць і збегчы. На такой хуткасці не выскачыш. А калі і сігануць, то абавязкова патрапіш пад колы іншай машыны. Якія тут жартачкі, калі адразу чатыры праезныя паласы ў адным накірунку. Думай, думай»,— загадаў сабе хлопец.

Максім адчуў перамену настрою ў свайго знаёмцы, які з абыякава-вясёлага нечакана нібы паменшаў ростам і змізарнеў, заклапочана і прыдзірліва пачаў узірацца ў бакавое шкло дзверцы.

«Не трэба ісці адразу ў лабавую,— перасцярог сябе Гурон.— Так любога можна запалохаць і адштурхнуць. А зда-

валася, што ён без лішняга сюсюкання ўсё схопіць і зразумее. Жыццё ж яго навучыла лепш за розныя там універсітэты і акадэміі. Не, не варта адразу, нахрапам ламаць яго светапогляд, які дасюль склаўся. Пачну далучаць да маіх гуронаўцаў Вілена ціхенька і складненька, усяму свой час і свой дзень».

— І чаго мы прымоўклі? — Максім зычліва ўсміхнуўся.— Вазьмі закурыць. Цыгарэты прачышчаюць мазгі, вытурваюць з галавы брыдкія думкі. Не ведаю, як табе, а мне яны надаюць упэўненасці і рашучасці. Скажы: мне падалося ці сапраўды цябе нешта ўсхвалявала? Бачу, што і вочы палахліва бегаюць, і твар выцягнуўся, як у муміі.

— Выдумляеш бязглуздзіцу,— спрабуючы надаць голасу абыякавыя ноткі, прамовіў Вілен.— Жывот схапіў. Раніцай нейкай заразы з'еў, вось страўнік і круціць. Прытармазі за трамвайным супынкам, збегаю ў прыбіральню. Хочаш ці не, а трэба апаражніцца.

«Ну-ну, давай, хлопча, лі ваду на млын. Толькі ж я не з прастачкоў. І навошта падсунуў яму газету? Думаў, што ён усё правільна зразумее, аж не. Перабольшыў. Ды і чаго дзівіцца. У яго ўмовах жыцця ўсяго трэба баяцца».

— Зараз, Вілен, заедзем вунь у той дворык,— Максім хітнуў галавой на белавата-чырвоны пяціпавярховік з маленькімі, толькі паставіць у вазонах кветкі, балкончыкамі пад вокнамі і чатырма прыземістымі, з аблезлай фарбай калонамі каля пад'езда. Беспамылкова можна было вызначыць, што гэты дом будаваўся яшчэ пры сталінскіх часах.— Там і зробіш сабе аблягчэнне. Лады?

«Мазда» плаўна павярнула з праезджай часткі дарогі і юркнула пад разлапістыя кроны каштанаў.

«Тут і выкарчую з яго боязь і страхі. Калі спалохаўся напачатку, то і ў далейшым калені будуць падгінацца».

— Не спяшайся, Вілен,— перапыніў Гурон намер хлопца выскачыць з машыны на вуліцу.— Я хачу, каб ты ўважліва паглядзеў мне ў вочы. Гэта зойме адну, ну ад сілы — дзве хвіліны. Добра? — Максім паклаў руку на плячо хлопцу.

— Хочаш пагуляць у пераглядкі?

— Называй, як табе падабаецца. Але галоўнае — ты рас-

слабся і выгані з галавы розную лухту. Сядзь вальней, а то напруціўся, як усё роўна кол праглынуў.

Вілен зірнуў у вочы Максіма, і яму здалося, што перад самым носам узарвалася шаравая маланка. Усё некуды паплыло: машына, дворык з каштанамі, дзіцячая пляцоўка з арэлямі і пясочніцай, жанчына, якая гулка выбівала на жалезнай перакладзіне вялікі зеленаваты дыван. Ён не бачыў і самога Максіма.

Перад унутраным зрокам Вілена паўстаў густы ельнік, праз колкія лапкі якога не маглі прабіцца нават сонечныя промні. А дзень жа (хлопец гэта добра ведаў) быў у самым разгары, пякучае сонца вісела ў нябесным зеніце. Пад нагамі процьма кісліцы, ці, як яе яшчэ называюць на вёсках, заечай капусты. Вілен нахіліўся і адшчыкнуў некалькі травінак, змахнуў з лісцікаў іглiцу і ўкінуў кіславатую знаходку ў рот. Жавануў зубамі некалькі разоў, і сківіцы звяла аскоміна. Хлопец агледзеўся. Наперадзе, метраў за дваццаць ад яго, лапікам святлелася прагаліна. Ён не раздумваючы скіраваў туды, асцярожна абыходзячы шматлікія старыя вываратні, трухлыя пні, хрумсткія груды з голля. Дзіўная цішыня, не чутно і спеву птушак. Усё вакол нібы соннае і зачараванае. Вілен нават не чуў сваіх крокаў. Поўны вакуум, але ж дыхаецца лёгка, і ўсё цела расслаблена, разняволена. «А мо крыкнуць? — мільганула думка.— Набяру поўныя грудзі паветра і галёкну так, што захістаюцца вершаліны елак!» Ён набраў поўную грудзіну паветра, аж разанула ў лёгкіх, нацяўшы галасавыя звязкі, крыкнуў. Фантастыка, свайго голасу Падкідны не пачуў.Самае неверагоднае тое, што гэты казус ані на кроплю не ўсхваляваў яго, не падаўся неверагодным.

Вось і палянка. Яна па краях, як лясное азерца, густа зарасла вербалоззем, купчастым і роўным, нібы падстрыжаным дбайным і ўмелым садоўнікам. Пукацісты ўзгорак паляны быў голы, зусім без травы. Зямлю там-сям пакрывалі толькі шэра-бялёсыя лішайнікі і рэдкія зялёныя бародкі моху. Паляна нагадвала лысіну састарэлага дзядка, які ўжо з паўстагоддзя не ведае, што такое грабеньчык і дзеля чаго ён увогуле існуе. Вілен спыніўся каля аднаго з кустоў вербалоззя, пільна ўгледзеўся ў цэнтр паляны, яе сарцавіну. Спачатку ён

не паверыў сваім вачам, калі ясна разгледзеў там дзіўную вялікую птушку, якая, схіліўшы да крыла голую і лысую галаву, як і сама гэтая палянка, насцярожана, а хутчэй за ўсё цікаўна пазірала на хлопца. Невядомая сіла цягнула Вілена да птушкі, падштурхоўвала яго ў плечы, а ён і не супраціўляўся. З цікаўнай пажадлівасцю падышоў да птушкі. (Гэта быў чорны грыф.)

Нейкі прамежак часу яны глядзелі адно на аднаго, ацэньваючы, вывучалі. Але вось птушка ўстрапянулася, выпрастала ўгору лысую галаву, і Вілен убачыў у яе дзюбе ладны, на ўсю далонь, ключ, які пераліваўся ў промнях сляпучага сонца.

«Бяры, ключ твой,— пранесліся ў галаве хлопца чыесьці словы.— Не бойся, забірай. Пакладзі ў нагрудную кішэню і заплюшчы вочы. Ты малайчына, Вілен!»

Хлопец працягнуў руку да дзюбы грыфа, і ключ лёг на далонь Вілена. Вочы самі па сабе заплюшчыліся, а ў вушах шуганула гарачая хваля паветра...

— Ты збіраешся бегчы аблягчыцца? — злавіў нарэшце голас Максіма хлопец.

— Ды не хачу я нічога,— Вілен неадрыўна глядзеў у вочы Гурона.— Калі самаму прыпёрла, то скокні да сарціра.

Максім прыхаваў няўлоўную ўсмешку за насупленасцю броў, якія ён, зморшчыўшы, звёў да пераносся.

— Чаго мы тут стаім? — Вілен нецярпліва ёрзнуў на скураным сядзенні ўтульнай «мазды».

— Не спяшайся. Каля перакрыжавання вуліцы Сурганава і праспекта аварыя. Бензавоз пацалаваўся з фурай, і цяпер там заштапарылі праезд. Але ж мы з табою можам аб'язнымі дарогамі гайсануць. Ніякіх праблем.

— Куды падзеўся ключ? — Вілен уважліва аглядаў растапыраныя пальцы рук, далоні. Зірнуў пад ногі, залез у кішэні штаноў.— Няма ключа,— пакрыўджаным і ціхім голасам роспачна выдыхнуў ён.

— Пра які ты ключ гаворыш? — абыякава, з непрыхаванай іроніяй спытаў Гурон.

— Мне вялікая чорная птушка дала той ключ на лясной паляне.

— Ён быў залаты, як у славутага Бурацінa?
— Для мяне — даражэйшым за залаты.
«О, дзякуй табе, Гаспадар ночы, яшчэ адзін далучыўся да нашай кагорты. Ён будзе поўнасцю нашым, і ў першую чаргу — тваім. Гэты хлопец не дробязны вінцік, якіх хапае паўсюль, ён будзе максімальна набліжаны да цябе, мой Гаспадар, як і я»,— Максім пацягнуўся на сядзенні машыны, сагнуўшы рукі ў локцях і закінуўшы іх за плечы.
— Пра ключ не хвалюйся, ён твой і заўсёды будзе належаць толькі табе. Ведай адно — ключ спатрэбіцца табе пры ўваходзе ў вечнае царства Гаспадара. Вось у тую часіну ты яго і атрымаеш, ён сам з'явіцца ў руцэ. О'кей? Vae nictis*.
— Што?
— Нічога. Люблю я кідацца лацінскімі слоўцамі. Няўжо не гаварыў, што вучыўся я ў свой час у нашанскім медінстытуце? Адтаго і лацініца прэ, як струмень вады з падранага поліэтыленавага пакета.
— Разумны.
— Кінь бязглуздзіцу несці. Навучыцца можна чаму хочаш. Зараз модна на такія залепы адказваць вось такім выразам:
«Пры жаданні і зайца можна навучыць курыць». Уразумеў? Прырода — вось аснова ўсяму, прыплюсуй да яе і тую сілу, якая бароніць кожнага ад няўдаліц і няўладзіц жыцця. У нас з табою гэта агульная сіла, сіла абаронцы Гаспадара.
Вілен слухаў знаёмца (ці як ён сам паспеў ужо не раз назваца — сябра і брата) і поўнасцю яго не разумеў. Пакуль не разумеў. Толькі, а хлопец быў у гэтым упэўнены, прасвятленне ў блытаніне гамонкі хутка прыйдзе само сабой.
— Ты любіў у юнацкім узросце чытаць Джэка Лондана? — ні з таго ні з сяго спытаў Максім.
— Чуў пра яго ў школе-інтэрнаце.
— Добра, калі чуў. Дык вось, Джэк сцвярджаў, што прырода крывава-клыкастая і кіпцюрыстая. Ён гаварыў: «Быць жорсткім дрэнна, але такі кошт, які трэба плаціць за тое, каб выжыць. Маладыя забіваюць старых, а моцныя забіваюць слабых — вось такі няўмольны закон. Чалавек вядзе бараць-

* Гора пераможаным *(лац.)*.

бу супраць стыхій ці супраць сабе падобных, і ў гэтай барацьбе яму няма на што і на каго абаперціся, акрамя самога сябе». Бачыш, якія пірагі з блінамі. Нам, сябрук, лягчэй, у нас за плячыма стаіць Гаспадар, а мы яго верныя служкі. Мы ўсе, хто паспытаў і адчуў смак, і ёсць дзеці Гаспадара ночы...

Вілен здзівіўся, калі расплюшчыў вочы. Ягоны срэбраны «мерседэс» стаяў на ўзбочыне дарогі і заспакоена вуркатаў рухавіком, нібы прыгрэтае кацяня на каленях мажнай гаспадыні.

— Ёлы-палы! І трэба ж задрамаць за рулём! Яшчэ такога ніколі не было. Ноччу ж спаў, як чумак, што ўпіўся гарэліцы, а тут, на дарозе, нечакана змарыла. Цьфу ты.— Хлопец цвыркнуў слінай праз прачыненае бакавое шкло.— Ехаць да нашага Дома ночы хоць і няшмат засталося, але трэба праворней варушыцца. І чаму кіданула мяне ў даўнія і лішнія цяпер ужо ўспаміны? Няўжо настальгія па мінулым вакзальным жыцці? Га-га-га,— на поўныя грудзі, аж аддалося ў патыліцы, рагатнуў Вілен.

«Сёння агульны збор. Маску-натварнік не забыў, ланцужок з сабачых зубоў на шыі, настой чамярыцы са спіртам узяў Гурон».

Твар хлопца цяпер ужо быў сур'ёзны і заклапочаны. Гладкі лоб ад напружанай задумлівасці прутом перасекла таўставатая вена, вочы прыжмураныя, ад чаго ў іх кутках да скронь пабеглі веаркамі танюсенькія зморшчынкі.

Колы машыны плаўна і абыякава, нібы гуляючы, пераадольвалі няроўнасці і выбоіны дарогі. Поўня чароўным і вялізным бяльмом вісела ўдалечыні, над самай сярэдзінай гэтай глухой лясной дарогі. Вілен узіраўся ў халодна-прыцягальнае святло поўні і яскрава, з кожнай хвілінай, з кожным імгненнем адчуваў, як закіпае ў целе кроў, апаноўвае шчыкатлівая ўзбуджанасць, часцей і больш напорліва ў сярэдзіне грудзіны гойцае сэрца, ягоны грукат даносіцца да скроняў і патыліцы.

Вілен першы раз трапіў вось у такі, не вядомы яму раней стан. Але, як ні дзіўна, хлопца гэта не спалохала. За апошні год з хвосцікам, а менавіта столькі часу ён ужо быў Дзіцем ночы, гуронаўцам, Вілен звыкся прымаць як належнае ўсё тое, што з ім робіцца.

«Хутчэй, хутчэй давай каціся, мой жалезны канёк,— Падкідны падганяў сябе.— Вось за той павароткай і наш дом, нашы непарушныя ўладанні».

«Мерседэс» завярнуў за каленападобны выступ ельніку, і фары машыны выхапілі з прывіднага змроку ночы прыземісты драўляны двухпавярховік. У зацемненых вокнах не бачылася ні іскрынкі, ні пробліску святла. Калі б выпадкова чалавек, што заблудзіўся і шукаў ратунку, патрапіў прыцемкамі ў гэта месца, то ён не адразу б і заўважыў будынак. Зусім не кідаліся ў вочы яго пачарнелыя сцены, ашаляваныя ў даўнія часы свежымі, з мудрагелістай разьбою дошчачкамі. Шыферны дах пад лапкамі елак густа і буйна парос імхамі, а над казырком, які звісаў над прыступкамі ўвахода, раслі тры маладзенькія бярозкі.

Там-сям, праз адарваную некім шалёўку, выглядалі гнілаватыя бярвенні з глыбокімі парэпанымі трэшчынамі. Даўно занядбалі свой дом адпачынку працаўнікі костнага завода. Адракліся ад двухпавярховіка, як ад шалудзівай сіраты ці карослівага калекі. А яму б, гэтаму дамку, патрапіць бы ў добрыя, умелыя рукі майстроў, і, глядзіш, праз нейкі час увішнай працы ажыў бы дом костнікаў, зірнуў на белы дзень памытымі і чыстымі вокнамі, запоўніліся б пакоі, сталоўка і фае смехам ды музыкай. Пружыны ложкаў парыпвалі б пад разгарачанымі целамі каханкаў. Але, але...

Вілен заўважыў, як з прыцемненага боку ўваходных дзвярэй паспешліва аддзялілася чалавечая постаць і павольна, няспешна скіравалася да ягонай машыны. У святле фар «мерседэса» хлопец адразу пазнаў Гурона. Накінутая на плечы чорная шаўковая хламідзіна прыкрывала ягонае цела, на галаве ўзвышаўся такі ж чорны каўпак-карона, які ўвенчваўся перавернутым дагары шасціканцовым крыжам. Твар Максіма хаваўся пад яго заўсёднай маскай-трохкутнікам. На яе сажыстай паверхні фасфарычна блішчэлі проразі вачэй і рота, а там, дзе павінны знаходзіцца шчокі, ірванымі ранамі крывавілі шматкі чырвонай матэрыі. Вілен часта бачыў Гурона ў гэтай апратцы з маскаю, таму выгляд сябра-паплечніка ў цішы лесу, каля Дома дзяцей ночы, не выклікаў аніякіх адчуванняў.

— Слава, Гаспадару! — прывітаў Максім хлопца праз прачыненае акно «мерседэса».

— На ўсе вякі,— завучана адказаў Вілен.

— Даўгавата сёння ты дабіраўся.

— Нешта не вельмі добра сябе адчуваю,— без нотак апраўдання ў голасе адказаў Падкідны.— Думаю, што ўсё ж не спазніўся?

— Стаў машыну да астатніх і заходзь. Усё гатова, хутка пачнём. Бачыш: поўня набліжаецца да нябеснага цэнтра. Не марудзь.

Гурон, быццам вайсковец, крутнуўся на месцы і пакрочыў да ўваходных дзвярэй сваёй рэзідэнцыі.

## II

Пайшоў ужо другі год, як бясследна знік з вакзала Вілен Падкідны. Адным днём ён проста не вярнуўся да Нінкі Смаляк і да ўсіх астатніх сяброў-бяздомнікаў. Дзяўчыне здалося, што ўсё навокал, нават горад і цэлы сусвет, зменшылася да чорнай макавінкі. Спачатку Нінка з ранку да позняга вечара бяздумна, паспешлівымі крокамі вымярала вакзальныя тратуары, прывакзальныя вуліцы, круцілася каля піўных кіёскаў і прапахлых падгарэлым алеем танных закусачных. Ад напружанага ўзірання ў прахожых у яе муляла ўваччу, а ад трывожнага недасыпання здавалася, што пад вейкамі насыпана па жмені буйнога пляжнага пяску. Першыя дні і нават тыдні яна была ўпэўнена, што абавязкова сустрэнецца з Віленам. «Можа, ён,— думалася Нінцы,— загуляў з сябрамі. Пашчасціла ім патрапіць на светлую палоску жыцця, прыгрошыліся хлопцы — вось і гуляюць. Не ўвесь жа час ім, вольным людзям, таптацца ў чорнай зебравай паласе, павінна ж некалі і ім прываліць шчасце. Хоць гэтае шчасце заўсёды кароценькае і маленькае, як летняя ноч, як век казюркі-аднадзёнкі».

У спадзяваннях, надзеях мінуў месяц, завярнула на другі, а там і трэці, восеньскі, пачаўся. Ад Вілена ж ні слыху, нават кароткай вестачкі не было. Быццам згарэў ён у крэматорыі ці іншапланетнікі прыхапілі яго з сабою ў невядомыя і далёкія галактыкі.

— І чаго ты, дурніца, убіваешся? — ушчувала Кірылаўна.— За маё не кароткае жыццё перабыла я з мужчынамі столькі разкоў, што калі бы па валаску пасля расставання вырывала з

галавы, то даўно хадзіла б лысая, што тое калена. А кожны з іх, дзеўка ты мая, кляўся ў любові і вернасці. Не глядзі, што цяпер я такая нягеглая і брыдкая. Раней і я спелай арабінінай глядзелася. Выкінь з галавы свайго Вілена. Прыгледзь другога хлопца. Ці ж мала іх цяпер, новенькіх, з'явілася ў нашым кодле? Я табе скажу, што ёсць і кідкія, прабіўныя мальцы. З такімі на пусты жывот ноччу класціся не будзеш. Вазьмі хоць бы і таго Юрку. Ён ужо некалькі месяцаў таму тут атабарыўся. І глядзіць ён, праўду кажу табе, Нінка, як вясновы кот, калі ўбачыць цябе. Здаецца, што праглынуў бы прылюдна.— Кірылаўна ўвесь час як заведзеная соўвае старэнькую вязаную шапачку з ілба глыбей на патыліцу. Сівыя непаслухмяныя валасы бруднавата-зліплымі пасмамі тырчаць паўз вушэй, абапал шыі.

Нінка слухала заўсёдную песню-гамонку вакзальнай ветэранкі і сілілася ўтрымаць у глыбіні вачэй уедлівую слязіну. Яна слухала і не чула старую. Кожны раз упервалася позіркам у глухую далячынь невядомасці, маўчала.

— Апускаешся ты, дзеўка,— кожны раз, падсаджваючыся да Нінкі на лаўку ў скверыку ці ў вакзальнай пачакальні, пачынала гундосіць Кірылаўна.— Паглядзі на сваю адзежку, калі яна апошні раз ваду з мылам бачыла? А вочы? Што за вочы ў цябе? У варанага рака, што ў піўняках раней прадавалі, і то ў тысячу разоў лепшыя і паглядныя!

— Адчапіся,— прасіла Нінка.

— Я-то адчаплюся, і што толку? Угробіш ты сябе.

— Ну і няхай.

— Жыць трэба новым днём.

— Навошта? — Нінка глыбока ўздыхнула, не тоячы цяжару на сэрцы.

— Ты, лярва, павінна радавацца, што Гасподзь даў табе жыццё, што кожны дзень можаш бачыць сонца і неба, гаварыць з людзьмі і са мною, што дыхаеш і чарку бярэш, што можаш ногі рассунуць пад любімым мужыком.

— Магла,— неахвотна буркнула дзяўчына.

— Ты, дзеўка, не крыўдуй, але мне здаецца, што цябе некалі прыстукнулі з-за вугла пыльным мяшком. Колькі я ўжо талдычу табе, што на былым Вілене свет клінам не сышоўся. І не яго аднаго матухна-прырода надзяліла хазяйствам ніжэй пояса.

— У цябе адно ў галаве, старая ты брында,— без усялякай злосці прамовіла Нінка, і яе схуднелы твар кранула лёгкая ўсмешка.

— Вось-вось, аж навокал пасвятлела,— узрадавалася Кірылаўна, улавіўшы змену настрою дзяўчыны.— Не такі ён быў ужо і герой, калі знік быццам у прорве і на развітанне нават не падзякаваў за цеплыню, якой ты адорвала яго. Хрэн з ім, тваім Віленам. Трэба жыць па-новаму: душу і цела нараспашку! — Кірылаўна аж прытопнула нагой па заплёваным тратуары з недакуркамі каля лаўкі.— Але ж не забывай, што бяздумна галавы губляць не трэба. Галоўнае не разяўляць рог, каб, крый божа, не патрапіць на прыдуркаў, іх цяпер хапае. Не шукай на баку з тоўстымі кішэнямі, а жыві з нашынскімі. У нас свая дзяржава, свой свет з нашымі законамі і правамі.

Прыгледзься ўсё ж да Юркі. Калі паразумеешся, то будзеш жыць не горш, чым пры тым байструку. Юрка цябе ў крыўду ані каму не дасць. Ён жылісты, прабіўны хлопец. А ручышчы! Ты бачыла, якія ў яго кулакі? Ні адзін да цябе забулдон не падыдзе. Станеш проста каралевай сярод нас. Калі хочаш, то я шапну Юрку, што і ты прыглядваешся да яго. Ён-то не адзін ужо раз дапытваўся ў мяне пра тваю светласць, дзеўка.

— У цябе слоўцы, што ў свецкай дамы з Ландона ці Парыжа.

— А я ж некалі і свацця́й была.— Кірылаўна зайшлася грудным глыбокім кашлем.— Во зараза, ці не чахотка ўжо ў мяне.— Старая саўганула руку ў кішэню замусоленага, некалі зеленаватага пінжака і дастала змяты пачак з-пад цыгарэт «Астра». Няспешна высыпала недакуркі на другую далонь, пакорпалася ў іх, шукаючы даўжэйшую прыгашаную цыгарэтку, і, пстрыкнуўшы недзе падабранай запальнічкай, задыміла.

— Бяры, калі хочаш,— працягнула старая далонь да Нінкі. Дзяўчына адмоўна пахітала галавой.

— Грэбуеш? І правільна робіш.

— Не хачу. Яшчэ не ўцягнулася.

— Правільна маракуеш. Не трэба налягаць на тытунь. Здароўя ён не прыбаўляе.

— Ці думаем мы пра тое здароўе, Кірылаўна?

— Як прыхопіць хвароба, то ўспамінаем.

— Мо́жа, калі дыхаць няма ўжо чым.

— Вось-вось. Я і хвалю цябе, дзеўка, за тое, што не смокчаш заразлівы дым, не прыкурваеш адну ад адной. Пагляндзі на мяне. Трыццаць з хвастом годзікаў я неразлучная з цыгарэтамі, і, ты спытай, што яны мне добрага далі?

— І што?

— А тое, што маю колер твару, як цыгарэтны попел ці асфальтаваныя дарогі ў нашым горадзе. Ды яшчэ чахотку ў лёгкіх...

І ўсё ж Нінка была ўпэўнена, што з Віленам здарылася нешта дрэннае, а мо і непапраўна жахлівае. Яе сэрца падказвала: хлопцу трэба дапамога. Не чыя-небудзь, а менавіта яе, толькі яна адна зможа выратаваць любага, засланіць ад густой, чорна-ліпучай небяспекі, якая навісла над яго галавою.

Сёння Нінка, наездзіўшыся ўволю па другой лініі метро, гадзінам к дванаццаці выйшла на станцыі «Пушкінская». Сярод натоўпу пасажыраў яна нічым асаблівым не вылучалася: чорныя падстрыжаныя да плячэй валасы падкручанымі кончыкамі звісалі на свежы аранжавы світэр (нядаўна яго падараваў дзяўчыне Юрка), на маладой гладкай скуры твару спелымі яблыкамі-малінаўкамі застыў ядрана-здаровы румянец. Сіняватая глыбіня вачэй на дзіва прапарцыянальным тварыку прыцягвала позіркі маладых хлопцаў, што стаялі ў пераходзе метро і гандлявалі аўдыё- і відэакасетамі. Маладыя людзі, звыклыя да няспыннага патоку гараджан, што паспешліва крочылі міма іх, як па невядомым загадзе, спынялі сваю ўвагу менавіта на Нінцы. Толькі ж у яе сумных вачах не ўспыхвала аніякай зацікаўленасці да пажадлівых позіркаў. Хваля пасажыраў, што выйшлі з чарговай электрычкі метро, радзела, змяншалася. Нінка запаволіла крок каля даўгаватага рада выстаўленых на продаж яркіх букетаў кветак. Ружы розных колераў і адценняў, гладыёлусы, гіяцынты і герберы, россып гваздзікоў на пругкіх ножках, садовыя сціплыя рамонкі заварожвалі сваёй гарманічнасцю. І неяк не заўважалася побач з імі бруднаватая сцежка ад пасажыраў, якія, быццам заведзеныя механічныя цацкі, паспешліва сноўдаліся вакол. Пах кветак цяжкавата, нават немагчыма было ўлавіць у гэтым бетанаваным падзямеллі. Ён, гэты чароўны і казачны пах, рассыпаўся, блытаўся, перамешваўся з пахамі печыва, якое выстаўлена было ўпрытык з кветкамі, а з дзвярэй аптэкі, што тулілася насупраць

пад святлом неонавых лямпаў, выносілася спецыфічна пругкаватая хваля лекаў. Тут жа, як быццам знарок, стаялі сталы і стэлажы са свежымі газетамі і часопісамі, томікамі кніг для дарослых і дзіцячай літаратуры. Друкарская фарба абвалаквала букеты кветак, забівала лёгкую і цнатлівую чароўнасць пялёсткаў руж.

У Нінкі не выходзіў з галавы сённяшні сон. Мо яна і пайшла з-за яго пакатацца ў метро, каб хоць крышачку развеяцца.

Перад гэтай ноччу з самага вечара да яе падышоў Юрка (з ім дзяўчына жыла ўжо, як шуткавала Кірылаўна, у чатыры нагі, каля месяца) і пахваліўся, што ён дамовіўся з адным выпівохам на начлег у яго кватэры. Плата невялікая — пляшка віна. А там, у кватэры новага сябрука па чарцы, можна і памыцца, паспаць па-людску, урэшце, паглядзець, хай сабе і чорна-белы, тэлевізар. Усё гэта Юрка выгаворваў з яўнай радасцю. У яго аж загарэліся агеньчыкі ўдачы ў шараватых вачах. Прытым і ехаць недалёка, ва Уручча. Нінка без асаблівых угавораў згадзілася. Тым больш што апошнім часам ёй было не прывыкаць да розных начлегаў па чужых кватэрах. Прайдоха Юрка часта знаходзіў падатлівых мінчан, якія з радасцю прымалі іх у сябе за чарку таннага пойла. У асноўным гэта былі пенсіянеры, якія збіралі пустыя пляшкі каля вакзала. І хоць Кірылаўна ганяла іх са сваёй тэрыторыі бамжатніка, як памыйных катоў, але яны, як рыбы-прыліпалы, не маглі адарвацца ад прыбытковага шклянога заробку вакзала. Асабліва густа туляліся пенсіянеры вакол чыгуначнай пачакальні і россыпу кіёскаў з прахаладжальнымі напоямі і паштучнай продажы піва спякотна-млоснымі летнімі днямі і пачаткам залацістай восені.

І на гэты раз у кватэры новага знаёмага ўсё было як звычайна: парэзаныя гуркі на падранай цыраце стала, акрайчык хлеба, мутнаватыя, ад частага мацання, чаркі-стограмоўкі, крывяная каўбаса і тры пляшкі «Крыжачка», яшчэ закаркаваныя. Двухпакаёўка Лёніка-пенсіянера была раскошнай у параўнанні з вакзальнымі лаўкамі і гарышчамі ці з сядзеннямі электрычак у тупіках, дзе часцяком начавала Нінка з цяпер ужо сваім Юркам. Мужчыны выпілі, прыгубіла і яна. Старэнькі

радыётранзістар на замежнай хвалі прадракаў слухачам прыход на зямлю года д`ябла. Маўляў, што тры дзевяткі надыходзячага перадапошняга года другога тысячагоддзя — гэта не што іншае, як перавернутая пячатка чорных сілаў цемры. Пячатка зла, якая знішчыць чалавецтва, што па самую макаўку апусцілася ў бяздонныя грахі і распусту.

Нінцы не хацелася піць у гэты позні вечар. Яна, цяпер ужо не жадаючы сама таго, узгадала Вілена. Успамін пра яго нахлынуў нечакана і спантанна. Дзяўчыне нехта невядомы і нябачны ціхенька шапнуў на вуха: «Паглядзі ў зацемненае ноччу шкло акна. Прыгледзься, прашу цябе».

Нінка ўталопілася зрэнкамі на чорныя шыбіны з адбіткам святла лямпачкі ў іх. Спачатку яна нічога не ўбачыла, акрамя адлюстраванняў гаспадара кватэры Лёніка і Юркі, якія няспешна хрумсцелі гуркамі, заядалі чарговую порцыю «Крыжачка». Але вось ледзь бачна насупраць акна пачало малочна згушчацца паветра. Бясформенная аблачынка даўжэла, пашыралася ў бакі, выцягвалася мроістым стрыжнем і, нарэшце, абмалявала чалавечыя контуры. Нінка ледзь не ўскрыкнула ад нечаканасці, але той жа невядомы голас супакоіў: «Не хвалюйся і не бойся. Усё будзе добра. Толькі глядзі і не адрывай вачэй, яшчэ слухай госця, слухай уважліва — і ты пачуеш яго». Дзяўчына нават не міргнула ні разу. Яна прыліпла позіркам да малочна-мроістай постаці. Цяпер, як ні дзіўна, але Нінка магла разглядзець нават і твар нечаканага і няпрошанага госця... Гэта быў Вілен. Яе Вілен. Праўда, без свайго цела, але ён. Той, хто збег ад Нінкі, хто пакінуў яе, у каго яна паверыла ці не ў апошні раз у жыцці. «Вілен, мой любы. Мой здраднік і мучыцель»,— бязгучныя словы паляцелі думкаю да прывіднага згустка паветра.

«Я рады бачыць цябе, мая дзяўчынка. Рады, што ты жывая і, здаецца, не забылася яшчэ на таго Вілена, якога ведала раней».

«І не сорамна пра такое казаць? Я ледзь не звар'яцела, калі ты збег, растаптаў маю веру, маё каханне, што нарадзілася дзякуючы табе і засохла бутонам на корані, так і не распусціўшыся».

«Ён вінаваты. Я не пярэчу, не апраўдваю».

«Ён? А хто ж у такім разе ты?»

«Я тая часцінка лепшага і светлага, што яшчэ засталася ў

Віленавай душы і целе, што не падпарадкавана пакуль згубнай чорнай сіле».

«Ён у небяспецы?!»

«Так. І ў вельмі вялікай».

«Але ж Вілен жывы?»

«Толькі целам. І тое хутка яму не будзе належаць».

«Мне можна пабачыцца з ім?»

«Не спяшайся. Час яшчэ ёсць. Я дапамагу. Мне цяжка весці барацьбу за яго ў адзіночку. Я аслаб. І дзень за днём мне ўсё невыносна пакутліва трымацца ў яго целе. Вой... чую, што сюды набліжаецца чорны монстр яго душы. Ён дабівае, высмоктвае маю энергію. Трэба бегчы, знікаць».

«Пачакай яшчэ хвілінку. Раскажы далей...»

«Нямашака часу. Паспрабую ноччу прабіцца да цябе. Раней кладзіся спаць і старайся думаць пра Вілена, глыбока і настойліва думаць, перш чым заплюшчыш вейкі».

Нешта стрэльнула за акном. Усё роўна як пакрышка з камерай у грузавой машыны. І адразу Нінка заўважыла, што праз шыбіну ў кухню ўварвалася смаліста-дзёгцевая пляма згустак і смуродліва распаўзлася пад столлю. Дзяўчына адчула, як быццам бы ў яе мозг заскочыў і пратыкнуў яго сноп вострых іголак, свярдзёлкамі забуравіла ў вушах, а патыліцу схапіла сутарга.

«Запомні, патаскушная шлюха, што адны народжаны для святла, а другія — для вечнай цемры!»

Ад грамавога рогату ў Нінкі пабралася пупырышкамі скура на ўсім целе.

— Табе дрэнна? — Юрка п'янавата нахіліўся да дзяўчыны і няўмела абняў за плечы.— Нейкая бледная ты, быццам з марозу. Выпі чарку сугрэўнага, адразу палягчэе. Налівай ёй, Лёнік.

— Не хачу я,— адмахнулася Нінка.

— На два пальцы ў чарку накапаю,— нясмела прапанаваў Лёнік.— Замест лекаў будзе табе.

— Адвяжыцеся, хлопцы,— паспрабавала ўсміхнуцца дама.— Даканчвайце самі, тут вам па камарынаму глытку засталося.

Юрка адхіліўся ад сяброўкі, вальней сеў на табурэтцы, расслаблена выцягнуў ногі пад стол. Ён добра ведаў: калі Нінка чагосьці не хоча рабіць, то ўжо ніякія ўгаворы не дапамогуць.

Яна будзе стаяць на сваім да апошняга. Хлопец удыхнуў на поўныя грудзі, павёў галавою па баках, прынюхаўся:

— Лёнік, табе не здаецца, што на кухні запахла пратухлымі яйкамі ці то серай. Падобны пах мае брыдкая мазь ад кароcты.

— Ну ты і прыдумаў,— захмялела выставіў жоўтыя, напаўз'едзеныя зубы гаспадар кватэры.— Я не помню, калі апошні раз на патэльні курыныя яйкі сквірчэлі, а ты гаворыш пра тухлыя. А серай і ад гарэлых запалак можа патыхаць.

— Прынюхайся,— настойваў Юрка.

Лёнік цегануў у грудзіну сваім носам-рубільнікам пракуранае паветра кухні, на хвіліну затрымаў яго ў лёгкіх, выдыхнуў:

— Нешта такое ёсць. Ат, якая розніца, налівай яшчэ па каліўку, сам паглядзіш: усялякія пахі знікнуць, атрафіруюцца без нас.— Лёнік выставіў зноў жаўцякі зубоў, радасна-задаволены, што ўспомніў такое разумнае слова «атрафіруюцца».

«З Віленам бяда. Што ж такое магло здарыцца? Адкуль з'явіліся незразумелыя прывіды, якія бачыла? Галюцынацыі?.. Непадобна. Тады што? Што такое? Чаму менавіта мяне знайшоў Віленаў Дух дабрыні ў мільённым горадзе? Сярод соцень мільёнаў акон адшукаў тое, дзе ціхамірна сядзела я? — Нінка абаперлася локцямі аб краёк стала, падперла далонямі падбародак. У крыху прыплюснутых вейкамі вачах ледзяніста застылі непаразуменне, глыбокі сполах, нават, можна было сказаць, і адчай.— Ён жа пакінуў мяне, збег. Уцёк, як забойца ад ахвяры. Чаму ж цяпер я патрэбна яму, ягонаму Духу?.. А ці па сваёй волі Вілен разлучыўся са мною? Можа, нечакана перад ім з'явілася больш моцная сіла, якая пераадолела ягоную волю, падпарадкавала і, закружыўшы ў здушлівых абдымках, пацягнула за сабою. Што ж рабіць мне, калі гэта так? Чым я магу дапамагчы светлай абалонцы Віленавага Духу? Чым, Божа ты мой найвялікшы і адзіны?»

«Адны нараджаюцца для святла, а другія — для вечнай цемры!» — зноў уварваўся басавіта-гнёткі голас у Нінчыны думкі. Толькі цяпер дзяўчыну не праняла холадам, на яе быццам вылілі вядро кіпеню. Твар загарэўся пякельнай чырванню, пот густымі драбнюткімі кроплямі выступіў па ўсім целе, у вушах шуганула хваля гарачага паветра.

— Вы пасядзіце, хлопцы, а я пайду прылягу. Нядобра сёння сябе адчуваю. Ці не скразнякі ўсяму віною?

— Кладзіся ў заднім пакоі. Там канапа, хоць і старэнькая, але не мулкая, пружыны пад бок яшчэ не ўпіраюцца. Удваіх якраз там памесціцеся,— падахвоціў Лёнік дзяўчыну.

— Адпачні, Нінулька,— падтрымаў і Юрка.— Мы пагамонім трошкі і таксама бай-бай ляжам. Толькі не забудзься,— Юрка хітравата ўсміхнуўся,— кладзіся з краю, а я каля сцяны выцягнуся. О'кей?

— Помню, помню,— адазвалася Нінка Смаляк ужо з прыхожай. Запаліўшы святло ў пакоі, яна агледзела старэнькія і выгаралыя ад сонца шпалеры на сценах. Яны некалі былі квяціста-зялёнымі, а цяпер глядзеліся аблезла-шэрымі. У дальнім левым куце ад уваходных дзвярэй перакошаная шафа ледзь трымалася на вывернутых ножках. Здавалася, што шафа варожа ашчэрылася напаўадчыненымі дзверцамі і скрынямі. Нязменныя паляўнічыя на просценькім дыванку віселі над канапай, хутчэй прыкрытай, а не засцеленай, карычневым пакрывалам. У правым кутку, каля акна, вісела іконка, вобраз Спасіцеля.

Нінка, не задумваючыся, хутчэй падсвядома, стала на калені, перахрысцілася раз... другі... трэці. Пакланілася нізенька, да самай падлогі. Вусны зашапталі даўно забытую Гасподнюю малітву:

> Ойча наш, іжа ясі на нябёсах! Ды свяціцца імя
> Тваё, ды прыйдзе царствіе тваё, ды будзе воля
> Твая, яка на небясі і на зямлі. Хлеб наш штодзённы дай нам сёння; пакінь нам даўгі нашы,
> як і мы пакідаем даўжнікам нашым; і не прывядзі
> нас да спакусы, і ратуй нас ад нячыстага.
>
> Амінь.
>
> Госпадзі, як Ты жадаеш і як Сам ведаеш, памілуй мяне.

«Дапамажы і памілуй, Госпадзі, адзіны Уладар душ нашых, грэшніка Вілена».

Нінка паднялася з калень, ёй падалося, што быццам вялікая і цяжкая ноша звалілася з яе акруглых дзявочых плячэй.

Занядбаны і запушчаны пакойчык выглядаў цяпер неяк святлей і прывабней, быццам у ім, гэтым пакойчыку, хтосьці ня-

бачны прыбраў і ўпарадкаваў. Апанаваная суцішнасць душы заспакоіла дзяўчыну, падбадзёрыла і дала імпульс для веры ў тое, што яна зможа дапамагчы Вілену, выратаваць з пасткі, у якую ён патрапіў.

— Усё ў руках Божых,— прашаптала Нінка і выключыла святло.

Канапа жаласліва, нават з непрытоенай буркатлівасцю зарыпела, калі дзяўчына ўкладвалася спаць. Мулкая сінтэтычная падушка пад галавою была збіта ў камяк. Ад яе смярдзела даўнім тытунём, прэлай сырасцю. Хоць гэтага Нінка, па праўдзе кажучы, і не заўважыла, не надала асаблівага значэння. Ёй, маладой бамжысе, і не ў такіх месцах, на значна горшых анучах і дашчаных насцілах прыходзілася суцішна заплюшчваць вочы.

«Я ніколі не забывала цябе, Вілен. Кожны дзень ты быў са мною ў сэрцы. Няма крыўды на цябе, любы. Галоўнае: крышачку пачакай, пацярпі, і мы, як і раней, будзем разам. Мы неразлучныя на гэтай зямлі, лёсам звязаныя тугім вузлом. Ніхто яго не зможа развязаць, адзінае — рассекчы. Толькі ж рассекшы, мы, скрывавіўшы, сыдзем разам на вечны спакой. Вілен... ты мой адзіны... ты... Вілен... Вілен...»

Нінка сама не заўважыла, як магутны і ўсясільны бог сну Марфей агарнуў і закалыхаў яе...

Ясна і цёпла. Летні дзень. Сонца ўвабралася ў самы зеніт. Высокі бераг рэчкі-балота з бруднай зялёнай тванню на вадзе. Кусты і дрэўцы вакол стаяць мёртвыя. Высахлая лістота даўно асыпалася. Патрэсканая кара на клёнах і дубках, ясенях і маладым вербалоззі. Вісіць яна дранымі шматкамі, гойсаецца гнілымі анучамі ў бязветранай і зіхаткой дзённай задушы.

Толькі цяпер Нінка заўважае, што сонца выгравае невялічкі пятачок берага. Тую мясціну, дзе яна сядзіць. А ўсё вакол, куды ні зірні,— суцэльная і густая, цёмна-карычневая, цягучая памарока. Выступы цемры, як быццам горныя вяршыні, зубчастыя і шпілістыя, акружаюць з усіх бакоў. Яны, відаць, баяцца яркага сонечнага святла, таму і не праглынулі яшчэ дзяўчыну. Нінка заўважае на адной з вяршынь цемры вялікую чорную птушку з распасцёртымі крыламі, выгнутая дзюба разяўлена, а голая, без пер`яў, галава ўвагнута ў міжкрылле. Птушка, зда-

ецца, наважылася спікіраваць на дзяўчыну. Вось толькі штосьці перашкаджае ёй гэта зрабіць.

Але самае дзіўнае і незразумелае ў тым, што Нінка анічагусенькі не баіцца. Яе не страшаць ні гэта рэчка-балота, ні вострыя вяршыні густой цемры, яна нават не баіцца лазерных прыцэлаў вачэй чорнай птушкі. Ды і чаго баяцца? Яе, Нінку, аберагае сонца, ягонае цёплае святло, кавалачак люстранога, яснага неба.

«Нінка, Нінка, дапамажы мне... Выратуй мяне... нас выратуй!» — мозгам дзяўчына ловіць адчайны голас. Адкуль ён даносіцца? Хто ўмольна просіць яе дапамогі?

Дзяўчына напружвае зрок — нікога не бачна.

«Я тут. Паглядзі на багну, прама перад сабою!»

«Быццам голас Вілена... Але ж падобны і на гаворку прывіда-Духу з кухні»,— Нінка адчула, як у яе запяршыла, задзёрла ў горле. І тут дзяўчына заўважыла сапраўды Вілена. Так, Вілена. Хлопец знаходзіўся далекавата ад яе, пад самыя пашкі ў смярдзюча-бруднай твані. Ён сіліўся, як не перарвецца, да светлага і сухога пятачка, на якім сядзела яна, Нінка. Твань заблытанымі косамі, каўтуном напаўзала на Вілена, чаплялася за голае цела хлопца, жывымі шчупальцамі ўзбіралася на плечы і грудзі.

«Божачкі мой, Вілен жа захлынецца! — жахліва здрыганулася Нінка.— Трэба падаць яму доўгі дубец. Няхай учэпіцца, а я ўжо буду цягнуць».

Дзяўчына захацела ўсхапіцца з прыгрэтай зямлі берага, але на яе плячах нібы ляжаў стопудовы і непасільны палатняны сяннік з каменнем. Цела не слухалася, ногі былі ватнымі, нават яна не магла паварушыць пальцамі рук.

«Госпадзі, што ж гэта такое? Я бяссільная. Вілен гіне ў мяне на вачах, а я, што дурнаватая лярва, анічым не магу дапамагчы! Вілен... Вілен!» — падпірае пад горла здушаны голас з грудзей, але не можа вырвацца з намёртва сціснутых вуснаў. Не расчапіць іх, звяло сківіцы, замуравала.

Вялізная птушка ўзмахнула крыламі, выцягнула галаву і, нарэшце, сарвалася са скалы цемры над багнай. Яна, гэтая страшнаватая і, як падалося Нінцы, незямная, зайшлася рогатам і спікіравала на галаву Вілена. Мо хацела «дапамагчы»

хлопцу, пазбавіць надзеі на выратаванне, даказаць і паказаць Нінцы, што яна бяссільная і дробненькая, як мошка. І не ёй, бамжысе, вырашаць лёс свайго каханага.

«Ён наш!» — чуе Нінка надтрэснуты і глухі голас, ад якога ледзянее галава, мозг, здаецца, сціскаюць абцугамі.

«Хлусіш, пачвара!»

«Хадзі і ты да яго»,— запрашае птушка. Яна завісла, быццам яе прышпільнулі, над галавою хлопца.

«Не, ляці ты сюды, да мяне, пад сонца. Што? Не хапае духу і смеласці?»

«Не хочаш быць разам з Віленам?»

«Хачу і буду. Але не ў халоднай і смярдзючай багне, не ў тваністым граху, а на сухой, угрэтай Божым Святлом зямлі».

«Лахудра, з кім сабралася цягацца?»

«Нінка, дапамажы!» — ловіць дзяўчына слабы імпульс голасу Вілена.

«Ну, давай жа! Чаго сядзіш, як капша? Чуеш, ён просіць. Ідзі да яго, падай руку»,— клекатлівы голас чорнай птушкі нагадвае шлюбны спеў бусла.

«Усявышні і бязгрэшны. Магутны і справядлівы Божа, дай мне і Вілену моцы. Дапамажы нам выстаяць, Госпадзі! — узводзіць Нінка вочы да сляпучага сонечнага дыска.— Пашлі, Божа, на галаву Вілена цёплы і светлы промень сонца, няхай ён разгоніць над любым цемру, дасць яму надзею, падтрымае ў ім веру ў святло і ў мяне як у жанчыну, якая не пакіне яго ні ў радасці, ні ў горы. Божа, ён жа столькі напакутаваўся і нацярпеўся раней, з самага свайго нараджэння. Не адступіся ад яго, Госпадзі!»

— Нінка, пасунься на край. Гаварыў жа, што лягу каля сцяны,— Юрка п'янавата рагатнуў.— Разамлела на мяккай пасцелі, як дзіцёнак, абаранкам сагнулася. Давай, давай яшчэ крышачку памкніся. Ты ўся дрыжыш, малая. Нічога, зараз сагрэю. Абшчаплю і прыцісну да сэрца. Вось так,— Юрка прадзеў руку пад спіну дзяўчыны, другой абшчаперыў праз плячо.— Ну, як? Цяплей стала? — спытаў на вуха Юрка.

Нінка Смаляк маўчала. Яна ўсё яшчэ знаходзілася там, у дзіўным, страшным і незразумелым сне. Рэальнасць з цяжкасцю прабівалася ў яе свядомасць.

— Вілен, я бачыла жахлівы сон. Вілен, ты ў багне...

Дзяўчына адчула, як адхіснулася ад яе цела Юркі. Як паспешліва і сярдзіта прыўскочыў ён на канапе.

— Ты зноў за сваё! — стрымана-ледзяны голас паласнуў слых Нінкі.— Жывеш ужо столькі са мною, а ў думках здраджваеш з другім. З занюханым смаркачом Віленам. Шкода, што не трапляецца ён мне пад руку. Неданосак. А ты сцерва... Кірылаўна гаварыла, што ён шалудзівым сабакам збег ад цябе. А ты ўсё: Вілен, Вілен. Цьфу, шлюха! А ўсё выламвае з сябе парадачную. Правільна, кожнаму па парадку, нікому не адмовіш!

Нінка маўчала. Што ёй было гаварыць? Навошта апраўдвацца? Яна адчула, як Юрка адсунуўся ад яе да самай сцяны, пацягнуў на сябе коўдру і, зласліва сцяўшыся, засоп.

Нінка да самай раніцы не звяла больш павек. Як толькі добра пасвятлела за акном і тралейбусы пачалі гойсаць па горадзе ад прыпынку да прыпынку, яна ціхенька паднялася, спаласнула твар у ванным пакоі вадою, апранулася, прычасала валасы і на дыбачках выслізнула за дзверы Лёнікавай кватэры.

На вуліцы дыхалася вольна. Бадзёрыла свежасцю паветра. Рэдкія прахожыя паспешліва беглі да супынкаў гарадскога транспарту. Ад асфальту тратуара пахла вільгаццю, а ад прыдарожных кустоў — ледзь улоўнай прэласцю.

«Не вярнуся больш да Юркі. Ніколі!»

«А куды ты дзенешся? Ну, куды?» — спрачалася сама з сабою Нінка.

«А сон. Што значыць гэты сон? Як мне ў ім разабрацца? Хоць бы хто дапамог раскласці яго па паліцах. Параіў, як разумець і што рабіць?»

Нінка пешшу дайшла да метро, села ў адзін з вагонаў і ездзіла, нібы ў забыцці, па падземных тунелях. Яна любіла падземку метро. Асабліва другую, Аўтазаводскую лінію. На яе і перайшла дзяўчына гадзіны праз дзве.

...Прытуліўшыся плечуком да бетоннай сцяны, маладая бамжыха бяздумна стаяла ў падземным пераходзе ўжо з добры дзесятак хвілін. Да яе слыху, здаецца, не даходзілі заліхвацкія папсовыя мелодыі, што вырываліся з дынамікаў магнітафонаў, на якіх прадаўцы касет пракручвалі свой тавар. Толькі разок спатыкнулася дзяўчына вачыма аб намёкліва-падміргваючы

позірк маладога і ёмкага хлопца (таксама прадаўца касет), той, як здалося Нінцы, сказаў ёй прыемныя словы-кампліменты. Але яна іх не пачула і абыякава зноў уталопілася невідушчым зрокам у нябачную другімі далячынь.

На шэрым і халодным малюнку казённай супрацьлеглай сцяны падземкі-перахода Нінка Смаляк раптам убачыла танюткія павуцінкі-трэшчыны, якія ўсё большалі і пашыраліся, утвараючы кружок-вочка. Праз яго можна было ўжо глядзець, як праз бінокль. Ніхто не перашкаджаў дзяўчыне. Яна, падалося, прыліпла да трэснутай сцяны, і яе блякла-мроісты бесцялесны адбітак нырнуў у заварожваючае вочка-адтуліну...

Лес. Ноч. Глухая, закінутая дарога. Пошум ветру ў вершалінах. Трашчыць сухое і падгнілае галлё ў гушчары. Адтуль нехта назірае за Нінкай. Нядобра цікуе за ёй. Нінка адчувае халодныя абдымкі ночы. Ёй зябка, і яна стаіць галюсенькая, нібы ў лазні. Толькі ж страшная халадэча, няма чым сагрэцца. Дзяўчына азіраецца, паварочвае галаву ў адзін бок, другі — нікагусенькі, ні адной жывой душы. Паўсюль вочы натыкаюцца на груба сатканае палатно ночы. Але вось, прыгледзеўшыся, Нінка заўважае слепаваты агеньчык наперадзе, ён ледзь прабіваецца праз лапісты ельнік. Зноў трэск голля за спінаю. Азірнулася... нікога.

«Адстань, шалапутка»,— чуе голас.

«Што?»

«Кацiся на свой вакзал. Назад, у памыйку».

«Хто тут?»

«Я, Гаспадар ночы. Збіральнік душ заблудшых».

«Выйдзі ж, не хавайся!» — нясмела просіць Нінка.

«Усяму свой час, срамніца».

«Мне няма чаго хаваць».

«А як жа цыцкі і міжножная пячора?»

Нінка раптам успамінае, што стаіць галюсенькая. Толькі што з таго? Не сама ж яна распранулася. І чаго саромецца таго, каго не бачыш. Няхай залівае чырвань таго, хто падглядвае.

«Адступіся ад Вілена, падвугольная жабрачка. Беражы сваё сабачае жыццё, беражы, пакуль не выцекла яно з цябе, як з праколатага бурдзюка»,— голас загадвае, патрабуе.

«Ды пайшоў ты...» — Нінка пачынае злавацца.

«Я заўсёды на нагах».

«І я, як бачыш, стаю».

«Пакуль стаім, а хутка ляжам».

«Пад цябе? — Дзяўчына шчыра смяецца. Ёй сапраўды весела.— Пад цябе? — перапытвае.— Бяздушнага і бесцялеснага?»

«Вар'ятка. Вялікі гонар спазнацца са мною. Ты, смярдзючая сучка, можаш толькі пра такое марыць. Ляжаць табе на маім алтары, паскудніца і патаскуха...»

Дзяўчына зацiснула далонямі вушы, каб не чуць патоку брыдкаслоўя, які лавінай панёсся з гушчару.

«Ты, прыдурак, заткніся!» — крычыць Нінка.

«Адрачыся, сучка, ад хлопца,— свідруе мозг голас нябачнага карніка.— Табе не ўбіцца ўжо ў ягонае сэрца. Там валадару цяпер я. Толькі я! Ты чуеш, памыйніца!»

«Яшчэ паглядзім»,— нехта другі нашэптвае Нінцы на вуха.

«Яшчэ паглядзім»,— паўтарае яна.

«Наш Тварэц сапраўдны і адзіны Гаспадар душы і цела Вілена»,— той жа лагодны голас нашэптвае дзяўчыне. Яна ўпэўнена і цвёрда паўтарае гэтыя словы.

«Трымай жа, лахудра!» Нінку апякло агнём, перахапіла дыханне, а ў вачах паплылі каляровыя кружэлкі...

— Табе дрэнна, дзетка? Падымайся, глыбей падышы,— над дзяўчынай схілілася маладжавая жанчына ў манаскім адзенні.— Давай я дапамагу.— Жанчына ўзяла пад локаць Нінку.— Прысланіся спінай да сцяны і дышы, глыбей дышы, дзетка,— угаворвала манашка ў белай хусцінцы з вышытым крыжыкам пасяродку матэрыялу.

— Пайшлі на прыступкі, там свяжэйшае паветра, пастаім разам, і табе палепшае.— Жанчына лёгенька дакранулася мяккай і ласкавай далонню да Нінкінай галавы, папраўліа валасы на яе лбе.— Цяжкае цяпер жыццё, дзетка, ой, цяжкае. Але ўсё ў руках Гасподніх. Вось і паружавелі ў цябе крышку шчочкі! Ператамілася ты, дзяўчынка мая. Трэба сілы і вытрымкі ва Усявышняга прасіць. Маліцца трэба, не абмінаць храма Божага. Ён усё бачыць, не пакідае абяздоленых у бядзе. Я кожны дзень стаю вось тут, у гэтым пераходзе, збіраю ахвяраванні добрых людзей на будаўніцтва і аднаўленне Гасподніх храмаў на нашай спакутаванай зямлі. Счарсцвеў свет, у некаторых

людзей сэрцы камянямі сталі, вынішчаецца ў іх дабрата і спачуванне чорнай злосцю ды зайздрасцю. А ўсё гэта ад бездухоўнасці і бязвер'я. Маліцца трэба са шчырасцю і аддана, а жыць не толькі для жывата свайго, а і для душы, для тых, хто побач з намі. Вось так, мілая мая.

Нінцы сапраўды стала лепш побач з манахіняй, у яе пакрыху святлела ў галаве, праяснялася. Вось толькі варожы і настойлівы голас канчаткова не знікаў, даймаў мозг, блытаў думкі.

«Пра якія храмы гэтая авечка гаворыць?! Ха-ха! Яна збірае нясвежыя паперчыны грошай для сытнага стала барадатых ёлупняў. Для куплі іншамарак модных мадэляў і будаўніцтва палацаў-асабнякоў для гульбішчаў і папоек з такімі сцервамі, як ты, шлюшка. Вось так яно, ага. Вілен своечасова разабраўся ў гэтым, пайшоў на правільнай дарозе. І ты, шлюндра, адчапіся, не турбуй хлопца».

«Згінь, нечысць! Правакатар заёрзаны!»

«Вах-вах, слабенькая і закланная курачка кіпцюркі высоўвае. Поркайся пакуль у смецці, твой час яшчэ прыйдзе. Слухай звіхнутую старуху».

— Госпадзі, абарані мяне! — вырвалася з губ Нінкі.— Не пакінь Вілена ў бядзе.

— Правільна, дзяўчынка. Усе нашы помыслы павінны быць звернуты да нашага Спасіцеля. Не саромейся, перахрысціся,— падахвочвала манашка.— Вось так. І другі, і трэці разок. Ачысці душу сваю. Выкарчуй з яе ўсё дрэннае. Дай запоўніцца Гасподнім святлом. Табе далёка дахаты ехаць? Дамоў ты сама дабярэшся? — заклапочана спытала жанчына, не адрываючы позірку ад твару Нінкі.

— У мяне няма шака дому. Без вугла я, не маю аніякага даху над сваёй галавою.

— Госпадзі ты мой! — уздыхнула манашка.— Усё коціцца да незваротнага канца свету. Дзе ж ты ночы бавіш, дзіцятка?

— Там, дзе яна застае, а найбольш — на вакзале. Чыгуначным. Летняй парой і ўвосень там суха, дажджы не даймаюць, а зімою цёпла, без маразоў. Жыць можна,— паспрабавала ўсміхнуцца маладая бамжыха.

— Паслухай: кватэра мая тут недалёчка. Пайшлі паабедаем, гарбаткі пап'ём з зёлак. Яна пахучая і духмяная. Адпачнеш

крыху. Пагамонім пра тое-сёе, пачакаем, пакуль зусім добра сябе не адчуеш, пакуль не палепшае, каб зноў на свет Божы весялей зірнуць. Ну, што? Пайшлі?

Дзяўчына згодна кіўнула галавою.

Сонца на вуліцах увабралася ў самую сілу. Разамлелыя прахожыя павольна крочылі па разагрэтых асфальтаваных дарожках тратуараў. Здавалася, што ніхто і нікуды не спяшаецца. Вось толькі каля кіёскаў з квасам стаялі нецярплівыя і доўгія чэргі. Усім хацелася ахалодзіць нутро рэзкаватым і прахалодным напоем, збіць жару ў целе.

— Вам не спякотна ў такой апратцы? — нясмела спытала Нінка ў новай знаёмкі.

— Ды не. Я ўжо прывыкла. Адзежа мая лёгенькая ў спёку і цёплая ў сцюжы. Але для тых, хто выбірае на гэтай зямлі сцежку, якая прыводзіць да Госпада. А ў цябе ж і цёплы світарок на плячах. Апратная ты, дзяўчынка мая, калі не ведаеш, то нізашто не скажаш, што жывеш як прыйдзецца. Стамілася ўжо ісці? Яшчэ крышку, вунь за тым гастраномам мая кватэрка на сёмым паверсе. Невялічкая яна, аднапакаёвая. А мне больш і не трэба, хапае. Але, зусім забылася, як жа хоць завешся ты?

— Нінка.

— Прыгожае імя. А мяне можаш клікаць цёткай Марынай, калі хочаш, то Марынай Сямёнаўнай.

Яны ўвайшлі ў пад'езд. Шкло на акенцы ўваходных дзвярэй пабіта, з шыбіны тырчаць востра-разучыя асколкі. Над паштовымі скрынкамі, што густа развешаны на сцяне першага паверха, чорныя поцягні дымнай копаці.

«І тут паляць маладыя смаркачы газеты і пісьмы сваіх жа суседзяў. Паўсюль аднолькава: што каля вакзала, што ў глыбіні горада. А там жа прывакзальшчыкі віняць ва ўсім нас, бамжоў. Ёлупні. Самі сабе гадзяць, а спіхваюць на тых, хто ні слыхам ні духам таго не рабіў»,— Нінка ўздыхнула.

— Бяда з ліфтам,— скрушна прамовіла Марына Сямёнаўна, калі націснула на белы клыпажок выкліку,— раз на тыдзень працуе. Але нам не прывыкаць, праўда? Падымемся пешшу.

Маленькая, утульная кватэрка. Светлая і дагледжаная. Паўсюль пахне свежасцю кветак. Нінка і цётка Марына п'юць

гарбату; пульхны самаробны пірог, здаецца, што сам па сабе растае ў роце.

— Ці хрышчоная ты, Ніначка?

— Здаецца, бацькі хрысцілі ў дзяцінстве.

— А ў душы ты хрысціянка?

— Не ведаю,— дзяўчына сарамліва апусціла вочы.— А што трэба зрабіць, каб стаць хрысціянкай?

— На гэта няпроста адказаць,— Марына Сямёнаўна паглядзела на сваю госцю з цеплынёй і спагадай.— Чаму? Ды таму, што адказ вызначае тваё цяперашняе жыццё на зямлі і будучае замагільнае існаванне. Евангелле вучыць, што пасля смерці кожны чалавек працягвае свядома існаваць. І той, хто стаўся хрысціянінам у зямным жыцці ды жыў па вучэнні Святога Пісання, атрымае шчаслівае вечнае жыццё на небе. Вось так, дзяўчынка, вучыў Ісус Хрыстос, Сын Божы. Ён аднойчы сказаў: «Я прыйшоў дзеля таго, каб мелі жыццё і мелі ўдосталь». Інакш кажучы, Ісус прыйшоў на зямлю дзеля таго, каб даць кожнаму, хто паверыць і будзе слухацца Яго, разумнае жыццё. Ён заявіў, Ніначка, хто верыць у Сына, гэта значыць у Яго, мае вечнае жыццё, а хто ў Сына не верыць, не ўбачыць жыцця, але гнеў Божы застанецца на ім.

— Марына Сямёнаўна, а што Бог патрабуе ад нас? — нясмела запыталася дзяўчына. Ёй сапраўды было цікава слухаць няспешную гаворку цёткі.

— Перш за ўсё, дзіцятка, чалавек павінен пачуць Слова Божае і прыняць пад увагу ўсё, што гаворыцца ў ім. Чалавек павінен асабіста ўвераваць і прыняць Ісуса Хрыста за свайго збавіцеля і Гаспадара. Сапраўдная вера — гэта прыняцце ўсяго, што Слова Божае, Біблія, гаворыць пра Бога, Хрыста і збаўленне чалавека. Увераванне, Ніначка, самы важны крок у павярненні чалавека да Бога. І ў Святым Пісанні гаворыцца, што без веры дагадзіць Богу немагчыма: трэба, каб той, хто прыходзіць да Бога, верыў, што Ён ёсць і шукальнікам Ён дасць. Але каб толькі розумам прыняць усё гэта за праўду — мала. Кожны чалавек, дзіцятка маё, мусіць асабіста ўвераваць у Ісуса Хрыста, у ягоную ахвярную смерць і ўваскрэсенне. Прыняць Яго ў сэрца, як свайго асабістага Спасіцеля і Госпада. Евангелле вучыць, што чалавек атрымоўвае збаўленне праз веру. Трэ-

ба, запомні гэта, дзіцятка, пакаяцца ў сваіх грахах перад Богам. Можна шкадаваць аб учыненых грахах, але адначасова працягваць грэшнае жыццё. Гэта не сапраўднае каянне. Бог сёння, Ніначка, наказвае людзям усім усюды пакаяцца. А пакаяцца — гэта значыць перад святым Богам прызнаць сябе грэшніцай ці грэшнікам, якія маюць патрэбу ў Божай ласцы і дараванні грахоў. Трэба адвярнуцца ад грэшнага спосабу жыцця і, у поўным спадзяванні на Божую дапамогу, жыць паводле Божай волі.

Сам Хрыстос сказаў, што кожны. хто вызнае Мяне перад людзьмі, таго вызнаю перад Айцом Маім, Які ёсць у нябёсах. Не трэба забываць, што, стаўшыся хрысціянінам, чалавек павінен жыць заўсёдным і паслядоўным хрысціянскім жыццём у згодзе з настаўленнямі Святога Пісання. Бог патрабуе ад веруючага вернасці Яму ў зямным жыцці ажно да смерці.

Ісус Хрыстос ніколі не казаў, што жыць хрысціянскім жыццём будзе лёгка. Сваім вучням Ён нават сказаў, што, жывучы ў свеце, яны будуць перажываць цяжкасці. Але Ён таксама заявіў, што ім не трэба турбавацца аб гэтым. Таму, што Ён перамог свет і дае паслядоўнікам Свой супакой. Гэта значыць, Ніначка, што Ісус перамог усе зямныя спакусы, якія прыводзяць нас да грашэння. Ён паабяцаў раздзяліць Сваю пераможную моц з паслухмянымі веруючымі, калі яны будуць спадзявацца на яго для перамогі над грэшнымі спакусамі. Значыцца, хрысціянін павінен жыць у цеснай лучнасці з Ісусам, каб атрымліваць Ягоны супакой і духоўную моц.

Не забывай, дзіцятка маё, што Хрыстос сказаў: «Калі будзеце заставацца ўва Мне і словы Мае будуць заставацца ў вас, то чаго хочаце прасіце і станецца вам... Гэта сказаў Я вам, каб радасць Мая ў вас была і каб радасць вашая была поўнай».

Нінка ўважліва слухала Марыну Сямёнаўну. Многае, што чула са слоў жанчыны, было ёй знаёма з дзяцінства, ад сваёй любай бабулі Акуліны. Толькі бабулька гаварыла пра мудрае значна прасцей, мо з-за гэтага лёгка ўсё запаміналася.

У шыбіну акна нехта лёгенька стукнуў раз, другі, трэці. Цётка Марына не пачула. Яна з узнёсла-прасветленым тварам усё гаварыла і гаварыла пра вучэнне Хрыста, Ягоныя запаведзі і служэнне Ісусу.

Дзяўчына адчула, як глуха і часта затрапятала сэрца пад рэбрамі грудзей, як пахаладзелі і анямелі пальцы ног. Яна, пасля здарэння ў Лёнікавай кватэры, цяпер ужо з унутранай бояззю перавяла позірк на занавеску акна, а пасля ўжо і на самыя шыбы. Там, за шклом, знадворку, на падаконні сядзеў снягір. Так, так, снягір.

— Вой! — выдыхнула Нінка.

— Што здарылася, дзяўчынка мая?

— За акном...

— Што там, дзетка? — не паварочваючы галавы, спытала цётка Марына.

— Снягір на падаконні.

— Снягір? — цётка Марына зірнула на акно.— Нікога там няма,— з палёгкай жанчына ўздыхнула.— Ператамілася ты, дзетка.

— Ды вунь ён сядзіць жа. Быццам дзюбай прыліп да акна і ўсміхаецца.

— Снегіры такой цёплай парой не прылятаюць, Нінaчка. Ім зіма патрэбна са снегам і мяцеліцамі, а цяпер жа спёка на вуліцы, дыхаць нямашака чым. Супакойся, табе ўсё падалося.

«Наслухалася шэльму-баптыстку? — зноў прабіўся ў галаву Нінкі брыдкі голас незнаёмца.— Распусціла слюні, развесіла вушы, лярва вакзальная. Думала, што схаваешся ад мяне за блудаслоўем прыпыленай старой качаргі? — Снягір без перапынку барабаніў дзюбай у шыбіну, быццам склёўваў прыклеенае да акна проса.— Я паўсюды за табой гойсаю, не хачу, каб зноў белы госць ад душы Вілена завалодаў тваім цялячым розумам. Буду даймаць, пакуль не адрачэшся ад хлопца, чуеш мяне, шлюндра?! Кацiся да свайго палюбоўніка-задрыпалы. Рамэа і Джульета. Ха-ха, ванючкі, не паспяшаеш, і твой Юрка застанецца без ног. На пуцях п`яненькі прысеў, чуеш мяне? Джульета занюханая!»

— Не, усё хлусня і няпраўда,— выдыхнула Нінка.

— Што няпраўда, дзетачка? — здзіўлена перапытала цётка Марына.

— Я не вам, Марына Сямёнаўна. Не вам кажу, а яму, снегіру за акном. У яго пачварная галава і зубы-клыкі ў дзюбе. Ён забраў майго Вілена і хоча Юрку зрабіць калекам.

— Перахрысціся, дзяўчына, накладзі на грудзі крыж. Адгані ад сябе нячысціка. Госпадзі, абарані яе!

— Мне трэба бегчы, цётачка! Бегчы зараз жа на вакзал. Інакш будзе нядобрае з Юркам. Снягір не шуткуе.

Нінка ўсхапілася з табурэткі і кінулася да ўваходных дзвярэй. З парога ўжо прагаварыла паспешліва:

— Дзякуй вам за ўсё, Марына Сямёнаўна, прабачце...

— Не забывай. Прыходзь да мяне сюды ці на станцыю метро. Я штодня там. Беражы цябе Усявышні.

Дзверы зачыніліся, аўтаматычна шчоўкнуў замок.

Нінка подбегам шыбавала да тралейбуснага прыпынку. Яна ўвесь час змахвала снегіра, які ўсеўся ёй на плячо каля пад'езда дома цёткі Марыны. Прахожыя здзіўлена паглядалі на дзяўчыну, адварочваліся, хаваючы няёмкія ўсмешкі.

«Чаго бяжыш? Усё роўна не паспееш. Ты ж клялася, што больш не вернешся да Юркі?»

«Як да мужчыны я і не збіраюся вяртацца. Мне шкода яго па-чалавечы. Адчапіся, брыдоцце, не ўсё табе па сіле!»

«Паглядзім».

«Ты баішся мяне. Баішся, пачвара!»

«Я?»

«Ты! Я мацнейшая за цябе. Я ўмею любіць, маё сэрца адорана каханнем. Каханнем без выгод. Простым і глыбокім каханнем без падачак. Гэта ты ведаеш і баішся. Яно непераможнае... Маё каханне да Вілена...»

«А да Юркі? Ха-ха».

«І да Юркі. Што? З'еў?»

Нінка ўскочыла адной з апошніх у дзверы тралейбуса, што ехаў на чыгуначны вакзал. Снягір застаўся знадворку. Ён трапятаў крыльцамі над галовамі гараджан на прыпынку. І кожную хвіліну Нінка добра бачыла, як пашыраліся і раслі яго крылы. Як магутным ценем ад пер'яў снегіра закрывалася сонца над людскімі галовамі. Калматыя і рэдкія воблакі на небе збіраліся ў чорную, каламутную завалоку. Надвор'е пагаршалася. Здавалася, што вось-вось пачнецца навальніца.

Нінку нехта шмаргануў за рукаў світэра. Яна не звярнула на гэта ўвагі. Ці мала хто мог у такой калатнечы зачапіць яе

выпадкова. Але вось пальцы чыйсьці рукі ўзялі яе запясце ў цёплую далонь. Дзяўчына азірнулася. На яе глядзеў вінаватымі вачыма Юрка. Ён быў цвярозы, а ў позірку чытаўся клапатлівы неспакой і непрыхаваная радасць.

— Куды ты знікла? — спытаў на вуха.

— Каталася па горадзе,— таксама шапнула на вуха Юрку.

— Цалюткі дзень на тралейбусе?

— Не толькі. Яшчэ і ў метро была, і ў госці патрапіла.

— Я рады, што з табою ўсё добра.

— А што магло здарыцца?

— Нядобрыя прадчуванні даймалі мяне.

— Праўда?

— Ты як заўсёды не верыш.

— І чаго ты баяўся?

— Што больш ніколі не пабачу цябе.

— Цяпер супакоіўся?

— Так. Я знайшоў цябе.

— Не ты мяне, а я, Юрачка, вылічыла тралейбус, у якім ты будзеш.

Яны абодва ўсміхнуліся.

«Джульета і Рамэа»,— мільганулі ў галаве словы.

— Паехалі ў наша котлішча. Кірылаўна сёння адзначае свой дзень нараджэння. Трэба ўважыць старую. Я і падарунак ад нас ёй купіў, пару пляшак гарэлкі ўзяў, ну і на заедзь не паскупіўся.

— А дзе яно ўсё? Рукі ж у цябе пустыя.

— Пакінуў у камеры захоўвання.

— Малайчына, Юрка,— Нінка прытулілася галавою да шчакі хлопца.— Ты нават пагаліўся сёння.

— А чаму б і не? У Лёніка гарачай вады — заліся.

«Вось так,— зноўку голас у галаве.— Галубкамі будзьце, я адразу адстану. Мілуйцеся і жывіце на ўцеху адно аднаму». «А Вілен мой!» — з вясёлай гарэзлівасцю адказала Нінка. «Жаба раздушаная. Кошка драная з памыйніцы...» — панесліся брыдкія словы. Але Нінка цяпер не звяртала на іх аніякай увагі, яны, здавалася, глыбока не кранялі, а праскоквалі міма яе, як рэдкія дажджынкі за тралейбусам.

— Давай выйдзем на супынак раней.

— Чаму?

— Трэба купіць Кірылаўне хоць просценькі букецік кветак. Ёй будзе прыемна. Не забывай, Юрка, што і яна жанчына, хоць і на сыходзе сваёй восені.

— Ого, як прыгожа кажаш.

— А ты думаў. Я ўсё ж некалі і ў студэнтках пабыла. Праўда, толькі ў першым калідоры.

— Далей не пусцілі? — падтруніў Юрка.

— Не-а! Самой устыла і надакучыла. Збегла.

— Скрытная ты, Нінка.

— Няпраўда. У мяне душа нараспашку. Гэта ведаў нават Вілен... Ну-ну, не крывіся. Я сказала так, каб пазлаваць цябе.

Не даязджаючы да вакзала, яны выйшлі з тралейбуса. Вецер мацнеў, вырываў з рук прахожых парасоны, выкручваў іх, ламаў спіцы. Буйныя, як гарошыны, кроплі, бомкнуўшы, разбіваліся аб шэры і шурпаты асфальт, дзяўблі ў непрыкрытыя галовы і плечы.

— Кветкі маглі ўзяць і на вакзале. А тут змокнем, што мышы. Змые з нас фасончык.

— Не бурчы, Юрка! Тут купім танней.

— Ага, на запалках сэканомім і адбухаем палац з мансардамі.

— Бяры ружы ў кабеты пад накідкай. Шкода яе.

— Ты ўсіх шкадуеш, Нінуль. А хто цябе абагрэе?

— Мяне не трэба. Я сама дзяўчына моцная.

— Сёння гуляем?

— Так, гуляем!

## III

Бацька Максіма Гурона быў вядомым у Беларусі вучоным. Што ні кажыце, а фізік-лазершчык са светлай галавою і прагматычным розумам, ва ўсім — рэспектабельны мужчына — займаў пасаду загадчыка кафедры ў Акадэміі навук рэспублікі. У Інстытуце фізікі ён быў у перабудовачны час адным з прэтэндэнтаў і на пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук. Жыццё, здавалася, лашчыла з усіх бакоў сям'ю Гуронаў. А як жа інакш? Бацька ж, Віктар Георгіевіч, лічыце, што ўхапіў, як гавораць, Бога за бараду. Чатырохпакаёвая кватэра ў цэнт-

ры горада, побач са славутай плошчай Перамогі, службовая машына і асабістая іншамарка, хоць не частыя, але ўсё ж і не рэдкія паездкі за мяжу, трохпавярховая дача ў паўгадзіне язды ад Мінска, маладжавая хатняя работніца і выпешчаная жонка Валянціна Фёдараўна ды кемлівы сын. Што яшчэ патрэбна было савецкаму чалавеку? У хатнія гаспадыні Гуроны, праўда, узялі далёкую жончыну родзічку. Так настаяла Валянціна Фёдараўна, яна не хацела ўпускаць у сваё сямейнае гняздзечка жанчыну з вуліцы. Хто яго ведае, як там будзе з чужачкай? А раптам Георгіевіч захоча ласкі свежага цела, пяшчоты новых рук? «За мужчыну ва ўсім да канца не будзь упэўненай»,— так меркавала Валянціна Фёдараўна і дужа не адпускала з рук сямейныя лейцы кіравання. Падрос сынок Максімка, пайшоў у медыцынскі інстытут, а Валянціна Фёдараўна без супынку штудзіравала кнігі і манаграфіі па сусветным мастацтве і культуры, захапілася ўсходнімі рэлігіямі, збірала карціны і сама круцілася з мальбертам каля нацягнутых на падрамнік палотнаў. Віктар Георгіевіч аддана працаваў і кіраваў лабараторыяй, Максім вучыўся. Адным словам, сям'я Гуронаў цвёрдымі нагамі стаяла на моцным і, здавалася, непарушным падмурку жыцця. Хапала прысмакаў для жывата і кідкай апраткі для цела. Чэргі існавалі не для сям'і Гуронаў. Жыві і радуйся. Але вось завіхурылі перамены, чорным, крылата-нястрыманым канём-стаеннікам загарцавала па Краіне Саветаў перабудова. Усіх захліснула, як скептычна гаварыла Валянціна Фёдараўна, «дзермакратыя». І парушылася размерана-ціхае жыццё сям'і Гуронаў.

— Уцякаць трэба, уцякаць адсюль, пакуль яшчэ жывыя! — даводзіла жонка Віктару Георгіевічу.— Не сёння, то заўтра застанемся жабракамі, выкінуць і цябе і нас з сынам у яму са смеццем. А ты ж вучоны, лічы, што з сусветным імем!

— Так ужо і з сусветным,— спрабаваў нясмела адбрыквацца фізік-лазершчык.

— Няўжо не бачыш, што ўсё затоптана бруднымі абцасамі хамлоўшчыкаў? Трашчыць па швах тое, да чаго імкнуліся, ува што верылі? Не думаеш пра нас, паклапаціся хоць пра Максіма. Яму ж яшчэ жыць і жыць. Дай хлопцу магчымасць праявіцца, паказаць сябе.

— Яму гэта ніхто не забараняе.

— Дзе яму бліснуць? Цяпер, тут? Ты ашалеў! Разуй вочы і паглядзі вакол сябе, усё гарыць ясным агнём! — пераходзіла ўрэшце на крык выпешчаная Валянціна Фёдараўна. Яна пачынала нервова пакусваць доўгія, пакрытыя лакам пазногці. Мышыныя зубкі лёгенька клацалі па дагледжаным манікюры.

— Супакойся, кунічка мая,— заспакойваў жонку Віктар Георгіевіч.— Усё наладзіцца, а калі не...— паспешліва працягнуў ён,— ёсць у мяне на прыкмеце некалькі краін.

— І ты маўчаў? — скрушна вымавіла Валянціна Фёдараўна і наіграна бяссільна апусцілася ў скуранае крэсла каля тарншэра. Яе любімае месца, месца гаспадыні ў вялікай, па-царску абстаўленай зале.— А куды, куды запрашаюць, Віценька? — нафарбаваныя вейкі аж задрыжэлі ад цікаўнасці над зеленаватымі вачыма, точаны і напудраны носік зморшчыўся між пакацістых нарумяненых шчочак.

— У Канаду звалі, ад фінаў ёсць прапановы, ну і італьянцы не раз клікалі да сябе. Так што, бачыш, выбраць можна.

— Геній ты мой! Выратавальнік наш залаты.— Валянціна Фёдараўна ад радасці аж слязіну пусціла левым вокам.

— А як жа Манька? Яна ж хатняя работніца, твая родзічка. Куды яе?

— Адправім дамоў у вёску. Вось і ўвесь клопат.

— Варта пагаварыць з Максімам. Раптам ён не захоча нікуды ехаць. Што тады будзем рабіць?

— Яшчэ не выбралі, куды збіраць чамаданы. Я думаю, што ў Італію,— Валянціна Фёдараўна аж закаціла вочкі.— Там цяплынь і мора, там проста зямны рай. Праўду я гавару, Віцечка?

— Ыгы.

— Значыць, вырашылі. Перабіраемся ў Італію. А з Максімам я пагавару сама. Ён мяне хутчэй зразумее. Будзь упэўнены.

У мітусні і клопатах прабег не адзін месяц. Валянціна Фёдараўна ў сваіх марах жыла ўжо не ў перабудовачнай краіне, а ў далёкай і сонечнай Італіі. Яна паспела перагаварыць ужо на гэту тэму з дзесяткамі сваіх сяброўак. І яны, не то жартуючы ад зайздрасці, а мо і сур'ёзна, называлі жонку Гурона не інакш як Валечка-італьянка. Тыпу:

— Учора званіла наша італьянка...

— Валечка-італьянка так пахудзела і падцягнулася...

— Ці не хочаш купіць дачу ў італьяначкі?

— Здурнела Валечка-італьянка — ехаць у Божы свет як у капейку...

— Пашэнціла Валечцы-італьянцы з мужам. Ён галава...

І ўсё ж адна турбота не давала спакою Валянціне Фёдараўне: ніяк не магла яна ўгаварыць сына ехаць разам з імі. Максім з першай гаворкі адмовіўся наадрэз пакідаць Мінск. Ніякія довады на яго не дзейнічалі. І слёзы, і мольбы Валянціны Фёдараўны — усё ўпустую. Не слухаў ён і пераканання бацькі. Стаяў на сваім.

— Калі закарцела — едзьце. Мне вальней будзе,— адмахваўся хлопец ад сваіх продкаў.— Тут яшчэ непачатае поле для ворыва і севу.

— Што, што ты тут пасееш, сынок? — заходзілася ў істэрыцы Валянціна Фёдараўна.

— Умеючы — многае,— бурчэў Максім і ўключаў музычны цэнтр.

— Застанешся адзін-адзінюсенькі ў бурлючым катле. Ніхто не падсобіць і не заступіцца, рукі не будзе каму падаць, калі раптам спатыкнешся. Мы ж будзем далёка. А ў бацькі ў Турыне якія вялікія перспектывы. Яго адразу на вяршыню навуковай гары запрасілі. Гэта табе не нейкі там клерк.

— Ну і добра, што так усё складваецца. Будзеце падкідваць мне грошы. А з поўным кашальком усюды прыпяваючы жыць можна...— Максім на хвіліну задумаўся.— Ты б хоць да бабулі ў вёску з'ездзіла, расказала, што і як. А то кідаеце старую...

— Я ёй пісьмо напісала,— перабіла сына Валянціна Фёдараўна.— Яна ёмкая старая, зносу яшчэ доўга не будзе.

— Так гаворыш пра сваю маці? — скептычна ўсміхнуўся хлопец.— Відаць, і я ў цябе, дарагуша, пайшоў. Твой характар з генамі пераняў.

— Сам жа чуў, як у вёсцы пра яе гавораць? Ведзьма, і ўсё. Ніхто за вочы не назаве баба Грыпіна. Ведзьма. Другога імя быццам і не ведаюць.

— Ну і што, калі плявузгаюць. Для цябе ж яна маці.

— А табе бабуля. Ці даўно ты да яе наведваўся? Маўчыш? Вось і маўчы.

Перад самым ад'ездам Гуроны свой канфлікцік уладзілі. Сеўшы за святочны стол з такой важнай прычыны, Віктар Георгіевіч і Валянціна Фёдараўна сышліся з Максімам на тым, што ён кожны год будзе прыязджаць да іх у Турын падчас канікулаў. Пагасцюе, прыгледзецца і, калі прыйдзецца жыццё ў Італіі па душы, пераедзе назаўсёды, зноў увальецца ў сям'ю.

— Ты, Максімка, глядзі тут за ўсім, будзь гаспадаром,— даводзіла Валянціна Фёдараўна. Твар у яе расчырванеўся ад выпітага віна, вочы паблісквалі жывымі іскаркамі. Пасля доўгай і турботнай бегатні па інстанцыях, клопатаў, якія звальваліся адзін за другім, яна мо толькі сёння вечарам вальней уздыхнула. Усё, можна сказаць, было зроблена. Заставалася толькі дабрацца да аэрапорта, сесці з Віктарам Георгіевічам у самалёт, і далёкая жаданая Італія прыме іх пад сваё неба.— Не заводзь, сынок, новых сяброў, не вадзі людзей з вуліцы ў кватэру,— настаўляла маці.— Зараз адразу не разбярэшся, хто сябар, а хто пакарыстаецца тваёй нявопытнасцю, ды яшчэ і абчысціць да ніткі. Мы з бацькам вырашылі, што развітальная вячэра павінна быць толькі сямейнай. Былыя сябры засталіся ў мінулым, нам трэба прыглядвацца ў Турыне да новых. І дзяўчат абы-якіх сюды не вадзі.

— Маці, ён жа дарослы хлопец,— паспрабаваў умяшацца Віктар Георгіевіч.

— Рана Максіму яшчэ жаніцца, няхай вучыцца. Гэта ніколі не ўцячэ ад яго. Жаніцьба — справа нажыўная. Калі будзе мець галаву, то і дзяўчына дастойная сама па сабе прыб'ецца. Ды мы і там, у Італіі, прыгледземся,— Валянціна Фёдараўна шматзначна зірнула на сына.— Кажуць, што людзі там тэмпераментныя...

Максім слухаў бацькоў і, здавалася, не чуў іх. Яму хутчэй хацелася застацца аднаму ў кватэры, выправіць продкаў у іх казачную краіну і жыць сваім жыццём. Тым, якое нязгасна, з дня на дзень разгаралася ў душы, бунтавала кроў у жылах, часам нават засціла вочы.

Максім апошні год фактычна не спаў. Ён звечара зачыняў дзверы свайго пакоя на замок (супраць чаго бунтавала маці) і з заплюшчанымі вачыма ляжаў на канапе, чакаў, пакуль стрэлкі на насценным гадзінніку не сыдуцца на дванаццаці і на сьпячую зямлю абрынецца няўмольная поўнач.

«Запалі адну са свечак, што я табе даў...— адразу ж вушы Максіма лавілі голас старога Ахрэма з Зялёнага Лугу,— пастаў на ўкуцці перад перавернутым крыжам. Яшчэ не забыў, як я вучыў цябе, га?»

«Не забыў»,— заўсёды паўтараў адны і тыя словы Максім. Даставаў з хованкі чорную свечку таўшчынёй з таўкач, выцягваў з-пад канапы скрынку з імправізаваным алтаром Гаспадара, раскладваў на кутнім століку. Перш чым запаліць свечку, праколваў указальны палец на правай руцэ і выціскаў шэсць кропель крыві на чорны воск свечкі. Пстрыкала запальнічка, і пякучае вочка свечкі ўспыхвала ў пакоі. Максім чакаў Гаспадара — і ён прыходзіў. Нябожчык Ахрэм, ранейшы важак гарадской абшчыны, сыходзіў, саступаў месца таму, каму ўсё жыццё служыў.

«Радуйся, Гурон! — у адну з начэй, калі хлопец яшчэ і не ведаў, ды і бацькі самі не здагадваліся пра свой пераезд у Італію, важна прагаварыў Гаспадар.— Хутка ты будзеш вольны і магутны. Ты па праву гатовы заняць месца Ахрэма. Ты саспеў, Гурон! Цяпер выбірай у сваю сям'ю дзяцей паслухмяных, тых, хто народжаны пад маім знакам, знакам ночы. І назавуцца яны ўсе гуронаўцамі. Я адпраўлю тваіх бацькоў у тое месца, дзе павінен нарадзіцца ва плоці я сам. Твае паедуць туды, а ты застанешся тут, бо тваё месца на гэтай зямлі, будзеш араць поле і сеяць, гадаваць парасткі вернікаў маёй сілы. Гэта краіна на ўсёй зямлі — самае прыдатнае месца. Тут людзі без веры і голасу. Ты дасі ім веру, паможаш паверыць у мяне адзінага. А моладзь! — Гаспадар у экстазе цірнуў кашчавыя і сухія далоні рук адна аб адну, і з іх пасыпаліся жаўтаватыя іскаркі.— Моладзь без ідэй, з прагнілай душою і пустой галавою,— вось нам і трэба, Гурон, пачынаць сяўбу. І кінутае зерне ўзыдзе!..»

— Ці не задрамаў ты, сынок? — Валянціна Фёдараўна лёгенька дакранулася да пляча Максіма.— Зусім не ясі, вазьмі бутэрбродзік з ікрою, салацік з крабамі. Хто ж без мяне тут за табою прыгледзіць? — твар жанчыны агарнуўся сумам.— І ў каго ты ўдаўся такім упартым? Паехаў бы разам — і ніякіх праблем.

Ад слоў маці хлопец увесь напруціўся. Вочы лязом паласнулі па твары Валянціны Фёдараўны. Тоўстая вена ад на-

пружання выступіла на высокім і гладкім ілбе Максіма. Між чорных дугападобных броў, на пераноссі, сабралася складка ад раздражнёнасці. А прамы рымскі нос ад унутрана прыхаванай злосці нібы пабольшаў, выцягнуўся да верхняй губы.

— Сто разоў гаварыў: вы едзеце, а я застаюся. Так трэба! І на гэтым паставім кропку. Надыдзе дзень, калі я да вас прыскочу.— Белыя і завостраныя зубы Максіма, здавалася, ірвалі словы на кавалачкі, на дробныя шматкі. І яны, так падалося маці з бацькам, крывавілі над святочным сталом.

— Усё! Супакойся. Вып'ем за добры палёт і мяккую пасадку,— Віктар Георгіевіч наліў фужэры.— Не трэціруй ты, маці, будучага ўрача. Яму трэба моцныя нервы,— фізік-лазершчык усміхнуўся.

— Апошні тост п'ём да дна,— падтрымала Валянціна Фёдараўна.

Максім спрактыкавана, двума глыткамі асушыў фужэр, чым, відаць, азадачыў Валянціну Фёдараўну.

— Мужчына! — задаволена крактануў Віктар Георгіевіч.

— А вы думалі? — голас Максіма пагрубеў, басавітыя ноткі скалыхнулі крышталь люстры на столі, а па-юначы пульхныя губы выцягнуліся чырванаватым шнурком. Дзіўна, але вочы хлопца заставаліся непадступна халоднымі, быццам заінелымі. Усё роўна як зяленіва восеньскай травы пад першай зазімнай паволокай інею.

«Яны лічаць усё яшчэ мяне кволым птушанём, якое без іх прыгляду задзяўбуць іншыя квактухі і ўжо апераныя падлёткі. Не і яшчэ раз не! У маіх руках сіла, якая вам, мае прастачкі, клапатлівыя родзічы, і не снілася. Хутчэй бы дыхнуць без вас на поўныя грудзі, распраміць плечы і ганарова ўзняць галаву. Каб вы не азіраліся на кожны мой чых, не мацалі лоб, калі надступае гарачка ў надвячоркі з поўняй на небе, перад пятніцай трынаццатага чысла. Устыў; у пячонках сядзіць мне ваш клопат!»

— Праводзіць нас усё ж не надумаў, Максімка?

— Вы ж таксоўку заказалі,— хмыкнуў хлопец у адказ.

— Пабылі б разам лішнюю гадзінку,— прасіла Валянціна Фёдараўна.

— Не дзяцінься, маці,— убіўся ў гамонку Віктар Георгіевіч.— Няхай пасціць лішнюю гадзіну. Аэрапорт не за гарамі.

— Правільна, стары, кажаш,— падтрымаў бацьку нашчадак.

— Вы, мужчыны, увесь час заадно. Не нарадзіла я сабе дачку, цяпер шкадую,— наіграна надзьмула пульхныя, падфарбаваныя ў карычневы колер губы Валянціна Фёдараўна.

— А хто табе не даваў? — з непрыхаванай злосцю запытаў сын.

— Каб жа я магла,— па твары Гурончыхі ценем мільганула роспач.— Скажы дзякуй, што ты, Максімка, пабачыў свет Божы.

— Ха-ха! Дзякуй! — малодшы Гурон усхапіўся з месца і, тэатральна схіліўшы галаву, пакланіўся, шаркнуўшы нагою па напаліраваным паркеце.

— Ты яшчэ іранізуеш? — бачылася, што Валянціна Фёдараўна па-сапраўднаму крыўдзіцца.

— Хопіць вам! — павысіў голас галава сям'і.— Пераводзіце развітальную вячэру ў пустую сварку. Ты, кунічка мая, калі трошкі захмялела, то ідзі прыляж, а мы з Максімам прыбярэм са стала.

— Ці не забылі, як гэта робіцца? — з яхідцай спытала Валянціна Фёдараўна.— Нічога, сынок, прыйдзецца вучыцца. А мо наймеш хатнюю работніцу? Новую. Наша ж цяпер у сваёй вёсцы.

— У мяне, не хвалюйся, будзе каму прыбраць і на стол падаць.

— О'кей, дарагі,— твар у жанчыны пасвятлеў, вочы заблішчэлі ранейшым агеньчыкам, у іх успыхнулі жвавыя іскаркі.— Ты не прападзеш, я ўпэўнена. І ад гэтага мне добра на душы. Вось так,— Валянціна Фёдараўна паднялася з-за стала.— Іду спаць, як вы, дарагія, загадалі. Рана падымацца. Добрай ночы, мае мужычкі...

— Добра, калі добра ўсё заканчваецца. Пакурым, Максім? — Віктар Георгіевіч дастаў з шуфлядкі каля таршэра пачак «Мальбара».— Па адной цыгарцы і — у пасцель. Думаю, што заўтра сам прыбярэш, праўда?

— Няхай будзе так,— пагадзіўся хлопец.

Кольцы тытунёвага дыму расплыліся па зале, лёгкай плёнкай ахуталі крышталёвую люстру, павіслі на дарагім багеце карцін, што віселі на сценах.

...Гаспадар, як заўсёды, завітаў у пакой Максіма апоўначы. Свечка ўжо гарэла, а Гурон прыслухоўваўся да соннай цішыні

і ледзь чутных начных шорахаў. Хлопец меў выдатны выгляд. Ён падсвядома адчуваў, ведаў, што ягонае жыццё крута мяняецца. Ён, Максім, становіцца магутнай сілай, якая разрастаецца ў яго целе.

— Я прыйшоў развітацца.— Гаспадар сядзеў у крэсле, агеньчык свечкі ледзь выхопліваў ягоныя абрысы.

— Ты пакідаеш мяне аднаго? — Максім прыўзняўся на локцях, канапа лёгенька рыпнула.

— Чаму аднаго? — не пагадзіўся Гаспадар.— Табе ж застаецца Ахрэмава кодла з маіх вернікаў. Ты, Максім, павінен іх узняць на новую прыступку, вышэйшую, у служэнні мне. Ты многае спасціг. Ведаеш тое, што я хацеў укласці ў цябе.

— Куды ж сыходзіш ты, мой Гаспадар?

— Іду туды, дзе мае служкі яшчэ спяць. Я павінен даць пра сябе знаць лакальнай успышкай зла.

— А дзе гэта?

— Ну, у некаторых кропках зямнога шара,— ухіліўся ад прамога адказу Гаспадар.— Як вучыць старажытнейшая філасофія, усё ў гэтым свеце звязана са ўсім астатнім у ім жа. Усё ва ўсім! Ваша квантавая фізіка гэта называе «ідэалогіяй бутстрэпа». І калі мне ўдасца поўнасцю знішчыць хоць адзін атам у сусвеце, то і загіне ўвесь сусвет. А для гэтага патрэбна працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць.

— А я? Мы, твае вернікі, як будзем? — усхваляваўся Максім.

— Вы вечныя! — Гаспадар усміхнуўся ў змроку пакоя.— Я без вас слабы, як кволенькія і вы без мяне. Ты ж толькі што чуў: «Усё ва ўсім». Шукай, Максім, сабе памочніка, а можаш назваць яго і сваім намеснікам. Я табе падкажу, дзе ён цяпер.

— І дзе яго сустрэну? — паспешліва спытаў Гурон.

— Што? Не цярпіцца парадніцца? — Гаспадар закурыў ад свечкі люльку. Здушлівы і смярдзючы дым слупам пацягнуўся да столі.— Шэсць тыдняў запар, па пятніцах, у самы поўдзень ездзі на чыгуначны вакзал. Ты сам яго ўбачыш і пазнаеш. Ён стане ў цябе правай рукою.

— А калі я памылюся? — перасцярогся Максім.

— Не думаю.

— І ўсё ж.

— Добра. Гэта важны крок у нашай справе, промаху не трэба дапускаць.— Гаспадар на хвіліну задумаўся, нешта вырашаў сваё, кумекаў у адзіноце, нарэшце прагаварыў: — Ягонае імя Вілен, а прозвішча Падкідны... І месца збораў вам трэба мяняць. Падвал пад Ахрэмавым домам ужо не падыходзіць. Дужа людна і шмат непатрэбных вачэй вакол. Мы яшчэ не такія магутныя, каб не асцерагацца дахлячых праведнікаў.

— Можа, у маёй кватэры? Яна ж вялікая, і я адзін застаюся.

— Не! — перапыніў Гаспадар.— Ты павінен заставацца чыстым, без падазрэнняў. Пакуль. Усяму свой час, Гурон.

— Я падшукаю.

— Яно ўжо мною знойдзена.

— Далёка?

— Па Магілёўскай шашы. У глыбіні Чэрвеньскага раёна. Там закінуты і забыты дом аднаасобніку костнага завода. Месца, вартае ўвагі. Заплюшчы вочы, і я пакажу табе дарогу. Але пачакай, ледзь не забыў. Перад тваім пад'ездам стаіць навюткая «мазда». Ключы ад яе кладу на стол. Машына — мой падарунак табе. А зараз запамінай дарогу ў логава гуронаўцаў...

Максім прачнуўся позна. Усё цела чамусьці ламіла. Здавалася, што кожная костачка прайшла праз малатарню. Пад грудзі падкачваўся даўкі камяк і падбіраўся пад самае горла. Хлопец хуценька ўскочыў з канапы і басяком шмыгануў у прыбіральню, схіліўся над унітазам. Яго званітавала. Вочы засцялілі слёзы. Максім аддыхаўся. У ванным пакоі спаласнуў твар халоднай вадою. Палягчэла.

Бацькоў не было. Гурон нават не чуў, калі яны з'ехалі.

— Выдатна! Віват, Гаспадару! — крыкнуў Максім на поўныя лёгкія, аж зазвінела ў вушах.— Я адзін, але не адзінокі! Чаго большага яшчэ хацець?! Вучобу — кату пад хвост. Ніякай вучобы, прэч медыцыну. Я ўжо ведаю ўсё, што мне трэба. Хлебану каўкі і да новай машыны. У мяне «мазда»! — Максім падбег да акна кухні, вызірнуў праз фортку. Навюткая чорная прыгажуня стаяла каля дзікага куста ружы, палісквацочы паліраванай фарбай пад сонцам.— Бацькаву калымагу заганю па дзяшоўцы, а «маздачку» пакуль у гараж! Вечарам матлянуся на ёй па горадзе, а заўтра наведаю сваё логава. Не, трэба сабраць таго-сяго з Ахрэмавай хеўры. Чаму Ахрэма-

вай? — не пагадзіўся сам з сабою хлопец.— Маіх паслужнікаў. Трэба ў нашым доме навесці парадак. Ён цяпер — мая царква. Наш храм, храм гуронаўцаў. Ой лю-лю!

«Не забывай пра пятніцу трынаццатага. У гэтым годзе яна апошняя,— пачуў Максім далекаваты голас Гаспадара.— Хопіць прыносіць мне ў ахвяру катоў ды сабак. Ты не Ахрэм, ты — Гурон! Думай, час яшчэ ёсць. Мне патрэбна падпітка. Тут цяжэй, чым раней здавалася. Спадзяюся на цябе, мой Гурон. Доўга не раскачвайся. Праз месяц ты паедзеш да бацькоў у Турын...»

— Так хутка? Я не хачу.

«Гэта вельмі важна для цябе, а найперш — мне самому».

— Калі трэба, я гатовы. Але ж як з выклікам?..

«Перастань думаць катэгорыямі смяротных. Усё будзе зроблена само сабою. Ты пакуль мацуй сям'ю сваіх гуронаўцаў. Дай паверыць ім у сябе незаменнага, майго вярхоўнага стаўленіка. І не забывай пра намесніка. Ён на чыгуначным вакзале».

— Усё зраблю, Гаспадар. Будзь упэўнены.

...Максім не любіў вакзалаў. Грэбаваў мітуснёй. Людская таўкатня, іх мурашыная беганіна туды-сюды выклікала ў душы Гурона прыхаваную злосць. Адразу ж губляўся настрой, яму так і карцела даць выспятка прахожым, якія, вылупіўшы вочы, цягнулі сумкі з чамаданамі, бязмерныя баулы і напрамую штурхаліся плячыма, адтоптвалі ногі, пэцкалі сваімі бруднымі падэшвамі бліскучыя чаравікі Максіма. І ўсё ж шостую пятніцу запар ён швэндаўся па вакзальных чыгуначных касах, шныраў у пачакальні між прымітыўных лавак і простых крэселец, на якіх, выпрастаўшы ногі, бавілі ў чаканні свой час пасажыры. Абыходзіў Максім і піўныя кіёскі, міні-кафэ, што, як грыбы пасля летняга і парнага дажджу, павырасталі вакол чыгуначнага вакзала. Ён пільна прыглядаўся да людскіх твараў, вышукваў позіркам намесніка. Гаспадар казаў, што ім будзе хлопец. Але пакуль Максімава ўнутранае чуццё было глухім. На гэты раз ён ужо разуверыўся ў тым, што знойдзе, натрапіць на патрэбнага чалавека. Бязладная людская маса напяла нервы Гурона, як струны на віяланчэлі. Вось-вось ён павінен быў узарвацца. Хацелася смачна плюнуць пад ногі і, вылаяўшыся, паехаць у

Дом ночы (так цяпер ён называў свой храм у гушчэчы чэрвеньскага лесу). Максім, каб прагнаць смагу ў горле, купіў у адным з кіёскаў пляшку піва. Дзіўна, але яно было халодным і не кіслым. Залпам выпіўшы паўлітроўку, Гурон акінуў позіркам недалёкі скверык з ліп. Ягоныя вочы самі затрымаліся на постаці хлопца, які падышоў да лаўкі, зірнуў наўкола і прысеў з пляшкай віна на нядаўна пафарбаваныя ў жоўты колер танкаватыя дошчачкі. «Ён!» — нешта тарганулася ў грудзіне Максіма. «Так, ён,— не падманваў розум.— Прадчуванне не магло памыліцца». Гаспадар сказаў праўду, Максім вылічыў бы свайго намесніка сярод мільёнаў людзей-пешак.

Спачатку абыякавасць Вілена да гаворкі з Максімам расчаравала. Гурон не ведаў, як разварушыць свайго будучага намесніка. Па не вельмі дагледжаным выглядзе маладога чалавека, даволі паношаным адзенні і даўнавата не мытых валасах на галаве Максім здагадаўся ці не, хутчэй адчуў, Вілен — бомж. Так, менавіта бомж. Гурон бамжэй адчуваў, навучыўся пазнаваць іх здалёк. Яны, бамжы, для ахвяравання Гаспадару былі найлепшымі кандыдатамі. Менавіта на чыгуначны вакзал ездзілі яго гвардзейцы, каб вылавіць і прывезці ў Дом ночы маладое цела з гарачай крывёю.

— Так што пайшлі да мяне. Пажывеш, а там прыгледзішся, падумаеш над маімі ідэямі і тэорыямі, калі яны падыдуць табе — станеш адным з братоў Гурона, будзеш гуронаўцам.— Максім гаварыў адкрытым тэкстам. Яго не хвалявала нават тое, што Вілен, калі на яго надыдзе бздык, можа кінуцца да міліцыянтаў. Хто пачне слухаць бамжа? Яны, бяздомныя, самі баяцца дзядзьку з пагонамі і з гумавымі дубінкамі на бядры горш за чуму ці халеру.

— А калі падасца табе ўсё тое, што пачуеш і пабачыш, чужым, вернешся на свой вакзал, — Максім прагаварыў гэта проста і ненавязліва, абыякавым голасам.

Гурон за знешнім спакоем Вілена адчуваў ягоную насцярогу. Максім без цяжкасці прабіўся ў думкі новага знаёмца. Гэтаму хлопцу карцела пабачыць нейкую Нінку. Відаць, сваю каханку.

«Будзе з гэтаю дзеўкай мне клопату,— падсвядома нарадзілася здагадка ў Максіма.— Яна — перакідны масток паміж двума берагамі, на якім стаіць свет да сённяшняга дня. На ад-

ным баку — мы, гуронаўцы, а на другім — праведнікі-святошы. Нічога, масток згіне сам сабою. Трэба абарваць вяровачку, што злучае Вілена і гэту лярву Нінку. Падкладу Вілену ў насцельку нашанскую дзяўчыну, сястру па веры і служэнні Гаспадару. Ха-ха. Праблема вырашана! А пакуль няхай панудзіцца хлопец. Недарэмна ж Гаспадар часта паўтараў, што словы чалавека вынайдзены спецыяльна для таго, каб схаваць за імі сапраўдныя думкі. Пакуль Вілен не пераламіўся поўнасцю, не прыняў нашага хрышчэння, трэба палашчыць ягоны слых і гонар салодкімі і ласкавымі словамі. І ўсё ж у гэтым хлопцу шмат агульнага са мною. Гаспадар недарэмна выбраў яго ў памочнікі».

— Спрацуемся, Вілен?

— Ыгы.

— Тады паехалі. Хопіць тырчэць у смярдзючай багне вакзала. Прыйдзе час, і мы беспамылкова будзем пазнаваць людзей, вось гэтых усіх людзей, якія зараз мурашамі снуюць вакол нас. Мы, і ты ў іх ліку, будзем прымаць рашэнні, каму жыць, а каму памерці.

Максім заўважыў, як хлопец ад нечаканасці аж перасмыкнуў плячыма.

«Нічога, прыйдзецца яму прывыкаць яшчэ і не да такога. Галоўнае, я знайшоў намесніка!»

Іншамарка, імпартовыя цыгарэты, навюткае і клёвае адзенне з дарагога буціка, полудзень у прыватным і шыкоўным рэстаранчыку, пара фужэраў, з прыгаршчы, італьянскага віна — расслабілі і супакоілі Вілена. Хоць і даймала думка: з-за чаго такая шчодрасць і ласка яму, Вілену, ад незнаёмага чалавека? Лічы, равесніка...

«Дармавы сыр — толькі ў мышалоўцы».

«Глупства. Кожнаму чалавеку павінна пашэнціць некалі».

«Калі так, то будзь здаровым і пры сваім поўным шчасці»,— Вілен адчуваў, што ўнутрана ён быццам дзеліцца на дзве часткі. Адна, першая з іх, праціўіцца ўсяму, што робіць Максім для яго, а вось другая, і здаецца, што больш моцная, шчыкатлівай радасцю поўніць душу.

«Глядзі, не апячыся ад шчасця, якое няведама адкуль звалілася. А то прасунеш галаву ў пятлю. Перахопіць вяроўка дыхавіцу, без мыла зашчоўкне шыю».

«Ды пайшоў ты, дарадчык!»

«А як Нінка? Ты ж кінуў яе пад чужыя ногі. Яе затопчуць і заплююць. Яна без цябе, што яйка без шкарлупіны».

«Не хвалюйся. Знайду яе і забяру. Будзем разам. Максім добры, ён дазволіць».

«Ага, вось ужо і дазвол патрэбны Максіма».

«Пайшоў к чорту!»

«Эх, Вілен, Вілен... Я буду шукаць Нінку. У ёй паратунак...»

— Да мяне жыццё павярнулася тварам. Дзякуй табе, Максім,— праз тыдзень прызнаўся Вілен. Ён жыў у Гурона, які адвёў яму бацькоўскі пакой. Днямі хлопец глядзеў відэа з касетамі пра крывасмокаў, зданяў-нябожчыкаў, славутага Дракулу (пра яго Вілен шмат разоў ужо чуў), а найбольш Гурон падсоўваў фільмы з сатаністамі і ахвярапрынашэннем. Максім няспешкі, паступова і павольна падводзіў Вілена да служэння Гаспадару. Ён пабойваўся напорыстасці, каб не напалохаць, каб не адвярнуць Вілена ад той дарогі, на якую цвёрда стаў сам Максім і па якой прыйдзецца пайсці Вілену.

— Калі ўжо будзем гаварыць сур'ёзна? — адным вечарам запытаўся Падкідны ў Гурона.— Я ўсё прагледзеў, прачытаў, завучыў, што ты мне раіў. Калі ж падпусціш да галоўнага? Ты ж выбраў мяне не толькі, каб смачна я еў ды спаў удосталь.

— Праўду кажаш, Вілен. У наступны панядзелак праводзім тваё хрышчэнне ў Доме ночы. Гэта наш храм. Ты ж станеш маім намеснікам. Наш Гаспадар падрыхтаваў ужо і падарунак табе. Учора ён прыходзіў. У аўторак я аддам табе ключы ад тваёй,— Гурон шматзначна памаўчаў,— кватэры і яшчэ адны ключы ад срэбранага шасцісотага «мерседэса». Вось так.

— Адкуль? Як гэта?

— Не твае турботы, пра ўсё паклапаціўся Гаспадар. І перастань думаць катэгорыямі смяротных (Максім усміхнуўся, калі прыгадаў, што такія ж словы некалі гаварыў яму сам Гаспадар).

У панядзелак Максім з Віленам прыехалі ў Дом ночы яшчэ завідна. Глухая мясціна сярод ельніку і сосен, невялікая палянка каля дома, загадкавая цішыня — усё адразу спадабалася

Падкіднаму. Яму нават падалося, што ў гэтым месцы ён некалі быў ці бачыў у сне.

— Вось наша і галоўнае месца,— задаволена пацягнуўся Гурон, пазванок аж трэснуў у яго.— Гадзіны праз чатыры тут будзе людна і весела. З'едуцца нашы браты і сёстры па веры. Ахрысцім цябе, Вілен, і станеш ты маім намеснікам. Як? Нядрэнная перспектыва?

Вілен згодна кіўнуў галавою.

— А цяпер пазнаёмлю цябе з нашым вартаўніком. Хітрун, нягоднік! Недзе прытаіўся ў кустоўі і назірае за намі. Зараз паклічу.— Максім тры разы гучна ляснуў далоняй аб далоню і, закінуўшы галаву, працяжна завыў, ці не, хутчэй гэта падобна было на кугуканне савы. І тут жа з гушчару вербалоззя вышугнула вялізная чорная птушка. Выгнуўшы голую галаву і распасцёршы крылы, яна падыбала, неяк перавальваючыся з адной магутнай лапы на другую, да Гурона. Вілен адступіў крокі на два. Хлопец быў па-сапраўднаму здзіўлены.

— Максім, я бачыў гэтую птушку,— шэптам прамовіў Падкідны.— Яна давала мне ключ, які я трымаў у далоні. Значыць, мне ўсё тое не падалося? Такая птушка сапраўды існуе?

— Вядома ж,— Максім правёў рукою па чорных пер'ях крылаў. — Наш любімец грыф. Лепшага вартаўніка не знойдзеш. Ніхто без майго ведама сюды не сунецца. Грыф — надзейная ахова. Праўду я кажу?

Грыф у знак згоды ўвабраў галаву ў міжкрылле.

— Вось бачыш? Я думаю, што вы пасябруеце. Любіць ён пабалавацца свежанінай. Пайшлі, паглядзім алтар Дома ночы.

Няяркае, падслепавата-мройнае святло прабівалася праз запэцканае і мутнае шкло ў пакоі дома. Пад нагамі парыпвалі масніцы, у многіх месцах аблупілася і ссыпалася тынкоўка на сценах. Кіславата пахла застаялай плесенню пакінутага жытла. Падраныя сядзенні канап паўз сцены пазіралі ў прыцемак іржавата-бліскучымі спружынамі.

— А вось тут была некалі сталоўка,— расчыніў створкі дзвярэй Максім. Запальнічкай прыпаліў нябачную свечку каля ўвахода.— Гэта наш алтар.

Вілен падышоў да невялікага, паўколцам зробленага ўзвышша, якое нагадвала імправізаваную сцэну. Вакол яе, на

замацаваным да столі дроце, вісела шыракаватымі чырвонымі палосамі матэрыя, якая звісала да самай падлогі. Пасярэдзіне ўзвышша-сцэны быў прымацаваны перавернуты шасціканечны крыж з неачышчанай ад кары асіны. На самым версе, аснове крыжа, вісеў сабачы чэрап. А з бакоў, на замацаваных дошчачках, стаялі пудзілы шасцёх воранаў, кошак і пеўняў. Іх чорны колер на фоне чырвонага ўражваў. І гэта жывёльна-птушыная кампанія, здавалася, задрамала на нейкую хвіліну, але вось-вось, праз імгненне, павінна ажыць.

— Ну, як табе? — голас Максіма выдаваў яго ўнутраную задаволенасць.

— Не слабо! — выціснуў з сябе Вілен.

— Я ведаў, што спадабаецца. Пакуль агледзься тут, а я падрыхтую чашу для твайго прычасця пасля хрышчэння.— Усмешка Гурона блісканула ў глыбіні вачэй і згасла.

«Усе мы прайшлі праз такое прычасце. І ты, хлопец, хлебанеш яго. Праскуркі, ці, як іх называюць святошы, «аблаткі», будуць плаваць у звярынай крыві, змешанай з экскрэментамі і мачой. Ты прычасцішся першым, а пасля чаша пойдзе па крузе. Брыдка толькі першы раз, а затым прывыкаеш. Прывыкаеш разам з верай».

— Калі хочаш нечым заняць рукі, то пастаў свечкі вакол алтара ў прымацаваныя бляшанкі. Свечкі ляжаць у скрынцы, пад маім тронам,— Гурон паказаў на крэсла, зробленае ў гатычным стылі, яно стаяла за асінавым крыжам, і яго спачатку Вілен не заўважыў. Хлопец выцягнуў ладную, як куфэрак, скрынку, адкінуў вечка і здзіўлена зірнуў на Максіма.

— Такія вялікія і ўсе чорныя?

— Другіх і быць не можа,— абыякава пацвердзіў Гурон.— Ты іх замацуй, прыпальваць яшчэ рана. Ага,— прыслухаўся Максім,— здаецца, што пачалі з'язджацца мае гуронаўцы. Чую матор «пазіка». Хадзем, надзенеш маску, хлебанём моцненькага напою. Трэба ж табе падтрымаць сілы.— Гурон па-сяброўску абняў свайго будучага намесніка за плечы.— Трымай хвост пісталетам, браток...

Калі цяпер спытаць Вілена пра той даўні і першы яго рытуал прыёму ў гуронаўцы, то ён яго дэталёва і не ўспомніць. Усё, што рабілася навокал, здавалася яму ірэальным, фантазіяй хваравітага і затуманенага мозгу. Быццам усё было, але нічога

не засталося ў памяці... Мноства вычварных масак, прыбойныя накаты галасоў, якія быццам вадою заліваюць вушы. Незлічоныя агеньчыкі свечак у руках бястварых людзей. Раскацісты і зычны голас Максіма, які стаяў над распасцёртым яго целам пад крыжам і мазаў пэндзлем Віленавы рукі, ногі, грудзі нечым смярдзюча-прытарным. Адно запомніў хлопец: адчуванне, што нехта нябачны схапіў яго сэрца шурпатай далонню і выціскае з яго, быццам з памідора, усе жыццёвыя сокі і сілу. Вілен згубіў прытомнасць...

— Ну ты, браток, і даеш жару! — пачуў Падкідны голас і расплюшчыў вочы. Над ім стаяў Гурон.— Напалохаў мяне, ледзь у штаны не наклаў,— Максім падміргнуў.— Тры дні ў бяспамяцтве ляжыш, тэмпература ледзь не спаліла тваё цела. Але нічога, усё ў мінулым. Цяпер адпачывай і набірайся моцы.

Вілен ляжаў у кватэры Гурона.

— Як ты мяне давёз?

— Браты і сёстры памагалі.— Максім хвіліну памаўчаў, аб нечым думаючы.— Ведаеш, я пакуль не гаварыў нашым, што ты абраны намеснікам. Рана, відаць. Ды і не прычасціўся ж ты. Але гэта не так і важна. Дробязі. Галоўнае: цябе абраў Гаспадар і ты падыходзіш мне. Усё астатняе — туфта.

У гэты ж вечар Вілен ужо быў на нагах. Ён адчуваў сябе надзіва весела і добра.

— Заўтра перабіраюся да сябе ў кватэру. Ты не супраць?

— Правільна, стары,— падтрымаў Максім.— Я там пабываў ужо. Праўда, без твайго дазволу.

— Адкінь цялячы этыкет.

— Вось гэта па-нашаму, браток. Я табе скажу, што абстаўлены твае харомы з шыкам. А «мерседэс» паставіў у твой гараж пад домам.

— І гараж ёсць?

— А як жа! Мы павінны жыць з шыкам. Так наказваў Гаспадар. Хто яму служыць душою, той мае ўсё... Слухай, ледзь не забыў. Мне прыйшоў выклік ад бацькоў. Дні праз два крутануся ў Італію. Вось, блін, ні разу за мяжой не быў, а цягне, быццам у роднае гняздо.

— Малаток,— падахвоціў Вілен Гурона.
— Турын! Хачу ў Турын,— капрызліва буркнуў Максім.
— Папутны вецер у задніцу і мяккай пасадкі.
— Дзякуй. Тое, што трэба.
— І надоўга?
— Думаю, што не. Тут шмат яшчэ не зроблена.
— А калі бацькі прыжэняць?
— Ды не ад іх гэта выклік,— па сакрэце прызнаўся Максім.— Гаспадар чамусьці захацеў, каб я наведаў цэнтр Паўночнай Італіі.
— А мне што рабіць у гэтыя дні?
— Чытай, вучыся. Я падабраў літаратуру. У бацькавым кабінеце на стале ляжаць кнігі. Калі будзе жаданне, то скакані ў Дом ночы. Добра прыглядзься да ўсяго, бліжэй парадніся. Мо нешта навейшае прыдумаеш для алтара. Ты ж башкавіты. Не страшна?
— Чаго баяцца? — Вілен ціскануў плячыма.
— Правільна. А цяпер адпачывай і не губляй прытомнасці, намеснік.
...Пералёт з аэрапорта «Мінск-2» у Турын прайшоў спакойна і незаўважна для Максіма. Пасля дажджлівага і маркотнага дня ў родным горадзе Італія сустрэла Гурона цёплым сонцам і шчыкатліва-прыемным, слабаваценькім ветрам. На выхадзе пасля рэгістрацыі Максім заўважыў хударлявага чалавека з аскетычным тварам, які ў руцэ трымаў невялікую шыльдачку з яго, Гуронавым, імем і прозвішчам. Чорны касцюм у невядомага чалавека вісеў на плячах, як на даўгаватай жардзіне. Тонкія, колеру спелай каліны губы ўсміхнуліся Максіму, калі ён падышоў да незнаёмца.
— Вы Максім Гурон? — на даволі прыстойнай рускай мове спытаў чалавек.
— Так.
— Выдатна. Едзем да мяне ў госці. Але, забыў прадставіцца, прабач. Я Ларэнца Аляксандры, мастак. А пра цябе ўсё ведаю са слоў Гаспадара.
— І далёка нам?
— Не вельмі. У прыгарад Турына Джыавена. Мой шафёр за пстрык пальцамі давязе нас да вілы. Жыву я адзін, але маю ў

сваім дамку сорак пакояў. Месца для цябе знойдзецца.— Высокі сівавалосы Аляксандры з вялізнымі вачыма лёгенька падштурхнуў Гурона да выхаду.

Чорная, ручной зборкі «ферары» чакала іх тут жа, каля ўваходных цэнтральных дзвярэй. Ларэнца сам сеў за руль, побач уладкаваўся Максім, а шафёр, які адкрываў дзверцы машыны, размясціўся на заднім сядзенні.

— Рашыў, што самому пракаціць цябе пад італьянскім небам будзе лепш,— прагаварыў Аляксандры глыбокім грудным голасам. Ён нават не павярнуў галавы, кажучы гэта. Рухавік спрацаваў, як швейцарскі гадзіннік. «Ферары» плаўна рванула з месца. А праз пару хвілін у Гурона аж захапіла дыхавіцу ад язды машыны. Здавалася, што яна ляціць над доўгай і гладкай паласой дарогі. Узгорысты і лясісты ландшафт прыгараднай прыроды не захапляў хлопца. Ён, выкаціўшы вочы, уталопіўся ў лабавое шкло. Дзівіўся вывераным і манеўраным рухам немаладога ўжо мужчыны, на твары якога не бачылася аніякай засяроджанасці. Ён лёгка, гуляючы, трымаў у руках руль.

«Ас кіроўца! — мільганула ў Максіма думка.— У нас так не паездзіш».

— А вунь і мая віла. Па левы бок ад цябе,— парушыў маўчанне Аляксандры.— Падабаецца адсюль?

— Угу. Сіла!

— Правільна. І мне яна імпануе.

Праз некалькі імгненняў «ферары» ўкаціла праз шырокія і задужа высакаватыя жалезныя вароты ў дагледжаную паласу парку каля вілы.

— Зараз глытнём добрай кавы, а пасля ўжо і пагаворым. Расслабся, Максім, адчувай сябе як дома. Праходзь,— запрасіў Ларэнца і першым ступіў на мармуровыя чорныя прыступкі з укропленымі ярка-чырвонымі квадратамі.

Кава сапраўды была густой і смачнай. Ад невялікіх залачоных кубачкаў сыходзіў памрачальны арамат. Здавалася, што кава ўвабрала ў сябе незлічонае мноства пахаў кветак італьянскай зямлі і яшчэ нечага загадкавага і інтрыгуючага, што Максім не змог бы апісаць, нават стоячы пад дулам пісталета.

— А зараз пагледзім мае пакоі,— прапанаваў Аляксандры.— Табе важна тое-сёе пабачыць. Так наказваў Гаспадар. Ты не супраць? — ён хітравата зірнуў на Гурона.

— Буду толькі рады.

Пакоі вілы былі сапраўды набіты рознымі амулетамі: чорнымі свечкамі і мноствам іншых рытуальных прадметаў. У цэнтры аднаго пакоя Максім убачыў вялізнае пудзіла чорнага казла з залатой каронай на галаве.

— Мяне сам турынскі кардынал архіепіскап Балестрэла абвінаваціў у д'ябальшчыне,— Аляксандры задаволена рагатнуў.— Дайшло да яго нарэшце. Ён сцвярджае, што не менш сарака тысяч турынцаў з'яўляюцца прыхільнікамі культу Д'ябла. Балестрэла памыляецца, можаш мне паверыць, іх значна больш. Нашы засакрэчаныя секты аб'яднаны ў арганізацыю, чыя структура адлюстроўвае іерархію каталіцкай царквы. Свае месы і службы мы спраўляем у закінутых катакомбах вакол горада, якія захаваліся яшчэ з часоў Старажытнага Рыма. Шмат разоў гарадскія службы, па просьбе святош, замуроўвалі ўваходы ў катакомбы.

Мы нават пачалі зарабляць грошы,— Ларэнца ад задавальнення пацягнуўся, раскінуўшы рукі ў бакі.— За пятнаццаць тысяч даляраў мы запрашаем прыняць удзел у нашых месах усіх жадаючых. Але запомні — не месы без чалавечых ахвяр. На такіх службах прысутнічаюць толькі выверaныя людзі, так патрабуе Гаспадар. І яшчэ ты павінен ведаць, Максім, што я галоўны прэтэндэнт на прастол чорнага папы — главы д'ябальшчыкаў усяго свету. А ты будзеш маім намеснікам у сваёй краіне. Так загадаў Гаспадар. Ягонае слова — мне закон. Ты гатовы да прыняцця такой ношы на сябе?! — Ларэнца стрэльнуў вачыма ў Гурона.

— Так, я гатовы і згодны! — не раздумваючы, адказаў Гурон.

— Paeta sunt servanda*,— узнёсла прамовіў Аляксандры.— Назад дарогі не будзе.

— Я ведаю. У мяне яе і зараз няма.

— Пра нас па ўсім свеце Fama cresit eundo**. Odi et amo***

---

* Дамовы трэба выконваць *(лац.)*.

** Гаворка расце і распаўсюджваецца *(лац.)*

*** Ненавіджу і люблю *(лац.)*.

гэта! Сёння вечарам мы нададзім табе вярхоўны сан. Станеш маімі вачыма на сваёй зямлі. Павер, гэта не лёгка, але ганарова.

Цябе выклікаў сюды Гаспадар дзеля таго, каб ты набраўся сілы, моцы і беспаваротнай веры ў Яго. Наш горад Турын з даўніх часоў лічыцца акультнай сталіцай хрысціянскага свету. Тут у нас размешчана трыццаць тры магічныя месцы. Тут, у Турыне, перасякаецца трохкутнік белай магіі, вяршынямі якога лічацца Прага, Ліён і Турын, з трохкутнікам чорнай магіі з вяршынямі ў Лондане, Сан-Францыска і зноў жа — Турыне. Вось бачыш: сталіца Паўночнай Італіі якраз і ёсць тое месца, дзе сутыкаюцца ў бязлітаснай барацьбе сілы дабра і зла.— Аляксандры перадыхнуў пасля даўгаватай гаворкі. Ён падышоў да вялікага, у тры чалавечыя росты, вісячага на сцяне люстэрка і адчыніў вялікаватую паліраваную шкатулку, што стаяла на століку, падобным да марской ракавіны, дастаў адтуль скрутак у чорнай хустцы, разгарнуў і паднёс пад твар Максіма бальзаміраваную чалавечую руку.

— Яна адсечана ў адной англійскай арыстакраткі падчас чорнай месы ў 1732 годзе.— Аляксандры ўталопіўся позіркам у вочы Гурона.— З тых часоў гэта рука выкарыстоўваецца ў магічных таінствах для служэння Гаспадару вышэйшых яго іерархаў. Сёння вечарам, як я і казаў, на гары Музінэ, тут недалёка, чатырнаццаць кіламетраў ад нас, тваё, Максім, пасвяшчэнне.

— Я гатовы! — упэўнена, зноў не задумваючыся, адказаў хлопец.

— Quod erat demonstrandum!* — выдыхнуў Ларэнца.

...Праз трыццаць шэсць гадзін Максім знаходзіўся ўжо дома, у сваёй мінскай кватэры. Ён успамінаў карціны Аляксандры. Паўсюль на палотнах быў намаляваны д'ябал. Ды з такой праўдзівай даставернасцю, што ахопліваў жах нават яго, Гурона. Адну з карцін Ларэнца падараваў Максіму.

Хлопец па прыездзе дамоў прымацаваў падарунак у сваім пакоі, у куце пад імправізаваным алтаром, які цяпер ужо, пасля ад'езду бацькоў, не хаваў у скрыню.

— Credo**,— ціха прамовіў Гурон.

---

* Што і патрэбна было даказаць! *(лац.)*

** Верую *(лац.)*.

## IV

Прыцемкам ужо захмялелая Нінка гуляла ў людскім натоўпе пасажыраў чыгуначнага вакзала. Вячэрняя цеплыня паветра прапахла за гарачы сонечны дзень выхлапным дымам машын і мазутам. Адускрынь са смеццем, што стаялі каля латкоў прадаўцоў бананаў ды апельсінаў з мандарынамі, патыхала кіславатай прэласцю.

— Во, блін, не бульбяной, бананавай краінай сталі мы,— успомніла Нінка гундзенне незадаволенай Кірылаўны.— Так і ўзірайся пад ногі, а то, не дай Бог, паслізнешся на шалупінні і распластаешся на асфальце, як карова на лёдзе. Добра, калі задніцай ляснешся, а, крый божа, патыліцай дзеўбанешся? Каюк! Асабліва бабе маіх гадоў. Не, нешта робіцца не тое. Цяпер, паглядзі, Нінка, памідоры даражэй бананаў каштуюць. А раней жа я чула, што наша Беларусь — рэспубліка вечна зялёных памідораў. Не, яшчэ раз — не. Яна — бананава-апельсінная.

— А табе баліць? — азвалася Нінка.

Кірылаўна прамаўчала.

У пасляабеддзе, калі дачнікі нястрымнай плоймай кінуліся з усяго горада на вакзал да электрычак, Юрка прыцягнуў аднекуль чатыры пляшкі віна па 0,7.

— Весялімся, дзяўчаты! — гукнуў ён, калі згледзеў Нінку з Кірылаўнай.— Клёвае дзельца правярнуў.— Хлопец агледзеўся вакол.— А куды гэта мешчанчукі з усяго горада прыбоем валяць? Ці аб'яўлена вучэнне па грамадзянскай абароне, га? Нешта ж не чуў я пра такое.

— Сёння пятніца, Юрачка,— заблішчэлі ў Кірылаўны вочы, калі яна заўважыла віно ў руках хлопца.— Бягуць шалудзівыя на свае ўчасткі і дзялкі, будуць варыць і парыць для сваіх млыноў-жыватоў прысмакі.

— Нам спяшацца няма куды. Праўда, дзяўчаты?

— Ага, Юрачка. Мы каля цябе пасядзім,— хітравата выскаліла старая бяззубы рот.

— Пайшлі на ўлюбёнае месца. На Дружную, пад ліпы. Там наш вызны рэстаран. Ціхі і без ментоў.

Кірылаўна пасля трэцяй пляшкі добра захмялела. Пачала

несці пашлаватую бязглуздзіцу. Нінка з Юркам дапілі апошняе віно ўдваіх.

— Завяду старую ў яе лежбішча, а то і асунецца тут на зямлі. Старасць паважаць трэба. Калі раней не акачурымся, то нейкая добрая душа і нас прыгледзіць, паможа. Я праўду кажу, Нінка?

— Праўду, праўду. Вядзі ўжо.

— Ты пачакай. Мо разжывуся недзе яшчэ на піва. Супраць нічога не маеш?

— Глядзі сам,— абыякава прамовіла дзяўчына.

— Не любіш ты мяне, Нінка, ахладзела апошнім часам,— п'я-навата ўздыхнуўшы, прамармытаў Юрка.— Усё лётаеш недзе ў сваіх, адной табе вядомых, марах. А мяне як быццам і няма.

— Не вярзі бязглуздзіцы. Падымай Кірылаўну і вядзі.

— Можа, памагла б? — лагодна папрасіў хлопец.

— Тут недалёка да падвала. Адзін справішся. А то, калі ўглядзяць пагоннікі, што вядзём пад рукі,— заграбуць. Вы ўдваіх асцярожненька і даклыпаеце.

— Няхай будзе па-твойму. Доўга не затрымаюся, мігам буду тут.

— Я пагуляю паблізу.

— Мы пайшлі.— Юрка прыўзняў Кірылаўну пад пашкі, патрымаў, пакуль яна цвёрда не стала на ногі, і асцярожна павёў з-пад ліп на тратуар, дзе заўважна паменела ўжо людзей.

Увачавідкі цямнела. Загарэліся ліхтары паўз дарогі і на супынках аўтобусаў з тралейбусамі. Нінку ахапіла незразумелая санлівая млявасць. Каб не задрамаць, яна вырашыла прайсціся па прывакзальнай плошчы, развеяцца.

«Сумна. Як мне сумна і адзінока. Хочацца душэўнага спакою і цеплыні. А дзе ўсё гэта прыдбаць? — Нінка нацягнута ўсміхнулася сама сабе.— За грошы не купіш, ды і грошай тых няма.— Няведама адкуль пад горла падкацілася льняным зблытаным матком нітак крыўда і нават адчай. З куткоў вачэй паўз нос пакаціліся буйнымі і ядранымі, быццам прыхопленыя марозцам журавіны, слёзы.— Гэта не я плачу, а віно,— супакойвала сябе дзяўчына.— У мяне ж усё добра і нармальна. Чаго хацела — тое і маю. Навошта тады макрэдзь разводзіць на твары... Не, усё ў мяне абы-як. Відаць,

дурнею пакрыху, але настойліва і беспаваротна. Ад Вілена ніводнай вестачкі. Дзе ён?.. Юрка ўсё больш співаецца, а за ім скочваюся і я, як гарошына па нахіленай дошчачцы. Трэба нешта мяняць адзін раз і назаўсёды. Толькі дзе ўзяць сілы? Няўжо я стала такой бязвольнай і мяккай, што цеста? Не, не хачу. Не хачу!»

Нінка павольна крочыла паўз жалезную агароджу, якая адзяляла прыпынак таксовак ад пешаходнай прывакзальнай тэрыторыі. Яна пільна ўглядалася пад ногі. Збоку здавалася, што дзяўчына нешта шукае. Блякла-малочнае святло ад ліхтароў бессаромна зрывала з людскіх плячэй іх цені і кідала на чорны асфальт, зблытвала і скручвала ў мудрагелістыя вузлы фантастычных канфігурацый.

Нінцы захацелася пакурыць. Яна машынальна запусціла руку ў кішэню сукенкі. Пуста. Азірнулася вакол. Каля кіёска «Белсаюздруку» заўважыла візуальна знаёмую жанчыну, якая пастаянна прадавала цыгарэты, як гавораць, з-пад палы. Дзяўчына палічыла грошы. На пачак «Арбіты» хапала. Купіла. Ад першай зацяжкі закашлялася, а ў галаве памутнела. Наважылася выкінуць цыгарэту, але ў апошнюю хвіліну перадумала. Аддыхаўшыся, Нінка зноў няспешна зрабіла зацяжку. Стала лепей, у вачах праяснілася. Дзяўчына прысела на прут жалезнай перагародкі, падэшвамі чаравікаў уперлася ў ніжні прут.

«Сядзець нязручна, але можна. Цыгарэты аддам Юрку. Не для мяне гэтая халера»,— яшчэ раз зацягнуўшыся, Нінка выкінула недакурак.

— Такая прыгажуня і адна? — пачула Нінка каля сябе прыемны барытончык. Павольна, без цікавасці павярнула галаву. Побач стаяў малады хлопец ці не яе гадоў. Каротка пастрыжаныя валасы на галаве, прадаўгаваты твар, над тонкай верхняй губой невялікія вусікі, цёмныя вочы з глыбокім позіркам аглядалі постаць дзяўчыны.

Нінка хацела па звычцы паслаць прыліпалу, але нешта спыніла яе намер. Агледзеўшы маладога, падцягнутага і стройнага чалавека, яна нечакана для самой сябе какетліва адказала:

— Чакаю кавалера.

— Магу прапанаваць сваю кампанію.

— А што? Я не супраць.

— Мамка з банькам хвалявацца не будуць?

— Я даўно ўжо дарослая дзяўчынка.

— Выдатна. Тады пракоцімся на машыне. Вунь яна стаіць.— хлопец паказаў на прыпаркаваную іншамарку за таксоўкамі.

— Ого! Калымага па першым разрадзе.

— Спецыяльна для цябе, красуня.

— Пайшлі.— Нінка лёгка саслізнула з жалезнай парэнчы.

— У машыне яшчэ сябар з дзяўчынай. Але ты не хвалюйся, кампанія што трэба. Можаш мне паверыць.— паспяшаўся запэўніць кавалер.— Яны, відаць, ужо адкаркавалі пляшачку джына «GORDON'S». Мы і ўвальемся ў кампанію. Як тваё імя?

— Нінка.

— А я — Багдан.

— Гучыць прыгожа.

— Мне падабаецца. Хоць і тваё не горшае. Нінка, Нінэль, Нінуля... Клас!

Багдан адкрыў заднюю дзверку машыны, прыгнуўся і весела прамовіў у салон:

— Прымайце і нас з Нінкай у сваю кампанію. Не супраць?

— Не. Заскоквайце. Весялей будзе,— пачулася адтуль.

— Па адным шкаліку — і едзем да мяне на дачу. Кампанія згодна? — пасадзіўшы Нінку на задняе сядзенне да сваіх знаёмых і сеўшы сам за руль, прапанаваў Багдан.

— Мы за, абедзвюма нагамі,— хіхікнула дзяўчына, якую Нінка не магла добра разгледзець у паўзмроку машыны.— А ты бамжуеш? — чокнуўшыся зграбнымі шкляначкамі, не змаўкала «лахудра» (так пра сябе назвала незнаёмку Нінка).

— Заткніся, Вяруня,— пагрозліва буркнуў ваўкаваты хлопец і наліў сваім яшчэ па шклянцы, а зірнуўшы на Нінку, заахвочваючы, прапанаваў: — Тут у нас засталася кропля лікёру. Дай налью табе.

Нінка выпіла. Праз нейкую хвіліну яна адчула, як разняволена абмякла цела. Ёй зрабілася добра і спакойна: ні клопатаў табе, ні турбот. Вочы самі сабою заплюшчваліся, і дзяўчына ціхенька апускалася ў ліпучую дрымоту.

— Гатова, едзем,— Багдан націснуў на газ. Машына выруліла са стаянкі на праезджую дарогу і ўлілася ў густы паток жалезнай братвы. Праз паўгадзіны іншамарка Багдана імкліва наматвала на колы асфальтавыя кіламетры Магілёўскай шашы.

## V

Вілен заўважыў, як з прыцемненага боку ўваходных дзвярэй паспешліва аддзялілася чалавечая постаць і павольна скіравалася да ягонай машыны. У святле фар «мерседэса» хлопец адразу пазнаў Гурона. Накінутая на плечы чорная шаўковая хламідзіна прыкрывала ягонае цела. На галаве ўзвышаўся такі ж чорны каўпак-карона, які ўвенчваўся перавернутым дагары шасціканцовым крыжам. Твар Максіма хаваўся пад яго заўсёднай маскай-трохкутнікам. На яе сажыстай паверхні фасфарычна блішчэлі прорэзі вачэй і рота, а там, дзе павінны знаходзіцца шчокі, ірванымі ранамі крывавілі шматкі чырвонай матэрыі. Вілен часта бачыў Гурона ў такой апратцы з маскаю, таму выгляд сябра-паплечніка ў цішыні лесу, каля Дома дзяцей ночы, не выклікаў аніякіх адчуванняў.

— Слава, Гаспадару! — прывітаў Максім хлопца праз прачыненае акно «мерседэса».

— На ўсе вякі,— завучана адказаў Вілен.

— Даўгавата сёння ты дабіраўся.

— Нешта не вельмі добра сябе адчуваю,— без нотак апраўдання ў голасе адказаў Падкідны.— Думаю, што ўсё ж не спазніўся?

— Стаў машыну да астатніх аўто і заходзь. Усё гатова. Багдан прывёз ахвяру, хутка пачнём. Бачыш: поўня набліжаецца да нябеснага цэнтра. Не марудзь.

«Архараўцы Гурона працуюць без збояў. Ведаюць, каго падбіраць». Вілен паставіў машыну з тыльнага боку Дома. Тут, сярод кустоў, прытаілася ўжо з дзесятак іншамарак, былых айчынных мадэляў і два «пазікі».

«Усе ў зборы,— лёгенька прыкрыў дзверку «мерседэса» хлопец.— І я прыехаў да самага пачатку. Нешта цяжкавата нудзіцца сэрца, неспакойна на душы... Ад чаго б усё гэта? Мо

поўня так дзейнічае? Клопатна. У грудзях быццам пудовы камень ляжыць. Трэба хутчэй зайсці ў прылазнік, што каля алтара, каўтнуць пару глыткоў сугрэўнага. Сваю ж пляшку паціху высмактаў. Думаю, што тады палягчэе...»

Нінка ляжала ў паўзабыцці. Яна ціхенька стагнала. Калі прыгледзецца цяпер каму-небудзь уважліва да яе твару, то можна заўважыць, што ёй мроіцца нешта прыемнае і добрае.

Дзяўчына бачыла ў свам паўсне Вілена. Яна прыціскалася да яго, а рукі даследавалі, абдымалі шырокую спіну і плечы хлопца, атрымліваючы задавальненне ад гульні-перакотвання магутных мускулаў пад лагоднымі і адчувальнымі пальцамі. Моцнае і цвёрдае цела Вілена зачароўвала Нінку. Пацалункі будзілі ў ёй неадольнае жаданне чагосьці невядомага, прымушалі кроў бегчы хутчэй, а сэрца біцца з такой сілай, быццам яно вось-вось разарвецца ў яе грудзях. Страсць паступова разгаралася і захоплівала Нінку, пакуль не стала зусім нясцерпнай. І ў тую хвіліну, калі яна адчула, што памрэ ад замілавання, выкліканага Віленавымі ласкавымі губамі і языком, хлопец выпусціў яе са сваіх рук і падняўся. Нінка застагнала мацней. Пальцы рук шкрабанулі па негабляваных дошках лаўкі, на якой яна ляжала. У прылазенцы, каля алтара, нікога не было, акрамя Максіма Гурона і паўсоннай Нінкі на лаўцы.

Расчыніліся дзверы, увайшоў Вілен.

— Праз хвіліну пачнём,— кіўнуў ён сябру, павярнуўшы галаву ад полак з бляшанкамі і слоікамі, у якіх захоўваліся парашкі, фарбы і ўсё астатняе начынне для ахвярапрынашэння.

— Выпіць ёсць?

— Вазьмі пад лаўкай,— не паварочваючыся больш, адказаў Гурон.

Толькі цяпер заўважыў Вілен дзяўчыну. Яго нібы працяла токам: твар спалатнеў, задрыжала ніжняя губа, рукі і ногі скамянелі.

«Нінка! Гэта ж Нінка! — бязгучны крык разарваў яго галасавыя звязкі.— Дзяўчынка мая! Сонейка нязгаслае. Цябе яны вылавілі для ахвярапрынашэння. Цябе, любая! — Іскрамётныя думкі блыталіся ў галаве. Позірк Віленавых вачэй тумаціўся,

засцілаўся плёнкай слёз.— Звяры! Людажэры! Я сам пазабіваю іх!»

«Ага, дайшло? — пачуў Вілен свайго двайніка.— Слава Богу, нарэшце. Ратуй дзяўчыну! Гэта і тваё спасенне. Нічога выпадковага ў гэтым жыцці не бывае. Ачніся сам ад чорнага дурману. Пратры вочы, падумай! — не адставаў двайнік.— Я памагу. Яшчэ крыху маю сілу. Разам мы выратуемся, пераможам зло, чуеш мяне, Вілен?»

«Што рабіць?» — хлопец абхапіў рукамі галаву.

— Знайшоў выпіўку? — павярнуўся Гурон. Здзіўлена агледзеў Вілена.— Табе і сапраўды дрэнна. Бялей за снег глядзішся. Выпі, і ўсё пройдзе,— падахвочваў ён намесніка.— А дзеўка нічога. Гаспадар будзе задаволены. Ядраная і сакаўная краля. Пасядзі пакуль тут, пераапраніся, а я пайду пагляджу, ці ўсё падрыхтавалі на алтары. Чуеш, як галдзяць нашы гуронаўцы. Быццам авадні са сляпнямі над бяссільнай гавядай.— Гурон шмыгануў у дашчаныя дзверы, што аддзялялі прылазенку ад агульнай залы з алтаром.

Вілен зладзеявата азірнуўся, агледзеўся вакол і, добра не ўсведамляючы, навошта ён гэта робіць, падхапіў Нінку з лаўкі на рукі і, піхнуўшы нагою ўваходныя дзверы, выслізнуў на вуліцу, у прахалоду і мройнае святло поўні. Ён не адчуваў цела Нінкі, бег не азіраючыся пад галінамі дрэў і лапкамі елак. Вілен нават не адразу заўважыў, як пацямнела, нахмурылася неба, а густыя і свінцова-цяжкія воблакі зацягваюць бяльмо поўні. Не пачуў ён і працяжна-надрыўнага крыку грыфа, які, распасцёршы магутныя крылы, быццам раз'ятраны гусак, бегаў каля Дома ночы.

Вілен спыніўся толькі тады, калі палыхнула маланка ад аднаго краю неба да другога і аглушальны ўзрыў перуна скалануў зямлю. Хлопец азірнуўся. З таго месца, дзе знаходзіўся Дом ночы, у неба вялізным слупам уварвалася полымя.

«Вось і ўсё... — Вілен на руках з Нінкай бяссільна апусціўся на сыраваты мох купіны пад елкай.— Згатаваны цэментны кісель. З яго ўжо ніхто з гуронаўцаў не выберацца. Святое ачышчэнне агнём...» Хлопец з палёгкай выдыхнуў.

«А ты ж падымаўся па прыступках на свой эшафот, на эшафот зла,— пачуў Вілен голас двайніка,— каб не гэта дзяўчына, твая Нінка, то стаў бы ты і на апошнюю, трынаццатую прыступку, а там дарогі і вяртання назад ужо б не было. Чорны балахон смяротніка закрыў бы ад цябе назаўсёды апошні промень сонца. І ты быў бы вечным сабачанём-служкаю князя цемры. Слаў жа Госпада і беражы дзяўчыну, што на тваіх руках, ад усіх жыццёвых няўзгод. Калі дасі такое слова, я зноў сальюся з табою ў адно цэлае».

— Я ўсё зраблю, як скажаш! — прамовіў уголас Вілен.

«Дзякуй Богу, цяпер мы зноў адзіныя. Парастак зла ў тваёй душы пад маім прыглядам. Яму цяпер не пусціць глыбока карэнні, не зможа зло разгалінавацца і выціснуць мяне з твайго, Вілен, сэрца і душы. Забудзь гэта месца, як дрэнны сон, выкінь з галавы і выходзь на дарогу. Асцярожна трымай на руках Нінку. Гэта самае найменшае, што можаш пакуль для яе зрабіць. Падымайся і ідзі. Мы ж адно цэлае, а гэта самае галоўнае!»

— Я ўжо іду.

А неба пасвятлела, і поўня не страшная, россыпы зорак нібы ў марозны дзень зіхацяць і пераліваюцца брыльянтамі. Вось толькі водсвет полымя ад пажару зацягвае жаўцізною надлесак за спінаю.

«Не хвалюйся, там хутка ўзыдзе сонца. Будзе цёплы і ясны дзень...»

— Я гэта ведаю!

# Незламаная свечка

І ў небе, і ў зямлі схавана
больш, чым сніцца вашай
філасофіі...

*У. Шэкспір,*
словы Гамлета

## I

Пачынаўся сакавік. Нягегла-хлюпкі месяц з шаравата-белай размазнёй-кашыцай талага снегу. Ён распаўзаўся пад нагамі, коламі трактароў і машын, разлятаўся рэдзенькімі струменямі на прыдарожныя платы, брамы, сцены блізкіх хат. Вышэйшым стала неба над вёскай, і хмары так ужо не чапляліся сваім разбэрсаным касмыллем за вершаліны недалёкага лесу. Настойлівей і шчадрэй прадзіралася праз воўну хмар сонца. Яно лашчыла, адагравала ранніх шпакоў на яблынях і грушах смалякоўскага саду. Таго саду, што пасадзіў яшчэ прадзед Сяргея Смаляка, пасадзіў пры бытнасці старога князя Дзмітрыя Крапоткіна.

Па ўсім бачылася, што вясна будзе ранняя: паласкаліся, вымываліся ў ручаінах талага снегу сініцы, неўгамонна, папалуднях, чвыркаталі вераб'і на электрычным дроце слупоў. Вербалоззе збоч канаў і меліярацыйных каналаў павыпускала на божы свет пульхныя коцікі. Дакранешся да іх рукою, і пальцы, далонь улоўліваюць ледзь адчувальную цеплыню. Яна расплываецца па ўсім целе, ахутвае змарожаную зімой душу воблакам майскіх водараў ад чаромхі і бэзу, квецені яблыняў, груш і вішань.

Вясна будзе ранняя. Гаварылі пра гэта і старажылы вёскі Шышкаўка.

Марфа Смаляк сядзела за кроснамі. Яна прыжмурвала падслепаватыя ўжо вочы, стукала раз-пораз бёрдам і няспешкі прадзявала пад ніткі ладнаватыя клубкі каляровых стужак. Ткала Марфа на падлогу палавікі.

«Аг, няхай сварацца на мяне Галя з Сяргеем, няхай бунтуюць супраць кроснаў — кожную зіму так бывае. Але ж куды ні кінь вокам — паўсюль па хаце мае палавічкі ляжаць, і ложак свой прыбіраю я посцілкамі, што выткала. Яно ўсё вечнае, не тое што ў краме купленае».

Марфа шчасліва ўсміхалася сама сабе, усміхалася думкам і вясне за акном. Праз шыбіны сонца сляпіла старую, і яна адсоўвалася ад яркага святла за аконную прыталку, яшчэ больш прыжмурвала вочы. І нарэшце, калі Марфе зусім надакучыла гульня ў хованкі з сонцам, яна вылезла з-за кроснаў і шчыльна захінула на акне фіранку.

«Во так лепей будзе. Зенкі зусім дрэнна бачаць, а тут яшчэ сонца даймае, што тыя авадні ў летнім полі. Цікавыя мы людзі — няма сонца, то хочам яго, а як толькі крышачку даняло — хаваемся».

Марфа зноў села за кросны. «Нешта доўга нямашака Галі з работы. Павінна ўжо на абед прыйсці. Хоць бы перахапіла капусты гарачай ды дранікаў з'ела. Уранні пабегла, толькі малака глытнуўшы. Загубіць яе калгасная работа. Галя хоць і не дачка, а ўсяго нявестка, але дрэннага слова няма за што пляузгнуць на яе. І чаго я, дурніца, была некалі супраць Сяргеевага вяселля з ёю. Сын малайчына, наравісты. А калі б паслухаўся мяне, то і ўпусціў бы Галю. Шмат кабялюгаў абходжвала яе. Добра, ай добра, што сын не паслухаўся старой кашолкі». Марфа зноў усміхнулася думкам, выцерла пальцамі слязіну ў кутку вока, якую выціснулі промні сонца. «І чаго гэта я сёння так усхваляю Галю? Яшчэ ж маці мая казала, што блізкіх і родных сваіх трэба любіць і шкадаваць так, каб яны гэтага не ведалі. А цяперака ж усё наадварот — падсобіць мала хто хоча, а слоў мяккіх нагаварыць могуць з рэзьвіны. Сяргея свайго ніколі я не лашчыла, хоць і рос без бацькі. Затое цяпер ён у мяне самастойны, людзі да яго прыслухоўваюцца, і гарэлкай не вельмі балуецца, не глядзіць на белы свет праз рыльца пляшкі. Вось толькі шкода, што сёння не паслухаўся ні мяне, ні Галі — паваloкся Перунову лес на хату валіць. Ужо так яго ўпрошвалі, каб не ішоў, але ж не паслухаўся. Няхай бы гэты выхадны, калі за рулём машыны не сядзіць, дома пабыў, сухія галіны з яблынь ды груш пазразаў, сцягнуў з агарода. Не, не паслухаўся... Мо

ён гарэлкі захацеў? — Марфа задумалася, уздыхнуўшы, паправіла складкі спадніцы на каленях.— Хто цяперака ў гэтых мужчынах разбярэцца. Некаторыя на людзях не п'юць, другія дома ў чарку не глядзяць, а за вуглом праз зубы цэдзяць. Божы свет з ног на галаву стаў, і рады ніхто не дасць. Вусцішна нешта на душы, як усё роўна ў Спаса перад навальніцай. Нешта гняцець і цісне маё сэрца, выкручвае яго, як вымаклую палатняную анучу. Хоць бы хутчэй Галя з работы прыйшла ці дзеці са школы прыбеглі. Сяргей, відаць, да вечара ў лесе будзе, толькі ўпацёмку дамоў з'явіцца. На якую трасцу ён пайшоў з гэтым Перуновым? Падсобіць яму захацелася. Ну і што, калі за Перуновым Галіна сястра? Няхай бы людзей ён наняў, гуртам і навалілі б яму соснаў на новую хату. Не, не, Марфа, мала ты сцёгала сына аброццю. Часцей нада было, каб аж прылягала да цела. Цяперака быў бы лацвейшы, лагоднейшы. І да матчынага слова прыслухоўваўся б. Не дурныя ж людзі казалі, што выхоўвай дзяцей не тады, калі яны ўдоўж лаўкі ляжаць, а тады, калі ўпоперак... Калі ўжо хто-небудзь дамоў прыйдзе? Быццам усіх папрывязвалі дзе. Іншым разам яшчэ да полудня дзеці са школы прыбягалі, Галя з работы. А сёння хоць галасі. І Антон, бэйбус гэтакі, у лясную школу, відаць, пайшоў. Хлопцы-пераросткі падгавораць малое ды дурнаватае, ён і гатовы. Замест школы па кустах шлындаюць ды па ўляжалых стагах саломы мышэй ганяюць. Трэба ўвесці Сяргею ў вушы, каб насварыўся, прыструніў нябогу. Толькі на карысць дзіцёнку будзе».

Марфе больш не ткалася. Старая тэпала ў самаробных бурках з кута ў кут. Спрабавала выцягнуць чыгункі са стравамі з печы, але так і не наважылася. Паставіла засланку на загнет.

«Пачакаю, калі ўсе збяруцца, тады і паямо. Адной кавалак у горла не палезе. Калі памаркі гадамі не адбіла яшчэ, то, здаецца, свёкар казаў, пухам яму зямля, пакутніку: адзін з'еш хоць і вала, то аднолькава хвала, а калі з усімі хлеба, то ўхваліць цябе і неба... Ох, гады, гады, скачуць яны, што тыя коні-стаеннікі. Здаецца, ці даўно ў дзеўках была, на вячоркі бегала, жыта сярпом жала ды песні так заводзіла, аж лес наўкола шумеў, а во знасілася, перагарэла. Калі азірнуцца — за плячыма нічагусенькі добрага не ўбачыш. Салёны пот там ды слёзы, гора ды шкадоба. А ў каго з маіх пагодак было нешта лепшае? Было,

Марфа, было. Няма чаго душой крывіць. Ці раўня ты Петрачысе, даўнейшай жонцы брыгадзіра. Ці раўня тым, хто за мужыкамі да старасці дажыў. Вось так яно, старая ты кашолка. Цяперака і табе лягчэй за сынам ды нявесткай, так што не гнявi Бога». Смалячыха пачула, як, надрыўна гыркнуўшы каля іх двара, заглох трактар. Старая, абмінуўшы кросны, хуценька падышла да другога акна, якое выходзіла на падворак, і прыціснулася лбом да падвойнай шыбіны.

«Хто гэта там будзе? Мо Галю з работы падвязлі? Але чаго трактар заглох? Яны высадзілі б яе і паехалі далей. Нябачна нічагусенькі з-за варот. Во ўжо зрабіў Сяргей, толькі птушцы пераляцець».

Праз нейкую хвіліну напята расчынілася ўваходная фортка, і ў яе няўпэўненым крокам прайшоў Пракопаў Санька, сусед Смалякоў. Зрабіўшы пару крокаў, ён спыніўся, агледзеўся, пяцярнёй глыбей падаткнуў валасы над шапку, затаптаўся на месцы.

«Чаго ён там, як певень каля курыцы, з нагі на нагу пераскоквае? Зайшоў у двор, дык ідзі і ў хату. Неўхалюдзіца гэты Санька. Мужыку пад сорак, а ён халасцякуе ды са смаркачамі дружбуецца. Быць яму і да пенсіі Санькам, векавым падлеткам. Стварыў Бог цуда і сам з-за вугла дзівіцца. Ну глядзіце вы на яго, людцы добрыя. Ці не нарабіў ён у штаны тамака, то і баіцца крок ступіць, каб не ўпусціць».

Марфа не вытрымала, саўганула буркі ў велікаватыя для яе нагі галёшы, ускінула на плечы хустку і выйшла ў сенцы. Пасля светлага пакоя тут густа вісеў паўзмрок. Вясенняе сонца яшчэ не заглядвала сюды праз адзінае нізкае акенца. Яшчэ не пара. Вось улетку, у другой палове дня, сонца вылашчыць і прагрэе гнёткія дубовыя масніцы. Яны са старой хаты, а зносу ўсё няма.

Марфа адчыніла другія дзверы і апынулася на ганку... Санька стаяў на тым жа месцы. Убачыўшы старую Смалячыху, ён зрабіўся бялей выбеленага палатна, шчокі перасмыкнула, быццам хацеў засмяяцца. Ад гэтага скрывіла рот, а на лбе скура сабралася ў гармоніку.

— Чаго й та ты, сусед, у хату не ідзеш, як быццам прыкіпеў да зямлі? — не спускаючыся з ганка, запыталася Марфа.—

Глядзела я ў акно, глядзела, чакала цябе ў хаце, чакала, а ты, як квактуха на яйках,— ані з месца.

Санька парываўся штосьці сказаць і не мог. Ён мыкаў нешта незразумелае сабе пад нос ды нязграбна лапаў па баках рукамі.

«Божухны мае, што гэта з ім? Чаго хлопец як нямко стаў? Мо пашаптацца прыйшоў, а цяпер саромеецца. То ці ўпершыню ж я цябе адшэптвала-лячыла, нядайдзіца ты няшчасная». Марфа спусцілася з ганка на прыступку.

— Хадзем, Санечка, у хату. Тамака і пагамонім. Раскажаш мне, што здарылася, ад чаго ты як абвараны. Пайшлі, пайшлі ў хату.

— Не, цётка, не,— нарэшце вырвалася ў яго з горла.

— Чаго ты, Санечка, баішся,— незразумела ад чаго, у Марфы задрыжэў голас.

«Ой, Божа найвышні, нешта нядобрае стукаецца ў дзверы нашай хаты. Чаму так затрапятала маё сэрца ў грудзях, чаму павалока засціла вочы? Божа мой літасцівы, не выракайся нас. Якія выпрабаванні пасылаеш мне ты на старасць». Смалячыха абаперлася плячом на сцяну.

— Не пужай так, Санечка, старую. Кажы, што маеш, і ідзі з Богам. Добраму чалавеку з добрымі людзьмі быць.

— Цётка, ты прысядзь, прысядзь, цётачка. Я зараз табе скажу, усё скажу,— заўсёды грубы Санькаў голас цяпер быў танклява-лагодным. Падавалася, што ён угаворвае прысесці малое дзіця.

Марфа, не разумеючы чаму, але прысела на прыступку ганка, склала на вострых каленях парэпаныя, заўсёды ў трэшчынах, рукі.

Сонца свяціла ярка, прагавіта. З пагорка ад варот, з-за плота, каціліся, беглі вясёлыя ручаінкі талай вады. Яны зліваліся каля ганка ў пракапаную траншэйку і гулліва хаваліся за дрывотняй, затым шырокім языком выплёскваліся на агарод. Санька падышоў да Марфы бліжэй. Яна не зводзіла з яго позірку. Вочы старой нібы прыклеіліся да твару хлопца. Марфа адчувала, як паўз нос па яе маршчыністых шчоках коцяцца, нібы ручаінкі талага снегу па двары, слёзы.

«Адкуль яны? Чаму і навошта? Па кім я плачу?.. Сяргей... Сяргейка... Сыночак мой, адзіны, любы мой».

— Сяргей! Сяргейка мой! — вырвалася, выпырхнула з грудзей у Марфы.— Што з ім, Санечка?! Што з Сяргеем? Кажы мне, Санечка, кажы! — Затрэсліся плечы ў Смалячыхі, спаўзла на ніжнія мокрыя прыступкі хустка. Махрасты яе ражок запаланіла ручаіна.

— Няма, цётка Марфа, Сяргея. Няма ўжо.

І трэснула, разламілася над галавой у Марфы вясенне-сонечнае, глыбокае неба.

## II

Жанчыны з Шышкаўкі гуртком стаялі каля дзвярэй калгаснай канторы. Паўгадзіны мінула, як сабраліся яны тут, а машыны не было, некаму развезці іх на полудзень па хатах. Церабілі кабеты і старшыню, выгаворвалі, дапякалі, а той адно ведае — рукамі разводзіць.

Куды падзеўся Валодзька Перагуд, шафёр з Шышкаўкі, аднаму ветру вядома.

— Саграшыў сёння Валодзька ноччу са сваёй Ірэнай, дык і заграз недзе ў лужыне. Да вечара чакаць мусім,— з усмешкай прамовіла Таццяна Вароніна, стрыечная сястра Галі Смаляк.— Ім, маладзейшым, абы сцямнела, то яны і гойсаюць па пасцелях ужо, мякчацца ў любошчах.

— Табе, Таццяна, адно ў галаве. Як той галоднай куме,— невядома па якой прычыне агрызнулася Дуняша Філіна.— Ці твой мужык зусім абяссілеў, а мо і сама ялаўкай становішся.

— Якая не ялаўка, а траіх дзяцей нарадзіла,— спакойна адказала Вароніна Дуняшы. Не любіла яна сварак ды звадак, але не стрымалася, дадала: — Вы ж са сваім дарагім і аднаго не выкачалі і не выняньчылі.

— А на якую халеру яны нам, калыглуззе бяспутнае. Без іх даўжэй паспіш і смачней з'ясі,— парыравала Філіна.— Дай Бог дзяцей, ды ў іх толк. Тваё ж галапузыя паўсюль дападуць, у любую шчыліну ўлезуць. Адны клопаты ад іх у вёсцы.

Таццяна наважвалася нешта адказаць, але Галя Смаляк шмарганула яе за рукаў і адвяла ўбок.

— Маўчы ты, сястра,— зашаптала Галя,— з ёй толькі зачапіся. Яна такімі памыямі абалье, што тыдзень не прадых-

неш. Лепей ужо змоўчаць. Я табе лепш навіну пра Дуняшу раскажу.— Галя спадцішка зірнула на гурток жанчын, ці не падслухоўваюць.— То во, слухай. Свякроўка мая недзе прачула, што сустракаюцца тайком Дуняша з Міцюком, брыгадзірам нашанскім. Вечарам бярэць яна посцілку, быццам сена ўкрасці для сваёй каровы з гумна калгаснага, а Міцёк ужо там чакае яе. Яны гадзінку-другую і круцяцца ў сене. Ты маўчы ўжо, сястрыца, але калі зноў зачэпіць цябе, то між слоў можаш уставіць і гумно з Міцюком. А так маўчы, не ўлазь у сварку.

— А я і не чула, трэба ж так. Але ці даўно яны круцяцца, га?

— Хто іх ведае. Толькі ж бачыш сама — людзі дагледзелі, хутка і мужыку ейнаму данясуць. Будзе канцэрт для Шышкаўкі не на адну нядзельку.

Сёстры перасміхнуліся і падышлі да астатняй купкі жанчын. Тыя гаварылі пра гумавыя блішчастыя боты, якія абяцаў шышкаўскі крамнік прывезці да сярэдзіны месяца. Дуняша Філіна падазрона зіркнула спадылба на павесялелых сясцёр.

Раптам ні з таго ні з сяго кальнула ў грудзях у Галі Смаляк. Здавалася, нехта нябачны падсунуў жанчыне пад сэрца халодны востры цвік, які няспешкі, але настойліва паглыбляецца, зарываецца ў трапяткое цела. Пачалі дранцвець ногі і рукі, на лбе заблішчэў дробнай расой пот, а цела схаладнела. Падалося, што яе толькі-толькі выцягнулі з ледзяной паняўкі. Праз нейкае імгненне Галю кіданула ў жар. Яна абводзіла вачыма гаманлівых жанчын і дзівілася: няўжо яны не бачаць. Ад яе цела павінен зараз валам валіць густы пар, ну проста як ад загнанай на марозе кабылы.

— Казаў, што прывязець усіх памераў боты...

—...трыццаць восьмы і сорак другі будуць...

—...не ў Чысты чацвер, а ў Вербную нядзелю...

—...Ластаўка з вераб'ём ніколі не ўжывецца...

Галя слухала і не чула жанчын. Абрыўкі фраз міжволі праляталі праз вушы, не застаючыся ў галаве.

— Бабы, гляньцека, як на вясеннім сонцы падмерзла Смалячыха,— рагатнула Дуняша, зірнуўшы на Галю.— Стаіць збляднелая, быццам з малака выцягнулі.

— Столькі чакаўшы, не толькі збляднееш, але і зблезянееш,— кпліва пажартаваў нехта з жанчын.

Але тым не менш усе ўтаропіліся ў Галю.

— Сястрыца, што з табою? — першай падскочыла і падхапіла пад руку абмяклую жанчыну Таццяна Вароніна.

— Сэрца нейкая хвароба хапіла. На душы задужа турботна,— праз сілу паспрабавала ўсміхнуцца Галя.— Дамоў закарцела мне, спасу няма. Хочацца ўсё кінуць і бегма бегчы. Мо нешта здарылася з дзецьмі ці свякроўкай? Давай не будзем чакаць, Таццяначка, пайшлі пешшу. Калі б не чакалі, адразу выправіліся ў дарогу, то і дома былі б ужо.

— Ашалела ты, Смалячыха. У цябе ўсё як не ў людзей. Ногі біць ды выкручваць на калдобінах збіраецца. Няхай яно ўсё спрахне, а я не пайду.— Дуняша сплюнула збоч гурту кабет.— І што з тваімі дзецьмі здарыцца? Яны ж у школе кніжкі грызуць. Ну а пра Марфу гамонка пустая. Яе можна яшчэ ў розвальні ўпрагаць — зносу нямашака. Яшчэ з паўвека будзе свякроўка твая варажыць, нагаворы ды адгаворы шаптаць. Такія па-простаму Богу душу не аддаюць. Яны...

— Сціхні ты, сцярвоза! — цыкнуў нехта на Дуняшу.— Тваім языком толькі скавараду падмазваць, ні адзін блін не прыліпне.

— Падышы глыбей, сястрыца. Пайшлі прысядзеш на верандзе ў канторы,— раіла Таццяна.— І са мною так бывае. Выкінь дурныя думкі з галавы.

— Мне ўжо лепей,— выдыхнула Галя,— пайшлі і праўда пасядзім. Ногі занямелі, ледзь стаю.

Галя з Таццянай зайшлі ў зашклёную веранду канторы, селі на вузкаватую лаўку паўз дзверы.

— Не ведаю, што і здарылася,— жалілася Галя сястры,— як віхор нейкі нагнаў на мяне сполах і хваляванне, боязь за сям'ю. Быццам усе дома спяць, а хата агнём ахоплена. І дзеці тамака, і свякроўка, і Сяргей. Я кідаюся разбудзіць іх, толькі ж мяне не пускаюць нейкія вялізныя пачвары. Навіслі яны на ўсё цела маё і трымаюць, каб я глядзела. Крыкнуць нараўлюся — голас адабраны. Брус на столі дагарэў, і пасыпаліся дошкі на Сяргея, накрыла полымя яго — ні рук, ні ног не бачна... І да чаго б усё гэта? Я ж стаяла, гаманіла з вамі і нечакана як у прорву шуснула ці на каліўка задрамала. Ой, Танечка, няспро-

сту ўсё гэта. Хутчэй бы дамоў, свякроўцы перакажу. Хто-хто, а яна разгадае, раду мне дасць. Хоць бы з дзецьмі ўсё ладна сталася, каб не ўлезлі куды. Антон жа шылахвостам расце, паўсюль нос уткнуць так і хоча. Валя з Нінкай не такія, дзеўкі спакайнейшыя.

— Ды ўжо ж, сястрыца, на маіх малых раскепах,— так я ў гневе дочак сваіх заву,— скура курчыцца. Што я з імі рабіць мушу, калі цыцкі паадскокваюць, на хлопцаў глядзець пачнуць? Не дай Божа, каб прынеслі кугакавак у падолах. Во тады ўжо вочы ад зямлі не падымеш, на людзей не зірнеш. Адно матцы — за шаўковы шнурок ды на бэльку. Раз прапала кароўка, то прападай і вяроўка. Здаецца, так гаворыць цётка Марфа.

— Таццянка, навошта нагаворваць табе на бязвінных дзяцей. Харошыя ў цябе дочкі, усім такіх бы.

— Харошыя ці не, а ўжо не выкінеш. Хоць гідленькія, затое свае.

Сёстры скупа ўсміхнуліся адна адной, хвіліну памаўчалі.

— Ну ці адпусціла нутро тваё? — папыталася Таццяна.

— Лягчэй быццам стала. Адно сэрца ніяк не ўтаймуецца, грукоча, як молат у кузніцы, глядзі, што і рэбры праломіць.

— А можа, ты, Галь, зацяжарала ды не прызнаешся? Яно ж так: дзе трое, там і чацвёртаму месца знойдзецца. Народзіш, кумой буду. Твая ж ранейшая кума з'ехала з маладым лётчыкам. Цяперака рыбку красненькую есць ды ў столь паплёўвае.

— Ой, Таццянка, не смяшы людзей і самую ў чырвань не ўганяй. Маё радзіла пайшло чорту на кадзіла. Хоць бы гэтых як выкачаць ды выхадзіць. Цяпер кволыя дзеці, не тое, што раней мы былі. На гнілой бульбе, на ташноціках, голыя, босыя, а выжылі. Сваіх спінагрызаў напладзілі.

Сёстры прымоўклі. Каля канторы спыніўся трактар з прычэпам, з кабіны выскачыў Пракопчыкаў Санька. Жанчыны загалёкалі, загаманілі, ускінуліся на маладзёна — маўляў, якой трасцы ён па іх прыехаў, а не шафёр Валодзька. Санька прыцішана нешта сказаў языкатым кабетам, усе змоўклі і ўтаропілі позіркі на веранду, дзе ўсё яшчэ сядзелі Галя з Таццянай. Хвілінку пастаяўшы, вяскоўцы разам пасунуліся да веранды. Галя з Таццянай усхапіліся на ногі. Санька першы пераступіў парог адчыненых дзвярэй, за яго спінай тоўпіліся,

выглядалі жанчыны. Хлопец памуляў губамі, аблізаў іх, пасля нязграбна цярнуў рот рукою.

— Ведаеш, Галь,— Санька цмокнуў языком,— Сяргея ў лесе дрэвам, таго, ну... значыць, забіла яго дрэвам. Проста ў галаву і адразу, таго... ну, напавал. Так сказаў Іван Перуноў. Ён на брыгадны двор прыбягаў... Яны ж недалёка ад Шышкаўкі лес валілі. Валодзька павёз на машыне Сяргея ў Маластоўку, у бальніцу, значыцца... А там у лесе ўжо ўчастковы і Іван Перуноў з ім тамака... Глядзяць, як забіла твайго мужыка.

Жанчыны зашморгалі насамі, пачалі выціраць слёзы ражкамі хустак, загаласіла Таццяна Вароніна. Галя ж стаяла, як каменны манумент, адно — завастрыўся падбародак і, здаецца, падаўжэў твар.

## III

На палях, паўз кустоўе, на раз'езджаных дарогах і агародах снег раставаў ледзь не на вачах, а вось у лесе ён ляжаў яшчэ тоўстым наздраватым покрывам. Смалістыя, гонкія, як не мачтавыя, сасонкі засяроджана ўзіраліся ў трох чалавек з сякерамі і пілой. Людзі ішлі па цаліку, няспешна перастаўляючы ногі. Навошта спяшацца? Дзень вялікі, намахаюцца яшчэ сякерамі, пацягаюць напоўніцу пілу. Сіла і спрыт будуць да месца каля адведзенай ляснікам дзялянкі.

Сяргей Смаляк з Іванам Перуновым ідуць плячом да пляча, пыхкаюць «беламорынамі», раз-пораз перакідваюцца словам. За імі, па пратаптаных слядах, крочыць дзесяцікласнік Лёнік, Івана Перунова сын.

«Два тыдні не праглядваў дзённік Антона. Трэба неяк вечарам пагартаць. Не любіць сын матэматыку. Тры-два, два-тры — на большае не выплывае. Нічога, як-небудзь восем класаў адолее, а там завязу да дваюраднага брата, няхай вучыцца на бульдазерыста. Кажуць — нядрэнныя грошы ім плоцяць. Капейчына, заробленая сваім мазалём, даражэйшая за знойдзеную». Сяргей апошні раз зацягнуўся «беламорынай» і кінуў у снег.

— Я вось што думаю, Сярожка,— звярнуўся Іван да Смаляка.— Сёння дужа перасільвацца не будзем, колькі звалім —

няважна. Мы ж у разведку пайшлі. На другія выхадныя мужчын клікну — хутка і лёгка ўправімся. Ты паглядзі толькі, дружа, які сасоннік. Любата адна. З кожнага дрэва будзе па два, а мо і болей, бервяны... Калі шчыра гаварыць, Сярожка, то ўстыла жыць у старой халупе. Крыша цячэць. Дождж толькі пырсне, ад столі і закапала. Каця вёдры ды начоўкі ставіць. Зімой жа з падлогі дзьме. Босай нагой не станеш. А чаго ты хочаш? Хата без фундаменту, як ні абсыпай ніжнія вянцы зямлёй, як ні майструй прызбы, а вецер праціскаецца.

Сяргей моўчкі слухаў. Ведаў, што Івану сапраўды цяжка. Хата старая, дзяцей поўная печ. Гэта ж адзінаццаць штук настругаў, хоць сам Перуноў з выгляду хліпкі, недалужны. Адным словам — нішчымны.

«От ужо бабскія языкі. І прыдумалі ж Івану мянушку. Нішчымны, і ўсё тут. А якая яму за дабра трэба?» Сяргей усміхнуўся.

— Чаго ты лыбішся? Мо які анекдот прыгадаў, га?

— Я падумаў, Іван, як ты будзеш у сельсавеце сакратара ўгаворваць ды ўламваць, каб дазволіў табе ў Шышкаўцы хату паставіць, а не ў Зелянях. Ты ж чуў, што новыя законы ўвялі — не забудоўваць маленькія, як яны кажуць, неперспектыўныя, вёскі, а пашыраць цэнтральныя. Во і пашыры Зеляні на яшчэ адно дворышча.

— Моркаўку ім бычыную пад паху, законнікам. Пастаўлю хату там, дзе захачу.

— Аштрафуюць, Іван.

— Не бойся, дружа, прарвемся. Пяць гадоў вайны адкайлаваў, генералаў ды палкоўнікаў не баяўся, а нейкага недапеку сакратара і падаўней. Не сагнаць ім мяне з Шышкаўкі. Тут жа, куды ні зірні, паўсюль радня і мая, і Каціна. Глядзіш — там сват, той брат. Не, я з Шышкаўкі ні нагой. Лёнік, ты яшчэ там не заснуў? Нешта пляцешся, сын, за спінамі як спутаны. Такія нам работнікі не трэба.

— А я і не набіваюся,— буркнуў у адказ бацьку Лёнік.

— Навошта я паслухаўся цябе, Сяргей? Няхай бы Каця паставіла ў торбу з харчам пляшку самагонкі. Перакусілі б і каўтанулі па адной. А ты ўсё роўна як навабранец-першагодка — рукамі замахаў.

— Не хочацца мне сёння піць, настрою нямашака, ды і работа сур'ёзная. З лесам не жартуюць.

— Чаго баяцца лесу? Мы ж выраслі ў ім. За свае гады не адну дзялянку выразалі.

— Я так сказаў, да слова.

«Калода пчол ляснулася за зіму. Увосень і падкарміў добра, на зіму абставіў, уцяпліў, а бачыш ты, не выжылі. Можа, клешч сеkануў. Сільная была сям'я. Як пачнуць раіцца чатыры астатніх сям'і, трэба не ўпусціць. Для маткі вясёлы занятак. Яна ўпільнуе. І чаго ёй загарэлася толькі сёння дагледзець і абрэзаць сухое голле ў садзе? Ці дня другога не будзе? Старыя, як малыя. Ледзь не пасварыліся з-за дробязі... Як адмовіў бы я Івану? Бабы ёсць бабы — у іх свая палітыка. Не разумеюць, што і мне калі-небудзь помач ягоная спатрэбіцца. Аднымі рукамі ўсё не ахопіш і не здолееш... Галя ўранні хадзіла як у ваду апушчаная. Словы праз зубы цадзіла. І чым ужо не ўгадзіў? Трэба гайкі падкруціць, а то слабінку адчулі, распусціліся ўсе ў сям'і. Як быццам і не ўказ я ім, а так сабе — староннi дзядзька...»

— Лёнік, ты ўжо дзевак за каленкі мацаеш, га? — Сяргей азірнуўся на хлопца.

— Перашчупаў усіх у Шышкаўцы,— адказаў замест сына Іван.— Яму і кніжкі, і школу замяніла Люба Міхееўская. Казаў жа яму — на халеру табе дзесяць класаў, хапіла б і васьмі. Больш за трактарыста яму не быць. Сам жа, Сярожка, ведаеш: вучэнне свет, а невучэнне — ледзь свет і на работу. Не слухаюцца цяпер дзеці нас. У маю бытнасць бацькава слова законам было. А цяпер,— Іван Перуноў адно махнуў рукою.

Лёнік моўчкі слухаў гамонку мужчын. «Што з іх возьмеш,— думалася яму.— Бацька стары пень ужо, толькі засталося кехкаць на печы. Ну а дзядзька Сяргей яшчэ мацак. Нездарма ж пагаворваюць у вёсцы, што часцяком пад чаркай заглядвае да Каменскай Машуткі. І цётка Галя, відаць, здагадваецца. Калі ў вёсцы пагалоска пайшла, то ўжо не прамінуць дабрадзеі на вуха шапнуць каму трэба і не трэба. Я з Любай тайком спатыкаюся, а бацька ведае, ды і ці адзін толькі бацька. Ну і няхай. Школу скончу, а летам і пажэнімся. Хоць не, лепш

восенню. Стол багацейшы будзе. А за лета, можа, і новую хату паставім. Няхай смяюцца, я бацьку яшчэ абрадую».

Лесарубы прайшлі паўз балацявіну, зарослую маладым асіннікам ды бярэзнікам. Некаторыя пруткі асінак за зіму абгрызлі зайцы. І цяпер дрэўцы нагадвалі залапленыя кіёчкі з пакручастымі, неабрэзанымі галінкамі на ніцых вершалінках.

— Ты машыну на рамонт ставіць не збіраешся? Гаварыў жа, што матор стукае.

— Пакуль не. Трохі бегае, і ладна. Запчастак у раёне днём са свечкай не знойдзеш. Няхай думае начальства. Абрыдла за калхозную машыну пляшкі ставіць ды самому кожную драбніцу шукаць.

— Ну і правільна. Вясной транспарт пад рукамі штодня трэба,— падсумаваў гамонку Іван.

«Чаго ж Галя сёння ранкам была такой негаманкою, скупой на кожнае слова? — зноў узбіўся на свае думкі Сяргей.— Можа, якая шэльма каля калодзежа данесла ёй, што ў панядзелак заязджаў да Машуткі? Бабам толькі дай зачэпку языкамі памянціць. Без граху грэшным зробяць. Такі ўжо народ яны, бабы. Не дай Бог, калі ўдавіцы ці халасцячцы паможаш дровы прывезці альбо другую трасцу, то і паляціць пагалоска, зашуміць ад хаты да хаты. Але ж спрадвеку гавораць, што калі душа часнаку не ела, то і пахнуць не будзе. Хоць папраўдзе, шкода адзіночак. Усё на іхніх плячах ляжыць. Такую і прыгалубіць, аблашчыць не грэх. А Машутка ласкавая, увішная кабеціна. Шкода: не шанцуе ёй у жыцці. Толькі ж я Галю сваю і на сотню Машутак не прамяняў бы. Цікавае яно, бабскае племя, увесь час, колькі жывём разам, думаў, што жонка не раўнівая, а яна сёння і надзьмулася. Можа, і па нейкай іншай прычыне. Трэба вечарам больш дзвюх, трох чарак не піць у Івана, а лепш пагаварыць з Галяй ды ўведаць пра ўсё».

— Вось і наш квадрат,— спыніўся Іван каля новага абчасанага слупка з чорнымі лічбамі.— Тут ляснік адмеціны на дрэвах адбіваў. Нічога лес, смалісты, удружыў чалавек па-брацку. На пянёк не адну пляшку яму пастаўлю.

Старэйшы Перуноў зняў з плячэй ватоўку, кінуў яе на невялічкую разлапістую ялінку. За ім тое ж зрабілі і Сяргей з Лёнікам.

Сонца прыгравала, зрэдку ў маладняку цвінькалі сініцы, а няўлоўны вецер слабенька шапацеў у самых вершалінах стромкіх сасонак.

— Пачнем, мужыкі.— Іван абтаптаў снег вакол дрэва, плюнуў на далоні і некалькі разоў надсек першую сасонку на новую хату.— Мы з табой, Сярожка, будзем падразаць, а Лёнік няхай падпіхвае, каб не заціскала і клалася дрэва ў прамежкі між астатніх.

— Няхай пакуль пастаіць. Ветру ж усё роўна няма. Лепш, як прытомімся, каго-небудзь з нас падменіць.

— Давай, дзядзька Сяргей, я з бацькам парэжу, а пасля вы будзеце. Чаго мне стаяць як пню.

— Не спяшайся, хлопец, тваё ад цябе нікуды не ўцячэ. Наробішся яшчэ і тпру скажаш. Пакуль малады, то сілу беражы ў яйцах. Павер мне, сілачка яшчэ о-го-го як спатрэбіцца.— Сяргей ветла ўсміхнуўся, а Лёнік патупіў вочы ў стаптаныя кірзачы на нагах.

Добра наточаная піла ішла лёгка, без натугі. Пахла свежым смалістым пілавіннем і вясной.

Каля дзесятка сасонак ужо ляжала на прытаптаным шаравата-белым снезе. Сяргей з Іванам зразалі з пнёў дрэвы як бы гуляючы. Скупа жартавалі пра Дуняшу з Міцьком у гумне, не стараніліся салёных слоўцаў, хоць задужа імі і не кідаліся. Лёнік ад іх знаходзіўся далекавата: абсякаў галіны з сасонак, сцягваў іх у ладнаватыя кучы. Ён добра-такі ўпрэў, махаючы сякерай, і ў душы крыху злаваўся на мужчын. Не, каб хтосьці з іх пакайлаваў над паваленымі дрэвамі, падмяніў яго, а ён з радасцю пацягаў бы пілу. Відаць, ім лягчэй, калі смяюцца, а часта і рогатам прарываюцца, быццам жарабцы неаб'езджаныя. З сякерай ды голлем многа не насмяешся.

Час падыходзіў да полудня, калі чарговая падрэзаная сасонка зачапілася за вершаліну другой, што стаяла непадалёку. Мужчыны клікнулі Лёніка і паспрабавалі спіхнуць дрэва. Але як ні штурхалі, яно не паддавалася.

— Халера з ім. Няхай стаіць, як будзем вывалокваць хлысты на дарогу, тады трактарам і сцягнем гэта,— прамовіў Іван, выціраючы рукавом пінжака ўспацелы лоб.— А то, упіраючыся гэтак, і падарвацца нядоўга. Навошта мы пасля і

бабам спатрэбімся. З дворышчаў на вуліцу павыганяюць, як дахадзяшчых сабак. Няхай вісіць праклятушчае палена. Можа, вецер як-небудзь нахопіцца, яно і спаўзець.

— Не па-гаспадарску гэта, сваячок,— упікнуў Перунова Сяргей.— Нічога цяжкага я тут не бачу. Трэба пайсці ды падсекчы дзеравіну, на якой вісіць наша. І ні з якім трактарам валтузіцца не будзеш. Калі сам лянуешся разоў некалькі махануць сякерай, то давай я пайду.

— Навошта яно табе? Завісла і няхай сабе вісіць, лепей пайшлі зрэжам другое, не будзем час цягнуць.

Сяргей нічога не адказаў на гэтыя словы. Ён узяў у Лёніка з рук сякеру і, не спяшаючыся, крыху пераважваючыся з нагі на нагу, пайшоў да танклявай сасонкі.

— Сяргей, кінь дурное. Няхай застаецца. Пайшлі другую зрэжам. І чаго заманулася табе валтузіцца з нядайдай завіслай? — крыкнуў услед Смаляку Іван.

«Цікавыя людзі, другім разам самі для сябе пальцам шалахнуць лянуюцца. Усё наравяць абы з рук спіхнуць. Пра каго-каго, а пра Івана і не падумаў бы так ніколі. Для сябе ж робіць».

Сяргей падышоў да сасонкі, замахнуўся, сякануў раз, другі, яшчэ некалькі разоў, і дрэва затрашчала. Ён разагнуўся, ускінуў сякеру на плячо і нетаропка пайшоў да Перуновых, нават не пацікавіўся, як і куды ўпадуць дрэвы. Сяргей ішоў і ўсміхаўся. Ён зрабіў ужо чатыры, пяць крокаў, занёс нагу на шосты...

— Сяргей!!! — раскацістым громам узвіўся Іванаў голас над лесам.— Сяргей-й-й!!!

* * *

Смаляк азірнуўся...

...На яго, як страла, ляцела доўгая, таўшчынёй з руку, сухастоіна. Кара абсыпалася, і толькі каля куцых галін яна матлялася цадранымі ашмёткамі. Калі Сяргей убачыў сухастоіну-стралу, яна была ад яго ў трох метрах... І затым усё спынілася. Сяргей застыў, як паралізаваны, на месцы, а сухастоіна-страла ціха-ціхенька, па-мурашынаму паўзе, ляціць на яго. Ён бачыць кожную трэшчынку, зазубрыну, кожную галінку, абрывак кары на дрыне-сухастоіне, якая прапаўзла-праляцела яшчэ некалькі

сантыметраў. І ўсё гэта бясшумна, быццам у нямым кіно. І няма ніякай сілы, ніякай моцы, каб адхіснуцца, саступіць убок, прыгнуцца, уціснуцца ў снег. Зарыцца ў яго. схаваць галаву. засланіцца рукамі. Вочы не адпускаюць сухастоіну. яна наблізілася да Сяргея яшчэ на некалькі сантыметраў. Цяпер ён можа пералічыць кожную трэску на зломе. Іх цэлы пук, доўгіх, яршыстых, белавата-жоўтых. Яны ад ветру і палёту ўгінаюцца, як спружыны пад цяжкім грузам.

І лес, лес не шалахнецца. Толькі бяздоннае, глыбокае неба з рэдкімі аблачынамі над галавой. Сяргей іх не бачыць, але ўсім целам адчувае.

Вось сухастоіна-страла так блізка, што можна перахапіць яе рукою. Сціснуць пальцамі каля рванага, няроўнага злому, сціснуць, як гадзюку каля галавы, і адкінуць ад сябе найдалей. Толькі пасля выцерці, памыць рукі снегам. Вось гэтым наздравата шэрым снегам.

«Ах, дзеткі мае родныя, Галя, любая маці мая... Засланіцца б, заступ паставіць... Выратуй і абарані, Божа... І чаму не застаўся дома сад агледзець, голле абрэзаць... Сіроты вы мае, усе сіроты...»

* * *

Іван і два разы вачыма не міргнуў, як сухастоіна ўрэзалася абламаным, няроўным канцом у скроню Сяргея Смаляка. Перуноў быццам апрытомнеў, кінуўся да Сяргея, які, здавалася, спатыкнуўся аб нябачны ў снезе пень. Ён асунуўся на калені і ўжо затым, бачком, нібы выбіраючы лацвейшае месца, выпрастаўся на снег. Усё навокал заліло чырванню. Іван, не ўсведамляючы, навошта і зачым гэта робіць, заціснуў далонню праламаную скроню сваяка. Толькі ж кроў струменямі-фантанчыкамі біла, вырывалася праз пальцы Перунова.

— Не дуры, Сяргейка, кінь балаўства такое, падымайся... Ты распарыўся, паляжыш на халодным, прастудзішся, будзе мне ў каршэнь ад баб тваіх. Падымайся... Ну чаго ты? Падымайся... Чуеш мяне,— Іван паспешліва шаптаў гэтыя словы, не адрываючы рукі ад галавы Смаляка. Крывавая лужына шырока расцяклася, і цяпер Перуноў стаяў каленямі ў чырвоным снежным месіве. Іван адчуў, як цяжка, са свісцячым над-

рывам уздыхнуў Сяргей і ледзь улоўна выдыхнуў.— Во, бачыш, табе зараз лягчэй стане, а то ўлёгся, як дома на цёплай пасцелі... Адпачнеш зараз крыху, і ўсё добра будзе. А я ўжо спужаўся, сэрца ў грудзях не чую, і ў вачах мятлікі запырхалі.— Слёзы ў Івана няспынна каціліся па шчоках, паўз нос, падбародку і капалі шчодрым, чысцюткім бярозавікам на акрываўленую, бездыханную галаву Сяргея.— Лёнік, чаго стаіш там як укапаны, бяжы да мяне, Сяргею паможаш падняцца! — крыкнуў Перуноў сыну, які нерухома стаяў воддаль, прытуліўшыся плячом да сасонкі.

Лёнік, цяжка перастаўляючы ногі, наблізіўся да бацькі. «Колькі крыві наўкола. Страшна. Рукі дубеюць, не слухаюцца, быццам зусім не мае — чужыя. Але... што гэта за птушка заспявала? Ніколі ў жыцці не чуў такога голасу. Нешта заморскае, не ад нашых птушак. І зусім побач, толькі ж дзе яна? Нябачна, а здаецца, працягні руку і дакранешся да яе, зловіш...»

— Памагай, сынок, падняць Сяргея. Пакладзем яго на галіны, не так студзёна будзе... Бачыш — ён увесь мокры... ад крыві мокры.— Іван спрабаваў падняць Смаляка пад плечы, але не мог, як ні сіліўся гэта зрабіць.

Лёнік здранцвела стаяў побач і пільна ўзіраўся наўкола.

— Бацька, паслухай, як спявае невядомая птушка. Але нідзе яе не бачна.

Іван зірнуў на сына, прыслухаўся...

— Усё, Лёнічак, не птушка гэта спявае, а Сяргеева душа. Яго душачка развітваецца з намі.

* * *

Сяргей стаяў каля Івана Перунова і дзівіўся: навошта той прыкладвае да яго галавы снег, адкуль столькі крыві навокал? І самае недарэчнае — Іван плача. Плача, як баба загуменная. Ніколі ж не бачыў, як Перуноў слязу пускае. Усё ж добра, вельмі добра. Яму, Сяргею, лёгка і радасна. Хочацца ўзвіцца над лесам, абняць усё навокал і ляцець, ляцець навыперадкі з ветрам, хмарамі...

«Іван, ты няйнакш здурнеў. Навошта, сваячок, снегам студзіш мне галаву? Ды яшчэ і слёзы пускаеш. А хваліўся, і не

адзін раз, што за вайну ўсе яны ў цябе высахлі. Верыў я табе, цяпер і не ўгаворвай — пустое. Ты што? Не чуеш мяне, Іван? Лёнік, адчапі ад мяне бацьку. Няхай вытрацца. А то, як баба, носам хлюпае. Лёнік, ты што? Таксама мяне не чуеш? Ну і Перуновы — за хвіліну глухімі сталі... І лес вам зразаць на хату не трэба... Ат, як хочаце. Заставайцеся тут, а я пайшоў. Хоць не. Навошта мне ісці?! Я палячу. Так, так — палячу... Глядзіце — я ўжо лячу, а вы, як гнілыя цельпухі, тут седзьма сядзіце... Я хачу пагаварыць з Галяй — няхай лішняга не думае. І Антонаў дзённік праверыць трэба. Ды і сушняк на яблынях хочаш не хочаш, а абрэзаць мушу. Будзьце ў лесе, мне ж нямашака часу...»

## IV

Першы жаўранак вісеў у небе і заліваўся, што тыя срэбныя званочкі падчас Калядаў на дузе ў добрай пары стаенных коней. Але Антона гэты спеў не радаваў. Ён хацеў хутчэй дабегчы да хаты, дзе расчыненыя веснічкі і з парога пахне ўпрэлай варанай капустай. Даўно прамоклі ногі ў падраных чобатах, пад грудзямі прагна смокча голад, а жаўранак звініць у небе. Хоць ранейшыя жаўранкі, ну хоць бы мінулай вясной, не так прыгожа спявалі. А гэты вось ужо ўсю дарогу не адстае ад Антона, звініць, заліваецца над ім — як быццам праводзіць, не хоча адставаць. Мо і яму карціць наесціся варанай капусты са скваркамі?

І што, калі навокал ляжаць падталыя гурбы снегу, калі начамі прыхоплівае марозік — ранні жаўранак (хоць наўрад ці жаўранак?), а спявае. Птушцы весела, сытна і добра. Вось каб так Антону. Але ж да хаты застаецца прайсці яшчэ паўтара кіламетра. Яны заўсёды для Антона здаваліся самымі цяжкімі, бо вачам з пагорка бачны крайнія хаты, але ж дацягнуць да іх ой як няпроста. Бабуля Марфа пра гэта гаварыла так, што вачам відна, а нагам абідна. Здаецца вунь, толькі руку працягні і ты дома. Там цёпла, сытна і суха. Але не! Мясі снежна-глеістую веснавую брыдоту. Хлюпае гэта каламуць пад нагамі, збівае крок, перахоплівае дыхавіну, і здаецца, што ніколі ўжо не дайсці да першай хаты, з якой і пачынаецца вёска.

Няхай бы яна апруцянела, тая школа, да якой кожны дзень трэба цягацца аж за пяць кіламетраў. А дзеля чаго?

Антон спыніўся, перакінуў з пляча на плячо кірзавую сумку з кніжкамі, зірнуў ускрай дарогі, шукаючы вачыма абсохлы пянёк, каб прысесці і выліць ваду з левага бота. Ён найбольш падраны каля падэшвы, іануча збілася пад пятку. Вось зараз ён прысядзе, паправіць яе і подбежкам кінецца далей, аж да самай хаты. Толькі ж пянькоў не бачна, адны хрумсткія гнілаватыя галіны навокал.

«Ну і лях з імі. Паціху і так дайду. А там ужо воля-вольніца. Бабуля Марфа адразу нальє вялікую чырвоную місу ўпрэлай капусты, а я сам адрэжу праз увесь бохан лусту хлеба. І няхай яна спрахне, тая школа, да якой цягаюся кожны дзень, б'ю дарэмна ногі. Так гаварыла бабуля, а маці з-за гэтага з ёй сварылася. Толькі ж я згодны не з маці, а з бабуляй. Яна вунь і дзве зімы ў школу не хадзіла, а паспрабуй хутчэй за яе пералічыць грошы. Не, не атрымаецца. Сам хутчэй саб'ешся, чым яна. Хоць цэлую гару насып паперак, баба Марфа пералічыць іх за адзін мірг вока. І ўсё пакладзе адну да адной, як у краме. Дык навошта тады школа? А я шосты год соўгаюся ў яе. Ну сказаў бы няхай хто — дзеля чаго? А, так прынята, так заведзена. Малалетак, шпінгалетаў, да трэцяга класа ў інтэрнаце пакідаюць, ім добра. За імі часта бацька на машыне ездзіць. Забірае і Валю з Нінкай на выхадныя. А я штодня пешшу. І трэба ж яшчэ аднаму з усёй Шышкаўкі ў шосты хадзіць. За васьмікласнікамі не ўгонішся. Яны як коні. Ну і няхай, а мне і аднаму добра...»

Вось ужо вельмі блізка да вёскі. Антону можна дайсці хутчэй, чым даляцяць вунь тыя дзве вароны, якія расселіся на тэлефонных слупах.

«Смешна глядзець на іх і параўноўваць шаравата-чорных птушак з белымі капялюшыкамі на слупах. Шаравата-чорнае і бялютка-белае... А жаўранак не сціхае, не пакідае, не адстае. І чаму ён усю дарогу ляціць за мною? Быццам трымаю яго на нябачнай нітачцы. Мо з-за таго, што люблю я птушак, нават варон і галак?»

Раўчукі няспешна цякуць пад нагамі. Іх афарбоўвае ў розныя колеры выцеклы саляр з трактароў. Раўчукі — як вясёлка. Яны прыгожыя і, як коцікі на лазе, цеплавата-ласкавыя. Але ж дакраніся да іх — і парушыцца, зблытаецца малюнак. Значыць,

няхай бягуць, няхай цякуць па пракладзенай дарозе і лашчаць, цепляць калі не рукі, то хоць вока.

Антон мелькам праскочыў першыя хаты вёскі. Нічога каля двароў нямашака. Вунь за перакрыжаваннем, каля калодзежа, і іхняя, Смалякоў, хата. Хлопец перайшоў дарогу, параўняўся са студняй і здзівіўся — каля іхняга двара было поўна людзей — ледзь не ўся вёска сабралася там. Такое здараецца падчас вяселля. Асабліва калі шышкаўскі хлопец прывозіць у вёску дзяўчыну з другога селішча. Тады ўжо і стары і малы прыходзяць паглядзець, падзівіцца на нявесту, на яе гожасць ды годнасць. Антон спыніўся, не ведаючы, што думаць. Яму падалося, што нехта спявае ці галосіць — разабраць цяжка, бо над самым, здаецца, вухам звініць, пераліваецца жаўранак. Ён апусціўся з нябеснай сінечы да хлопца. Глядзі-ўглядайся, а не ўбачыш. Толькі голас. І не такі ён ужо радасна-шчаслівы, больш глыбока самотны, роспачны, але без адчаю...

«І навошта яны ўсе сабраліся? Тут есці хочацца, а пры людзях няёмка, не сяду ж я адзін капусту сёрбаць?»

Антон апошнюю сотню метраў ішоў спакваля, па-мужчынску самавіта, выбіраючы сушэйшыя на дарозе мясціны. Вось і двор. Вяскоўцы моўчкі расступаюцца. Жанчыны выціраюць на вачах слёзы, мужчыны, апусціўшы галовы, глядзяць долу. Нехта пагладзіў Антона па галаве, не па самой, а па салдацкай шапцы-вушанцы, хтосьці дакрануўся да пляча.

—...во і хазяін прыйшоў, дзіцятка горкае...

—...і як Галя траіх выцягне на адных плячах...

—...Марфа яшчэ ёмкая старуха — паможа...

—...бабскімі рукамі ўсяго не ахопіш...

—...во-ё-ё-ёй, такое горачка, такая бяда...

«Пра што яны гавораць? Навошта гора, якая бяда? Пазбіраліся, быццам у клуб на кіно. Перасоўку ж Шура Макароннік яшчэ не прывозіў, праз тыдзень павінен. Плачуць. Па кім яны плачуць?»

Людзей было поўна не толькі на падворку, але і ў хаце. Антон праціснуўся сярод вяскоўцаў не заўважаны. Маці сядзела каля кутняга стала, падпёршы рукой галаву. Жанчыны навокал плакалі, а вочы ў маці былі сухія, але невідушчыя, пустыя, як восеньскі высокі месяц у небе, зацягнуты калматай хмарай.

— Паплач, Галечка, паплач, сястрыца, лягчэй стане, не трымай усё ў сэрцы, яно і лопнуць можа, хто ж дзяцей тваіх гадаваць будзе,— упрошвала, ледзь не ўмольвала сястру Таццяна Вароніна. Яна сядзела побач з Галяй і няспынна выцірала хустачкай вочы.

— Ой, сыночак ты мой любы! Сяргеечка мой залаты, навошта пакінуў нас так рана-раненька? Чаму ж дзетак не ўзгадаваў ды ў людзі не вывеў?— Антон пачуў голас бабы Марфы з бакавушкі, каля печы.

Ён, штурхаючы людзей, праціснуўся за перагародку. Бабуля ляжала на ложку. Каля яе завіхалася вясковая фельчарка Маня. «Бацька, памёр бацька. Ды няпраўда ўсё гэта! Мы ж сёння разам снедалі. Брэшуць, хлусяць... Бацька ж малады. Такія не паміраюць. Не па-мі-ра-юць!»

— Няпраўда, няпраўда,— ледзь чутна прашаптаў Антон.

* * *

Як ні спрабаваў Сяргей пагаварыць з Галяй, яму не ўдавалася. Не чуе яго жонка, не бачыць маці. Падыходзіў Сяргей і да іншых вяскоўцаў, загаворваў са старымі, мудрымі людзьмі, але і яны не чулі яго і не бачылі. Быццам у адначассе ўсе навокал сталі сляпымі і глухімі. Адно толькі і ведаюць, што плачуць ды галосяць.

«А па кім плакаць, навошта галасіць? Ён жа, Сяргей, побач з імі. Хочацца паздароўкацца з мужчынамі, ды яны не падаюць рукі, колькі сваю ні працягвай. І што толькі стала з шышкаўцамі?

Можа, усё гэта сніцца? Яны аплакваюць мяне, калі я побач. Вось зараз вазьму вядро халоднай вады на ўслоне і плюхну на галовы, адразу ачомкаюцца, перастануць прыгаворваць, які я быў (а чаму быў?) добры чалавек. Сумна, да ламаты ў зубах сумна. Няма з кім і словам перакінуцца. А мо пакурыць? Толькі не хочацца і папяросаў няма. Высмалілі ўсе з Іванам Перуновым. Сёння дзіўна ружова-светлы дзень. І цёплы, што лінень пазалетась. Усё ж пажартую, абалью вадой усіх разам. Ага, вядро поўнае. Раніцай прыносіў са студні. Зараз я вам паплачу, шкадавальнікі-прычытальнікі... Але чаму не пад

сілу мне вядро падняць? Яшчэ разок паспрабую. І зноўку міма. Стопудовае яно, ці што? Раніцай жа два на каромысле нёс, а цяпер і адно падняць не магу? Усе і ўсё навокал з мяне смяецца: бачыць — не бачаць, чуць — не чуюць. Можа, яны праклятыя. Гаварыў жа стары Цімох, што часам на людзей находзіць помарак і яны становяцца ні жывымі, ні мёртвымі, а так сабе — пустой абалонкай, порхаўкамі. Няхай застаюцца самі па сабе, а я пайду сустрэну Антона са школы. Далёка ісці аднаму малому, а ўдвух весялей будзе і дарога карацейшай стане...»

* * *

«Глядзі-ка ты, які сумны мой хлопчык. Худзенькі дужа, хоць у рост і выцягнуўся. Неяк хутка я ад хаты да Антона дайшоў. Толькі падумаў, а ўжо каля сына. То і добра, калі так атрымліваецца.

Здароў, Антоша, чаго нос ніжэй падбароддзя вісіць? І хмурны ты нейкі? Не думаў, што пайду цябе сустракаць са школы? Хацеў на машыне, але сёння ў мяне выхадны. Ды і сам ты пра гэта ведаеш. Заўтра серада, палова нядзелі пройдзе, а там, глядзіш, і выхадны, шпакоўні новыя з табой паробім, павесім іх на яблыні ды грушы — няхай птушкі вядуцца. Ці праўду я кажу?

Маўчыш і ты, не чуеш бацьку. Ну нічога, разам пойдзем дамоў. Я буду гаварыць, а ты, сынку, толькі слухай. Даўно хацеў табе распавесці, ды ўсё не выпадала. А цяперака адчуваю — час прыйшоў.

Ляжыць праклягцце, Антон, на нашым родзе. Мне пра гэта дзед Пракоп, а твой, знацца, прадзед перад смерцю расказваў. Варагуем мы з Барташэвічамі. Глядзім адно на аднога і не бачым. Такое не толькі цяпер, але і раней было. Ты, можа, і не памятаеш, табе трэці годзік ішоў, а старая Матруна Барташэвіч зплавіла цябе на вуліцы і ў калодзеж хацела ўкінуць. А ўсё праз тое, праз мінулае, спакою ні нам, ні ім няма шака.

Наш прапрадзед і Барташэвічаў наймацнейшымі сябрамі лічыліся. Хлопцамі яшчэ хадзілі. І ўлюбіліся, укахаліся яны ў адну дзяўчыну, жыла тая на хутары Красным. Ад яго і следу няма. Але, пачалі наш прапрадзед і Барташэвічаў варагаваць

між сабою. Толькі ж не ў адкрытую. На людзях яны, як і раней, здаваліся сябрукамі радней за братоў родных. Усё гэта толькі на людзях. Калі ж заставаліся сам-насам, то ваўкамі галоднымі лютавалі. Глядзелі, дзе б адзін аднога ў багну ўпіхнуць ці ў глыбокім віры ўтапіць. Ды гора, што па сіле-моцы былі аднолькавыя — быкоў за рогі на зямлю валілі. Ну няхай бы саступіў хто-небудзь, аж не — прычаравала іх дзеўка. Жылы і пажылкі іхнія забрала, кроў маладую, здаецца, выпіла. Ні адзін і ні другі адступіцца ад яе не могуць. Бывае, сынок, такое, яшчэ як бывае. Адным гэта на шчасце, а некаторым на злом галавы.

І вось адным разам былі прапрадзеды на гульбішчы-вечарынцы, якраз пад Грымотніцу нядзельную. Прапрадзед дзед Смаляк смехам узяў зямлі прыгаршчы ды і сыпануў у вочы Барташэвічу. А зямлю тую ніхто не ведае, адкуль наш родзіч прынёс. І ахапіла барташэвіцкага прапрадзеда ярка-сіняе полымя. За адзін уздых ён згарэў, хутчэй чым сухая саломіна жыта. Засталася ад Барташэвіча адзіная горстка попелу. А тут наляцеў вецер, дзьмухнуў, і ніякага следу ад чалавека. Людзі, якія былі на гульбішчы, з гвалтам разбегліся, разляцеліся. Усе баяцца пачалі нашага прапрадзеда Смаляка, бокам абыходзіць, слова дрэннага, няласкавага ніхто ў вочы сказаць не мог.

Але ж і сям'я Барташэвічаў не сядзела, рукі на грудзях склаўшы. Знайшлі і яны чалавека, той і напусціў на наш род порчу-праклятце. Так людзі ў вёсцы гаварылі. Што і як ні гаварылі, ды жаніўся наш продак на красуні. І аднаго сына яна нарадзіла прапрадзеду, і другім хадзіла ўжо, толькі ж аднойчы вечарам, калі села сям'я пасёрбаць крупені, прапрадзед наш папярхнуўся і знябожыўся.

Дзе тут праўда, а дзе хлусня, як кажуць, аднаму Богу вядома.

Вось адкуль бярэ пачатак нянавісць паміж намі і Барташэвічамі.

Праўда, Антон, на мне б усё магло добра скончыцца. Хацелі Пятрок і Надзька Барташэвічы, каб пабраўся я з іхняй дачкой, ну, цёткай Кацяй. Яна на падучку хворая. І баба твая Марфа ўгаворвала, хацела, каб варагаванні між сем'ямі закончыліся. Дужа ж сыплюцца часта няшчасці і на наш род і Барташэвічаў не абыходзяць...

Галя на сёмым месяцы табой хадзіла, калі затапіўся ў возеры на лузе Іван Барташэвічаў. Разам з ім і я купаўся, другія мужчыны — толькі ж ніхто не бачыў, калі ён на дно пайшоў. Праз нядзельку-сядміцу вылавілі. Барташэвічы ж мяне клёнма клянуць. Усё гавораць, быццам я Івана ўтапіў, на той свет адправіў. Цяперака мне прарочаць смерць наносную. Але ты разумны ў мяне хлопец, не вер нікому. Мы будзем жыць нашай сям'ёй доўга і шчасліва. Бачыш, як хутка мы дайшлі дамоў. Вось і наша хата. А людзі ўсё яшчэ не разыходзяцца. І чаму? Адзінока, цяжка мне, Антон. Хоць, пачакай, клічуць мяне ўжо, кудысьці запрашаюць. Пайду я ненадоўга, ты не сумуй, хутка вярнуся, сынок».

## V

Хата Барташэвічаў стаяла праз пустку і тры суседнія падворкі ад Смалякоў. Вялікая крона таўсматай старой ліпы навісала над іхнім дахам. Ніжнія галіны дрэва ляжалі на шэрых дошках ёмкіх варот. Такіх высокіх, што здавалася, і не кожная птушка пераляціць іх. Увогуле падворак Барташэвічаў быў агароджаны з усіх бакоў, як панскае памесце: каб ні людское вока, ні лясная паўзучая гадаўка не патрапілі на яго, не ўцікавалі-ўгледзелі, што робіцца, што дзеецца тамака.

Над кожнымі дзвярыма, куды б яны ні вялі: няхай то сенцы ці хата, дрывотня або хлеў — віселі пукі мінулагодняй высушанай крапівы-жыгучкі. Усё гэта ад дрэннага вока і благіх людзей. Кожны год Надзька Барташэвіч апошняй ноччу, пад самую раніцу перад Купаллем, збірала, ірвала на прылесках крапіву-жыгучку і, здымаючы папярэднюю, вешала новыя расяныя пукі. Дні два хадзіла яна з апухла-набрынялымі рукамі, хавала іх з нездароваю чырванню пад фартухом, які ніколі не здымала, а толькі зрэдку, па вялікіх святах мяняла.

Мо з-за гэтага жанчыны ў Шышкаўцы і жартавалі адна з адной, калі заўважалі запэцканую спадніцу ці сукенку: «Ну ў цябе, Манечка, хутка, як у Надзькі Барташэвіч, камякамі бруд з пяском са спадніцы пасыплецца». Альбо: «Ці ж не пазычыла ты сукенку ў Надзькі Барташэвіч?»

Але ж кабеты жартавалі між сабою, ціхутка, а пры Надзьцы маўчалі, быццам кожная ў рот гароху напхала. Ведалі ж: з Барташэвічамі і Смалякамі жартаваць, што з агнём у сене гуляць. Не ведаеш: добра абыдзецца ці попелам праз пальцы пасыплецца. То ўжо лепш змоўчаць, вочы адвесці ды пра штонебудзь староннае, звычайнае пагаманіць. Спакайней на душы будзе і начамі варочацца з боку на бок не трэба: а ці ж усё ладком абыдзе? Лепш ужо быць лагаднейшым ды цішэйшым з імі, тады і вочы мякінай не зацярушыць, а наносны віхор міма тваёй сям'і абыдзе, у неба каго іншага падыме.

Надзька Барташэвіч корпалася каля дрывотні, збірала ў свой нязменны фартух адталыя трэскі з мінулага года. Побач, каля яе ног круціўся вялікі чорны сабака на доўгім ланцугу. На вялікіх, уцягнута ўпалых баках сабакі клоччам вісела нявылінялая, мо з папярэдняга года, поўсць.

— А каб на цябе халера патрапіла! Сноўдаешся пад рукамі, як нягеглае кацянё. Вушы апусціў, а яны ж на ўсе бакі варочацца павінны. Ці ж мала хто на двор заскочыць можа, украсці, сцягнуць вартае. Не, не я буду, а Петраку скажу, каб і цвілай скарынкі сёння не даў. Вось тады паскуголіш у мяне, спрытнейшым станеш. Каму кажу, пайшоў вон! — Надзька прытупнула гумавіком па бруднавага разлезлай кашыцы снегу. Сабака ўцісну хвост пад упалы жывот і пацюхаў да будкі.

— Вось так даўно б, а то, глядзіш, і спатыкнуцца нядоўга аб цябе...

«Ноччу так ядрана было. Ці не а першай гадзіне я выходзіла на вуліцу. Вылі сабакі, паўсюль вылі сабакі. Здаецца, не гаварыла я пра гэта Петраку. А наш ляжаў у будцы, як цэп, і голасу ані разочку не падаў, не брахануў, не гаўкнуў. А паўсюль, з канца ў канец, вылі сабакі. І так зладжана, сугучна, ну проста як пеўні ўлетку раніцай. Што б ні гаварылі, а люблю, аж сэрца заходзіцца радасцю, калі выюць сабакі. І самой захацелася ім падсобіць заместа свайго. Падняла я вочы ўгору, аў-у-у-у-у-у. Толькі ж адразу сціхла. Бо згледзела крывавы след на небе. Ён быў як серп, не — хутчэй як каса, добра накляпаная і адмянташаная. Вакол цёмна, бяззорна, а каса крывёю накіпае. І пацякло, закапала з яе. Ліпка мне стала. Асабліва ж рукам і галаве. Быццам ад цукровага сіропу. За-

карцела памыцца. Толькі ж навошта? Калі на мяне, то няхай, так і быць таму. Можа, гэта Іван, сыночак мой, памкнуўся сказаць нешта. Раскрыць віну Смаляка, душагуба праклятага. Дык навошта ўцякаць, баяцца нябеснага крывавага следу. Няхай як каса ён праявіўся. Толькі ж не на маю гэта галаву, рана мне яшчэ вочы заплюшчваць, на грудзях рукі сашчапляць. Не ўсё зроблена, і помста не здзейснена. Сёння глядзелася ў зеркала над свінушным загончыкам, і бачыўся там лес гонкі і высокі, і былі людзі, і нехта плакаў. А мяне зеркала смяшыла, так смяшыла, аж свінні перасталі рохкаць...

«Хітрасць лісіцы, сіла ваўка, моц навальніцы, злабá перуна ў костках, суставах, у сэрцы маім. Покуль жыць буду — служу я дваім. Першы мой служка ў багне лясной, ну а другі — пад зямлёю ўсёй».

Я паўтарала гэтыя словы да стомы, покуль не знік нябесны крывавы след над галавою, а сабакі не ўшчуклі, не змоўклі. І пасвятлела ў маіх вачах, і захацелася да Петрака, ягоных любашчаў і ласкі. Так хацелася яго, быццам у першыя дні пасля вяселля, аж смагай сэрца сціснула, грудзі напяліся і ўся як тая струнка стала. Каб жа мой Пятрок маладзейшы быў, то, можа, учарашняй ноччу і панесла б я, зацяжарала. А так... Ведаю, што сына б займела, па-новаму б наклала на яго, яшчэ не народжанага, імя Івана. Толькі быў бы мой той сыночак не такі, як нябожчык. Пакладзістасць і дабрыня не запалі б у яго. І жыў бы ён вечна. Але жывуць жа і ненароджаныя. Мой Іван таксама будзе жыць вечна, жыць ненароджаны».

Надзька ўжо некалькі хвілін стаяла, разагнуўшыся, з поўным фартухом трэсак і тупа ўзіралася ў вароты. Сабака з будкі цікаваў за ёй галодна-злымі вачыма, у якіх разгараліся іскаркі трупна-зялёнага агню. Каб іх затушыць, адной плесневай скарынкі было мала.

Нечакана рыпнула фортка ў варотах. Надзька здрыганулася, замітусілася, быццам яе злавілі на нечым непрыглядным. Ладны парог форткі пераступіў Пятрок. Яго старая ватоўка была расшпілена на грудзях, а пад пахай ён трымаў два боханы хлеба. Надзька, акінуўшы мужыка хуткім позіркам, патупала пад паветку, куды высыпала сабраныя трэскі. Праз імгненне яна зноў была каля дрывотні, пахапкам збірала мокрыя трэскі,

зноў бегла пад паветку, а праз хвіліну згіналася каля дрывотні. Пятрок стаяў ад яе крокі за тры. Стаяў і моўчкіназіраў за жонкай. Нарэшце не вытрымаў:

— Ды супакойся ты. Прыстань. А то носішся па двары, што тая курыца з яйкам каля куросадня. Прыспічыла табе смецце з месца на месца пераносіць, быццам лепшай і вартай справы рукам не знойдзеш. Усе людзі да Смалякоў пацягнуліся, а ты корпаешся дома, быццам нічога і не чула.

— А чаго я да ўрагоў пайду? Няхай туды вараннё лётае. Рукі адсохнуць, калі я за клямку іхніх дзвярэй вазьмуся.

Толькі прагаварыла гэта Надзька, як зноў рыпнула фортка ў варотах. Барташэвічы ўдваіх азірнуліся. На дворышча, абапіраючыся на кавеньку, увайшла Матруна. Яна ўсміхалася, выстаўляючы бяззубыя дзёсны ласкавым промням веснавога сонца. Старая зрабіла крок, другі, спынілася і няспешна абаперлася грудзямі на загнуты канец кавенькі.

— Во так яно, дзеці, праўда верх паўсюль бярэ. Сасвяжыўся сёння Смаляк. Наносным ветрам у лесе забіла. Мне Санька Пракопаў гаварыў, што елка прабіла галаву душагубцу нашага Івана і мазгі Смаляка на паўвярсту раскінула. Людзей у іх поўны двор. Усе шышкаўцы пазбегліся. Я мяльком, да вас ідучы, бачыла. Самога ж Смаляка павёз Валодзька на машыне ў райцэнтар, на експерцізу. Знацца, успорваць вантроб'е будуць, як і нашаму Івану.

На апошніх словах Матруны зазвінеў ланцугом сабака. Ды так моцна, што жанчыны здрыгануліся.

— Каб ты здох, псіна дахадзяшчая! — вылаялася Надзька, плюнуўшы праз плячо.

Сабака ж, мінуўшы Петрака, пацягнуўся да варот. Спыніўся, азірнуўся на гаспадароў, затым расставіў заднія худыя ногі і, угнуўшы галаву да зямлі, завыў. Натужна і доўга. Надзька, Пятрок і Матруна скалануліся, але з месца не зрушыліся. Сабака ж пярэдняй лапай шкрабануў снежнае месіва і зайшоўся такім выццём, якое наўрад ці даводзілася чуць дасюль хоць аднаму чалавеку.

Барташэвічы пераглянуліся. На тварах ува ўсіх застыў незразумелы жах. Першай сарвалася з месца Надзька. Яна схапіла каля дрывотні дубчык і ў некалькі скокаў была каля сабакі.

Замахнуўшыся з-за пляча, жанчына з усяе сілы ляснула небараку па шыі, зноў замахнулася, і дубчык апусціўся на чорную галаву сабакі.

— Здохні, поскудзь! Вый на сваю смерць! — захлынаючыся злосцю, выдыхнула Надзька.

Сабаку павяло ўбок. Ён, перабраўшы некалькі разоў пярэднімі лапамі, пахіснуўся і неяк неахвотна, нехаця кульнуўся на бок. Надзька яшчэ раз замахнулася, і дубчык патрапіў на ашчэрана-застылыя клыкі.

— Вон душа табе, псіна! — Надзька адкінула дубчык.— Закапаеш вечарам на ўзлеску.— Гэта яна ўжо Петраку.

— У Смалякоў хаўтуры і ў нас таксама.— Жанчына паспрабавала ўсміхнуцца, але замест усмешкі толькі ненатуральна расцягнутыя губы.

— Не на дабро гэта,— выказалася Матруна.

— Дворышча засталося без сабакі,— сам сабе прагаварыў Пятрок.

— Не закапаеш ты, дык Косцік прыедзе з работы і на машыне адвязець яго на ўзлесак. Ніхто і не ўбачыць. А сабачая матка яшчэ не здохла. Пад лета возьмем у каго-небудзь шчанюка. Гэтага даўно трэба было сагнаць...

Барташэвічы сядзелі за сталом, палуднавалі. Хоць па часе трэба даўно вячэру збіраць. Матруна есці адмовілася.

— Я, дзеці, вам адно скажу — трэба схадзіць да Смалякоў, а то людзі няведама што пачнуць языкамі плявузгаць. Усе ж на вёсцы знаюць, як нашы сем'і паміж сабою жылі. Ды і ад граху самі будзем далей. Асцярожнасць не на шкоду пойдзе. Яшчэ ж ні разу так не сталася, каб пасля смерці ў Смалякоў у нас хто-небудзь ды не зняўбожыўся. А калі ў нас хаўтуры, то і яны чакаюць таго ж. І ўсё з сухавеем прыходзіць, з вадой ды агнём.

— Змоўкла б ты, свякроўка. Язык без касцей, але і гаварыць трэба не ўсё, што думаеш. Ты прыкінь — чаго я зараз пайду? Спачуваць я не буду, а парадавацца і ў сваёй хаце змагу. Калі прывязуць яго, на лаўку пакладуць, то мо і зайду, зірну, а пакуль няма чаго туды валачыцца. Калі ўжо вельмі карціць — сама з Петраком і схадзі. Мне яшчэ ўправіцца з жыўнасцю трэба, карову падаіць, Косціку вячэру згатаваць, а я кіну-рыну

ўсё ды да ўрагоў пайду. З мяне ж слязіны і каленькамі не выціснеш.

— Твая праўда,— пацепнула плячыма Матруна.— Няхай будзе так, як кажаш. Збірайся, Пятрок, ды пойдзем.

Цямнела, калі прыехаў з работы Косцік. Ён не паспеў яшчэ заглушыць матор у машыне, як да яго на вуліцу выйшла Надзька. Яна адчыніла дзверы.

— Мам, ці чула ты, што Сяргей Смаляк...

— Ды чула ўжо, чула. Уеўся ён вам у пячонкі,— перабіла Надзька сына.— Туды бацька з бабай пацягнуліся. Ты во што, Косцік, пакуль машына тарахціць, вазьмі ды завязі сабаку на ўзлесак. Здох ён сёння ні з таго ні з сяго. Можа, атруты хапануў. Я хлеб у дзіхлафосе замачыла для пацукоў. Відаць, ён і хапануў кавалак. Мне ж адной усяго не ўгледзець. То ўжо, сынок, завязі яго і прыкапай. Пад павеццю ляжыць, там побач і рыдлёўка. Толькі загарні сабаку ў мешкавіну, ад чужых вачэй. А прыедзеш, тады і павячэраеш. Мо і бацька падыдзе ўжо. Толькі ты доўга не баўся.

Косцік уздыхнуў:

— У цябе, маці, заўсёды так: хапаешся за многае, а да ладу нічога давесці не можаш. Гэта ж такога добрага сабаку ўхайдохала. Цяпер такога ніколі не знойдзем. Даліся табе пацукі. Няхай бы пладзіліся. Кажуць, што па ўсёй Шышкаўцы яны развяліся. Калі патруціш дома, то ад суседзяў набягуць.

— Хопіць табе, сын, размудыкваць. Рабі тое, што сказала. Я сама як-небудзь разбяруся, каго труціць, а каго карміць. Значыць, доўга не баўся — на ўзлесак і дамоў.

Надзька, пакінуўшы незачыненай фортку, пайшла ў хату. Святла не запальвала, толькі ўваходныя дзверы ўзяла на чэп. Затым паволі залезла на печ, адчыніла ўюшку ў коміне, спусцілася на падлогу, знайшла на прыпеку востры нож і высахлую сасновую лучыну, прысела каля загнета на ўслончык. Жанчына няспешкі пачала танютка наколваць лучыну. Вось ужо яе з добры пук.

— Якраз хопіць,— сказала ўпаўголаса Надзька сама сабе.

Яна падняла, адчыніла засланку з зеўра печы і расклала нашчапаную лучыну ў выглядзе труны.

«Ну вось і гатова. Цяпер толькі ўзяць зелля, прывезенага ад дзеда з Ходасаў, і, пасыпаўшы ім крыж, пакласці яго дагары на труну, чыркнуць запалкай і...»

Лучына ярка, быццам бліскавіца, усныхнула на засланцы загнета.

— Як баіцца курыца каршука, а мыш лісіцы, як збягае заяц ад ваўка, а соль ад вадзіцы — так няхай баяцца і збягаюць нашай хаты гора і бяда, слёзы і нуда. Як сыходзіць дымам труна на загнеце, як не бачыць гэтага ні мужык, ні дзеці — так няхай ніколі па чужацкай волі ні агні сухія, ні вятры ліхія, ні вада гаркая наш род не чапае.

Надзька вадзіла далонямі над зыркім агеньчыкам цяпельца, і пальцы яе дрыжэлі, як учарнелае лісце дзядоўніку ад сухавею, які ўжо выпетраў, выпаліў разам з сонцам усё зялёнае і жывое на закінутым, забытым людзьмі ўзмежку пустэльні. Надзька ўжо трынаццаты раз паўтарала гэтыя словы. Лучына дагарэла, і апошняя іскарка вось-вось згасне, але тут нечакана нехта моцна тузануў на сябе ўваходныя дзверы.

Жанчына ўсім целам здрыганулася, быццам нехта нябачны сыпануў ёй за каўнер прыгаршчы палкіх вуголляў.

— Мама, ты дома? — пачула Надзька голас Косціка.— Адчыняй, гэта ж я.

Надзька хуценька зашморгнула занавескай загнет і зняла зашчэп на дзвярах. Косцік праз парог адразу ўключыў святло.

— Нешта сядзіш адна ты ў прыцемках.

— Ай, Косцік, задумалася, а ты мяне так злякнуў, што аж душа заледзянела.

— Бацькі няма яшчэ?

— Ды бачыш сам — усё хаўтурыцца.

— Што ні кажы, а шкода. Малады ж зусім Сяргей. Трое дзяцей у Галі засталося.

— Ну, гэта не нам з табою рашаць. Там відней,— паказала Надзька пальцам у столь,— каго пакідаць тут, а каго забіраць да сябе. Добрага чалавека можна і пашкадаваць, а смаляцкі род крыві нашай перапіў пад завязку.

— Кінь ты, мам, дурнаватыя забабоны,— Косцік хацеў прытуліць маці. Але яна адхіснулася.

— Не матку трэба абдымаць табе, сын, а жаніцца пара. Хутка сівым канём станеш, а ўсё перабіраеш: адна для цябе худая, другая малая, тая курносая, іншая насатая. Глядзі, каб не звекаваў бабылём. Матка з бацькам не вечныя. Час ужо сваіх

дзяцей пладзіць, у свет выводзіць. А то дакукуешся, што і вады пад старасць не будзе каму падаць.

— Ну і села сёння ты на свайго канька, не ўшчукнеш да раніцы. Ты ж не забывай — мне ўсяго дваццаць шэсць і ў мяне...

— Не ўсяго, а ўжо! — перабіла Надзька сына.

— Я вечарам і хацеў пагаварыць з вамі, каб збіраліся ў сваты, а тут хаўтуры ў Смалякоў. Трэба счакаць хоць дзевяць дзён, а то няёмка будзе перад людзьмі...

— Што нам людзі,— зноў не дала дагаварыць сыну Надзька.— Няхай у Смалякоў адны плачуць, а ў нас другія скачуць... Нарэшце парадаваў ты мяне, сын. Уважыў, ой уважыў матку. Шкода, Петрака няма яшчэ. Ён будзе не менш за мяне ўлашчаны. Але адкуль нявеста твая, Косцічак? З нашай Шышкаўкі альбо не?

— З Маластоўкі яна, мам.

— Ну і арол ты. Трэба ж — вунь куды дапяў. А колькі гадкоў ёй? І ці не брыдкая з твару? — Надзька спытала і засаромелася. Павярнула на другое: — Гэта я так, Косцічак, да слова. Мне ўсялякая даспадобы будзе. Толькі б вам ладна і добра жылося. Бяры ў печы вячэру, сынок, у чыгунках там, а я малака з тварагом зраблю. Ты ж яго вельмі любіш.

Косцік сашморгнуў занавеску з загнета. Жменька попелу на перавернутым крыжы. Хлопец пяцярнёй узяўся за яго.

— Ой, бляха-муха! — вылаяўся ён на ўвесь голас.

Надзька абамлела. Загаварылася яна і пра ўсё забыла.

— Кідай яго, сынок, у памыйнае вядро.

Косцік расшчапіў пальцы рукі, крыж дзвінькнуў аб цэглу загнета, раскінуў у бакі перагарэлы попел.

— Панакідалі тут усяго,— сярдзіта буркануў Косцік сабе пад нос.— Знайшла месца, дзе крыжы раскідваць. Гаварыў жа я, што ў цябе, мам, нідзе ладу няма. Сабаку атруціла, цяпер з крыжам абы-што робіцца.

— Ды я пра гэта, сыночак, ні слыхам ні дыхам не ведаю. Відаць, тут баба Матруна варажыла, калі мяне ў хаце не было. Ты ж сам ведаеш — яна любіць такія штучкі. Бацьку ўжо не гавары, ён сварыцца на старую будзе. Старое ж, што тое і малое, не доўга яго і пакрыўдзіць. То лепш давай змоўчым. Сядай, Косцічак, за стол, сама вячэру дастану. Не дужа хоць руку апёк?

— Так сабе, трошкі.

* * *

Сасоначка расла не ў гушчары, як большасць, а між стромкіх, ладных ужо сясцёр. І сонца ёй было тут удосталь, і дажджавой вадзіцы хапала, ды ніхто знячэўку і стаптаць не мог. Расла сасоначка ў зацішку, цягнулася да неба, туды, дзе начамі плоймай высяваліся зоркі, дзе месячык пастухом-бацькам праходзіў між імі. Часам здавалася сасоначцы, што дагоніць яна старэйшыя дрэвы, перарасце і выпрастае вершаліну над усім лесам. Тады ўжо ніводная птушка не міне яе вершаліны, каб на хвілінку не прысесці, склаўшы крылы, не паглядзець у бясконцасць ды парадавацца жыццю. Якое ж яно, жыццё, нехопнае, шырокае і бяскрайняе, радаснае і шчаслівае. А магутныя вятры-буraломы ды злыя спякоты — часовае. Усё гэта мінае, і зноў застаюцца шаравата-блакітныя ліпеньскія вечары, майскія спевы птушак, куванне самотнай зязюлі, вэлюм празрыстага туману, які прыходзіць з грыбнымі дажджамі з далёкіх і блізкіх лугавін, з ручаёў, крынічных рачулак, аерных балацявін. Жыццё прыгожае і доўгае. Яго ніхто, ніхто-ніхто не можа адняць. І дрэўца жыло кожным днём напоўніцу, узахлёб, не ашчаджаючы сілаў і дабрыні, радуючыся кожнай хвілінцы, кожнаму гуку ў наваколлі. Яна пакуль не ведала, што побач жывуць нястомныя жукі-караеды, што зусім недалёка селішчы людзей, у якіх ёсць сякеры і пілы, што ім трэба будаваць хаты, разводзіць агонь у печах. Але яна, сасоначка, нікога не чапае, жыве тым, што даецца кожнаму бясплатна, спакон веку. Дык навошта быць самотнай? Навошта па начах уздыхаць, рыпець засохлымі галінамі, пабітымі маланкай расшчэлінамі. Трэба кожную раніцу чакаць, калі ўзыдзе сонца, якім яно будзе: празрыста-яркім, сляпучым ці слюдзяніста-бляклым, заплаканым. Расла сасоначка, заглыбляла карэнні ў зямлю, зіхацела сярод бураватых ствалоў залацістасцю здаровай кары... Жыла, расла сасоначка.

Частыя бураломы абміналі закутак гэтага лесу, а калі і наляталі, на зямлю з надрыўным уздыхам лажыліся магутныя, выспелыя дрэвы. А сасоначка расла, расла і радавалася, пакуль цёмнай і мокрай восеньскай ноччу не прыйшло да яе **Нешта**. Яно пасялілася ў карэнні, ствол, галінкі. **Нешта** акруціла

сасоначку, выпіла да донца яе радасць, забрала шчасце, адняло сілу. І пажаўцела, збякла дрэўца, асыпаласяігліца, трэскалася кара, не радавалі сонца, зоркі, неба. Невядомае, чужое **Нешта** сядзела ў сасоначцы, чакала.

Мінула восень, потым зіма, прыйшлі, прыляцелі вясеннія дні. **Нешта** заварушылася, напялася, ды так моцна, так невыносна балюча, што дрэўца сыходзіла рыпам і енкам, як стогадовая высахлая вербіна з падмытым карэннем на сажалцы...

А вось і людзі побач. Валяцца, лажацца на прысыпаны снегам дол старэйшыя сёстры-сасонкі. Мільгаюць сякеры, спявае піла, ды так, аж не чуваць блізкай сініцы.

**Нешта** з усяго ствала сасоначкі: з карэнняў, галінак, сабралася ў самай сярэдзіне, ды такім камяком, што распірае ствол сасоначкі, як гнойны пухір. І вось дрэўца пераломваецца, на яго з усохлай вершаліны давіць другое, магутнае, і ляціць сасоначка стралой на чалавека, даганяе яго, і ўдвух супакойваюцца. **Нешта** вырываецца з дрэўца, ухкае, рагоча, іржэ, зрабіўшы віраж, хаваецца, знікае ў старым, трупехлым карчы.

Змоўклі сякеры, прыціхла піла. А сонца, першае, вясенняе шчодрае сонца, шчыра лашчыць, абдымае ўсё і ўсіх...

* * *

«Ці ты гэта, Іван? Не веру сваім вачам... Я ж сам бачыў, як цябе выцягвалі з возера. Аж на сёмы дзень толькі знайшлі. Няўжо ты мне снішся, сябрук? Прайшло ж нямала часу, а дагэтуль ні разочак ты не прыходзіў да мяне ў сне. А калі папраўдзе, то і не думаў я задужа пра цябе. Шкода было спачатку, а пасля — дзень, два, тыдзень, і жыццё бярэ верх. Сам ведаеш: жывы пра жывое думае. Вось і сёння хадзілі з Іванам Пеpуновым і яго Лёнікам у лес. Хату ён надумаўся новую ставіць. Свой жа, родзіч, як не дапамагчы. Чаго ты моўчкі глядзіш? Скажы хоць слова... Як яно там, ну, на тым свеце? Ці варта баяцца паміраць? Бо колькі ні жыві, а пра яе, смерць-матухну, думаць трэба. Не мы першыя нараджаемся, жывем і сыходзім, саступаем месца другім, нашчадкам нашым.

Але як здарылася, што ты патануў ува ўсіх на вачах ды ніхто гэтага не бачыў?»

«Бедны, бедны Сяргей, ты яшчэ нічога не зразумеў. Хоць і са мною такое было напачатку. Але мінае гэта праз шэсць тыдніц-нядзелек. І ты будзеш вольны, поўнасцю вольны ад зямлі і зямнога. Забудзеш пра тое, мінулае. Пакуль жа, для адвычкі, шэсць нядзель побач буду я, паўсюль. Ты адвыкнеш, паспееш з усімі развітацца. Некага выбераш для сябе, пачнеш яго ахоўваць ад усяго зямнога, усяго злога і брыдкага. Гэта будзе твая нітка повязі з тым, мінулым, з зямным. Але да гэтага пацїху сам дойдзеш.

Слухай, ты ўжо быў над сваім целам? Хутчэй за ўсё не. Як толькі вырваўся, то кінуўся гуляць, так? Разумею, усё паўтараецца. Тады пайшлі».

«Пачакай, Іван, а дзе я?»

«Ты побач са мною, тут. Ну а цела там. Зараз мы і будзем каля яго».

«Дык я бачу ж сам сябе. Якое яшчэ іншае цела?»

«Тваё, тваё, Сяргей. Пакуль ёсць магчымасць, паглядзі, а то больш не прыйдзецца. Схаваюць яго, як хаваюць усіхныя».

«Значыць, я мёртвы, Іван? Але чаму, навошта? Я ж зусім яшчэ не жыў, нічога не бачыў. У мяне ж дзеці. Іх расціць, гадаваць трэба. У мяне жонка, Галя, маладая. Мая ж маці яшчэ жыве. Як ёй вытрымаць смерць маю, Іван?»

«І я некалі хацеў пабыць яшчэ там. Але... Вытрымала мая, то і твая перанясе. Ды і не так гэта важна. Мо некалі... у цябе з'явіцца іншая маці і бацька другі будзе, народзяцца дзеці. Будзе ўсё... Можа, будзе, а можа... Не трэба спяшацца. Што павінна здарыцца, таго не абмінеш...»

«Яшчэ, Іван, скажы, з-за чаго я, ну, памёр?»

«Цябе сіла мінулага забрала. Як і мяне. Не па боскай гэта волі. Толькі хопіць пытанняў. Пакуль не на ўсе і я магу адказаць. Прыйдзе той дзень, і ўбачым мы тое, чаго не бачылі, і пачуем тое, чаго дасюль не чулі.

А цяпер пайшлі, зірнеш на сваё цела. Вядома, калі табе гэтага яшчэ хочацца».

* * *

Кафляныя сцены трупярні. Бялюткія. Столь у трэшчынах з бруднымі, жаўтавата-ржавымі падцёкамі. Высокая лямпачка. Вокны запэцканы белай (праўда, некалі белай) фарбай. Падлога жоўтая, выслана абліцовачнай пліткай, на ёй доўгі чорны шланг, з яго цурчыць вада, збягае па вузкаватай канаўцы ў закратаваны сцёк. Тры высокія, па пояс, кафляныя сталы. Два пустыя, на трэцім поўнасцю голы чалавек. Гэта ляжыць Сяргей Смаляк. У яго пад патыліцай выгабляваны цельпушок з роўнай выемкай пасярэдзіне. Якраз для патыліцы. Цела ўскрыта. Ад самага горла і ніжэй пупка. Узнята чарапная каробка. Левая скроня праломлена. Месца, куды патрапіла сухастоіна. Побач — стары дзядок у брудным халаце. Манатонна-санліва цурчыць вада са шланга. Плямы крыві на кафляным стале зацёрты, але не выцерты. Здаецца, што вакол Сяргея Смаляка нехта рассыпаў спелыя суніцы і, неахайна падбіраючы, падавіў іх.

Дзядок аднекуль з бакавушкі прынёс ахапак старых, падраных прасцін. Паклаў на вольным стале непадалёк ад Сяргея. Цяпер у руках дзядка доўгая, з палец, крывая іголка. Стары адрывае з клубка жоўтую шаўковую нітку, прыплюсквае адно вока і прыладжваецца прасунуць нітку ў вушка іголкі. Нітка не слухаецца нязграбных пальцаў старога, праскоквае міма. Дзядок абгрызае нітку, мусоліць яе губамі і зноў прыжмурвае вока. Ці не на сёмы раз нітка нарэшце ўдзета...

## VI

Хвілін дзесяць таму выйшлі з трупярні судмедэксперты. Сённяшні дзень не раўня ўчарашняму: калючы, сцюдзёны вецер з драбкамі цупкага снегу.

Шышкаўцы стаяць каля дзвярэй трупярні. Побач машына з купленай у райцэнтры трунай. Галя ў чорнай хустцы і такім жа паліто. Каля яе Таццяна Вароніна, Каця Перунова, Валодзяшафёр, Пракопаў Санька і Антон.

— Мужчыны, схадзіце гляньце, калі ўжо можна будзе апранаць Сяргея,— напаўголаса прагаварыла Таццяна, не выпускаючы з-пад рукі Галю.— Адзенне вазьміце ў машыне.

Але ўсе стаяць, быццам прымерзлі да асфальтаванай сцежкі.

— Ну што вы за людзі? Чаго баіцеся? Калі б можна было мне, бабе, я вас не прасіла б,— Таццяна сказала гэта задзірыста, з папрокам.— Не прынята ж, каб абмывалі і апраналі мужчыну бабы. Ці мо ўпершыню пра такое вы чуеце?

Першы зрушыўся Валодзька-шафёр, за ім Санька.

— І я пайду з вамі,— ледзь чутна падаў голас Антон.

— Нельга табе, дзетка. Маладзенькі ты дужа,— Каця Перунова ўсхліпнула.

— Я мужчына, і я пайду.

Усе пераглянуліся.

— Няхай ідзе,— неяк абыякава згадзілася Галя.

Здушлівы, цяжкі пах. Пасля вуліцы ад яго запірае грудзі, кружыцца галава. Антон глядзіць на бацьку, на распаласаванае цела. І чым больш узіраецца, тым больш здаецца, што бацька дыхае, ён спіць. Вось толькі недарэчны, страшны парэз праз усё цела. Ён ніяк не сумяшчаецца з бацькавым сном...

Дзядок піхае ў бацькава цела падраныя, старыя прасціны. Адну за другой. Яны хутка чырванеюць. На іх адразу ж кладзецца наступны кавалак, яшчэ і яшчэ. Вось і ўвесь парэз усланы. Дзядок бярэ вялікую крывую іголку, жоўтую шаўковую нітку. Раз-пораз спрабуе прадзець нітку ў вушка іголкі. Доўга яму не ўдаецца. Стары тыльным бокам далоні папраўляе акуляры на носе. Прымерваецца, і іголка сцягвае страшны парэз на бацькавым целе ў тоўсты рубец.

Усе маўчаць. Маўчыць і Антон. Дзядок спрытна сноўдае іголкай. Сяргею Смаляку не баліць... Вось і зашыта цела. У ім ахапак старых, падраных прасцін.

— За работу, мужыкі, трэба хоць пляшачку,— гэта дзядок да шышкаўцаў.— Мальца б вы не пускалі сюды, рана яму яшчэ. А ўрэшце, вам відней. Ну дык як, будзе пляшка? Я зашыю галаву і заадно памыю, га?

— Будзе, дзядзька, будзе,— азваўся Санька і выйшаў на вуліцу, да жанчын.

Стары перайшоў да галавы Сяргея. У цьмяным святле зноў бліскае іголка. Антон не спускае вачэй з твару бацькі. Пры кожным узмаху рукі дзядка бацька ўсміхаецца. Усмешка чу-

жая, не яго. Бацька ніколі так не рабіў. На лбе аніводнай зморшчынкі. Шчокі ўздрыгваюць, вусны расцягваюцца, а дзядок спрытна сноўдае іголкай.

Вось у бацькі адплюшчылася адно вока, другое, ён глядзіць на Антона, глядзіць і ўсміхаецца. Хоча нешта сказаць. Вось-вось зараз ён скажа пра ўсё Антону.

«Ну гавары ж, бацька, гавары, я чакаю... Чакаю твайго слова. Адзінага-адзінюткага. Толькі ж у мяне халадзеюць ногі, мярцвеюць рукі. Гавары хутчэй, бацька!»

Антон ціхенька споўз паўз сцяну на падлогу...

Апрытомнеў ён у светлым пакоі. Побач маці і цётка Каця. Пад нос яму яшчэ раз паднеслі ватку з нечым едкім і рэзкім, ад чаго на вачах выбівала слёзы.

— Здароў, салдацік,— усміхнулася Антону маладая дзяўчына ў бялюткім халаціку і з ненатуральна чырвонымі вуснамі.— Як сябе адчуваеш? Падняцца можаш?

— Магу,— выдыхнуў Антон.

Яны падышлі да машыны, калі бацька ляжаў ужо ў труне, прыбраны.

— Вось і ўсё, Сяргейка, паехалі дамоў. Зачакаліся цябе там і матка, і дочкі, суседзі сабраліся, усе чакаюць цябе...

* * *

Няўжо зязюля так рана і гэтай вясной закувала? Праляцела міма іншых селішчаў і вёсак, а ў Шышкаўцы прыпынілася, аблюбавала дальні лясны куточак на могілках. І рана-ранёнька, з расою, кувае яна, і позна, з захадам сонца, усё не сціхае, усё самотную песню вядзе. І не бачна песні гэтай ні канца ні краю. Ды і завошта доля такая спасцігла зязюльку, за якія грахі надрывае яна сэрца. Мо па Божай волі, а мо і па людской узлятае яе голас над цішшу спрадвечных магіл, будзіць, кліча таго, хто назаўсёды, рукі сашчапіўшы, прысыпаны сырой зямліцай, хто вочы змружыў без пары і часу. Гамоніць зязюлька, нагаманіцца не можа з тым, хто маўчыць, каму слова прамовіць няма сілы. Лепш супакойся ты, зязюлечка, не рві аблітае крывёю і слязамі сэрца, а ляці да сваіх дзетак, гадуй ды падымай іх, ад бяды засланяй, цяплом саграваі. І за сябе і за таго, хто спіць сном непрабудным...

## VII

Барташэвічы згулялі заручыны напрыканцы сакавіка. Якраз пасля першага сухога грому на голы лес. Старэйшыя людзі ў вёсцы гаварылі, што гэта на галодны год, маўляў, быць неўраджаіцы. Другія сцвярджалі, што часта здаралася такое, але, дзякуй Богу, усё вырастала як на дражджах.

Надзька толькі падмяла ў хаце, выпаліўшы печ, узяла вёдры і пайшла да недалёкага, Цімохавага, калодзежа набраць на дзень вады. Яна ўжо налівала другое вядро, калі падышла Дуняша Філіна.

— Добры дзень, цётка.

— Здаровенька будзь, дзеўка. Што новенькага чула ці бачыла?

— А ўсё па-старому, як учора і пазаўчора.

— Я б так не казала. Мы ж во збіраемся нявестку ў хату прывезці. Ці пагаворваюць пра гэта бабы?

— Гаварыць шмат пра што гавораць, толькі ж усяму веры не будзеш даваць.

На хвіліну жанчыны прымоўклі. З другога канца Шышкаўкі, ад могілак даляцела прыцішанае ветрам галашэнне.

— Бедная Галя,— уздыхнула Дуняша.— На пахаванні ў яе слязінкі не было, а цяпер во і ранкам, і вечарам да Сяргея ходзіць, сэрца рвець.

— Аcьфу на яе. Хутчэй здохне. Адурыла яна галаву. Равець, як карова за быком. Ці ж та ў людзей не паміраюць? Я праўду кажу, Дуняш?

Філіна змоўчала.

— Майго Івана ўрагі гэтыя, Смалякі, на той свет звялі, во і расплочваюцца. Нічога дарам не мінае. Не, нічога.

— Я дык, цётка, другое чула,— няўпэўнена пачала Дуняша.— Людзі па вёсцы пагалоску пусцілі, што вы на Сяргея сілу чорную навялі, ад вашых рук ён знябожыўся. Да нейкага дзеда ў Хоцімск ездзілі, адтуль усё і пайшло. І Галя ці не ў пятніцу хадзіла да далёкай варожкі, тая баба, нічога не ведаючы пра Шышкаўку, усё чысценька расказала і апісала цябе, цётка, і ваша дворышча. Усё-ўсё, да драбніц,— так гаварыла Таццяна Вароніна на рабоце. А дзе тут праўда ці хлусня — мне не рашаць. Ага,

ледзь не забыла. На пахаванне, цётка, ты ж не хадзіла, так? Ну дык во.Варожка прадказвала, што калі б пайшла, то там, у хаце Смалякоў, і засталася б.

Надзька задумалася.

— А яшчэ, Дуняш, што языкамі мелюць?

— Галі падказалі страшнага, чорнага чалавека, да яго збіраецца яна ехаць... Чуе маё сэрца — будуць яшчэ слёзы ў Шышкаўцы.

— Сплюнь ты, аглашэнная,— цыкнула на Дуняшу Надзька.— Няхай паміраюць ужо тыя, каму час прыйшоў. Пабегла я, некалі язык часаць з табой.

«Бач, сцерва, захвалявалася, замітусілася. Праўду ж гавораць — дыму без агню не бывае. Сёння ж бабам на рабоце перакажу гаворку. Няхай усе ведаюць»,— Дуняша задаволена ўсміхнулася.

Цэлы дзень Надзька не знаходзіла сабе месца. Пасварылася з Петраком. Выгнала з хаты Матруну, якая прыйшла з тымі ж навінамі, якія пачула яна ад Дуняшы. Незразумелая трывога білася ў душы, што мятлушка за акном. Больш за ўсё баялася Надзька за Петрака. «Ён жа зусім неразумны, аблавушка. Падсуне яму старая Смалячыха Марфа ці сама Галя нагаворнага зелля са стограмоўкай, і ляснецца чалавек, за дзень счарсцвее і ссохне. Петраку абы чарку паказалі, ён і гатовы. Слабы чалавек — не адмовіцца.

Трэба яму сёння ж у вушы ўкласці, каб нічагусенькі ад Смалякоў і іх родзічаў у рукі не браў... А ці не схадзіць вечарком да іх дамоў. Пагаворым. Дзе трэба і слязу пушчу. Няўжо Смалякі не зразумеюць мяне? Я ж таксама Івана пахавала па іхнаму наветy. Трэба схадзіць, пакуль не позна. У мяне ж і Косцік застаўся, пра яго думаць трэба. Ды і вяселле хутка... А ў наступную нядзелю, тайком, з'езджу ў Хоцімск да дзеда. Няхай чым можа, тым і бароніць. Любой капейчыны не пашкадую. Толькі б помач даў, бяду адвёў. Я ж сама ўсё, што магла, ведала — скарыстала...»

Гадзін у пяць вечара прыехаў Косцік. Як толькі зайшоў у хату, адразу ж зняў з пляча сумку, расшпіліў яе і выпусціў на падлогу ладнаватага шчанюка.

— Глядзі, мам, якога красаўчыка прывёз. Адзін у адзін як наш папярэдні сабака.

Надзька зірнула і ледзь не абамлела. На яе глядзеў забіты ёю сабака, і ў яго вачах была не шчанюкоўская помслівая радасць.

— Выкінь, зараз жа выкінь гэту заразу з хаты! — немым голасам закрычала жанчына.— Каб духу ягонага на дворышчы не было.

— Лячыцца, мам, табе трэба,— з дакорам прамовіў Косцік.— Я ж спецыяльна шукаў падобнага, хацеў як лепш, а ты...

— Яшчэ раз паўтараю: знясі з двара яго! Зараз жа!

— Як хочаш. На яго знойдуцца людзі. Пайшлі. бяздомны,— Косцік загроб шчанюка ў сумку. Сабачанё ўжо з сумкі акінула позіркам Надзьку і ашчэрылася чорнай зяпай.

* * *

Марфачка басяком перайшла Сож. Снег напачатку студзіў ступакі, а вось лёд — апякаў падэшвы. Худзенькі льняны пінжачок падбівае ветрам, у валасах снежная пацяруха — хусцінка на шыі. Спаднічка, пафарбаваная карой з алешыны, прыкрывае лыткі ног, ім цяплей, а рукі можна і пад пахі схаваць. Цяпер во і нагам не зябка. Яны зайшліся ад холаду, адзеравянелі, можна ісці колькі хочаш. Ужо на другім беразе Гайшын з гаспадаровай хатай. Яна ж старалася, старалася Марфачка, прала кудзелю, выводзіла, выскубала тонкую нітку. Аж не, гаспадыня пачала скручваць ніткі з клубка на матавіла, а яны рваліся, што павуцінне ад буйных дажджын. Гаспадыня біла Марфу-Марфачку верацяном, а пасля і матавілам. Вырвалася дзяўчо на вуліцу — у снег, у завею. Уцякаць, бегчы куды вочы глядзяць, абы далей, толькі б схавацца. Доля наймічкі ў восем гадкоў нішчымная, горкая, слёзная. А колькі не даедзена, шчэ болей недаспана. Яшчэ трохі пройдзе Марфачка, і ў лазовым кусце, каля дубняку, можна перадыхнуць. Не дагоніць наймічку-сірату гаспадыня, не схопіць яе за худзенькую, тонкую касу, і не будуць больш пальцы аблазіць ад кудзелі. Ці ж Марфачка вінаватая, што кудзеля згніла, што рвецца з яе нітка.

І чаму, дзеўчанё ты горкае, не сышла з дарогі, глыбей у сумёты, далей за дубняк? Не дагнаў на кані цябе б гаспадар, не

адвёз, не вярнуў у хату. Укрылася б снегам ты пульхным і цёплым. Заснула б ціхутка пад песню сівой завірухі. Колькі гора пазбегла ты б, Марфачка. І ніколі б не стала Смалячыхай, не ўбівалася б слёзна па сыне сваім. Бо нітка жыцця рвецца хутчэй павуціння. «А як жа ўнукі?»

Яны б пачакалі прыходу свайго... Зіма і галодны воўк.

## VIII

Марфа з Галяй лушчылі струкі мінулагодняй фасолі. Сабралі іх з восені ў кошык ды і паставілі ў прылазніку на дошкі. Будуць вальнейшымі рукі, дойдзе і да іх чарга. Толькі доўга чакаў кошык, пакуль знялі яго. Струкі аж пачарнелі ад пылу і дымнай копаці. Усё роўна як Смалякі абкурылі іх махныткамі гарэлых смалякоў. Антон з сёстрамі каля стала гарталі кніжкі.

У дзверы нясмела хтосьці пашкробся. Ляснула клямка, і праз парог паказалася галава Надзькі Барташэвіч.

Галя напачатку аж прыжмурылася — ці не падалося гэта ёй? Марфа прыўзнялася з услончыка.

— Ці можна да вас у хату? — украдліва папыталася Надзька.

Ёй ніхто не адказаў.

— То я зайду, калі ўжо адчыніла.

І зноў маўчанне.

— Дайшлі да мяне чуткі, што за смерць Сяргея на мяне віну ўзводзіце. Што быццам я са свету яго звяла ў помсту за Іванаву канчыну. Дык я і прыйшла сказаць — душа мая чыстая. (Надзька правую руку не вымала з кішэні і моцна сціснула пяцярню ў кукіш.) Вы самі ведаеце, як у людзей языкі свярбяць, яны іх і чэшуць плёткамі. Няма сакрэту ні для каго, у якой любові сем'і нашыя жывуць. Вось яны і ўзводзяць напрасліну. Мірыцца нам час прыйшоў, а не варагаваць.

— Хацела я цябе, як толькі ўгледзела, за парог вытурыць, але дужа складна пачала ты гаворку, — нарэшце азвалася Марфа.— Праўду кажаш, балюча мне за сына, як і табе за свайго. Многае людзі гавораць і пра featureзнае — ім не забароніш.

— Праўдачку кажаце, цётка Марфа. Людзі цяперака злыя, не раўнуючы сабакі,— Надзька ўзгадала ашчэраную пашчу шчанюка і прымоўкла.

— Няхай будзе па-твойму. Калі з мірам ты да нас, то і мы да цябе,— Марфа зірнула на нявестку. Галя не адрывала вачэй ад кошыка з фасоллю.

— Мой дзед, пухам яму зямля, разумны, відушчы чалавек быў. Вось ён мяне і вучыў: калі злобы, бяды адзін аднаму не рабіў, калі напраслінай цябе аблілі, то збярыся з тым чалавекам разам, памаліся, стоячы перад абразамі на каленях, і пераламайце ўдвух асвечаную ў царкве грамнічную свечку... Я гатова зараз жа з табою стаць вось тут на калені. Антон,— звярнулася Марфа да ўнука,— дастань, дзетка, за іконай самую вялікую свечку, падай яе мне.

Надзька збялела. Чаго-чаго, а гэтага яна аніяк не чакала. «Што рабіць? Як выпутацца? А калі і праўда сілу мае выдумка старой? І ці выдумка гэта?»

— Хадзі ў кут. Станавіся побач са мною.— Марфа апусцілася на калені перад абразамі.— Бяры правай рукой адзін канец свечкі.— Смалячыха чакала. Надзька ж ад парога не зрабіла і кроку.

— Чаго стаіш там? Баішся? Я ж буду клясціся сама сабою, вось імі, чыстымі душамі ўнукаў, а ты сабою і сваім сынам. Ну, хадзем жа! — Вочы ў Марфы засцілала слязамі. Надзька, ні слова не кажучы, крутнулася на месцы і, ляпнуўшы дзвярыма, выскачыла ў сенцы.

Свечка ў руках Марфы засталася незламанай...

* * *

Пасля Сёмухі касілі сена. Першы ўкос. Дзяўчаты зграбалі і клалі ў невялікія копкі, а хлапчукі на конях сцягвалі ў кучы, якія мужчыны ўжо скідвалі ў стагі. Пасля абеду на прырэчнай лугавіне стаяла пяць вялікіх стагоў, кожны ці не на карову. Узяліся за шосты. Галя ўпарылася. Але што гэта для маладой дзяўчыны? Ускочаць разам з дзяўчатамі ў глыбакаваты вір рачулкі, разок, другі акунуцца, і сіла, спрыт ды моц — на месцы. Вечарам жа ігрышча — гармонік, танцы. Толькі б хутчэй завяршыць пяты стог.

Зарабіліся так, што не заўважылі, як нацягнула хмару, як схавалася сонца ў цёмным небе. І толькі калі рохкнуў гром далекавата, праз хвіліну бліжэй — спахапіліся. Але ўжо вось пярун б'е наадмашку, а маланкі быццам гадзюкі на Здзьвігі пераплятаюцца між сабой — усе кінуліся хавацца ад навальніцы ў складзеныя стагі. Дзяўчаты гуртам пабеглі ў дальні, а Галя замарудзілася. Зачапілася граблямі за купіну, тыя і саскочылі з грабільнішча. Даганяць дзяўчат позна — вымакнеш да апошняй ніткі, і Галя ўтачылася ў стог да хлапчукоў, які быў за пяток метраў ад яе. Неба шкуматалі маланкі на палосы і палосачкі, пярун не змаўкаў, біў па зямлі як у апошні дзень перад Страшным судом. Нават хлапчукі вакол Галі маўчалі, прыціскаліся да яе. І раптам нехта адзін з іх ускрыкнуў: «Глядзіце, стог гарыць!»

Так, там былі дзяўчаты. Іх, шасцярых, прывезлі абпаленых на павозках у вёску. І іхнія бацькі распазналі дачок па кавалачках недагарэлых сукенак...

## IX

Надзька рыхтавалася да вяселля. Пасля Радаўніцы і збіраліся Барташэвічы яго справіць. Косцік ездзіў аж у самы Магілёў па новы касцюм. Пятрок, хлебануўшы лішнюю чарку самагону, хваліўся вяскоўцам, што сын не абы-якую жонку выбраў, а дачку вялікага, ці не самага першага, раённага начальніка.

Дуняша Філіна і тут не маўчала. Ледзь не кожнай жанчыне каля калодзежа яна па сакрэце гаварыла:

«Думаеце, сам Косцік такую дзеўку адшукаў? Ыгы, укусі сябе за локаць. Надзька, ведзьма гэтая, сына на след навяла. усё чысценька не божацкай сілай зроблена. Папомніце маё слова». Дуняшы падтаквалі, а кожны думаў па-свойму.

Адна Надзька нікога не слухала. Яна паспела зрабіць са старых падушак пярыну на ложак маладых, пераклеіла з Матрунай шпалеры ў хаце, пабяліла печ і грубку, гальнём і мылам вышаравала да жаўцізны столь, за падлогу пакуль не бралася. Карцела ёй перад вяселлем пафарбаваць яе. Косцік з Магілёва якраз прывёз дзве бляшанкі кідкай фарбы.

Барташэвічыха старалася не ўзгадваць пра наведванне Смалякоў, адганяла з успамінаў свечку, якая не-не ды і ўзнікала ў яе перад вачыма.

Неяк Надзька раніцай, калі Косцік збіраўся на работу, ла-годна загаварыла:

— Слухай, сынок, а мо справіць бы нам вяселле на трэці дзень Пасхі. У нас усё ўжо гатова. Толькі парсюка прышчаміць, і хоць сёння людзей за стол збірай.

— Мы ж дамовіліся пасля Радаўніцы, мам. Чаго табе не церпіцца. Некалькімі днямі раней ці пазней, якая ўжо розніца. Пабудзе ў хаце нявестка, не бойся.

— Ага, не бойся, а ці спадабаецца? Яна ж вунь якая цаца. Нам не раўня.

— Я ж табе дзесяткі разоў гаварыў — месяц, два пабудзем тут, а пасля пераедзем у райцэнтр. Будзем жыць там.

— Табе відней, дзетка,— уздыхнула Надзька.— Глядзі сам, як лепей.

* * *

У панядзелак, перад Радаўніцай, Антон пазней заўсёдняга ішоў са школы. Не паленаваўся, зазірнуў у лес, на тое месца, дзе не стала бацькі. Там цяпер уздымаецца вялікі дубовы крыж між сасонак. Паставіў яго Іван Перуноў.

І сасоначка-сухастоіна побач з крыжам ляжыць. «Навошта вырасла ты, дрэўца? Чаму зямля выпусціла цябе? Ніхто — ні звер, ні чалавек — не стаптаў, калі была ты яшчэ малюпасенькая, калі капыт лася ці казулі мог увагнаць цябе ў іглiцу, зламаць... Усё інакш склалася б. І не стаяў бы крыж цяпер сярод лесу, і не было б на маёй галаве сівых валасоў, якія кожны дзень мамка вырывае, а іх не меншае... Я вечарамі, на падсохлай ужо зямлі, гуляў бы з хлопцамі ў футбол, а цяпер няма калі. Адзіны мужчына я ў хаце. Раней не ведаў, што столькі трэба ўсяго рабіць. А бацька неяк паспяваў, усё дагледжаным стаяла, паўсюль парадак. І не паеду я ані да якога дзядзькі, не буду бульдазерыстам. Жыць мне тут, дома. Памагаць мамцы і бабулі гадаваць сясцёр. Яны ўсе без мяне прападуць... А мо і праўда — Барташэвічы наслалі на бацьк-

ку смерць? Яны адабралі яго ў нас? Каб жа я мог чым-небудзь ім адпомсціць. І дзе, адкуль узяць тую сілу, якая б секанула іх? А то яны да вяселля ўжо трахтуюцца-рыхтуюцца. Толькі Косцік у Барташэвічаў добры. Ён і на машыне заўсёды падвозіць, семкамі частуе, калі ў яго ёсць. Надзька ж з Петраком — ворагі. І баба Марфа з мамкай так кажуць. Бокам абыходзяць Надзьку ўсе, а я не баюся. Да мяне не падступіцца ёй, не ссекчы — я апошні парастак са Смалякоў».

* * *

Пад канец лістапада моцна прыціснулі халады. Снегу яшчэ не было, а вось азярына-копанка за агародамі зацягнулася лёдам. Разлезлую зямлю пасля дажджоў сцюдзёная зябкасць скавала, зацэментавала так, што пры вялікім жаданні лом не ўваб'еш. Антон ішоў за бабай Марфай, якая несла на каромысле саматканыя дарожкі-палавікі, а ў левай жа руцэ трымала бітончык з кіпнем. Антон памагаў — нёс гнёткі пранік.

Сяргей Смаляк незадоўга да гэтага прасек на азярыне-копанцы ладную панеўку. Марфа і несла вымыць, адбіць пранікам палавікі.За восень, капаючы бульбу, іх утапталі так, што і не разбярэш, якога колеру дзе стужка.

— Не паслухаўся, прасіла ж застацца дома, у цяпле, каля печы, ат не, прывязаўся следам. Пакуль з палавікамі спраўлюся — сусолкай станеш,— Марфа ўшчувала Антона. А яму што? Чатыры гады — на вуліцу магнітам цягне. Хочацца пакоўзацца на гладкім лёдзе. Калі яшчэ такое надарыцца — аднаго ж не пусцяць.

Вось і азярына. Вада ў панеўцы чорная, цягучая. Здаецца, усунь туды руку і вада смалой пацягнецца за пальцамі. Толькі ж Марфа не баіцца вады. Пад дню шчам бітончыка плавіцца, растае лёд. З краю, сярод ледзяной пацярухі мокнуць палавікі, Антон тут жа, побач, коўзаецца па люстраной гладзі. Моцна адбівае ўдары пранік. Пырскі снапкамі разлятаюцца вакол, а праз нейкую хвіліну яны празрыстымі каралямі завісаюць на Марфінай спадніцы, праз мірг вока бялеюць, іх ужо нельга абтрэсці — зніталіся, прыклеіліся

яны да спадніцы. Раз-пораз, па чарзе, кабета абмоквае чырвоныя рукі ў бітончыку. І з новай сілай разлятаюцца пырскі з-пад праніка.

Перадапошні палавік Марфа склала гармонікам, адвярнула ад панеўкі, каб адцягнуць яго далей — няхай крыху сцячэ вада. Праз некалькі ўздыхаў азірнулася, ды няма Антона. Акінула вачыма копанку — пуста. Паклікала — цішыня. І ойкнула, ахапіўшы ўкрадлівым позіркам панеўку. Над вадой парасончыкам уздуўся Антонаў палітончык. Марфа абедзвюма рукамі ўхапілася за паясок-хлясцік — вышмаргнула ўнука на лёд...

* * *

**Нешта** не знаходзіла сабе месца ў старым, трупехлым карчы. Мулка, няўтульна. Без дай прычыны сядзіць **Яно** ў гнілаватай хованцы. Сілы няма да каго прыкласці. Ці ўжо забыліся, што **Яно**, **Нешта**, не ўсё яшчэ зрабіла і здзейсніла. Не для лянівага ж лежбішча выпушчана **Яно** ў белы свет. Надакучылі мышы, якія гняздо пад карчом зрабілі, галапузую плойму вывелі — піск, валтузня, няспыннае шорганне. Пры такім бязладдзі і ўладарнага голасу гаспадара не ўчуеш. Але **Нешта** ведае: хутка зноў работа, будзе новае жытло, сапраўднае, цёплае, жывое. Толькі цярпенне канчаецца ўжо. Хутчэй бы...

«Гаспадар!»

«І падыходзіць ён, бязгрэшны, чысты, свежы. Праз болю пісягі адкрыта сэрца ў яго. А неакрэплая душа, як гліна, вymешаная мною. Ужо загарэўся помстай позірк. Ён, **Нешта**, твой. У ім той гляк, дзе ты замесіш зелле на сем каленаў роду напярод. Ускоч у яго, хлапчына зараз побач».

Антон стаіць каля зламанай бядовай сасонначкі-сухастоіны. «І дзе, адкуль узяць тую сілу, якая б секанула іх? А то яны да вяселля ўжо трахтуюцца-рыхтуюцца».

Зашчымела сэрца, пацямнела ўваччу Антона. «Не бойся, зараз міне».

— Хто тут? — Антон азірнуўся. Нідзе нікога. Толькі вялікі дубовы крыж і лес. Лес і ён. «Твой сябар я. Сіла, якой хацеў».

— Навошта?

«Каб помсціць».

— Каму?

«Сам ведаеш. Ворагам роду вашага».

— А як?

«Цяпер і навучу».

## X

Шышкаўцы на Радаўніцу ўсёй вёскай ішлі на могілкі. У хатах не заставалася аніводнага чалавека. Нават нямоглых, хворых прывозілі на падводах, а калі траплялася машына, то і на ёй. Адзін раз на год, у гэты дзень, збіраліся ўсе вяскоўцы разам. Прыходзілі не толькі да тых, каго ведалі, а і да незнаёмых, каго ніколі пры жыцці не бачылі. Пасля полудня могілкі бялелі ад саматканых абрусаў, ручнікоў і фартухоў на крыжах. Апранутыя ў самае лепшае мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці збіраліся гуртамі, купкамі, гаманілі, успаміналі, пераходзілі ад адной магілы да другой, здароўкаліся з парослымі травой курганкамі зямлі, той-сёй крадком выціраў слязіну на вачах.

Галя, Марфа і дзеці сядзелі каля Сяргеевай агароджы, сям'я Барташэвічаў непадалёк, там, дзе пахавалі Івана. Надзька скоса пазірала на Смалякоў, на іх самотныя твары. І ёй было нуднавата і трывожна, але гады прыгладзілі, зацягнулі рану на душы і сэрцы. Не так яна вярэдзіла і даймала, як Смалякам.

Бліжэй да вечара, нагаманіўшыся, добрым словам успомніўшы нябожчыкаў, людзі ўзбоч магіл рассцілалі некалькі спецыяльна прынесеных абрусаў, даставалі з пакункаў бутэлькі з гарэлкай і ядой,— запрашалі да стала спачылых родзічаў...

Разыходзіліся па хатах пазнавата, ці не разам з заходзячым сонцам. Антон не пайшоў дамоў разам з усімі. Ён цішком схаваўся ў недалёкім ад могілак ельніку, затаіўся, назіраў. Добра сцямнела, калі навокал усё сціхла. Нарэшце ён выйшаў з хованкі, пералез праз дашчаную агароджу і, абыходзячы магілы, накіраваўся ў самы глухі куток могілак. Потым спыніўся, сарваў са старога крыжа фартушок, прыгнуўся і з ледзь бачных, прыгладжаных часам, курганкоў магіл узяў пяць

шчэпцяў зямлі, акуратна высыпаў іх у фартушок, не азіраючыся, пайшоў прэч.

Толькі каля самай вёскі Антон прыцішыў хаду.

«Цяпер ідзі на ўзлесак, да высахлай асіны. Пад ёю закапаны сабака. Вазьмі і адтуль шчэпаць зямлі, змяшай з той, што ў фартушку, і толькі тады... Чаго трасешся? Боязна? Але ж ты хацеў помсціць. Прыгадай бацьку. А мо забыў ужо!»

— Усё я помню.

Антон асцярожна, прасунуўшы ў шчыліну сагнуты цвік, адчыніў фортку на дворышча Барташэвічаў. Тры разы абышоў ён вакол хаты, і лёгкі жоўты пясок трыма ланцугамі акруціў, сціснуў яе...

## XI

Смалякі толькі селі снедаць, як у хату заскочыла Таццяна Вароніна. Не вітаючыся, паспешліва абцягнуўшы спадніцу на каленях, яна выдыхнула:

— Разбіўся Косцік Барташэвіч. Сёння, толькі што. Ехаў на работу і перакуліўся з машынай у канаву. Мёртвага павезлі ў райцэнтр.

— Я гэта ўчора яшчэ ведаў,— абыякава, быццам сам сабе, прагаварыў Антон.

* * *

Нешта ў слове. Слова ў нечым. Мы па-за ўсім...

# РАСПЯЦЦЕ,
# альбо
# Ці ж баліць галава
# ў вароны...

Ён зайздросціў вароне і другі тыдзень запар піў. У горадзе, здаецца, не засталося ніводнай піўнухі, каля якой не сядзеў бы ён з трохлітровікам смярдзючага, як бычыная мача, пойла. Звычайныя сталі тлумны хмель у галаве і бязладныя чэргі сінюшных алкаголікаў. І ён, Андрэй, стаў ужо для іх сваім. Але хлопец зайздросціў вароне — шэрай, някідкай і бруднай вароне, у якой толькі і турботы, што корпацца ў сметніцах ды заглытваць шчодрыя кавалкі недаедкаў. Вароне не хочацца піва, яна не шукае гарэлкі. Гэтая птушка не тырчыць каля таксафона, не абзвоньвае знаёмых, каб перахапіць сотню-дзве рублёў — у вароны не баліць галава. Галоўнае ж, яна не шукае ўнутранага суладдзя... А-а, вось і падышла Казіміраўна. Ні слова не кажучы, садзіцца каля Андрэя і адсёрбвае з ягонага слоіка піва. Затым няспешкі корпаецца ў кішэні і дастае загорнуты ў паперчыну селядзец.

— Брыдка ўжо глядзець на ўсё гэта,— бубніць яна сабе пад нос.— Тут усе морды на адно ліцо, няма на кім і вока супыніць.— Маўчыць нейкую хвіліну, ірвучы селядзец, што тую гнілаватую анучу, на кавалкі.— Бяры еш,— гаворыць яна Андрэю і падае шматок рыбіны.— Усё п'еш, глядзі-глядзі, дап'ешся. Будзеш як яны,— тыцкае Казіміраўна рукою на чаргу,— як я,— гэтыя словы прагаворвае яна больш прыцішана.— Згубіць сябе, хлапец, няцяжка. Гэта тое ж самае, што два пальцы за вуглом абмачыць.

Андрэй маўчыць. Ён напаўвуха слухае апухлую Казіміраўну і шукае вачыма варону — тая цягала па бруднай асфальтаванай сцежцы абсмактаны шкілет рыбіны.

— У цябе што, язык прысох да нёба, га? — Казіміраўна локцем піхае Андрэя ў бок.— Вось я пахавала двух сыноў. Тады ўпершыню і напілася. Быццам лягчэй было. Прыйду з працы — вып'ю некалькі чарачак, і сэрца мякчэе, не такое каменнае становіцца. Здаецца, што мой Колечка з Мішкам у другім пакоі сядзяць ці выйшлі на нейкую часіну ў горад. Сяджу я і чакаю, так за сталом, бывала, і засынала. А зранку зноў душа баліць. Іду на завод, пагляджу на аднагодкаў маіх хлопчыкаў і нічога больш не бачу праз слёзы — як туманам усё зацягнута.— На вачах Казіміраўны нагарнуліся слёзы, буйныя і ядраныя, што тая раса на ранішніх прырэчных травах.

— Вунь яны ходзяць, коса пазіраюць, смяюцца з алкаголікаў,— гэта Казіміраўна пра прахожых,— а не ведаюць аднаго: гора кідае чалавека ў гэтую багну. Адныя, хто мацнейшы духам,— выбіраюцца, а другія па макаўку застраюць. Ніхто са шчаслівых піць не будзе. Гэта кажу я табе, хлопчык. Глядзі, глядзі, вунь Манька ідзе,— захвалявалася Казіміраўна.— Трэба адагнаць гэтую сцерву, а то, калі прысядзе, усё высмакча за пяток мінут, як той насос усё роўна. Ты гыркні на яе. Мне ж няёмка, тады-сяды разам чарку біром,— кабеціна крутнулася ў другі бок, але Манька, відаць, заўважыла яе. Абмінаючы людскія купкі, Манька шыбавала да Андрэя.

— Авой, гляджу, быццам нехта знаёмы. Аж то Казіміраўна прыладкавалася ўжо,— не вітаючыся, адным дыхам пратараторыла.— Зранку ў горле сушыць, так ужо сушыць, аж знемаглася. Хлопча, мо даў бы глыткі два сёрбнуць. У мяне дужа ж прыгожая дачка, дасць Бог і раднёю будзем. Ці праўду я кажу, Казіміраўна?

— Во ўжо ў каго язык, што той вятрак,— раздражнёна буркнула Казіміраўна.— Ад цябе нідзе не схавацца, паўсюль выгледзіш сваімі тэлескопамі. І так у саміх ледзь на дне засталося. Табе тут і на паўглыта не будзе.

Андрэй моўчкі ўзяў з зямлі слоік і падаў новай знаёмай. Казіміраўна незадаволена хмыкнула і яшчэ больш адвярнулася ад Манькі.

— Няхай п'е, я яшчэ вазьму,— каб неяк супакоіць жанчын і не даць успыхнуць сварцы, прагаварыў Андрэй.

— Добры ты хлопец, ой добры,— залепятала Манька, схапіўшы слоік,— сёння я цябе зведу з Люськай, донькай сваёю. Бачу я, што ты пры грашах, то яна табе спадабаецца. Люсьцы маёй пятнаццаты гадок пайшоў. Дзеўка — што тая маліна. Нацешыцеся, ой добра нацешыцеся. Яна ж такая ласкавая, такая ўвішная, яна...

— Ды пі ты ўжо, лярва,— перабіла Маньку Казіміраўна,— у цябе адно ў галаве: абы хутчэй пад каго дачку падкласці. Я б цябе разадрала за гэтае, як жабіну.

— Ты цішэй, Казіміраўна, цішэй. А то равеш на ўсю вуліцу, што тая галодная карова ў стойле. Люська ж мая, і я дабра ёй хачу...

— Якога дабра, Манька? — перабіла Казіміраўна сяброўку.— Ты ж на ёй зарабляеш і на агурок, і на чарку. Зробіш з дачкі такую ж, як і сама б...

— Ну, Казіміраўна, гэта ўжо не табе судзіць. Ты лепш скажы, як цяпер пражыць, каб з голаду не здохнуць, каб не свяціць голымі лыткамі, га?

— Людзі ж вунь жывуць і неяк дзяцей берагуць, не падстаўляюць іх кожнаму, з чыёй кішэні рубель тырчыць.

— Канечне, табе лёгка гаварыць ета. Ты адна і век пражыла свой, а мне таго-сяго яшчэ хочацца. А Люська мая ўжо ладная, няхай і яна капейчыну ў хату нясе. Што ні робіць — усё на маіх вачах, а не так, як той-сёй у падвалах ды завуголлях. Вось скажы: ці дрэнна тое, што я хлопца хачу з ёй пазнаёміць, га? — Манька хіснула галавою на Андрэя.— Хлопец у сіле. То ж будзе і яму ў радасць, і нам на карысць.

Андрэй узняўся, узяў пусты слоік. Казіміраўна з Манькай спалохана пераглянуліся.

— Зараз буду, толькі налью яшчэ піўка,— заспакоіў жанчын хлопец.

Варона некуды зляцела. Як ні шукаў яе Андрэй — не мог нідзе згледзець. Мо паляцела яна да другой піўнухі, дзе не так ашчадна абсмоктваюць рыбіныя косткі, дзе шчадрэйшая і багацейшая публіка... Да акенца піўнога ларка цягнулася даўгаватая, чалавек на пятнаццаць—дваццаць, чарга. Андрэю захацелася пастаяць, і ён прыткнуўся за спінай апошняга. Ім быў дзядок з самаробнай кавенькай у руцэ.

Андрэй думаў. Думаў аб усім і ні аб чым. Але раз-пораз у думкі ўсё роўна ўрывалася Марына.

«Паўтара года разам штодня. Было так лёгка і бесклапотна. Думаў, нарэшце знайшоў сваё, адзінае, на адведзены Богам век, аж не. Усё нашмат складаней, намнога заблытаней. Балюча да помраку ў галаве ўсё ўзгадваць... Вар'яцтва! Д'ябальшчына! Але не і яшчэ раз не! Я таксама маю гонар. Ніколі ні цвярозы, ні п'яны пасля таго здарэння не набяру нумар яе тэлефона. Проста я выкрасліў яго з памяці — выкрасліў! Урэшце — трэба мець мужнасць і гонар. Без гэтага які ж ты мужчына... Кожны з нас, людзей, мае права зрабіць свой выбар, кожны... Шкода аднаго, што з-за гэтага часам руйнуюцца лёсы не толькі асобных людзей, але і цэлых народаў, нацый... Ха, ну і заносіць цябе, хлопец. Але ж чаму заносіць? Хоць бы ўспомні Платона. Ягоную Атлантыду. Там жыццё атлантаў пачало мяняцца з таго моманту, як парушылася дабрадзейнасць, знікла згода між людзьмі, з'явілася сквапнасць, здрада. Вось ужо гэта здрада. Няхай бы гарэла яна сінім полымем... А яшчэ, здаецца, атланты адчулі культ сілы. Платон казаў, што на змену боскім законам прыйшлі чалавечыя. Не, не ўсё так проста, як здаецца, чалавек абавязаны плаціць за свае грахі. Мо я за іх і расплачваюся. Расплачваюся, як атланты, дзеці Пасейдона, расплаціліся перад Зеўсам. Але ж мая катастрофа ў параўнанні з іхняй — мізэр, пшык. У такім выпадку чаму сцвярджаюць, што кожны чалавек з'яўляецца бязмежным сусветам. Значыць, і мая трагедыя — трагедыя цэлага сусвету. Вось так, Марынка, ты прычына трагедыі цэлага сусвету...»

Чарга рухалася вельмі марудна. Увесь час наперад лезлі тыя, хто каля гэтай піўнухі быў «прапісаны» месяцамі, а то і гадамі.

Тоўстая, як парафінам налітая, прадаўшчыца не паспявала складваць у шуфлядку скамечаныя купюры. Піва лілося ракою. Жаласліва дзвінькалі пустыя слоікі, задаволена басілі трохлітровікі з пенкаю праз горла.

— Дакуль у хвасце стаяць будзеш? — шмарганула за Андрэеву руку Казіміраўна.— Людзі пазней за цябе пайшлі да ларка

і ўжо п'юць, а ты? — Казіміраўна не на жартачкі злавалася.— Давай слоік і грошы — я сама вазьму.

Андрэй моўчкі паслухаўся. Казіміраўна параспіхвала нашітых мужчын, прабралася да акенца. Праз пяток хвілін яны зноў сядзелі ўтраіх пад разгалістым дрэвам, на ўгрэтай сонцам зямлі.

Першая прыклалася да слоіка Манька. Піла няспешкі і доўга, з застылай усмешкай у вачах. Нарэшце адарвалася, перадыхнула, цярнуўшы далонню вусны.

— Ух і добра. Але ж півам душы не абманеш. Ці праўду я кажу, Казіміраўна?

— Табе абы хутчэй бельмы заліць. Яшчэ паспееш, дзень жа і да полудня не дакаціўся.

Цяпер піла Казіміраўна: узахлёб і не смакуючы. З куткоў рота сцякалі вузенькія, здавалася, бясколерныя ручайкі.

* * *

Андрэй сумаваў. Ён глядзеў наўкол, а ў вачах быў той вечар: кафэ, ціхая неназойлівая музыка, ветлівыя афіцыянты, ён за столікам у самым кутку, цьмянае асвятленне. Яму добра, бо крышку выпіў і нямашака куды спяшацца. Ніхто не дакучае — ён адзін. Тут цёпла і ўтульна, а на вуліцы халодны і дажджлівы лістапад, голыя і шэрыя да чарнаты дрэвы. Там хрыпаты і студзёны вецер паддзімае пад апраткі, шкуматае нагавіцы, зрывае з галоў шапкі. На вуліцы няўтульна, а тут добра. Але вось да яго афіцыянт падсаджвае дзяўчыну. Яна таксама адна, з выгляду някідкая і апранута не вельмі каб. Няхай сядзіць, што Андрэю да яе. Ён няспешкі пацягваў віно, а яна кактэйль. Маўчалі. Толькі ж доўга так нельга. Проста няёмка.

— Я Марына.

— А я Андрэй.

— У мяне сёння саракавіны па бацьку, і я хачу адна ўспомніць яго. Дужа не люблю, калі за сталом гавораць шмат няшчырых і добрых слоў пра тых, каго няма.— Дзяўчына адпіла глыток з фужэра.— Я зразумела толькі пасля бацькавай смерці, што паважаць і любіць людзей трэба пры іх жыцці, калі гэта ім вельмі патрэбна. А пасля смерці...— Марына цяжка ўздыхнула.

Андрэй не ведаў, што сказаць ёй, і таму згодна кіўнуў галавою.

Так яны праседзелі ўдваіх да закрыцця кафэ. Потым разам паехалі да Марыны. Гэта быў іхні пачатак...

— Слухай, ты што, спіш з адкрытымі вачыма, га? Ну і ёлупень,— Казіміраўна соўгала Андрэю ў рукі напаўадпіты слоік з півам.— Далібог, хлопча, у цябе нешта з галавою. Забудзься ты пра ўсё, бо з горам ці нудою жыць штодня немагчыма — звар'яцееш. Манька вунь ні аб чым не шкадуе, ні пра што ў яе галава не баліць.

— А навошта мне каўтун у косах,— шырока ўсміхнулася Манька, выстаўляючы напаўз'едзеныя зубы,— трэба жыць як набяжыць. Баліць нешта — ты спявай, а калі крыўдзяць — смейся. І Люську сваю я такую ж гадую. Вучу нічагусенькі не браць да галавы. Яна ў мяне ядраная і паслухмяная дзеўка: з паўслова ўсё схоплівае.

— Зноў завялася,— перабіла Казіміраўна сяброўку.— Ты б лепш дачку вучыцца куды адправіла. Што ёй свеціць з васьмю класамі, як будзе зарабляць на хлеб далей? Хоць раз падумала ты пра гэта, Манька?

— Не бойсь, падруг, Люська жыцця хлебанула напоўніцу. Яна-то ведае, што пачым. Ты мне скажы: на якой рабоце можна за ноч паўтары, а то і дзве тышчонкі хапануць? Бачыш — ты рукамі разводзіш, а Люська мая зарабляе. Вось яны, спонсары,— тыцнула Манька ў Андрэя.

— Цьфу ты,— сплюнула Казіміраўна збоч сябе,— гарэць табе, Манька, на тым свеце ў смале.

— Ды пайшла ты, Казіміраўна,— вучыць яшчэ будзеш. Цяперака кожны чалавек жыве як можа, на што здатны. Чэсная мне знайшлася! У самой нябось, як маладая была, то скура гарэла, а цяперака ты праведніца. Помню, яшчэ мая матка гаварыла: не саграшыш — не пакаешся, а не пакаешся — не саграшыш. Так што, Казіміраўна, пакуль можаш — грашы, пакаяцца заўсёды паспееш.— Манька дурнавата хіхікнула.

— Жыццё не мае сэнсу,— нарэшце падаў голас і Андрэй.

Манька з Казіміраўнай прапусцілі ягоныя словы міма вушэй.

* * *

То была сярэдзіна вясны. Яшчэ зябкаватая і гразкая, з бруднымі, падталымі грудкамі снегу на абочынах дарог, у скверыках і парках. Але раніцай, каля дамоў на бязлістых дрэвах, ужо насвіствалі шпакі, весела цвінькалі сініцы.

Андрэй прахапіўся ад тэлефоннага званка. За акном стаяў яшчэ густы прыцемак. Спачатку яму не хацелася падымаць трубку, але тэлефон не змаўкаў, надаедліва звінеў.

«Каб вы спрахлі! І які ідыёт надумаўся такою парою турбаваць? — вылаяўся ўголас Андрэй.— Такі прыемны сон, і вось на табе».

А тэлефон не змаўкаў. Хлопец са злосцю схапіў трубку.

— Алё, алё,— данеслася аднекуль з глыбіні.— Андрэй, гэта ты?

— Так, я. Што здарылася, Марына? Адкуль ты звоніш? Што з табою? — у Андрэя часта забілася сэрца, запульсавала кроў у скронях. Марына ўпершыню званіла яму ў такі час.

— Не хвалюйся. Я з вакзала. А цяпер слухай мяне і не перапыняй. Значыць, так: у цябе засталося сорак хвілін. Толькі сорак і ні на хвіліну больш. Я ўжо ў касе ўзяла два квіткі да Вільнюса. Мы з табою едзем у Трокі. Так загадаў мне сёння бацька ў сне. Больш ні пра што не пытайся. Час бяжыць. Я цябе чакаю.

За ўсю дарогу ў цягніку Марына не прамовіла ані слова. Яна была насцярожаная і непадступная: з глыбокім сумам у вачах і нервова падцятымі вуснамі.

Быў полудзень, калі яны дабраліся да Трокаў. Імжэў дробны і надакучліва брыдкі дождж. Ужо здалёк бачыўся, пасярод возера Гальве, Тракайскі замак. Ён волатам узвышаўся на востраве і здаваўся абыякава-ганарлівым як да астатніх пабудоў горадка, так і да людзей, якія спяшаліся да яго па вузкім драўляным мастку.

На вачах у Марыны нагарнуліся слёзы.

— Некалі мой тата дапамагаў аднаўляць з руінаў гэты замак,— ледзь не шэптам сказала яна Андрэю і асцярожна дакранулася рукою да мокрых цаглін уваходнай брамы.— Учора ноччу мне сасніўся бацька. Ён загадаў, каб я прывезла на ягоную магілу камень з гэтага замка.

Да сённяшняга дня не магу зразумець той паездкі. Трокі... Замак... Сон і... камень на бацькаву магілу. А сум, глыбокі і балючы сум у Марыніных вачах, такі сум бывае, мабыць, толькі ў вачах чалавека, які знаходзіцца перад одрам смерці. Напачатку мне хацелася неяк развесяліць яе, дапамагчы выцягнуць маю любую дзяўчынку з пекла нейкіх успамінаў. Так-так, менавіта з пекла. Хоць я не ведаў ды і не ведаю зараз, аб чым, кім ці пра што яна думала. Толькі ж думы тыя былі для Марыны як сіло, як сувой, яны не давалі ёй дыхаць і глядзець на белы свет...

Божа мой, хто б мне змог адказаць: чаму чалавек, якому падорана, дадзена жыццё, вымушаны штодня, штохвілінна пакутаваць. Ірваць сваё сэрца, як паркалёвую вынашаную прасціну, не толькі з-за сябе, а найбольш з-за іншых, з-за тых, хто поплеч з намі,— бацькоў, якія выпхнулі на свет, сяброў, якім ты нічога не павінны, але якія, як ненажэрныя мурашы, снуюць каля цябе і бессаромна адгрызаюць кавалкі тваёй душы разам з целам. Знаёмыя і незнаёмыя, якім карціць ушчыкнуць бліжняга, паглядзець на ягоныя пакуты і слёзы, на тое, якая ў каго кроў. Чаму так? Чаму? Хто мне адкажа, дапаможа зразумець? Мо вось яны — Казіміраўна, або Манька, ці гэты люд, які, быццам па шчасце, стаіць у чарзе па піва, шчасце... І хто толькі прыдумаў гэтае ідыёцкае слова? Няйнакш нейкі алкаголік. Таму што цвярозы чалавек не ведае ўвогуле, што такое шчасце. Але чаму не? Я ж быў шчаслівы, быў шчаслівы з Марынай. Мне брыдкі пах гарэлкі, смак піва... Тады я быў шчаслівы, а цяпер няшчасны. Відаць, стаў я псіхам. Нармальнаму чалавеку такія думкі не будуць свідраваць мазгі. Відаць, праўда ў тым, што з боллю і ў пакутах чалавек нараджаецца, з гэтым жыве, не вызваліўшыся ад іх, сыходзіць у магілу. Смешна, але не ўсё ўжо так і складана. Ха, бач ты: адкрыў для чалавецтва ісціну. Новаспечаны філосаф і псіхолаг. Брыдка. Глядзі, каб ад самога сябе не званітавала...

— Зяцёк,— гэта ўжо Манька,— можа, зварганім па сотаччы беленькай, га? А то, як мой хахаль некалі казаў, піва піць — толькі член гнаіць. Пуза нальеш поўнае, а ў галаве як было светла-светленька, так і застаецца. Цяперака ж паўсюль у кіёсках

стаяць і «Пшанічная», і «Белая Русь», і яшчэ чортведама якая. Ды і нядорага ж яно. Што для нас гэтыя грошы, праўда, Казіміраўна?

— Яно-то так,— няўпэўнена пачала Казіміраўна,— у мяне ж да пенсіі засталося паўсотні, а яшчэ два тыдні жыць трэба. У цябе, ведаю, у кашальку таксама адзін вецер ды, можа, медзякоў шчэпаць. А з яго,— Казіміраўна паказала вачыма на Андрэя,— скуру здзіраць не выпадае. Няёмка гэта неяк, не палюдску.

— Ай, і чаго ў цябе галава за ўсіх баліць? З хлопцам я неяк сама разлічуся,— Манька загадкава ўсміхнулася.— Ну то як? Возьмем беленькую? Пойдзем да мяне, пасядзім па-графску. Мая Люська таго-сяго згатуе на зуб. Усё будзе, як у лепшыя часы.

Першы падняўся з-пад дрэва Андрэй, за ім паспешліва ўсхапіліся Манька з Казіміраўнай. Калі яны абыходзілі чаргу, нехта з натоўпу гукнуў Маньку. Яна, не ўглядваючыся ў людзей, адмахнулася рукой і прыспешыла крок, вырываючыся ўперад. Але мужчына гадоў пад сорак дагнаў жанчыну і аберуч абхапіў за талію і намагаўся адарваць Маньку ад зямлі.

— А ці ты здурнеў! — жвава адбрыкваючыся, напаўголаса прыкрыкнула яна.— Людзей — што пчол каля вулля, а ён у заігры кінуўся. Адпусці, зараз жа адпусці, а не то хапану пяцярнёй між ног, і будзе яешня.

Мужчына п'янавата ўсміхаўся і з усяе сілы, аж на скронях уздуліся вены, прыціскаў Маньку да сваёй грудзіны.

— Во наляцеў, як коршун на нягеглую курыцу,— раздражнёна падала голас Казіміраўна.— Яшчэ вазьмі ды разлажы яе пасярэдку тратуара, няхай людзі дармовы цырк пабачаць. У вас жа сораму з гульчын нос нямашака. Проста не людзі, а марцовыя каты, глядзець гідка.

— Ды я проста так, дзеля жарту. Гляджу, што некуды мае дзяўчаткі борздзенька пашпацыравалі, дык я і падумаў: а чаму б і мне не прыляпіцца? — выскаляючы зубы, апраўдваўся мужчына.— Учора атрымаў аванс, то хачу вам праставіць. Давайце па куфлю піўка бамбанём, га? У чарзе гаварылі, што сёння яно добрае, не разбаўленае. Сам яшчэ не паспеў

прыгубіць. Зранку па пляшцы віна з суседам высмакталі, а цяперака півам закарцела пабалавацца. То як?

— Што піва? Ну што тое піва? — Казіміраўна з незразумелай для Андрэя злосцю загаварыла да мужчыны.— Ты думаеш, у мяне мачавы пузыр гумавы? Калі так, то дарэмна. Аванс ён палучыў! Шчодры стаў, куфаль піва прастравіць. Ды на паўлітра гэтага пойла мне любы тут дасць! — Казіміраўна махнула галавою на чаргу.— Не, каб пазваў на белую ды горкую, запрасіў пасядзець па-людску, а ён півам тыцкае. Цьфу на цябе! — Казіміраўна плюнула мужчыну пад самыя ногі.

Манька моўчкі папраўляла адзенне. Андрэй абыякава глядзеў навокал з адзіным жаданнем убачыць знаёмую варону. Толькі ж і з гэтага боку піўнога ларка яе не было.

— Міцька, можа, праўда возьмем гарэлкі? Ну, на адну бутэльку грошы ў цябе знойдуцца? Ведаю, што не ўсе жонцы аддаў, прыхаваў некалькі соценных. У нас на адну ўжо ёсць. Гэты хлопец бярэць. Калі пойдзеш у долю, то і табе хоць адну, а трэба браць. Тут жа недалё...

— Ды ну яго ў ж...— перабіла Маньку Казіміраўна.— Яшчэ будзеш, як дзеўку, угаворваць. Няхай душыцца півам.

— Чаго вы ўсхапіліся, як віхор? Слова ўставіць не даеце. Як скажаце, так і будзе.

— Во з гэтага б і пачынаў.

Усе ўчацвярых яны пайшлі праз сквер да бліжэйшых камерцыйных ларкоў, якія гэтым летам запаланілі ўвесь горад. У камерсантаў было ўсё: пачынаючы ад жавальнай гумкі і заканчваючы аўтаматамі Калашнікава і супрацьтанкавымі кулямётамі. Але найбольш у вітрынах зіхацелі, красаваліся рознакаліберныя пляшкі са спіртным. Здавалася, што ўвесь цывілізаваны, ды і не толькі, свет завёз у горад сваю хмельную прадукцыю. І наш народ гуляе. Гуляе пасля доўгага посту. Гуляе, нягледзячы ні на кошт, ні на сваё здароўе, ні на пусты, нішчымны стол. А што рабіць простаму чалавеку? За што зачапіцца яму? Няпэўнасць і невядомасць. Палітыкі дзяўбуцца паміж сабою, як тыя байцоўскія пеўні. Ды пры гэтым яшчэ ўмела снашаюць народ, дураць яго штодня, зацягваючы папругу не толькі на народным жыва-

це, але і на шыі. А цэны? Яны, як блохі ў шалудзівых сабак, штодня скачуць, павялічваюцца, і ўжо, здаецца, ніхто не зможа іх зацугляць. І працуй ты хоць да пасінення, да крывавых мазалёў, да гарба на карку, а атрымаеш капейчыны. Добра яшчэ, калі і гэтыя капейчыны своечасова кiдануць табе, як пан таму жабраку, пра якога столькі напісана ў «геніяльных» творах сацрэалізму. І таму народ п'е, ты п'еш, мы п'ём. Бо хмельнаму не так хочацца есці, яму ўсё роўна, у што ён апрануты, дзе і з кім спіць. А заўтра? Што заўтра? Ай, заўтра будзе заўтрашняе. Ад такіх пытанняў адмахваешся, як ад надакучлівай машкары. Недарэмна ж нехта прыдумаў, што будзе дзень, будзе і ежа. Мо знойдзецца яшчэ нехта сярод чалавецтва, хто зможа некалькімі хлябцамі накарміць тысячы, тысячы тысяч, а то і мільёны. Так што пачакаем, будзем чакаць манны нябеснай.

Няшчадна паліла сонца. Ад растопленага гарачымі промнямі асфальту патыхала цяжкім мазутным смуродам. Ягоны дух забіваў лёгкія, казытаў у насаглотцы, выбіваў з вачэй зусім непатрэбную і няпрошаную слязіну.

Манька абмахвала потны твар пяцярнёю, Казіміраўна ж, натужліва перастаўляючы ногі, пыхкала, як перагружаны паравоз.

Андрэю падалося, што толькі хударляваму Міцьку спякота на радасць. На ягоным загарэлым твары застыла, як маска, шчаслівая ўсмешка. Здавалася, што зараз ён найшчаслівейшы за ўсіх. Андрэю ад ягонай ледзяной усмешкі чамусьці стала не па сабе.

«Топ тваю за нагу. Здаецца, што ён толькі што, кончыўшы, з бабы злез. Проста не ідзе, а ляціць. І спёка яго не душыць. Можа, садануць у рожу, дык разаб'ецца ягоная маска радасці. Ну нельга ж так нармальнаму чалавеку. Псіна! І ад чаго ён такі шчаслівы? А што такога ў гэтым? Будзь шчаслівы і ты. Ага, не можаш, то заткніся. Злоба — найгоршыя лекі».

У камерцыйным ларку, які зусім нядаўна вырас каля найлепшага ў горадзе кінатэатра, яны ўзялі дзве пляшкі «Рускай» і дзве «Даляру». Затым, праціскаючыся праз потна-змакрэлы натоўп на супынку, ушчаміліся ў перапоўнены трамвай. Тут было, не раўнуючы, як у фінскай парыльні. Разморaныя гара-

чынёй людзі, здавалася, сцякалі тлушчам, як скваркі на патэльні ў печы. Усяму целу было брыдка ад староніх дотыкаў. А тут яшчэ лязгат трамвайных колаў. Андрэй страшэнна не любіў трамваі. Асабліва ж пасля таго, як прачытаў раман Булгакава «Майстар і Маргарыта». Калі ён толькі бачыў гэтую страшную машыну, то ў памяці адразу ўсплывалі словы «і пакацілася галава Берліоза».

— Не ўздыхай і не сапі, як падраны кавальскі мех,— гэта Манька да Андрэя,— ехаць яшчэ хвілін дваццаць—дваццаць пяць, і будзем дома.

Андрэй адвярнуў твар ад Манькі. Яму было цяпер усё роўна, колькі ехаць. Прамоклая кашуля прыліпла да спіны, і па скронях сцякалі танюткія раўчукі поту. Яму карцела зараз кінуцца ў халодную ваду рэчкі ці возера... Возера...

Так-так, возера. Трокі, замак сярод возера. Слотны дзень з імжыстым дажджом. Бязлістыя вольхі паўз бераг, нешматлікія гурточкі людзей у замкавым двары, па некалькі чалавек у залах музея замка-камяніцы. Прыцішаная гамонка, абрыўкі фраз на розных мовах. У большасці гэта замежнікі. Ён і Марына каля экспазіцый. Паўасветленыя залы наводзяць на яго, Андрэя, сум, а Марына, здаецца, глядзіць і нічога не бачыць.

Вядома ж, гэты замак некалі аднаўляў яе бацька. Але што ў гэтым такога незвычайнага? Праца як праца — кожнаму сваё. Толькі ж дзіўна штосьці... Шызафрэнічны сон... Камень на магілу. Мабыць, так і патрэбна, бо Марына ніколі яшчэ не зрабіла ніякага глупства.

Яны нядоўга затрымаліся ў замку. Спусціўшыся па драўляных прыступках у двор, скіраваліся да брамы. Дождж пабольшаў. Буйныя і частыя кроплі няшчадна лупцавалі па іхных галовах, па халаднаватых апратках, булькалі ў частых лужынах і канаўках, фантастычна танчылі па азёрнай гладзі. Андрэй наважыўся спыніцца пад каменнай страхой і перачакаць дождж, але Марына, не замаруджваючы кроку, пайшла паўз знешнюю сцяну замка. Яна быццам не адчувала і не заўважала зябкага і брыдкага дажджу. Ёй было нібы ўсё роўна: набрынялыя хмары на небе ці пякучае ліпеньскае сонца. Яму нічога не заставалася, як цягнуцца следам. Дзяўчына не адрывала вачэй ад зямлі. Яна пільна прыглядалася да рэдкіх каменняў і

пабітых цаглін — нечага шукала. Чаму нечага? Яна шукала той камень, пра які гаварыла яму і які павінна завезці на бацькаву магілу.

— Марына, давай мо схаваемся ад дажджу. Праз пяток хвілін і сухога рубца на нас не застанецца. Прастудзішся. Мне-то ўсё роўна, а вось як ты? Сама ж гаварыла, што ў цябе хранічны бранхіт. А тут пад ледзяным дажджом гуляеш.

— Нічога-нічога. Яшчэ трошкі пройдземся. Я адчуваю, што бацькаў камень павінен быць дзесьці тут побач. Я проста яго адчуваю.— Яна адарвала позірк ад зямлі. У яе вачах і нацягнутай усмешцы Андрэй улавіў нешта новае, чаго раней у Марыны не бачыў. Але гэта было на адно імгненне, на адзін зірк. І вось яна такая ж, як і даўней.

Божа мой, толькі цяпер Андрэй пачынаў разумець ейны позірк. Той позірк каля замка. Усё ж так проста, можна сказаць — элементарна. А ён быў сляпым кацянём. Вочы ж засціла каханне. Яно і цяпер яшчэ выкручвае сэрца, цісне яго, як расшчэпіна бярозавага пня... «Я не веру!» — апошнія словы Андрэй сказаў так голасна, што яны дасягнулі вушэй Казіміраўны. Жанчына дзіўнавата паглядзела на Андрэя, пазмоўніцку падміргнула яму і быццам па сакрэце прашаптала на вуха:

— Трамвай спыняецца, і мы ўжо выходзім. Адразу вунь за тым святлафорам.

На вуліцы было не нашмат халадней, чым у потным трамваі. Смажыла. Толькі ж усе аўтаматы з газіроўкай стаялі мёртвыя, а на сокі трацірца ніхто не хацеў. «Выкінеш грошы, а якая карысць? — сказала б наконт гэтага Казіміраўна.— Лепш ужо зберагчы рублі на піва». Магчыма, гэта і было слушна. Што сок з кааператыўных ларкоў, што вада з-пад крана — вялікай розніцы нямашака. Манька з Міцькам ішлі паперадзе. Збоку магло падацца, што гэта закаханая пара. Хоць, праўда, як гавораць бабулькі на лаўках каля пад'ездаў, «не першай ужо свежасці». Але ж свежасць свежасцю, а каханне каханнем. Бр-р, зноўку каханне. «Пацук ты стэрылізаваны,— вылаяўся сам сабе Андрэй,— нешта сёння цябе зацыкліла на гэтым глупстве. Мо ад дум і ўспамінаў, а мо ад жадання хутчэй пабачыць Маньчыну Люську...»

Але, але пра што бубню сабе я. Вось і абадраныя шпалеры на кухні, пабітая фрамуга і зламаны хрушчоўскі падаконнік. Трохногі стол яшчэ трымае пітво і сякую-такую яду, а калекі-стульчакі выгінаюцца пад целамі, хочуць паскідаць седакоў з сябе, быццам тыя нягеглыя і брудныя падсвінкі, на якіх некалі каталіся ўсе, хто зараз залівае душу за сталом. Так-так, каталіся, куды ад гэтага падзенешся. Ну, не на свіннях, дык на авечках, радзей на баранах — баяліся іх цвёрдых ілбоў з рагамі. Канечне, на калёсах з драбінамі лепей, ды ж такое не часта надаралася. Іншая справа свінні і авечкі. Яны былі дармавыя, суседскія. Сваіх шкода — няхай тлушч гадуюць... Але нешта не відаць Люські. На душы цёпла.

Здаецца, што, як воск пад агнём, плавіцца цяжар у сэрцы. А яны гавораць, плявузгаюць языкамі. І як гэта можа не ўстыць увесь час пляваццa пустымі словамі?..

— Не ведаю, як у каго, а ў мяне два ворагі ў сям'і,— гэта Міцька гундосіць, наліваючы па новай чарцы,— жонка і кошка. Першая з кішэні цягне, а другая — са стала.

— Ага, жонкі вам ворагі. А як ба ж жыць мусілі без нас, га? Увесь клопат на нашых руках. Вы ж, кабялі, дзеля аднаго ў сям'і: пасцель грэць. Што? Няпраўду я кажу? — Манька грэбліва ўсміхнулася.— Дзякуй Богу, што майго суджанага ў свой час прыбраў. А то цяперака клопатаў мела б па самую макаўку. Сінякоў і гузакоў столькі перанасіла я ад яго, што і ўспамінаць моташна. Так што, Міцька, маліся на жонку, рукі, ножкі цалуй, насуперак і слова не кажы. Выганіць — куды ты падзенешся? Я цябе не прыму — дужа ж ты нягеглы для мяне, ну, а Казіміраўна старая ўжо, каб на ложку з табою гойсаць.— Манька падперла галаву загарэлай рукою.— Я баба яшчэ ў самым саку,— з глыбокім сумам прагаварыла яна,— во і хлопец гэты наўрад ці ўтаймаваў бы мяне. Не, відаць, не. Хутка б спёкся. Яны, маладыя, як пеўнікі: туды-сюды — і на бок. А мне трэба цягавіты, з норавам, каб няспешкі і на ўсю сілу...

— Ты, дзеванька, зусім здурнела. Нешта вярзеш, як падвугольная... Андрэй у сыны табе годны, а ты ледзь не на сябе яго цягнеш.— Казіміраўна кульнула налітую чарку, паспешліва нюхнула акраец хлеба і захрумстала скрылём гурка.— Хлопца

ж ты прывяла, каб Люську тваю ён пабачыў, іх хацела ты спарыць, а цяперака сама хвастом перад маладзёнам круціш. Шкода, што няма дзёгцю ці тавоту, я б табе наквэцала свярбучае месца. Праўду разумныя людзі кажуць, што калі ў бабы гарэлка ў роце, то і тая ў яе ў рабоце. Ты, падруга, не крывіся, калі дужа смыліць, то хапай аберуч Міцьку ды і памілуйцеся, а мы з Андрэйкам пра жыццё пагаворым. Ён для мяне стаў як родны, як мае сыночкі,— у Казіміраўны плаксіва задрыжэў голас,— ляжаць мае дубочкі-саколікі ў сырой зямлі, а я ўсё жыву, капчу белы свет. Сама сабе абрыдла, перад людзьмі сорам згубіла. Толькі ж і жывая ў труну не палезеш, вочы пяском не засыплеш...

Некалькі хвілін усе сядзелі моўчкі, кожны думаў пра сваё, аднаму яму вядомае. Пра тое, што балела і што хвалявала. Пустая пляшка з-пад гарэлкі стаяла пасярод стала. На ёй скрыжаваліся позіркі ўсіх, быццам на нейкім ідале або на святым. На тым, ад каго ці ад чаго залежаў лёс кожнага.

— Чаго вы пасалавелі? Не на памінках жа сядзім? — першая не вытрымала маўчання гаспадыня кватэры.— Стаў, Міцька, другую бутэльку, глытнём яшчэ па кроплі, во і павесялеем, пра любошчы падумаем. Жыць трэба весела, з размахам, каб ворагі нам зайздросцілі ды начэй не спалі. Зацягні, Казіміраўна, песню. У цябе ж голас, не раўнуючы, як у Зыкінай. Няхай мае дарагія суседзі зубамі паскрыгочуць. Будуць ведаць, што Манька жыве на шырокую нагу, капейкі не лічыць. Што ёсць каму заступіцца за мяне, безабаронную. Ну, Казіміраўна, пачынай, а мы ўсе разам і падсобім.

Казіміраўна села вальней на хісткім стульчаку, у адно імгненне выпрамілася і нягучна, хрыплавата запела:

Ёсць у полі азёрушка, там плавала вядзёрушка:
Саснова клёпка, дубова дзенца — не цурайся
майго сэрца.

Застолле без прыкмет экстазу спявала. Андрэй жа зноў нырнуў у самога сябе.

...Марына зацята крочыла пад дажджом, пільна ўглядалася ў зямлю каля каменнай замкавай сцяны. Андрэй, як ні дзіўна, ледзь паспяваў за ёю. Усё, што адбывалася, нагадвала каме-

дыю абсурду, нешта чужое і ненармальнае. Але ж Марыне патрэбны быў камень, і толькі той камень, які яна адчувала падсвядома, бачыла яго ўнутраным зрокам.

— Той камень халодны, як лёд, і гарачы, што агонь. Пад ім зямля плача, сыходзіць крывёю, як дзіця, прапоранае шворнам. Ты не хвалюйся, Андрэй. Я адразу яго адчую. Па маёй скуры прабяжыць сутарга. Так наказваў мне бацька праз сон.

Пры кожным Марыніным слове Андрэй адчуваў, як пад грудзямі ў яго скручваецца, сціскаецца страўнік, як хвалямі шугае кроў у вушы і скроні. А дождж узмацняўся. Вось ужо і хмары чапляюцца за сцены замка, ахутваюць бязлістыя дрэвы, засцяць позірк. Здаецца, што адна хвіліна — і іх чорныя калматыя аўчыны абрынуцца на плечы.

«Божа мой, чаму так хутка цямнее. Не можа быць, каб на полудзень насунуўся вечар. Божа мой, што гэта...» Ледзь толькі мільганулі гэтыя думкі ў галаве Андрэя, як грымнуў раскацісты пярун і неба расколола маланка. Хлопец аж прысеў ад нечаканасці, і каленкі хруснулі так, што падалося. іх гул пераламіў перуновыя раскаты.

Андрэй паспешліва агледзеўся: Марына ішла, быццам нічога не здарылася.

Гром і маланка на голы лес — галодны год наперадзе. Гэтая недарэчная думка імгненна нарадзілася мозгам Андрэя.

Але падзьмуў вецер. Ён, здаецца, выхапіўся з-за дальняга берага возера і віхрам наляцеў на Марыну і Андрэя, разбіўся аб каменную сцяну замка, быццам конь-стаеннік, уздыбіўся ўгору, аблізваючы мокрыя цагліны і камяні, разрываючы на шматкі ліпуча-халоднае цела хмар. Адзін мірг вачэй — і зноў навокал светла, прыкра-нудны дождж.

— Андрэй, глядзі — вось ён! — Марына цупнула на калені ў мокрую траву каля ладнага, як чалавечая галава, каменя.— Я ж казала, што адразу пачую яго. Дзіва — якая сыходзіць ад яго пара, але ж ён халодны, як лядзяш.— Марына гладзіла камень, быццам галаву дарагога чалавека.

Андрэй жа дзівіўся: сапраўды, ад каменя сыходзіла пара. Быццам яго толькі-толькі выцягнулі з распаленага жарала печы ў лазні.

— Ты асцярожней, Марына, рукі апячэш,— міжволі шапнуў Андрэй, не хаваючы сваёй трывогі.

— Дзівак, я ж толькі што казала: ён халодны, як лядзяш.

Андрэй наблізіўся да Марыны, ніжэй схіліўся. І вось тут ён заўважыў на камені незразумелыя літары ці то лічбы. Менавіта з іх ішла пара. Яна была да таго едкая і смярдзючая, што кожны ўдых камяком застраваў у горле, абдзіраў яго, як жалезны ёршык.

Толькі Марына, здаецца, гэтага не адчувала. Яна дыхала глыбока, так глыбока, аж трэсліся плечы, а крылцы носа разляталіся ў бакі, абмалёўваючы звычайна не бачную гарбінку ніжэй пераносся.

— Выцягні з маёй сумкі палатняны мяшэчак,— не папрасіла, а загадала яна Андрэю, скідваючы з пляча сваю сумку.

Хлопец няспешкі адшпіліў яе, павольна пачаў перабіраць шматлікія жаночыя транты, не могучы натрапіць на патрэбную рэч.

— Ды хутчэй ты! Калупаешся, што баба! — Марына апякла хлопца позіркам, але рук ад каменя не адрывала, яны быццам прымерзлі адно да аднаго.

Нарэшце Андрэй выцягнуў палатняны мяшок.

— Трымай яго. Я зараз пакладу сюды камень.

— Ён жа цяжкі. Ты патрымай, а я ўкіну гэты булыжнік.— Андрэй жартаўліва ўсміхнуўся.

— На тваіх руках скура аблезе,— буркнула Марына.— Ды і не па сіле ён табе. Лепш рабі, як сказала я.

Дзяўчына асцярожна ўзяла камень з зямлі і лёгенька апусціла ў мяшок.

Андрэй усё ж паспеў разгледзець, што на камені не літары, а лічбы. І хутчэй за ўсё то былі тры дзевяткі ці шасцёркі. Усё залежала ад таго, як паглядзець, з якога боку...

— Андрушка, сынок, ну чаго ты змарнеў? Мо не падабаецца нашанскае кодла? — Казіміраўна абняла хлопца за плечы.— Выпі тады яшчэ чарачку, у галаве і пасвятлее. А ты, Манька, не заігрывай са сваім хахалем. Налівай яшчэ. Сама ж казала, што спірт выпараецца, а застаецца вада ў пляшцы. Ну!

— Ух, люблю двух, а пагляджу — адна ляжу.— Манька ўздыхнула, цярнуўшы далоніню мокры рот.— Ты, Казіміраўна, так і пасеш мяне, ні на хвілінку не даеш разгарнуцца. А так хочацца прылегчы і каб нехта грэў, ды з душою. Здаецца, як я любіла б такога чалавека. Абхапіла б аберуч і нікуды-нікудысенькі ад сябе не адпусціла.

— Во-во, галоднай куме толькі тое і наўме. Міцька, бярыся за пляшку ты, а гэта,— Казіміраўна хіснула галавою ў бок Манькі,— няхай пацягваецца, як ласістая марцовая кошка.

Міцька быццам толькі і чакаў гэтых слоў. Схапіўшы паўлітэрку, ён булькнуў кожнаму ў чарку празрыстай вадкасці. Не згаворваючыся, усе выпілі. Той-сёй з кампаніі схапіўся за чэрствы хлеб, размоклыя маласольныя гуркі. Андрэй жа запіў вадою з літровага слоіка.

Надакучліва круціліся над сталом мухі, звінелі над вухам. Здавалася, што калі прыгледзецца да гэтых брыдкіх істот, то можна заўважыць: яны таксама п'яныя. Інакш чаму круцяцца не каля сонечнага акна, а каля пустых чарак і недаедкаў, садзяцца на бараду Казіміраўне, як быццам просяцца на пацалунак. Так, мухі былі таксама п'яныя.

— Я вам, бабы, скажу праўду,— Міцька дажаваў гурок,— каб раней сустрэў Маньку, то ўзяў бы яе замуж. Лад бы ды згода былі між намі. А так...— Міцька з адчаем махнуў рукою і ледзь не скінуў на брудную падлогу сваю чарку,— няма ў мяне шчасця. Адны сваркі ды звадкі. Па дурноце ўлез у ярмо, што сляпы вол, і нямашака ніякага паратунку. З сілы выбіваюся, на заводзе кайлуючы, а ёй усё мала. Грошы, грошы, грошы — з ранку да вечара адна і тая ж гамонка. Хоць ты ў кватэру не заходзь — з парога гвалт пачынаецца. Дзяцей падвучвае, і яны, смаркачы, падымаюць ужо хвасты. Пакрыкваюць ды прытоптваюць на мяне. Во якая жытка, бабы. А з Манькай бы мы — душа ў душу. Я гэтае адчуваю нутром. Ці праўду кажу, Маньк?

— Ды пайшоў ты...— Манька зыркнула на запозненага кавалера так, быццам сярпом па голым целе сцебанула.— Дужа ж позна ўсе вы спахапляецеся. Напачатку шукаеце каралеў, каб і вока лашчыла, і не сорамна людзям паказаць, каб і ногі роўненькія ды стройненькія былі, цыцкі тырчком стаялі — во і знаходзіце такіх. А паспытаўшы іх смакату, пажыўшы з імі,—

нюні распускаеце, слінай брызгаеце, жалячыся. То не ўжо, мой хахаль, цешся са сваёй каралевай да скону. А мы, простыя шэрыя вароны з крывымі нагамі, без вашай ласкі век агораем. Праўда, часам можам прыгарнуць, прылашчыць, але ненадоўга. Мяккія ў нас сэрцы, толькі ж і гонар мы маем. Помні гэтыя словы, Міцька.

— Гонарам ад холаду ды голаду не ўратуешся. Добра задзіраць нос, калі ўсё ёсць у цябе, а калі з дачкою адзіную коўдру раздзіраеш, каб ноччу ўкрыцца, то які ўжо тут гонар,— усмешка ў Казіміраўны была такая, быццам яна толькі-толькі адкусіла напоўніцу даспасаўскую антонаўку.

— Маўчы ты, падруг! Здаецца, і жыццё пражыла, а не ўцёмкала ні халеры. Ды я, лепш чым з развядзёнцам брацца, кожную ноч новага да сябе падпускаць буду. Затое не стану ліпкаю ад халоднага поту. Бо ніхто не прыйдзе мне кудлы рваць ды шыбіны ў вокнах біць. Нагледзелася я на такое. Матка з развядзёнцам жыла. Таму, будучы яшчэ ў дзеўках, я вырашыла: калі замуж ніхто не возьме, то байструка нараджу, а за развядзёнца аніколі.

— У кожнага сваё шчасце, Маньк. Жывуць жа кот і сабака. Кожны па-свойму шчаслівы. Толькі вось як жывуць?

— З вамі, бабы, за чаркай па-людску пагаварыць можна. І то не заўсёды. Кажы слова і асцерагайся, каб важжа, як наравістай кабыліцы, пад хвост не трапіла.— Міцька добра захмялеў. Твар ягоны пакрыўся чырванавата-сінімі плямкамі, а вочы па-казахску звузіліся.— На такое кодла, як у нас, яшчэ дзве беленькіх трэба. Сёння я ўсіх вас частую, хацеў грошы да заўтрашняга дня зберагчы — ды ну іх! — Міцька палез у кішэню.— Па гарэлку збегае самы малады,— ён няўпэўнена паклаў перад Андрэем грошы.— А ты не збяжыш? — раптам захваляваўся Міцька.— Выйдзеш за дзверы, а там шукай ветру ў полі. Цяпер маладыя ласыя на чужое.

— Тваім бы языком вуліцы падмятаць ды прыбіральні чысціць! — ускінулася Казіміраўна.— Не верыць Андрэю — тое ж, што мне не верыць. Калі думаеш так — сам цягніся. Ці зграбай рублі і вымятайся зусім!

— Я жартам,— п'яна заўсміхаўся Міцька.— Вам і слова насуперак не скажы.

— Ты ўжо хутчэй збегай, дзетка, а то мая Люська вось-вось прыскочыць. Я хацела, каб і ёй чарачка перапала. Тады яна дома застанецца, калі ж спознішся, то яна збяжыць да сваіх сцыкуноў. Кватэра наша трынаццатая і дом трынаццаты — лёгка запамінаецца. Бяжы, а мы з Казіміраўнай макаронаў зварым.

* * *

Андрэй ішоў па залітай сонцам вуліцы. Спякота не спадала ні на градус. Разагрэтае паветра, як мокрая прапараная прасціна, абгортвала цела. У галаве хмельна шумела, яркія промні сонца выбівалі з вачэй слязіны...

На другую ноч пасля паездкі з Марынай у Трокі яму сасніўся дзіўны сон. Ноч. Мяцеліца. Гурбы снегу. Такая зіма была ў далекаватыя гады ягонага дзяцінства. Выцягнеш перад сабою рукі і не бачыш іх. Снежныя віхуры, што воўна, паглыналі, ахутвалі цела, хаты, дрэвы, калодзежы. На вуліцу нос не выткнуць.

Вось такая была тады мяцеліца, а мо яшчэ і жахлівей. І Андрэй ідзе сярод гэтага месіва ў сплячэнне снегу, ветру, марозу і цемры. Каб хоць крыху дыхаць, каб грудзі не забівала сцюжай, ён прыкрывае рот голай рукой. Адчувае, як цёпла і прыемна далоні і як стынуць пазногці, костачкі і суставы пальцаў. Але ж пальчаткі няма. Недзе згубіў ён яе. Толькі ж гэтая дэталь не вартая ўвагі. Яму трэба ісці. Чуе Андрэй голас бабулі. Кліча яна да сябе. І вецер, мяцеліца не ў сіле заглушыць ейны голас. Цяжка прабірацца па гурбах, сумётах снегу, але трэба. Калі ён не зробіць гэтага, не пойдзе на голас бабы Куліны, то здарыцца нешта непапраўнае для яго. Такое, што адным махам перакрэсліць не толькі Андрэевы мары і спадзяванні, але і само жыццё.

З кожным крокам цяжэй і цяжэй ісці. Быццам нехта нябачны ўсеўся на плечы, цісне, згінае, абшчапервае ледзянымі пальцамі горла ў хлопца.

«Унучак, дзіцятка маё, сільcя, ідзі, яшчэ адзін крок, ну хоць бы яшчэ адзін, па каліўку перабірай нагамі, толькі не стой на месцы, не паддавайся. Я ўжо выцягнула да цябе рукі. Хутка стане лягчэй. Ты ж мой любчык, спадзяванне маё адзінае».

Бабуля нашэптвае ўсё гэта Андрэю на вуха. Цяпер голас у яе дрогкі і кволы, што бляклы парастак бульбіны, які прабіўся ў сырой цемры пограба.

Крок, яшчэ адзін крок. Снегу набілася праз халявы ў старыя кірзачы. Яны ў Андрэя нацягнуты на босую нагу. Талая вада хлюпае. Пальцы ног нямеюць, падгінаюцца. А тут яшчэ сутарга круціць левую нагу.

«Калі не можаш ісці, сынку мой, то паўзі, але не стой, не стой на месцы. Я адкрыю табе вочы, паглядзіш уперад і адхіснешся ад таго, што мог бы зрабіць, за кім і за чым пацягнуўся б... Але ж пакуль у цябе ёсць я... І праз мяне ім нялёгка пераступіць».

Нечакана Андрэю захацелася ў лазню, на полак. Каб чорныя прадымленыя каменні былі напалены да чырвані, каб гарачы пар казытаў у носе, пахла дубовым лісцем і ён грэўся, расслабляўся ў гэтай млоснай прыемнай цеплыні.

Але гэта імгненнае жаданне знікла з новым парывам ветру. Крупчасты снег секануў па вачах, ды так, што падалося, быццам пад прыплюшчаныя вейкі нехта нябачны, але ўладны сыпануў прыгаршчы солі.

«Не слухай ты старую сцерву. У яе даўно ўсохліся мазгі, яна выжыла з розуму. Навошта перціся табе па сцюжы і сумёціцы? Што новага пабачыш і пачуеш ты ад старой дурніцы? Зямля даўно з'ела труну з ейным целам. А ты хочаш жыць і хочаш шчаслівым быць? Ведаю, што так. Значыцца, паварочвай і ідзі за мною. Ноч рассеецца, сціхне мяцеліца, растане снег»,— незнаёмы голас нашэптваў гэта ў другое вуха Андрэю. Яму падалося, што ён адчувае дыханне незнаёмага голасу. Яно апякае скроню, падбародак і дасягае аж да пляча.

— Мне хочацца спаць,— шэпча Андрэй у цёмную віхуру мяцельнай ночы.

«Правільна, спі,— падтаквае незнаёмы голас.— Вось тут і прыляж, адпачні».

«Унучак, Андрэйка, я ўжо бачу цябе. Не здавайся, хадзі, хадзі сюды. Ты ж ведаеш, што да праўды і шчырасці кожны ідзе праз пакуты, праз слёзы і душэўны боль. Ты ў мяне моцны і чысты. Ты адолееш гэту дарогу. Помніш, як дажджлівым летам мы кошыкамі выцягвалі з табою скошаную асаку з балацявіны? Да полудня ты яшчэ трымаўся. Упаравень са мною

ішоў, а пазней занудзіўся. Вядома ж, дзіця горкае яшчэ быў. І я па ржавай вадзе цягала адна траву. Мне ўжо і дыхавіцу займала, і кружэлкі перад вачамі пабеглі. Думала, што асунуся ў багне разам з асакою. І вось ты, Андрэйка, пераадольваючы сваю стому, зноў палез у балота. Мне палягчэла. Разам з табою мы і выцягнулі ўсю траву, карове зімой было сена... Так што, хлопча, галоўнае пераадолець сябе. Ёсць жа слова не толькі «не хачу», але яшчэ і «трэба»... Хадзі да мяне, пераастаўляй ногі. І мне ж дужа цяжка, але я імкнуся да цябе. На чацвярэньках, ракам паўзу...»

Ага. Вось ужо і лес. Дужа знаёмы. Мабыць, быў я некалі тут. Стогнуць дрэвы. Цяжка і надрыўна. З працягам. Як быццам нехта магутны скача па іх вершалінах, трушчыць голле. Але чаму ў лесе няма зацішку? Чаму і тут мяцельны вецер прабірае да касцей?

«Ты ўсё яшчэ не слухаеш мяне,— зноў голас незнаёмца,— я ж пра тваю карысць дбаю. Ты ж кахаеш, па гарляк у любошчах, то павер слову майму — спыніся. Сядзь і пасядзі. Можаш прылегчы. Інакш твая дзяўчына схаваецца ад цябе пад покрывам нянавісці і здрады. Фізічны боль у параўнанні з душэўным — мізэр, нішто. Гэтая ж думка і цябе ніколі не пакідала. Спыніся на хвіліну і паглядзі перад сабою. Адразу пазнаеш яе постаць. Я дам магчымасць паслухаць яе голас. Ну давай, прысядзь...»

«Да мяне хадзі, унучак, да мяне. Твая душа кошту не мае. Скажы сам сабе гэта, і адразу ўсё прасвятлее».

Андрэй пачаў вагацца. Каго слухаць? Да каго ісці? Дзе праўда, а дзе хлусня? Ды і навошта яму ўсё гэта? Дзеля чаго?

Хлопец, перасільваючы сябе, зрабіў яшчэ адзін крок і ўпёрся ўсім целам у будыніну каля цёмнага праёма дзвярэй. Апошні парыў няўшчукнага ветру разбіўся аб сцяну і, быццам выбеленае палатно, апаў долу. Усё сціхла. Пагусцела толькі цемра. Андрэй пераступіў парог. Цёпла і сыра. Ніводнага пробліску. Цішыня ціснe на вушы. У скронях пульсуе кроў, быццам наравіць праламаць чэрап і выскачыць на волю. Дыхаецца цяжкавата, ад напругі трасуцца калені, сухажыліны сцягваюць ногі. Хлопец з усёй моцы ўглядаецца перад сабою, аніякага прасвету. Мабыць, толькі ў труне такая цішыня і цемра.

Мінае адна, дзве, тры хвіліны — хоць бы які зрух. Андрэю хочацца крыкнуць самому. Крыкнуць так, каб усё навокал затрэслася. Але ж з адкрытага рота — ніводнага гуку. Ён горш чым нямы... Раптам перад ім успыхнуў агеньчык — загарэлася свечка. Жоўты агеньчык не трапеча, ён як бутафорскі. Але навокал пасвятлела. Праз імгненне загарэлася яшчэ з дзесяткі два свечак. І ўсе па правую ад яго руку. Левы бок застаўся цёмна-чорны, сажысты.

Андрэй агледзеўся. Перад ім агромністы пусты прасцяг. Каб не свечкі — воку не было б за што зачапіцца. Аглядаючыся і прыслухоўваючыся, хлопец падсвядома адчуў нейкі сполах. Падалося, што акрамя яго тут ёсць яшчэ нехта. Гэты «нехта» назірае за ім, не выдаючы сябе. Андрэй сцяўся, як спружына пад абцасам. Хвіліна доўжыцца, як дзень. Нечакана затрапяталі язычкі свечак. Хоць ніякага напаміну аб ветры ці скразняках. Удалечыні, над агеньчыкам апошняй свечкі, мільганула празрыстая цень, завісла ў паветры. А ў цёмна-чорным, сажыстым кутку нешта зашаргацела.

Толькі адзіная свечка, якая падзяляла левы і правы бок, заставалася нібы заледзянела-мёртвай.

— Ты дайшоў, мой унучак,— голас бабы Куліны ад ценю над свечкамі.

— Ыгы, ён дайшоў,— падаў голас і незнаёмец з цёмна-чорнага, сажыстага боку.

— Адступі да святла, дзіцятка, да мяне, Андрэйка.

— Ды заткніся ты, старая сука! З кім цягаешся, спрахла ўжо, а супакоіцца ніяк не можаш. Мы ўпоравень з табою ішлі за ім. Цяпер без прыманак няхай выбірае, у які бок яму саступіць.

І заверашчала, закугакала ўсё навокал. Кажаны шаснулі з цемры на свечкі. Запахла паленым пер’ем і поўсцю. У Андрэя закруцілася ўсё ў галаве, быццам ён падае ў бяздонны калодзеж...

Той раніцай ён прачнуўся на могілках, каля старога каменнага крыжа, кіламетры за чатыры ад горада. Па лістоце дрэў шапацеў дробны дожджык. Зрэдку ленавата цвінькалі сініцы.

Могілкі былі дужа старыя. Ён гэта добра ведаў.

Да полудня хлопец хадзіў сярод крыжоў — ніяк не мог выбрацца з могілак. Яны быццам раскінуліся па ўсёй зямлі. Знерваваны і стомлены, Андрэй убачыў далёкія гмахі будынкаў горада ў тую хвіліну, калі знаходзіўся на мяжы адчаю і вар'яцтва. Хлопец яшчэ не ведаў, што гэта толькі пачатак...

* * *

Нічога лепшага Казіміраўна з Манькай не маглі прыдумаць, як гарачыя макароны пад гарэлку.

Андрэя сустрэлі з парога воклічамі: «Нарэшце!», «Цябе толькі па смерць пасылаць!», «Збыўся, не запыліўся!».

— Змоўкніце вы, злыдні,— падтрымала хлопца адна Казіміраўна.— Вы думаеце, гэта ў блізкі свет схадзіць. Самі колам сядзелі, а яго па горадзе бегаць выправілі. Ад вас, неўгамонных, ніколі падзякі не пачуеш. Стаў, сынок, іхнюю гарэлку ды садзіся перахапі хоць макаронаў,— прапанавала Казіміраўна Андрэю.— Яны ўжо каструлю ўмалацілі.

І вось зноўку ўсе сядзяць за сталом, булькае гарэлка ў чаркі, весялее сабантуй. Гамонка, бязладная гамонка. У Манькі твар пабялеў, стаў падобны на жывот маладога шчупака, якога толькі-толькі выкінулі на бераг. А Міцька? Міцька ўсё пра жонку. Лепш спрахла б яна, лярва, чым так з чалавека вяроўкі віць.

Адна Казіміраўна, падпершы падбародак рукою, глядзіць у самую сябе: у той куточак сваёй душы, у тыя дні, калі і яна была шчаслівая, калі сонца было ярчэйшае, а лета даўжэйшае, калі гадавала сыноў, калі... Буйныя частыя слёзы сцякалі і сцякалі па шчоках жанчыны.

— Авой, Казіміраўна, ты плачаш? — Манька пляснула далонямі.— Колькі цябе ведаю, адно і тое: як вып'еш — адразу ў слёзы. Казала сотню разоў, што грэх так рабіць. Твае хлопцы на тым свеце ў вадзе ляжаць ад бязмерных слёз. Нездарма ж і Колечка мне сніўся, прасіў, скажы, цётачка, мамцы, каб больш не плакала, а то мокра нам, плаваем у вадзе. Во як, Казіміраўна.

— Ай, Манька, няхай плача,— гэта Міцька не ўтрымаўся,— менш у туалет хадзіць будзе. Гарэлка плача, а не яна сама.

— Цыц, скаціна! — размахнулася Манька з ляўшы.— Як садану, дык пад дзверы скоцішся. Кабялюга ты, і душонка твая цвіллю зацягнута. Пра каго ты плявузгаеш? Яе два сынкі галавы склалі ў б...м Афганістане. Там сваёй кроўю зямлю палілі. Калі прывезлі першага, Колечку, то і труну не адчынілі. А ты, нягоднік...

Усе маўчалі. Казіміраўна быццам не чула гамонкі. Слёзы, толькі слёзы... Яны ўжо сцякалі па далоні на запясце рукі, якой падпірала жанчына галаву.

У Андрэя ад болю зашчымела сэрца. Яго быццам прашчыкнулі шпількай. Ён зараз бачыў не Казіміраўну, а сваю маці. Сваю любую і дарагую Марыю Сямёнаўну. Адзінага чалавека ў сусвеце, дзеля якога ён жыў, дзеля якога будзе жыць.

Няведама да якой пары цягнулася б маўчанка, каб не шчоўкнуў замок уваходных дзвярэй.

— Мая Люська,— усхапілася з месца Манька.— Донечка, зачакаліся ўжо цябе, хадзі хутчэй, толькі-толькі адкаркавалі пляшку! — гукнула гаспадыня кватэры.— Паглядзіш, якая яна ў мяне лялька,— піхнула Манька нагою пад сталом Андрэя.— Некалькі соценных — і цешся хоць да раніцы,— нахіліўшыся, шапнула яна хлопцу.— Ядраная, што восеньскі качан капусты. Ды сам пабачыш, навошта па-пустому мянцеліць языком.

Люська ўвайшла на кухню з распушчанымі косамі. Доўгія русыя валасы закрывалі плечы і даходзілі да пояса. Яе невялікія грудкі адтапырвалі лёгкую сукенку, танклявыя пальцы рук былі пераплецены ніжэй жывата. Люська беглым позіркам акінула кампанію, крыху даўжэй затрымалася на Андрэю. Сустрэўшыся вачыма з хлопцам, яна нібы засаромелася, павярнула галаву да акна.

— Сядай, донечка. Набегалася, нагулялася ўжо. Ну то і добра. Казіміраўна, дастань чарку з буфета. А ты, Міцька, не лыпай зенкамі, налівай. Донечка ж дамоў прыйшла. Золата маё, карміцелька.

Люська прысела. На выгляд яе можна было прыняць за васьмікласніцу, якая толькі што вярнулася са школы. Стомлены танклявы тварык падаваўся абыякавым да ўсяго, што робіцца навокал.

Да яе, як да новага чалавека ў застоллі, прычапілася некалькі п'яных мух. Яны кружлялі над галавой, перад носам — Люсь-

ка не паспявала адмахвацца рукою. Нарэшце, стаміўшыся, яна перастала звяртаць увагу на надакучлівую заедзь.

Усе выпілі залпам, а Люська маленькімі глыткамі, нібы смакуючы халодны ліманад.

Моўчкі відэльцам клеванула астылых макаронаў. Міцька зноў схапіўся за бутэльку.

— Паміж першай і другой — перарыўчык небальшой,— ён рагатнуў.— Дочка ж твая, Манька, цвярозая, дык будзе брыдка глядзець ёй на нас, п'яных. Няхай даганяецца.

— Выпі, донечка, выпі, расслабішся хоць. Ты б мо перасела да Андрэя. Глядзі, які гжэжны кавалер. Усё пры ім. Пусці, Казіміраўна, Люську да хлопца. Няхай цяпло адно аднаго адчуваюць.

— Ой, падруг, як ты ўпяклася мне ў пячонкі, ну горш, чым халера. Ты б хоць разок паднялася ды паглядзела ў люстэрка, у свае бясстыжыя вочы. Але матка і дзіцятка — адно-адзінае, то няхай будзе па-твойму. Сунься, Андрэйк, да дзеўкі. Можа, трохі павесялееш. А то цалюткі дзень — што той груган на бязлістым дрэве.

Хлопцу падалося, быццам Люська зачырванелася: шчочкі сталі пунсовыя, вочы бліснулі агеньчыкам, як у кацяняці, што закрыта ў цёмным пакоі.

Андрэй памяняўся месцам з Казіміраўнай.

— Слухайце, людцы, я ж зусім забылася, што ў мяне на антрэсолях стаіць літраў з шэсць піва ў каністры. З учарашняга засталося. Прыходзіў Віцька з напарнікам. Ты, Казіміраўна, яго ведаеш.

— Каго толькі я не ведаю з тваіх бобікаў,— азвалася жанчына.

— Няхай будзе так,— адмахнулася Манька.— Я пра другое — дастаць трэба піва. З гарэлкай яно дужа добра галаву дурыць. Ускоч, хлопча, дастань нам.

Андрэй паслухаў.

Выпілі зноў, забіваючы пах гарэлкі цеплаватым півам.

— Мне пахарашэла,— першае за ўвесь час слова прамовіла Люська.— Спецыяльна раней сарвалася дамоў, як быццам адчувала, што нешта цікавае мяне чакае тут. А ці даўно з імі? — дзяўчына вачыма паказала на кампанію.

— З самага ранку.

— Ну ты і даеш, стары! — Люська аж прыўзнялася з месца.— І яшчэ не скіс ад іхніх гаворак? Стойкі! Давай па чарцы ды пойдзем да мяне ў пакой. Ты як?

Апошнія словы дачкі пачула Манька.

— Не, не, так не пойдзе,— п'яна завуркацела яна.— Назаві яму спачатку таксу, а пасля і ў пасцель. На дармаўшчыну разумнікаў многа набяжыць. Ты пра грошы кажы, Люська, пра грошы. Калі кішэня тоўстая — будзь ласкавая, а калі там адны дзіркі — вон гані. Няхай гэты хлопец мне задатак дасць, большую палову, а рэшту ўжо табе, пасля таго, як зробіце дзела. Я праўду кажу, Казіміраўна, га?

— Адвяжыся, навала. Бяры Міцьку ды сама адпачні. А яны як-небудзь разбяруцца.

— Разбяруцца яны, як бы не,— Манька не сунімалася.— Абдурыць, дык з каго грошы я спасцігну? Ты ж, падруг, за яго не заплоціш. Прастачка мая Люська, пэўна, укляпалася ў гэтага смазліўца. Ён кідкі з выгляду. Па мне дочка, па мне пайшла, абы з кім не абдымецца. І я некалі такой прастачкай жыла, а во, бач, навучылася. Цяперака мне падавай не красаўчыка, а мужчынку, у якога грошай, што блох у пляшывага сабакі... Плаці, хлопец, і ідзіце пазабаўляйцеся. Спачатку шэсць соценек. Усяго шэсць. Гэта ж не грошы сёння, а слёзы. Гарушчыя слёзы.

— Я даю, я! — палез у кішэні Міцька.— Ну, Манечка, даражэнькая, я заплачу. Няхай Люська са мною пацешыцца. Якая табе розніца, чые грошы. Мае такія ж, як і ў хлопца. Во, бяры, бяры — тут тысяча.— Міцька саўгануў Маньцы скамечаныя паперчыны.— Тысяча рублёў, як лёду. Гэта толькі задатак, задатак, Манечка. А пасля дзела яшчэ дам.

— Стары ты цюцька, на дачку палезці захацеў,— Казіміраўна коршунам узнялася з седала.— Толькі, поскудзь, рыпніся — сесла выраву! Чуеш мяне?! Вось гэтай пяцярнёй! — Казіміраўна падсунула Міцьку пад нос растапыраныя пальцы.

— Пайшлі, Андрэй, адсюль. Няхай сварацца. Цяпер ім будзе не да нас.— Люська першая шмыганула з-за стала, следам — Андрэй.

Пакой з голымі сценамі і старэнькай канапай паўз акно быў невялічкім, як двaім павярнуцца, але ўтульны і прыбраны. Пасля кухоннага вэрхалу тут кожны пачуваў сябе як у бога

за пазухай. Пахла лугавымі кветкамі, а найбольш — мятай. Саматканая, чырвоная з чорным, посцілка на канапе была акуратна засцелена — без адзінай зморшчынкі. Шум у Андрэевай галаве нарастаў, біў так па вушах, што аж хацелася заплюшчыць вочы і, як абручом, абхапіць галаву рукамі, ні на хвіліну не адпускаючы.

— Не стой, а мясціся побач,— Люська села на канапу.— Нейкі ты затарможаны. А я люблю больш раскаваных. Тых, каго не трэба вучыць, як і што. Ну сядай жа. Зараз музончык пастаўлю. Расслабімся. Га? — Люська какетліва мірганула і выцягнула з-пад канапы напаўразабраны двухкасетнік. І адразу ж пакой запоўніла няўрымслівая музыка групы «Кармэн». У Андрэя шчымлівая саладжавасць агарнула сэрца, і ён абняў Люську. Пяшчотна і асцярожна, як сястру.

— Давай, любы, давай смялей,— парывіста шаптала дзяўчынка, падатліва лягаючы на канапу.— Мы патрахаемся сёння ад душы. Бяры ж мяне, не саромся, не бойся. Я ўся цалюткам твая. Ад макаўкі да пазногціка твая. Любы мой. Я з самага ранку адчувала: сёння будзе незвычайны вечар. Дужа доўга я цябе чакала, Андрэй. Андрэйка ты мой.

— Люся, Люська. Дзяўчыначка, золатка маленькае,— дыханне ў хлопцавых грудзях спірала.— Люся, Люсечка...

Вось яны ўжо напаўголыя. Хвілінка і... два целы як адно. Поўнае забыццё. Усё рэальнае адкочваецца ў далёкі і недасягальны сусвет. Туды, дзе процьма зорак і неспазнаных галактык. Дзе можна лунаць, не баючыся чужых вачэй і вушэй, дзе прасторна і вольна, дзе зло даўным-даўно асядлана дабром.

Дыханне. Няроўнае, адрывістае дыханне двух целаў і стук сэрцаў, стук, які немагчыма заглушыць цэлым стадыёнам галасоў.

— Люська, Марыначка ты мая,— бязладна, па-вар'яцку шэпча Андрэй.— Марыначка, мы зноўку разам. Я поўнасцю ў табе, як і раней. А таго, папярэдняга, не было. Быў сон, пустое насланнё. Марына...

Люська ўсім целам напялася, сціснула ногі так, што Андрэй адчуў боль у нізе жывата. І адразу ўдваіх з далёкага сусвету яны прыляцелі ў гэты вузкі і пусты пакойчык.

— Я не Марына,— абыякава, але з непрыхаванай крыўдай прагаварыла Люська.— Устань, а то раздушыш мяне. Мо і сапраўды твая Марына лепей. Але на будучае памятай: калі з другой, то папярэднюю хоць на нейкі час забывай. І яшчэ: каб не трапляць у такія сітуацыі, навучыся называць каханак не па імёнах, а неяк нейтральна. Ну, напрыклад, дзяўчынка, кошачка, адзіная мая і так далей і так далей. Думаю, што фантазіі ў цябе хопіць.— Люська ўздыхнула.— Прыйдзецца ўсё ж такі заплаціць табе. Можаш грошы аддаць мне, а калі хочаш, то аддай мамцы.

— Люська, дык я ж гэта самае не...

— Гэта паправім.— Дзяўчына, кранаючыся губамі Андрэевых грудзей, спаўзла ўніз, да ягонага жывата...

«Дзе б ты ні быў і з якой бы ні быў, а мяне ніколі з памяці не выкрасліш.— Апошнія Марыніны словы пры расстанні.— Мая існасць будзе з табою паўсюль. Ні на хвіліну ад мяне не вызвалішся. Я ў кожнай тваёй клетцы, у тваім мозгу, крыві. у тваіх жылах і пажылках. Ты зрабіў найвялікшую памылку, калі адмовіўся ад маёй прапановы. Цяпер ты няшчасны гаротнік. І я не магу нічагусенькі паправіць. Проста гэта ўсё не ў маіх сілах. У маёй душы застаецца шчырае шкадаванне. Толькі ж што мне рабіць, калі я падуладная бацьку? Яму і ягонай сіле. Шкода, Андрэй, але ты вольны нявольнік. Праўда, гучыць парадаксальна. Ды так яно ёсць і будзе».

* * *

Пасля той ночы, калі прачнуўся Андрэй на могілках, ён не мог і хвіліны пражыць, каб не пачуць Марынін голас па тэлефоне ці не пабачыць яе самую. Нейкая незразумелая сіла цягнула яго да дзяўчыны, піхала ў спіну, прыспешвала хаду. Кожную хвіліну, на кожным кроку ў галаве думкі пра адну-адзіную Марыну. О, якія то былі шчаслівыя дні і тыдні! Па-першае, Андрэй пазбавіўся надакучлівых халасцяцкіх клопатаў. З'явілася ўпэўненасць у заўтрашнім дні. За што б ён ні браўся — усё атрымлівалася. Ніякіх праблем на працы. Ён падсвядома адчуваў, як любое ягонае жаданне імгненна выконвалася. У Андрэя як бы ўсялілася фантастычная сіла, якую ніхто не мог па-

долець. Дастаткова было хлопцу паглядзець на чалавека — і той — што заяц перад удавам.

Андрэй пераехаў да Марыны. Так захацела яна. А ягоная кватэра пуставала. Зноў-такі Марына не захацела, каб хлопец здаў кватэру ў наём. Ды ён і сам не вельмі гэтага жадаў.

Яны жылі разам другі тыдзень. Другі тыдзень, хоць Андрэю здавалася, што мінула цэлая вечнасць.

То была субота. Вечар. Ён і Марына даволі рана павячэралі. і дужа смачна. Дзяўчына была не такая, як заўсёды. Гэта Андрэй адзначыў сабе.

Павячэраўшы, глядзелі тэлевізар. Прымітыўны амерыканскі баевічок наганяў сум. Каб не траціць марна часу, Андрэй узяўся за кніжку. Ніяк не мог закончыць раман Анатоля Рубінава «Інтымнае жыццё Масквы». Перад сном кніжка нядрэнна чыталася.

— Слухай, Андрэйка,— перапыніла яго Марына.— Сёння да мяне прыходзіў бацька. Ты якраз быў у краме.

— ?

— Так, не здзіўляйся, менавіта бацька. Стомлены і змарнаваны ён дужа. Яго сцюдзёны прывід напоўніў увесь пакой холадам. Яшчэ і зараз я ніяк не магу сагрэцца. Дык вось...— Марына задумалася, правяла вузкай даланёй па сваіх зачасаных валасах і, уздыхнуўшы, працягвала: — Ён пытаўся пра той камень, які мы з табою прывезлі з Трокаў. Сёння нам трэба занесці яго на бацькаву магілу. Гэта неабходна зрабіць паміж дванаццатай і першай гадзінамі ночы. Але ён прасіў, каб ты змачыў камень некалькімі кроплямі сваёй крыві.

— ?

— Усяго некалькі кропель прасіў ён. З пальцаў левай рукі. Гэта ніколечкі не балюча. Я дапамагу табе. Падрыхтавала ўжо іголку, у пляшачцы з адэкалонам яна. Ты, Андрэйка, зразумей: у бацькі адзіная я. І хто ж дапаможа яму, калі не мы, правільней — калі не я.

Нарэшце Андрэй як бы апрытомнеў. Здзіўлена лыпнуў вачыма і адклаў кніжку:

— Твой бацька крывасмокам быў, ці што? Дзеля чаго яму патрэбна мая кроў?

— Трэба так, Андрэйка. Наконт крывасмокства — не ведаю. Я ніколі не бачыла, каб бацька піў чыюсьці кроў. Ён быў моцны і ўдалы чалавек... Ведаеш, мне здаецца, што і з табою мы сустрэліся невыпадкова. Ва ўсім гэтым нейкая прадвызначанасць, я б сказала — заканамернасць. Яшчэ да таго вечара ў кафэ ты часта сніўся мне. Я бачыла твой твар, гаманіла з табою. Ну, ты для мяне быў як родны. І вось зараз падумалася, што невыпадкова на бацькавы саракавіны мяне пацягнула пайсці ў тое кафэ. Не застацца дома, за агульным сталом, а пайсці, менавіта пайсці туды.

— Ты хочаш сказаць, што ў нас на раду была напісана сустрэча? Што мы адно цэлае, нарэшце — адно цэлае.

— Так. І, магчыма, бацька ведаў пра гэта. З нашага боку цяпер подла не выканаць ягонай волі. Каб ты, Андрэйка, пабачыў, які ў яго змарнаваны выгляд. Давай зробім усё так, як прасіў бацька.

Марына ўгаворвала хлопца, як маленькае дзіця, якое не хоча есці маннай кашы. Яе шырокія, як спелыя вішні, вочы глядзелі на Андрэя ўмольна і пранікліва, з непрыхаванай патрабавальнасцю.

— Ну, добра, мы зробім гэта. Толькі скажы: Дабру або Злу будзем мы садзейнічаць? Скажы! Пад покрывам ночы робіцца ўсё ганебнае, чорнае. Усё тое, што супраць людзей, супраць чалавека. Ці праўду я кажу?

— Што ў тым, калі бацька пазваў мяне ноччу. Ён, Андрэйка, не толькі мой бацька, ён мой Гаспадар! — Марына злосна зірнула на хлопца і працяжна скрыгатнула зубамі.— Не хвалюйся, ён і цябе сёння пакліча. І не ў тваёй волі працівіцца. Бацькава сіла — сіла маланкі і навальніцы.— Марына закашлялася.— Я адчуваю, што ён ужо недалёка. Ледзянеюць пальцы маіх рук. Стыне ўсё цела. Бацька прыходзіць да мяне па начах.

Халодны жах накаціўся на Андрэя.

— Марына, ты хворая. Мо прастудзілася? Кладзіся ў ложак, я цябе накрыю коўдрай і прынясу гарачай гарбаты. Кладзіся, Марынка.

— Позна ўжо. Бацька, мой Гаспадар, прыйшоў. Паглядзі,— дзяўчына паказала рукой на праём дзвярэй. Там хісталася бесцялеснае мроіва абрысаў чалавека. «Ты мне патрэбны, хло-

пец,— голасу не было чуваць, але гэтыя словы нехта ўкладваў у галаву Андрэя. Яны пранікалі не праз вушы, а як бы мінаючы іх, адразу траплялі ў мозг.— Ад нараджэння я прыглядваў за табою: абараняў, расціў, дапамагаў».

Андрэй замёр, быццам акамянеў. Ягоныя губы марудна разышліся ў аскале. Цяпер ён нагадваў зомбі.

«Табе пакуль я загадваю ўва ўсім падпарадкавацца Марыне. Маёй дачцэ».

Хлопец адчуў страшную спустошанасць, стомленасць, быццам ягонае цела развалілася па нябачных рубцах.

Холад. Усё ў пакоі было скавана нясцерпным холадам. У снежна-ледзяной Арктыцы, відаць, было значна цяплей, чым у гэтым пакойчыку. Сцены, падлога, шафы і стол, ложак — усё пакрылася варсістай шчэццю інею. «Мне трэба хоць трошкі ад цябе крыві. На той камень ты пырснеш гарачай і пахкай крыві. Я хачу, каб мой Дух знайшоў месца ў тваім целе. Ты тая пасудзіна, якую бярог я на выпадак сваёй смерці. І вось надышоў гэты час. Не бойся, зусім ненадоўга збіраюся пасяліцца я ў табе. Ды і перашкаджаць дужа не буду. Проста я яшчэ не ўсё закончыў на гэтым свеце. Не выканаў сваё прадвызначэнне. Ты — адзінае выйсце і выратаванне. Чакаю вас сёння на сваёй магіле. Цябе і Марыну. Памятай: паміж дванаццатай і гадзінай ночы. Не раней і не пазней. Толькі ў гэты прамежак. Толькі ў гэты час. Не шкадуй крыві для каменя. Я за ўсё адплачу шчодра. Вельмі шчодра. І не слухай больш нічыйго голасу. Нават голасу роднай маткі...» Мроіва здані рассеялася. Ярчэй засвяцілася лямпачка пад столлю. У пакоі пацяплела. Гарачае паветра хлынула ў праём дзвярэй з вузкаватага калідорчыка прыхожай.

У Марыны дробненька трымцелі вусны. Здавалася, што яна вось-вось заплача. Але ж вочы былі надзіва калючыя і ўедлівыя. Быццам дзяўчына хацела праняць Андрэя да касцей, да кожнага пазванка ў ягоным целе.

— Мы, я і ты, павінны паслухацца бацькі,— як праз сон дайшоў да хлопца Марынін голас.— Мой бацька ніколі не быў жміндай, пад ягонай магутнай рукой мы зможам з табою ісці па жыцці, як па бялюткім палатне, што разаслана на квяцістакідкім лузе. Няўжо табе боязна схадзіць са мною на ягоную магілу, занесці камень з кроплямі тваёй крыві. Каб бацьку гэ-

тага не трэба было — ён ніколі б не папрасіў. Ён гэтага не ўмее. Не ўмеў прасіць. Бо ніколі ні ў каго не прасіў. Ён проста прыходзіў і браў сваё.

Андрэй адчуваў, як ягоныя стрыманасць і ўпартасць ціхенька-ціхенька плавяцца, што той воск пад настырным языком агню.

«Божа мой, няўжо нямашака паратунку? Дзе тая сіла, якая змагла б паставіць мяжу паміж дазволеным і не. Я доўга не вытрымаю...»

— Божа мой,— абрачона прашаптаў Андрэй уголас.

Марына ўсім целам напялася, што цеціва на татарскім луку. Сінія жылкі на руках і шыі, скронях набрынялі і сталі падобныя да маладых лазовых пруткоў, што прыхоплены першым восеньскім марозікам. А вочы! Вочы дзве ледзяныя паняўкі на студзёнай гладзі возера.

— Гэта пустыя словы, Андрэй. Так вучыў мяне бацька. І ён правы,— голас у Марыны сталёвы,— бо памятаеш, як людзі яшчэ кажуць: на яго спадзявайся, але і сам не плашай. Пакуль у нас ёсць шанец — трэба выкарыстоўваць, не ўпускаць яго. Гэта бацькаў клопат пра мяне і цябе. І мы павінны ўхапіцца за магчымасць жыць па-людску, хапаць усімі зубамі, напоўніцу.

Андрэй нагаджаўся ў глыбіні свядомасці са словамі Марыны. Толькі вось душа і сэрца працівіліся, не давалі прабіцца да сябе голасу дзяўчыны.

«Маўчыце вы! Маўчыце! — крычаў мозг хлопца.— Што вы разумееце ў жыцці сённяшняга дня. Марына кажа праўду. Мне дадзена ў гэтым свеце жыць толькі аднойчы. І я хачу адчуць сябе чалавекам тут: мець грошы, не адмаўляць сабе не толькі ў простых запатрабаваннях, але, магчыма, ні ў чым — кахаць і быць каханым, не ведаць...»

«Паслухай, дай і нам сказаць,— нарэшце прабіўся ўнутраны, сардэчны голас.— Уся справа ў тым, якім коштам дасягаецца тое, пра што гаварылася, няўжо крывёю, тваёй крывёю. Бачна, што няма патрэбы нагадваць пра душу. Яна ў табе памірае. Памірае ўжо...»

«Заткніцеся. Заткніцеся, поскудзі. Вы кажаце пра кроў, душу, а гляньце праз акно, на вуліцу, што там роб...» «Так, душа ў табе памірае...»

Марына ўвачавідкі пасвятлела. Погляд у яе стаў цяплейшы і больш лагодны. Лёд растопліваўся.

— То я нясу камень. Ты не супраць. Я ж бачу, што згодны.

Андрэй змоўчаў. Марына ціхенька знікла ў прыхожай. Некалькі хвілін яе не было. Толькі з цьмяна асветленага праёма дзвярэй даносілася бразганне посуду, струменіла вада ў ракавіну, чуўся хрыпавата ўсхліпваючы голас. Хлопец ведаў, што гэта не Марынін голас. Не, не яе. У такім выпадку чый жа? Ён наважыўся пайсці паглядзець. Але ў гэтую хвіліну зайшла ў пакой дзяўчына. У руках, на чорным лапіку хусціны, яна трымала той жа камень — з Трокаў.

— Вось ён.— Марына асцярожна паклала шурпаты, быццам калуном пабіты, камень на часопісны столік у прыкуцці.— Зараз з ваннай прыхаплю голку і пачнем.— дзяўчына адкрыта ўсміхнулася, выстаўляючы, быццам для найвялікшага гонару, бялюткія два радкі зубоў пасяродку пунсовага бутона ружы — яе вуснаў.

Марыніна ўсмешка скаланула Андрэя. Па целе, ад самай патыліцы і да пояса, прабег як бы світальны ветрык. Ад яго не столькі сцюдзёна, колькі непрыемна — бо скура пакрываецца густым россыпам драбнюткіх пупырышак.

— Я зараз, любы. Пачакай хвілечку.

Марына зноў знікла.

«Ай, нічога. З усіх пальцаў левай рукі я ім крыві не дам. З аднаго ці з двух. А там будзе бачна. Не за дурня ж ім мяне трымаць. Гэта як цікавая ў дзяцінстве гульня ў хованкі. Табе так і карціць хутчэй даведацца, хто ж схаваны пад ложкам ці каго вылавіш у цёмным закутку за фіранкай».

* * *

Люська не паспела паправіць на ложку прасціну, як у пакойчык ускочыла Манька.

— Ах, каб вас пярун забіў! Каб вас ліхаманка хапіла! — Маньчыны вочы лезлі з арбітаў.— Не паспела я заюшыцца, а яны ўжо таптацца ўздумалі!

Люська як быццам не чула маці. Яна ўзбіла падушку і паставіла яе на ражок. Андрэй жа, засунуўшы рукі ў кішэні, абыякава глядзеў на гаспадыню.

— Што ты міргалкі вылупіў? Плаці грошы, а то ў міліцыю пазваню. З намі такое не праходзіць. Выварочвай кішэні! Зараз жа, не сыходзячы з месца!

— Супакойся ты,— буркнула Люська.— Нічога ў нас з ім не было. Пагаварылі, і ўсё. А ты ўжо, як старая варона, раскаркалася.

— Не дурыш мяне, донька? — Манька імгненна падабрэла. Вочы паслюдзянелі, друзлаваты твар абвіс.— Прастачка, дочка, ой прастачка. Сказала б, што пакуёўдзіліся крыху, і няхай бы ён выклаў нам некалькі соценек. Для яго невялікая растрата. Сама бачыла, які тоўсты кашэль мае. Праўда на сыты жывот добрая, а калі там буркаціць, то і схлусіць не грэх.

— Ты адно талдычыш, як зайграная пласцінка. Прыдумала б нешта навейшае. А то ўстыла слухаць. У цябе ўсе грошы праз пальцы вадою сыходзяць. Колькі прасіла ўжо новую сукенку купіць, колькі я адрабіла на яе, а хаджу ўсё ў старой.

— Люсечка, цэны ж бешаныя цяпер.

— А на гарэлку, што?

— Дык я ж, донечка, за свае не п'ю. Ну рэдка калі за свае бяру. Сёння вось ён частаваў,— Манька хіснула галавою на Андрэя.— А затым прынёс Міцька яшчэ.

— Чаго вы там шэпчацеся? — прачыніла дзверы Казіміраўна.— Можа, майго хлопчыка гвалціце ўдзвюх. Да вас толькі патрапся, то спуску ўжо не дасце.

— Не, Казіміраўна. Я правярала, ці ўсё добра з дзецьмі. Яны ж цяперака такія няўтрымныя, што за імі вока ды вока трэба.— Манька ўсміхнулася.

— Хы, каб цябе каршун задраў. Праведніца адшукалася. Пайшліце ўсе за стол, а то, як збродлівыя каровы, разбрыліся.

Зноў усе сабраліся на кухні. Міцька кляваў носам, паклаўшы рукі сярод небагатай закускі. Невядома адкуль на стале зноў стаяла непачатая бутэлька гарэлкі. Ці не пазычыла Манька ў суседкі. Міцька, лыпнуўшы вачыма, згледзеў Люську. Ён крыва ўсміхнуўся, паказаўшы жоўтыя пракураныя зубы.

— Ну што? Мной пагрэбавала? За капейкі з сасунком цалавалася, га? А я-то мужык шчодры, мог бы і больш адваліць.

— Пайшоў ты на выган,— агрызнулася Люська,— хахаль мне знайшоўся. Табе толькі на вакзале прастытутак здымаць.

— Ды будзем мы ўрэшце сядзець па-людску? — умяшалася Казіміраўна.— За сённяшні дзень я стамілася, быццам камяні ў падоле насіла. I гарэлка, зараза гэтая, ніяк не бярэ. Хочацца зваліцца хутчэй, каб не чуць і не бачыць вас.

— Супакойся, падруг, усё ў нас ладна.

— Во-во, і я так кажу,— падтрымаў Маньку Міцька.

— Ой, хлопчыкі мае, хлопчыкі, былі б вы са мною жывымі. Няўжо б ваша матка такою стала? Ды я ж да сённяшняга дня вас і абсцірвала б і абмывала, сняданак і вячэру гатавала,— Казіміраўна гаварыла гэтыя словы завучана, без інтанацыі. Відаць, сабе яна прагаворвала іх і не раз і не два.— Судзьбіна ты мая горкая, судзьбіна чорная. Гляджу во на хлопца,— Казіміраўна правяла вачыма па Андрэю,— і здаецца мне, што бачу Колечку. Ён у мяне быў такі ж статны, такі ж шыракаплечы. І з твару глядкі.

— Сцішся, Казіміраўна, жывому пра жывое думаць трэба. Хлопцам тваім спакойна, не рві сваё сэрца.— Манька піхнула локцем Міцьку, вачыма паказала, каб наліваў. Ён хуценька схапіўся за пляшку. Першая напоўнілася Люсьчына чарка.

— Дзякуй, дзякуй,— падкрэслена з'едліва прагаварыла дзяўчына.— Ты ў мяне адзіны дабрадзей.

Міцька нешта незразумелае буркатнуў сабе пад нос. Усе выпілі...

Калі нарэшце скончыцца гэты бясконцы дзень? Андрэю ўжо даўно карцела падняцца і пайсці адсюль як мага далей. Але ж нешта трымала. Гэтыя людзі дапамагалі яму ўспомніць усё папярэдняе, тое, што адбылося паміж ім і Марынай. Сярод Казіміраўны і Манькі, Міцькі і Люські не так балюча ўспрымаць тое, што было. На гэтай кухні, з гэтымі людзьмі тое ўсё здаецца непраўдзівым, штучным, выдуманым. Вось-вось, з-за гэтага яму і не хочацца сыходзіць ад гасціннай Манькі...

Шкода, што даседзеў да змроку. Калі б не цемра, можна было б пайсці і пашукаць варону з-пад піўбара. У ёй было нешта да шчымлівасці балючае і роднае: шаравата-чорнае пер'е, скурана-касцяністая дзюба — ува ўсім разважлівасць і нетаропкасць. Так. Нягледзячы на тое, што варона цягала брудную абглыданую костку рыбіны, яна падавалася незалежнаю і поўнай гона-

ру. Але, здаецца, гэта не галоўнае, не самае галоўнае з таго, чым спадабалася і прыцягвала да сябе варона з-пад піўбара.

Ага, вочы. Яе вочы і позірк. Няўжо ніхто не бачыў позірку той вароны? Дзіўна. І хлусня гэта. Проста ўсе адводзілі свае вочы ад вачэй вароны. Проста баяліся ды шкадавалі згубіць месца ў чарзе па піва. Ува ўсіх балела галава, хацелася піва. Дык ці ж да ваpоніных вачэй тады, да ейнага позірку? Каму хочацца ўбачыць сваё адлюстраванне ў вачах вароны, а не ў замурзаным люстэрку на сцяне?

Горка і балюча ведаць, што жыццё неяк не атрымалася. Што праходзіць яно ўпустую, згарае, як перасохлая салома на ўчарнелым восеньскім полі. І едкі дым засцілае вочы, выбівае слязіну ў кожнага, хто наважваецца пагрэць рукі каля гэтага цяпла.

У адзіноце чалавек ніхто і нішто. Ён, як сырое палена, не можа гарэць, а толькі курадыміць... Марына і варона... Ведаю — у гэтым неспасцігальная для мяне глыбіня.

Грандыёзная шэрасць і шэрая грандыёзнасць. У гэтым спалучэнні хаваецца апакаліпсіс. Гэта як гарбатая карліца з тварам анёла...

Але Марына пайшла ў ванны пакой за голкай. А Андрэй яшчэ раз уважліва глянуў на камень — яго ўсяго скаланула. Пякельная дрыготка праняла да пазногцяў на ступаках. Камень мяняўся на вачах: з зямліста-шэрага ён пачарнеў горш за перапалены вугаль. І гэта адбылося за адзін міг вачэй. На вуліцы ледзь не пад самым акном прарэзліва завыла сірэна «хуткай дапамогі». Яна і заглушыла крык, што вырваўся з грудзей у хлопца. Андрэй міжволі прыкрыў далонямі свае вочы. «Гэта галюцынацыя, і не больш,— усплыла выратавальная думка ў галаве,— толькі галюцынацыя. Зараз адыму рукі, і камень будзе такі ж, якім мы яго прывезлі з Трокаў».

Андрэй адняў далоні ад вачэй. Камень быў чорны. Марына стаяла побач.

— Якое ты яшчэ дзіця, любы. Нічога ж дзіўнага не здарылася. Усё так і павінна быць. Бо гэта не просты камень. Ён — бацькава сэрца. Павінен стаць бацькавым сэрцам. Замяніць ягонае абяскроўленае.

Памятаеш, я некалі табе чытала Ахматаву. Ты тады не паверыў мне, не паверыў паэтцы. А яна праўду казала, што калі

чалавек памірае, то мяняюцца яго партрэты. Па-іншаму вочы глядзяць, і губы ўсміхаюцца іншай усмешкай. Яна заўважыла гэта, вярнуўшыся з пахавання аднаго паэта. І з тых пор часта гэта правярала, і яе здагадка пацвярджалася.

А зараз паглядзі на партрэт майго бацькі. Бачыш, ён жывы. Жывы ягоны дух. Ды і ты з ім ужо бачыўся. Праўда, фотаздымак як бы патухае, згасае. Але ў нас і ў бацькі ёсць яшчэ дзевяць дзён.

Каб поўнасцю пераканаць цябе, любы, узгадаю Парацэльса. Урача і вучонага, якога ты заўсёды паважаў. Сам жа мне ў гэтым прызнаваўся. Дык вось і Парацэльс казаў, што чалавек валодае сілай, што дазваляе яму бачыць сваіх сяброў, блізкіх і абставіны, у якіх яны знаходзяцца, нягледзячы на тое, што людзі, аб якіх ідзе гаворка, могуць у гэты час знаходзіцца за тысячы міляў.

Вось як яно, Андрэйка. І гэта ўсё могуць простыя людзі. А мой жа бацька не з простых. Не з тых, хто задавальняўся сном, чаркай і скваркай. Ён сіла і прадвеснік. Ці пераканала хоць трошкі? Ну-ну, прызнавайся. Бачу, крыху сумняваешся, але напалову ўжо згодны са мною. Не будзем жа цягнуць — давай руку.

— Я не хачу тут. Лепш на могілках. Думаю, так будзе зручней. Усё роўна ж ісці туды і несці камень.

— Не камень, Андрэйка, а сэрца майму бацьку, а твайму цесцю,— Марына хітравата ўсміхнулася. Бачылася — яна згодная...

Горад застаўся за плячыма. Да могілак паўтара-два кіламетры. Вецер і лашчыць і студзіць адначасова. Марына плячуком упіраецца ў Андрэя. Камень нясе сама — так ёй хочацца. Вельмі цёмна на вуліцы. Вецер прыглушае ў вушах гарадскія адгалоскі. Пад нагамі, на вузкаватай сцежцы, патрэсквае, шаргаціць няскошаная трава. Андрэй і Марына маўчаць, быццам прыслухоўваюцца кожны да сябе...

Андрэй першы раз у той жнівень прыехаў да бабулі адзін, без бацькоў. Сам жа дарослы ўжо — перайшоў у восьмы клас. Не хацелася яму ехаць у вёску. Прымусіла маці. Дужа ж баялася, каб моцным вузлом не перахапіла яго дваровая тусоўка. Ці не разы чатыры прыходзіў ён на той час дамоў

позненька і на падпітку. У крамах танны вермут. Хлопцы, ягоныя пагодкі, хлешчуць, а чаму б і Андрэю не сербануць. Сусвет ад гэтага не перакуліцца і неба не пераломіцца пасяродку. Многае ён тады ўжо ведаў: і пра вартасці пітва, і пра тое, як і што трэба рабіць з дзяўчатамі, для чаго яны створаны і чаго ім хочацца.

Перарастак Валодзька ўсё па палічках раскладаў. У яго ўжо была і пастаянная лахудра. Так ён называў Кацьку з пад'езда насупраць.

Але маці вытурыла Андрэя ў вёску. Было злосна на душы, хоць ваўком вый. Толькі праз дні тры-чатыры прыламіўся неяк. А тут бабулі чарга падышла пасвіць кароў — адбываць радоўку, адным словам.

— Унучак, мо пагнаў бы ты скаціну на ржэўнік. Не адзін, а разам з Надзькай Перапечкінай. Мы купуемся з імі. Так прасцей і лягчэй для мяне,— бабуля прасіла, не верачы, што Андрэй дасць згоду.— Ты не хвалюйся, калі не ўмееш,— Надзька навучыць.

Андрэй хоцькі-няхоцькі, а згадзіўся.

І вось яны з Надзькай на ржэўніку, сярод залаціста-жоўтых бункераў пасуць статак. Травы зашмат, і каровы, як прывязаныя, на адным месцы.

— Давай палуднаваць.— Надзя села пад бункер, развязала хатулёк са стравою. Хітравата зірнула на Андрэя.— Сядай бліжэй — не адкушу.

Надзя гады на чатыры старэйшая за Андрэя. Яна ўся як налітая: твар і рукі загарэлыя, бялявыя валасы на галаве перахоплены гумкаю, сукенка на грудзях расшпількнута на два гузікі. Дзяўчына зручней падцягнула пад сябе ногі.

— Ну як? Вып'ем па кроплі, каб смачней елася? Мая маці бутэльку самаробнага вінца дала. Яшчэ мінулагодняга.

— Давай. Мне-то што. Дома я гарэлку шклянкамі цудліў.— Андрэй ад сваёй хлусні аж расправіў плечы. Як-ніяк, мужчына ж.

Яны няспешкі пілі віно, заядалі яйкамі ўкрутую, хрумсталі агуркамі, смакавалі спелыя памідоры. Было добра, сонечна, цёпла. Каровы, напасвіўшыся на ўежнай траве ржэўніку, ляжалі.

Прыляглі і Андрэй з Надзяй. Глыбока закапаліся ў жытнёвы бункер саломы.

Тым днём Андрэй і паспытаў забароненага і, здавалася, далёка недасягальнага. Але ўсё ж так проста і натуральна. Ды сорам крыху прабіраў хлопца. Толькі ж гэта хвіліну, дзве, а пасля нічога, усё як так і трэба.

А праз некалькі дзён быў Спас. У хаце густа пахла яблыкамі. Бабуля цэлы кошык паставіла іх рана-раненька на покуці.

— Сёння пойдзем у царкву, Андрэйка. У сваім гарадку ты мо ні разочку туды і не хадзіў, дзвярэй не адчыняў.

— Не хочацца мне ісці.

— Не-не, дзетка. Гадавое божае свята сёння. Не крыўдзі старую, пайшлі. І кошык падсобіш данесці. Трэба ж кожнага яблычкам пачаставаць. Такая ў нас завядзёнка.

І яны пайшлі. Каля царквы было людна. У той дзень Андрэй убачыў сапраўдную царкву, вялізны іканастас, шмат запаленых свечак і яшчэ вялікае **распяцце** ў руках бацюшкі...

Здаецца, так нядаўна і так даўно гэта было. А мо ўсё тое яму некалі прыснілася?..

— Андрэй, давай не пойдзем праз цэнтральную браму,— гэта Марына лёгенька шмарганула Андрэя за руку.— Я ведаю пралом у сцяне. Там зручней і блізка да бацькавай магілы.

— Як хочаш.

Марына сышла са сцежкі. Вобмацкам пасунулася каля сцяны. Паўсонны спакой і засяроджанасць парушаў трэск сухіх галін пад нагамі ды прыглушана-сіпатае дыханне дзяўчыны. Андрэя ж, здаецца, не хвалявала анічога. Ён яшчэ быў там, на полі, сярод статка кароў і жытнёвых бункераў саломы. Яму бачыліся поўныя кошыкі чырванабокіх яблыкаў і вялікае распяцце ў руках бацюшкі.

«Кожны з нас, дзетка, грэшны. З ім, грахом, нараджаемся, з ім і ў зямлю сыходзім. Але ж і з маленькага граху можа вырасці найвялікшы, які задушыць свайго ж гаспадара, таго, хто гэты грэх нарадзіў, гадаваў і песціў. Так са снежнага камячка можна скатаць глыбу, а можна камячок пакінуць камячком ці цеплынёй сваёй рукі і душы растапіць яго. Бывае, што адзіны крок аддзяляе чалавека ад незваротнага. Цікавасць

да лёгкага таксама грэх, Андрэйка. Не схаці і не пажадай ты яго. Я цябе ўжо не адзін раз папярэджвала, снілася. Толькі ты адпіхваеш мяне...»

Марына з Андрэем праціснуліся ў пралом сцяны. Яшчэ некалькі крокаў паўз зарослыя бугаркі, паўз крыжы і агародкі, паўз прыцішаныя дрэвы — і яны на месцы.

— Мы прыйшлі, бацька,— прашаптала Марына першы раз.— Стаім ужо каля цябе, чуеш! — мацней узвіўся яе голас.— Мы прынеслі тваё сэрца! — на поўныя грудзі выдыхнула дзяўчына.— Хутчэй руку, давай руку, Андрэй!!! — Марына ўжо не гаварыла, а крычала, як парадзіха, нараджаючы першынца.— Левую.— Не хочучы таго, хлопец працягнуў ёй руку.— Левую, давай левую мне. Але не! Пачакай! Бацька загадваў спачатку вырваць крыж. Ну не стой жа! Шмаргані яго з зямлі. Ён прыкапаны на нейкую пару далоняў.

Андрэй падышоў бліжэй да магілы і аслупянеў. Зямля свяцілася, ад яе патыхала жарам. Усё вакол станавілася святлейшым і задушліва смярдзючым. З нябачных куткоў да магілы выпаўзалі дзесяткамі гадзюкі і вужы, над галавою шаргацелі крыламі і брыдка пішчалі кажаны. У гэтым вэрхале згледзеў Андрэй і чараду крумкачоў. Так, здаецца, гэта крумкачы, хоць святло іх поўнасцю не дасягала. А можа, былі гэта звычайныя вароны, якія зляцеліся на смярдзючы пах, на дармовую кармёжку і жэрава.

Андрэй працягнуў руку да крыжа. Працягнуў левую, яшчэ з непаколатымі пальцамі... І тут выплыла з цемры бабуля, яе вобраз і воблік. Яна не пераступала мяжы асвятлення вужак і кажаноў. Яна толькі нахілілася і ў працягнутую руку Андрэя ўкладала **распяцце**. **Распяцце** з вясковай царквы.

Скаланулася магіла, засыпаючы пяском паўзучую нечысць, пасыпаліся пераспелымі гнілкамі на зямлю абпаленыя кажаны, залапацелі крыламі крумкачы-вароны.

«Бяры, дзетка, асвячоны крыж у рукі. Засланіся ім ад д'ябальскага кодла, прыкрый душу сваю і цела. Не будзь папіхачом у руках сілы цёмнай ды нядобрай. Уратуеш сябе, то і мне ляжаць лягчэй будзе. Усё навокал зман, акрамя мяне і крыжа, распяцця святога. Ты яго бачыш — смялей бяры ў рукі».

— Не слухай, Андрэйка, ты ж мой каханы і адзіны. Са мною табе жыць. Разумееш, толькі са мною, а не з гэтай звар'яцелай старой і яе прывідным распяццем.— Марынін твар неракасіўся. Нос і ніжняя сківіца выцягваліся ўперад, танчэлі, рукі бяссільна ўзмахвалі, растапыраныя пальцы завастраліся, ды і голас непазнавальна змяніўся — стаў глыбока гартанным.

«Бяры ж, унучак, распяцце. Няма ў мяне сілы нераступіць мяжу, якая падзяляе **дабро і зло**, святое і нячыстае. А ты на раздарожжы — адна нага тут, а другая там. То ж бяры, працягні руку. Не бойся і не думай пра лёгкае. Жыццё не бывае пушынкай. Прыходзіць час, і за ўсё плаціць патрэбна. Не сквапся, Андрэйка, на лёгкае, не хаці яго, дзетка. Бяры распяцце».

Андрэй як бы скінуў з сябе скамянеласць. Яму палягчэла, галава праяснілася і рука паслухмяная стала. Ён уздыхнуў і моцна абхапіў распяцце. Воблік бабулі адразу ж знік.

І тут разгарнулася магіла Марынінага бацькі. Магутны чорны і смярдзючы слуп вырваўся з прадоння і рассыпаўся, зліўся з ноччу.

— Эх ты, дурыла, а я спадзявалася, і бацька верыў у цябе,— Марына натапырана курчылася і шарэла. Вось яна ўжо метровага росту, праз хвілю яшчэ меней. І дзіва дзіўнае скаланула Андрэя: Марына стала шэрай варонаю, страсянула крыламі, разы два каркнула і знікла, як і чорна-смярдзючы слуп з магілы яе бацькі, сярод глухой ночы.

Андрэеў кулак быў моцна сціснуты, хоць хлопец і адчуваў: нічога ў ім няма...

* * *

Добра сцямнела, калі Андрэй з Казіміраўнай сабраліся сыходзіць ад Манькі. Міцька заставаўся ў яе. Ён доўга плакаў, расціраў кулаком па п'яным твары слёзы і праклінаў жыццё і жонку, непасільную работу, жаліўся на малы заробак, паўсюдную дарагавізну і падступленне старасці. Люська ж, дапіўшы рэшту гарэлкі, шмыганула ў свой пакойчык і ўключыла там на поўную моц магнітафон. На кухні ад нечаканасці ўсе здрыгануліся.

— Папаўзлі, хлопча, і мы па дамоўках,— Казіміраўна пазяхнула,— а то з гэтымі прапойцамі нядоўга і ў грэх увайсці. Маньцы ж то як?.. Гарэлка ў роце і перадок у рабоце. Здаецца, пра гэта ўжо гаварыла. Пайшлі — няхай куеўдзяцца. Люська, думаю, нікуды з хаты не папаўзе. Не сумуй, хлопча, ой не сумуй. У цябе вочы — як у бычка на бойні. Хапанеш за жытку сваю яшчэ ўсялякага. Пакуль малады — весяліся. Эх, толькі б была гэта весялосць. Дасць Бог, стрэнемся як-небудзь удваіх, і я табе ўсё сваё горачка выкладу і выплачу, як сынку роднаму, як сваім дзеткам расказала б. Хачу з табою сустрэцца, прыпаў да душы ты мне. Можа б, заўтра каля піўбара ў парку? Манька там нас не вылавіць. То як яно? Гадзінак у адзінаццаць?

— Давайце заўтра.

Андрэй з Казіміраўнай ішлі па мокрым асфальце алеі. Толькі што яе паліла машына з жоўтай мігалкай. Маўчалі. Лёгка дыхалася. Казіміраўна глядзела сабе пад ногі. А вось Андрэй як заведзены круціў галавою — шукаў варону, выглядаў Марыну. Не было вароны, не было Марыны.

* * *

Як баліць у мяне галава, Божа мой. Няўжо я вытрымаю, і яна не разломіцца, не рассыплецца на кавалачкі, што пабітае цьмянае люстэрка. Як дайсці дамоў? Хутчэй бы легчы.

А ўрэшце: ці сустрэну я заўтра варону, ці здагадаецца яна прыляцець у парк, пад сцены іншага піўбара? Ці прыляціць?

Эх ты, Марына...

# Перакуліся, перакуленае

Чараўнік прапанаваў селяніну любую ўзнагароду, але з умовай, што сусед атрымае ўдвая больш.
«Выкалі мне вока»,— адказаў селянін.

*З фальклору*

## I

Сонца ляніва, з неахвотай, як быццам маладзіца, што недаспала, выпаўзла з-за выбоіста-няроўнай палоскі лесу. Ад расяной посцілкі травы, што густа расла адразу ж за хатай Лозікаў, на выгане, падымалася няроўная тумановая завеса. Як ні ўглядайся цяпер, пры ўсходзе сонца, на траву, але не згледзіш той зяляніны, таго буяння кветак, што кідаецца ў вочы пры дзённым святле. І не толькі вочы спатыкаюцца на пераменлівай незвычайнасці ранішніх фарбаў, але і вушы чуйна ловяць нязвыкласць цішыні. Яна, цішыня, быццам агортвае цябе, лашчыць, закалыхвае, нябачнай рукою праводзіць па вейках, разам з няўлоўным ветрам казытліва шлыкоча па твары, забіраецца пад лёгкую кашулю, абмацвае босыя ногі і, нібы спаталіўшы цікавасць, нарэшце даносіць да тваіх вушэй далекаваты водгалас чужога голасу.

Усё. Цяпер ты не адзін на адзін з сонцам і раніцай. Нехта такі ж увішны далучыўся сюды, парушыў міражную ілюзію двухадзінства. І пачынае ніякавець паганскі парастак замілавання ў тваёй душы. Ён толькі-толькі нарадзіўся, але чужы і недарэчны голас стаптаў яго, знішчыў, не даўшы пусціць і лісточкаў, што саграваліб тваю душу да наступнай раніцы...

Дуняша спахапілася. Спуджана лыпнула вейкамі, прабегла вачыма па старой дранкавай страсе, праз шчыліны якой крадком убіваліся першыя ніцыя промні ліпеньскай раніцы. Пахкае сена яшчэ дурманіла санлівую галаву. Соладка побач соп Лёнік, а думкі, як камары, што таўкуць кашу ў надвячоркавай

цеплыні, завіравалі, запляліся, беглі наперагонкі, збівалі адна адну: «Авой, няўжо праспала? Падняліся хатнія. Маці спаняліць позіркам. А бацька... Бацька ж на парозе касу адсячэ. Адсячэ, далібог». І тут Дуняша ўсміхнулася. Бачком выпаўзла з-пад пяшчотнай рукі Лёніка, прысела. Пальцы рук прабеглі па кароткай стрыжцы на галаве, выбіраючы сыравата-адлеглыя за ноч сяніны з валасоў. «Ужо адсек,— больш адкрыта ўсміхнулася Дуняша, уздыхнуўшы,— але ж бавіцца не варта. Трэба пабудзіць Лёніка. Няхай адчыніць гэтыя рыпучыя варотцы. Сама не здолею, яй-бо. А як ён прыгожа спіць! Што тое дзіця, прыгрэтае пад бокам мамкі. Гарадчук Лёнік. Звыкся спаць да паўдня, не тое што ў нас, з пеўнямі на нагах ужо. Шкода будзіць, але ж рыпучыя варотцы, няхай бы хапіла іх ліхаманка».

— Лёнік, чуеш? Лёнік? — Дуняша асцярожна правяла далонню па чырванаватай шчацэ хлопца.

«Бач ты, якое шчэцце за ноч адрасло,— Дуняша ад незразумелага ёй задавальнення надзьмула пульхна-ружовыя вусны.— Сапраўдны мужчына ўжо Лёнік. А мо яшчэ няхай паляжыць побач? Ну што бацькі? Пасварацца, патлумяцца крыху і ўшчукнуць. Няхай прывыкаюць, не маленькая ўжо іх Дуняша. Нявеста я... Цьфу ты, дурніца, а крый бог, хто з суседзяў пабачыць, якой гадзінай дамоў прыбегла? Вой не. У нашых баб языкі горш бізуноў лупцуюць...»

— Лёнік, прачніся! — Дзяўчына шмарганула яго за вуха.— Спіш, быццам пасля катаргі (трэба ж так сказаць, сама сябе ганьбую з нагаворамі гэткімі).— Дуняша спуджана адхапіла руку.

Лёнік з неахвотаю расплюшчыў вочы:

— Дуняшка... Чаго ж так рана, га?

— Бегчы мне трэба, сонца ўзышло, бач, як развіднела. Людзі да калодзежаў хутка пацягнуцца, як мне тады дамоў даскочыць? Адчыні варотцы.

— Навошта? Мы з табою да наступнай раніцы тут і праляжым,— ленавата паварочваючыся на посцілцы, Лёнік адной рукою абхапіў Дуню за плечы і прытуліў да сябе.— Вазьму і не пушчу анікуды!

— Табе ўсё жартачкі,— Дуняша ўперлася локцем у ягоную грудзіну, выслізнула з-пад рукі.

— Ты паглядзі на двары, каб нікога не было. А то раптам маці твая поркаецца ўжо каля сянец,— папрасіла Дуняша, папраўляючы на сабе змятую за ноч сукенку.— Не хочу, каб чужыя вочы мяне бачылі. Ты ж, Лёнічак, хлопец, таму плётак людскіх не баішся, ды і ў свой горад хутка з'едзеш, а мне тут заставацца, вітацца з усімі, словам перакідвацца. А касыя позіркі горш за крапіву-жыгучку даймаюць.

Лёнік асцярожна споўз па драбінах з утаптанай і зляжалай ужо сціртачкі сена, праз шчыліну ў варотцах зірнуў на двор, хвіліну пачакаў і адкінуў зашчапку. Варотцы жалобна, з нуднай працягласцю зарыпелі. Здавалася, што яны спакон веку не адчыняліся, зрасліся ўжо з петлямі завесаў, ці мо дваровы гаспадар падпіраў іх з другога боку нябачным плечуком, хочучы, каб уся вёска ведала пра ганьбу Дуняшы, пра яе грэшна-ўцешную ночку на сене.

— І чаму б табе, Лёнічак, не змазаць варотцы дзёгцем, калгасная ж збруйная праз дарогу стаіць, там цэлыя бочкі без прыглёду,— дзяўчына прашаптала гэтыя словы на адным дыханні.

— Ды ўжо ж так і зраблю. Будуць яны як па масле коўзацца. А ты не бойся, вакол усё пуста. Можаш маладой козачкай да сваёй хаты даскочыць.

— Увечары зноў сустрэнемся каля рэчкі? — Дуняша ўмольна зазірнула ў шараватыя вочы палюбоўніка.— Давай у клуб не пойдзем, каб пра нас нічога не гаварылі. Баюся я плётак, хоць без іх у вёсцы, як без адзежыны на плячах, чалавек ходзіць. Пра кожнага нешта плявузгаюць, а нам ужо, дзяўчатам, уедлівых слоў па самую макаўку хапае. Значыць, Лёнічак, прыцемкам я падбягу на рэчку, пад дубкі.

— Я там буду яшчэ да заходу сонца.— Хлопец гулліва падміргнуў Дуняшы, яна сарамліва ўсміхнулася і, хуценька чмокнуўшы пухлымі вуснамі Лёніка ў шчаку, выскачыла за варотцы.

«Ну і дала Дуняшка жмыху, як усё роўна на плечы ёй уселася плойма заедзі. І чаго баяцца? Што тут нязвычнага?» Лёнік з добрую хвіліну назіраў, як Дуняшына квяцістая сукенка мільгацела сярод шэрых ствалоў старых яблынь іхняга, лозікаўскага, саду.

Мінула ўжо чатыры гады, як Лёнік з'ехаў са сваёй вёсачкі Шышкаўкі ў горад. Скончыў дзесяцігодку і, як у бяздонны вір галавою, кінуўся ў «навуку». Так маці, жартуючы, гаварыла суседкам.

Вір не вір, а студэнтам політэхнічнага інстытута Лёнік стаў. «Вырваўся ў свет белы»,— думаў ён сам сабе. І шчымлівая радасць заўсёды запаўняла яго сэрца. Праўда, радасць гэта была нейкая кволая і мімалётная, як сняжынка, што трапляе на цёплую руку і ад якой праз імгненне не застанецца былой прыгажосці, а толькі трымціць малюсенькая кропелька, якая ўсмоктваецца сухой тканінаю пальчаткі.

Ад чаго ўсё гэта, Лёнік так яшчэ і не зразумеў. А ўрэшце глыбока і не задумваўся. Бо, па яго разуменні, усё павінна праясніцца само сабою...

## II

Надзюха, мабыць, першая з вяскоўцаў прачыналася ў Шышкаўцы. Яна — няхай то зіма ці лета — запальвала ў печы, калі не было і пяці гадзін раніцы. Звыклася «старая шэльма» (так Надзюху абзываў за вочы і ў вочы сусед Андрон) першай да калодзежа збегаць, нечапанай вады сербануць, сляды на росных травах ды замеценых снегам сцежках «палістаць-пачытаць».

«З-за такога паганага нораву ў векавухах і засталася, недарослая вужэлка», — выгукваў ёй у спіну Андрон, калі сварыўся з Надзюхаю з-за курэй ці за слівкі, якія абтрос вецер на яго, Андронаў, агарод, а Надзюха (яны ж на яе ўчастку растуць) увішна збірае ў кошык.

— Няхай бы людзі паспыталі, укінулі ў рот,— таптаўся ў такія хвіліны каля Надзюхі Андрон у вечных сваіх кірзачах.— Дзякуй хоць раз пачула б, старая ты шэльма,— не суніма ўся дзядок.

— Халеры ты з'еш, атопак падраны, мухамор трупехлы,— прарывала на голас і Надзюху.— Лепш свінням высыплю, чым табе, нягегламу пустадомку, пакідаць. Ты, чым сварыцца, лепш бы свой комін пачысціў,— ушчувала Надзюха,— сажы там таўшчыні ў кулак. А яна і загарэцца можа,

перакінецца ветрам на маю страху. Пасаджу я цябе, Андрон, тады ніхто і скарынкі чэрствай у турму не прынясе. Папомніш маё слова.

Надзюхі і Андрона хаты стаялі ледзь не ўпрытык. Яны, быццам блізняты, ціснуліся стрэхамі адна да адной, глядзелі на вуліцу трыма вокнамі, адным на — агароды. Стрэхі, накрытыя дранкаю, даўно зацягнуліся тоўстым слоем мяккага зялёнага моху. Здавалася, кінь на гэтыя стрэхі добра ўсмаленую лучыну і тая захліпнецца, закуродыміць, а навошта гаварыць ужо пра іскарку сажы.

Вось і гэтай раніцай Надзюха не паспела яшчэ нават расчасаць грабеньчыкам ссівелыя валасы і завязаць на галаве хустку, а ўжо сагнулася над загнётам з запаленай паперчынай, якую ўвішна падтыкнула пад высахлыя з мінулай восені дровы. Агонь агарнуў паленцы, заскакаў па драбнейшых трэсках, лізнуў учарнелыя бакі чыгуноў і разліўся па ўсім сподзе печы. Дым лёгкім слупком пацягнуўся ў комін.

«Не патухне цяперася»,— сама сабе прагаварыла Надзюха і па звычцы, што складалася гадамі, зазірнула ў акно, што выходзіла на агароды.

Туман паспеў ужо спаўзці з вышэйшых мясцін у нізіны, толькі рэдка дзе яго бароды чапляліся за бульбоўнік і віхлястаняроўныя барозны. Ладны, рукамі не абхапіць, сонечны шар, на вачах, чвэрць за чвэрцю, падымаўся, усплываў над няроўнай шчоткай вершалін ельніку.

— І сёння пагодліва будзе. Няхай бы пырснуў дождджык, хоць на адно каліўка. Бульбоўнік пасмяг, а цяпер жа самая пара завязі ў сілу ўбірацца.— Надзюха, за доўгае жыццё ў адзіноце, звыклася гаварыць сама з сабою. Чуючы свой голас, прыслухоўваючыся да яго, ёй здавалася, што побач ёсць яшчэ нехта жывы, той, каго яна ўвесь час чакала і па сённяшні дзень чакае.— Андрон, чаўпень прыдуркаваты, яшчэ спіць, вылежваецца, і не смыляць у яго бакі. Як жывой была Андронава Марына, то ніколі ад мяне не адставала, за прыклад усім ставіла. З'еў, паразіт, такую бабу. Андрону не ціхмяная Марына трэба была, а такая зубастая, як я. Во дзе апёкся б ён, пакруціўся, як уюн на гарачай патэльні. Але ўсяму свой лёс, свая матухнадолечка...

Так, гамонячы сабе, Надзюха зглелзела на сцежцы, якая вытапталася паўз агароды, нечыю постаць. Па ўсім бачылася, што гэта дзяўчына, але можа быць і жанчына. «Цяпер яны, лярвы, таксама без хустак ходзяць, космамі трасуць. На тыя, мінулыя, часы іх бы мужчыны з вёскі выспяткамі гналі б. Але дзе цяпер тое? Далекавата маладзіца ад мяне, не разгледжу. Выйду-ка ў агарод, нібы бацвіння з буракоў наламаць, во тады нікуды яна не дзенецца, перастрэну і ўведаю, хто такая».

Надзюха паспешліва зашмаргнула на сабе матузы старога фартуха і піхнула дзверы ў сенцы. На ганку ўжо саўганула ногі ў абрэзкі патрэсканых гумовікаў, каб ногі ад расы не стылі, і прыгорблена, ледзь не подбежкам, кінулася па баразне ў дальні куток агарода, да дзялкі з хрумсткім бацвіннем буракоў. Там, паблізу ад плота, і пралягала сцежка. Надзюха паспела ўкінуць у фартух з дзесятак адламаных лістоў бурачніку і з напускною цяжкасцю разагнулася, быццам ёй звяло спіну.

Вось цяпер яна ўжо добра бачыла, хто бег па сцежцы. Сажняў за пяць ад яе, патупіўшы галаву, крочыла Дуняша Гарбацэвіч.

— Добрага рання табе, дзеўка! — на поўны голас павіталася Надзюха.— Ранняя ты пташка, адкуль такой гадзінаю ляціш? У твае гадкі я яшчэ б у пасцелі млела, сны салодкія бачыла. Ці не матка некуды адпраўляла? — Надзюха ўедліва, з яхідцаю ўсміхнулася.

«Старая карга ўсё ж высачыла. Ніхто і нішто міма яе вачэй не пройдзе. Як жа выкруціцца? Што б праўдзівае прыдумаць, каб затыкнуць паганы рот старой?»

Дуняша нехаця прыпынілася, коса зіркнула на Надзюху Перазімчыху і з натужна зробленай абыякавасцю адказала:

— Учора ў падругі ў Міхалевічах была, позна загуляліся, во я і заначавала. А каб мамка не дужа сварылася, вырашыла дамоў раней прыйсці.

— Шкода цябе, дзеўка, што пры месячыку з Міхалевічаў выйшла, га? Не блізкі свет адтуль датупаць,— старая пазмоўніцку мірганула Дуняшы.— Ды і дарогу ж ты выбрала дзіўную. З Міхалевічаў яна да другога, процілеглага, боку вёскі

падыходзіць, а мо я па старэчай дурноце ўжо нешта і зблытала. Галава не такая ў мяне светлая, як у цябе. Але ж я не чула, каб новую шасейку праклалі праз лес з Міхалевічаў у Шышкаўку. Яй-бо, бабы анічагусенькі пра такое не казалі.

Дуняша на хвіліну сумелася.

«І як гэта я ляпнула пра Міхалевічы? Яны і сапраўды з другога боку. Да чаго ж уедлівая Перазімчыха. Чым з адною ёй сустрэцца, лепш няхай бы паўвёскі мяне пабачыла. Як ні круці, а нявыкрутка выйшла. Цяпер ужо ўсё роўна паляціць па вёсцы навіна. Ну і няхай, навошта далей сцяліцца з апраўданнямі перад старой пляткаркаю».

— Усяго вам добрага,— урэшце выгаварыла Дуняша і знарок павольна, напяваючы сабе пад нос немаведама адкуль узніклую мелодыю, пакрочыла далей па сцежцы.

— І табе няхай ладзіцца. Матцы прывітанне перадай, добрая яна ў цябе жанчына, праўдзівая.— Сказаўшы гэтыя словы ў спіну дзяўчыне, Перазімчыха з непрыстойнай радасцю ўсміхнулася. — Глядзі ж, не забудзь перадаць прывітанне,— гучней крыкнула яна.

## III

Андрон бачыў праз акно, як перастрэўшы Дуняшу на сцежцы каля свайго агарода, гаманіла з ёю Перазімчыха. Сыпун узіраўся ў цьмяную шыбіну і пыхкаў самакруткаю з тытунём. Ён, як ведалі шышкаўцы, штогод садзіў на сваіх сотках ці не з паўтысячы каліваў зелля. І ў яго хто б ні папрасіў шчэпаць тытуню, заўсёды займее жменю.

«От, заразлівая баба,— думаў сам сабе Андрон Сыпун,— нікога не прапусціць, усіх вачыма ўпасвіць, языком перахрысціць. І адкуль такія людзі плодзяцца на зямлі? Ці ў іх сваіх турботаў мала? Па мне, дык няхай чалавеча робіць што хоча, абы не ў злобу бліжняму, толькі б на карысць самому чалавеку ды і ўсім другім было.

Але ж і праўда: адкуль у такую пару бяжыць дзеўка Гарбацэвічаў? Гы,— хмыкнуў Андрон у пракураныя да ржавага адцення вусы,— дзела яно маладое. Ці мала дзе галубіцца можна...»

Сыпун, як толькі заўважыў, што Надзюха, наламаўшы фартух буракоўніку, ідзе да хаты, выйшаў на ганак. Глытнуў на поўную грудзіну ранішняга, водарна-пахкага паветра, закашляўся — глуха і глыбока.

— Во халера курыва, глядзі, і вантробы выверне,— плюнуў Андрон узбоч сябе.— Як колам па плячах уздзявуліла.

Надзюха ад нечаканасці аж прысела.

— Ты яшчэ жывы? — замест прывітання папыталася яна.

— Не дачакаешся. Паглядзіш — на тваіх хаўтурах я чарку вып'ю і песню зацягну. Ды такую, каб уся вёска падхапіла.

— За жывое няхай цябе хопіць,— неўзлюбіла Надзюха.— Калі сваю жонку са свету звёў, дачасна ў зямлю загнаў уедлівасцю, то каб мяне дастаць — у цябе рукі задужа кароткія.

— Навошта мне ты, старая шэльма, гібей пад сонцам, сама ў дамавіну папросішся, а яе і не будзе. Думаю, дошак, каб збіць труну, яшчэ ж не навалачыла на гарышча. Папрасіла б мяне. Удвух іх прынеслі б ад калгаснай лесапілкі. А там, глядзіш: чарачку б наліла, а я паціху і па-суседску вечную дамавіну табе састроіў бы. На тым свеце паненкай сябе адчуеш, мяне штодня прыгадваць пачнеш.

— Няхай цябе балотныя жабы прыгадваюць. Дамавіну ён мне суліць, Конетоп бязбожны!

На Андрона, падалося, як быццам нехта нябачны вядзёрны чыгун вару выліў. Ён жвава саскочыў з веснічак і кінуўся да плота, які падзяляў агарод суседзяў.

— Не чапай, гадаўка, коней, а то прыдушу ў баразне і не каўкнеш, паганка ты языкастая. Коні ёй дарогу перабеглі!

— Конетоп, Конетоп,— як саплівае дзіця, даймала Надзюха Андрона.— Што, рыбкі цяперака ўжо не хочаш, бо не з рукі коней тапіць, ды і рэчка абмялела, возера перасохла, га, Конетоп?

Сыпун спрабаваў пералезці ўжо цераз плот, але Надзюха, перабіраючы хуценька нагамі, шуснула ў сенцы.

— Во і сядзі там, шэльма старая, бо калі ўпалюю, то ўжо ў падполле да пацукоў галавой упіхну. Не будзь я Андронам.

Сыпун абапёрся спінаю на плот, зняў з галавы зношаны і выпалены сонцам капялюш, пашкроб лысую макушку, затым

павярнуўся, зірнуў яшчэ раз на зачыненыя суседчыны сенцы і паціху патупаў да сваёй хаты.

З даваенных часоў замацавалася ў Шышкаўцы за Андронам Сыпуном мянушка Конетоп. А ўсё пачалося з таго, што патрапіў Андрон у маладыя гады на далёкую рэчку Аку. Пайшоў ён у тыя мясціны не па сваёй волі, а лёс пагнаў, галадуха ды нішчымніца. Заўсёды ж здаецца, што ў далёкім краі і грыбы вышэйшыя, і ягады буйнейшыя, а хлеб мякчэйшы. Пабыў на далёкіх і лепшых харчах Андрон, а гадкі праз два, якраз за зіму да вайны з немцамі-фашыстамі, прыехаў ён дамоў, у Шышкаўку.

Кожнаму свежаму чалавеку, які з'яўляецца ў вёсцы, Надзюха Перазімчыха расказвала пра Андрона-Конетопа прыкладна так: «Наглядзеўся гэты недавумак чужых звычак ды забабонаў у далёкіх землях і захацеў, каб прыжыліся яны ў нас. Гадоў некалькі не вялася ў шышкаўскім возеры рыба, і ў рэчцы яе паменела. Тады ўжо вазамі шчупакоў ды карасёў з плоткамі не вазілі. Колькі мужчыны ні стараліся, а ледзь-ледзь на юшку налоўлівалі. Рыба як усё роўна выпарылася з нашых вод. Усялякія здагадкі хадзілі, а каб нешта путнае прыдумаць, такога не знаходзілася. Вось тут і заявіўся наш Конетоп. Уведаў ён пра бяду, а сам жа быў заядлым рыбаком, і адным вечарам, якраз пад саменькую вясну, сабраў Сыпун мужчын у матчынай хаце і давай ім росказні нагаворваць, раіць, як бяду агораць. Даводзіў ён усім, хто прыйшоў на сходку, што ўсё горачка з рыбаю з-за таго, што ўзлавалі, не залашчылі нашы мужчыны мясцовага азёрнага і рачнога вадзяніка. (У гэтым месцы гаворкі Надзюха весела, па-маладому смяялася, закінуўшы галаву, і хапалася за бакі, калі гаварыла стоячы, ну, калі сядзела пры гамонцы, то абхоплівала рукамі свае худыя, вуглаватакасыя плечы.)

Нашаптаў Конетоп, каб сабралі мужчыны па некалькі рублёў і адправілі яго шукаць цыганоў. А на той час іх і не дужа цягалася па вёсках, новыя законы забаранялі, і міліцыянты налявалі на іх, застрашвалі, на зямлю ўсадзіць хацелі. Ды дзе вы бачылі, каб цыган за плугам хадзіў, а цыганка з сярпом спіну гнула. Дулю пад нос. У страшным сне і то не ўбачыш.

Але сабралі шышкаўскія рыбакі па рублю і адправілі Сыпуна (Надзюха, усе гэта ведалі ў вёсцы, мо толькі разы са два назвала Андрона па імені. Ей здавалася, што, завучы яго па мянушцы, яна быццам бы ганіць і помсціць старому) шукаць валачобных цыганоў. Тыдні два яго не было, і ніхто яго не бачыў. Знік Сыпун і грошы знёс. Той-сёй гаварыў, што такой крутнёй-гаманою сабраў ён грошы, каб з'ехаць як падалей у свет белы ды і абжыцца па-людску. Але на трэці тыдзень, пад вечар, Сыпуна ўбачылі ў вёсцы. Ішоў ён, ледзь цягнучы ногі, а на повадзе вёў коніка-дахадзягу. З-пад конскай скуры адны маслакі тырчэлі. Зірнеш і думаеш: во падзьме большы сіберны вецер і ўзнясе пад хмары і чалавека, і каня. Выкупіў, значыць, дурніла ў цыганоў самую нягодную каняку і, як сам гаварыў мужчынам, без «торгу». Такое правіла быццам бы. Загадаў яшчэ Сыпун усім рыбакам з хатаў прынесці па прыгаршчах ячменю ці аўса, а хто зможа, то і канопляў. А бясхлебіца ж пад вясну, пад кожнай страхой голад скуголіць, дзе тут набярэшся ячменю, не кажучы пра каноплі. Мужчыны ж, няхай яны спруцянеюць (заўсёды бачылася, што ў гэтым месцы свайго казання Надзюха пачынала злавацца, яе сухенькі маршчыністы тварык усыпаўся чырвонымі плямамі, у жвавых, бясколерных вочках успыхвалі гняўлівыя іскаркі, пачынала трэсціся барада з рэдзенькімі сівымі валаскамі), крадком ад жонак з засекаў насеннага зерня нацягалі. Усё для каня-дахадзягі.

Тры дні Сыпун адкормліваў яго. А ў апошні, трэці, вечар паваЛокся дурніла Сыпун да Яўхіма-медавіка. Той калод пятнаццаць пчолаў меў. У яго і выцаргаваў Конетоп карэц мёду. Змяшалі яго рыбакі з соллю і вымазалі галаву беднай худобе. А ўсё ж рабілі тайком, каб мы, бабы, не бачылі. Ды халера з імі. Усё роўна даведаліся пра іхнія выбрыкі.

Апоўначы, так казаў нябожчык Пятрок, ён разам з усімі мужчынамі быў, павялі гуртам каня да рэчкі, у тое месца, дзе яна ў возера ўпадае. А ўжо крыгаход пачаўся, лёд трашчаў, што палатно, якое на анучы рвуць. Цёмненька вакол, бойся, што вока на галіне павісне. Пазапальвалі яны квачы з дзёгцем і стоўпіліся на беразе. Душагубец Сыпун загадаў звязаць намазанаму каню ногі не толькі пярэднія, але і заднія. Сам жа стаў ракам і да вады прыслухоўваецца. Доўга ці не так стаяў ён, я

не ведаю, але ж, гаварылі мужчыны, раптам усхапіўся, нібы гадаўка балотная яго ўджаліла, і з усяе сілы піхнуў каня з берага ў прорву рэчкі, на паламаны лёд. Конік і голасу не падаў, як вада яго з'ела. Шчубоўкнуўся ён на пачастунак вадзяніку, каб той (Надзюха зноў залівіста смяецца), прачнуўшыся пасля зімы, не мучыў малую рыбу, не разганяў вялікую, а ўлагодзіўся пачастункам-конікам ды сцярог, аберагаў, прыманьваў з другіх, далёкіх, вод да сябе, гэта значыцца ў нашу рэчку і возера, ёмкіх рыбін.

Калі ж вярнуліся мужчыны з рэчкі, то цалюткую ноч брагу жлукцілі. Пераказвалі, што Сыпун спецыяльна яе зрабіў да таго дня. Дзіва, адкуль Конетоп на той час расчыны ўзяў для бражкі?..»

Надзюха звекавала ў дзеўках. Па маладосці, як гаварылі цяпер ужо старыя жанкі, то была яна на выгляд і не дужа брыдкаю. Куды больш горшых і нягеглых нядайдзіц хлопцы падабралі ў Шышкаўцы, калі не свае, дык з суседніх вёсак ці выпадковыя, наезджыя, якіх было не так і мала. Шышкаўка мясцілася паміж двума райцэнтрамі — Прапойскам і Маластоўкаю. Вось адтуль і набягалі малойцы, падчышчалі ў Шышкаўцы незамужніх, navзозілі да сябе, на брукаваныя вуліцы, у святлейшыя хаты. Надзюха ж заставалася жыць з бацькам, па невядомай прычыне абміналі жаніхі дворышча Перазімкаў, як усё роўна там чамярыцы нехта сыпануў.

Сараматілася напачатку Надзюха, калі яе пагодачкі замуж павыскаквалі, дзецьмі абсыпаліся, а пазней, калі трыццаць гадкоў адгукала, зжылася з думкаю, што прыйдзецца застацца ёй у бацькавай хаце адной-адзінюсенькай. Праўда, у вайну прыбіўся да Надзюхі акружэнец: някідкі такі мужчына, гадоў на дзесяць старэйшы, але руплівы і нязломак. Разам са старым Перазімкам хату за лета ператрэслі, зрабілі новы падрубак пад ніз, на шуллё дубовае паставілі замест падмурка — абнавілі хату. Радавалася Надзюха, цешылася шчасцем. Здавалася, і яе Бог аблашчыў, не забыў, не пакінуў стаптаным быльнягом пры дарозе. Толькі ж прыйшлі савецкія войскі, пагналі немчуру, і знік акружэнец, па сённяшні дзень ад яго і водгаласу няма. Сумавала Надзюха, пісьмы паўсюль пісала, у архівы запыты пасылала, да людзей старых хадзіла, а чалавек быццам скрозь

зямлю праваліўся ці, як вада ў чыгунку, на палкім агні выпарыўся і следу не пакінуў. Думала-думала Надзюха і ўрэшце вырашыла, што падмануў яе акружэнец, не сваім імем і прозвішчам назваўся. Калі дайшла розумам Перазімчыха да такой высновы, то і палягчэла на душы, знікла, перагарэла пякучая стрэмка ў сэрцы, лягчэй дыхаць стала і на божы свет глядзець. Не яе, значыць, было гэта шчасце. Пагрэлася крыху душою і целам каля чужога агеньчыка-цяпельца — і досыць. Усяму меру трэба ведаць. Жыццё рэдка дорыць каму адно безагляднае шчасце. Як дзень змяняецца ноччу, так і шчасце — журботаю ды слязамі. Але Надзюха не плакала, здаецца, ніхто з шышкаўцаў не бачыў яе пякучых слёз. Яна, наадварот, стала ўедлівай, з языком, што натачаны серп, а вочы-вужэлкі так і джгалі вакол, выглядвалі, сачылі, прыкмячалі.

## IV

Лёнік з бацькам толькі што прыйшлі з лугу, падварочвалі надоечы скошанае сена. Густая, з кветкамі, трава добра падвяла, шархацела пад граблямі, а вакол, у прагрэтым зіхаткім паветры, хмельна пахла зёлкамі, разагрэтым дзёрнам ад купін рудых земляных мурашоў і гаркавай лістотай лазоўніку, які густа і шчодра рос паўз рэчку. Адтуль, ад вады, вецер даносіў да разгарачаных целаў пяшчотныя і лагодныя подыхі прахалоды.

Лёніку здавалася, што ўся гэта шматгранная гама пахаў прынесена ім і бацькам у хату.

— Гаспадынька, ці думаеш карміць парабкаў? — весела гукнуў Сяргей Лозік, Лёнікаў бацька.— Гарачыня на лузе, не прадыхнуць. Калі з дзянёк пастаіць такая пагодзіца, то сена, лічы, у хлеве ўжо ляжыць. Чуеш ты мяне, Маруся?

— Зараз, пачакайце, мужчынкі, дакончу з халаднічком і пастаўлю вам яго на стол,— Маруся вызірнула з-за перагародкі кухні.— Папіце пакуль малака, яно ў лядоўні. Толькі дужа не ўлягайце, а то горла прастудзіце. Кажаш, Сяргей, што праз дзень і грэбці можна сена? Во добра было б. Утрох мы хутка ўправімся, і клопат з галавы зляжа. Але забалбаталася я,— перапыніла на хвілінку гамонку жанчына.— Чуць не забыла-

ся. Табе, Лёнічак, там на падаконні пісьмо ляжыць. Паштарка нядаўна прынесла.

— Мам, ты яго хоць не адпячатвала? — з'ёрнічаў хлопец з непрыхаванай весялосцю, а ў душы ўсё ж хвалюючыся. Хто яго ведае, цікаўнасць роднага і блізкага чалавека можа і на такое пхнуць. Але ж у іх сям'і не прынята чапаць лісты, якія адрасаваны пэўнаму чалавеку, нават тыя пісьмы, што прыходзілі ад дзядзькоў ці іх жонак на імя Сяргея ці Марусі Лозік, ніхто іншы ў сям'і не чытаў без дазволу.

— Ды ўжо ж на памяць вывучыла і паспела пераказаць Ціеразімчысе, каб тая па ўсёй Шышкаўцы разнесла нечаканую навіну. Добра ты пра мяне думаеш, сыне. Ай-яй-яй, не сніла і не гадала, што будзеш мяне, Лёнічак, у нечым падазраваць.

— Я дзеля смеху папытаўся,— пакрыўджана апраўдваўся хлопец.— Ты ў мяне самая лепшая з усіх на свеце мамуль.

Лёнік мітусліва паспяшаўся шукаць пісьмо. Зірнуў на адно падаконне, на другое, але там нічога не было, акрамя бацькавых акуляраў ды старых, зжаўцелых на сонцы газет.

«Мо пажартавала маці? Яна ў мяне такая — любіць сыпануць за каўнер жменьку ячменных вусоў — нечакана, каб паказытала чалавеку, а пасля, ужо разам, скупа і ўсміхнуцца».

— Няма тут нічога,— расчаравана гукнуў Лёнік.— Зноў смяешся з мяне, як з хлапчука бясштаннага.

— Авой, глядзі ты — пакрыўдзіўся,— выйшла маці з кухні,— бацьку перарос, а губы надзімаеш. Чаго яно тут будзе ляжаць? Занесла яго на чыстую палавіну і на першае акно паклала. Галавою думай, хлопча. А почырк на канверце дужа ж зграбны, залюбавацца можна, буквіна ў буквіну выведзена, не тое што твае каракулі. Кумекала я, хто б гэта мог быць, але не дадумалася. Ранейшых перапісчыкаў усіх па почырку пазнавала, а тут хоць застрэлься — не магу ўспомніць. Нехта новы з'явіўся.— Маруся хітравата прыжмурыла вочы. — Няйнакш будучая нявестка піша.

— Бабскі язык, што мятла,— азваўся бацька, седзячы за сталом.— Лёнік яшчэ маладзён, няхай гуляе ды вольнай вольніцы радуецца. Цуглі паспеюць на яго ўздзець, тады не

параскашуеш. А яна ўжо нявестку па почырку выбірае. Ты лепей на стол яду нясі, а не мянці языком, ён сам разбярэцца.

Лёнік далей не слухаў гамонку бацькі з маці, а, хуценька адчыніўшы дзверы, шуснуў у залу і кінуў позірк на першае падаконне. Сапраўды, за цюлевай фіранкаю ляжала пісьмо. Ён хуценька, як быццам хто пекануў у спіну, падскочыў да акна і спадыспаду фіранкі выхапіў ліст.

«Почырк Веранікі!» — адразу ж пазнаў Лёнік, на адваротным адрасе, акрамя слова «Мінск», больш нічога не было.

— Усё ж напісала! — сам сабе мармытнуў хлопец.— А я думаў, што жартам кажа...

Гэтай вясною пазнаёміўся ён з Веранікай на мітынгу, які праходзіў у парку Янкі Купалы. Людзей тут сабралася нямала, выступалі прамоўцы. У майскім, надзіва цёплым, нават гарачым, паветры для такой часіны, луналі, трапяталі сцягі, людскія галасы падхоплівалі лозунгі, якія гучна вылятаі з узмацняльнікаў. Паўсюль бачыліся каржакаватыя постаці міліцыянтаў, ёмкія хлапечыя постаці ва уніформе, там-сям на шыракаватых сцежках-тратуарах стаялі брызентавыя спецмашыны і «уазікі», якія дужа не любяць выпівохі і зладзеі. Усё было як звычайна апошнім часам у сталіцы, але... Але, нягледзячы ні на што, моладзь радавалася вясне і сонцу, кволкаклейкай маладой лістоце на дрэвах, паху разагрэтага асфальту, які яшчэ не паспеў абрыднуць,— хацелася кахаць, шчыра ўсміхацца і па-заліхвацку рагатаць, не шкадуючы лёгкіх і горла.

Пасля выступлення апошняга прамоўцы, калі людзі пачалі паціху разыходзіцца, расцякацца па вузейшых сцежках ручаямі, а па больш шырокіх і ёмкіх — плынню, Лёнік і сутыкнуўся плечуком з Веранікай. Нехта міжволі яго падпіхнуў у натоўпе, і ён, не жадаючы таго, выбіў сумачку з рук дзяўчыны. Яна войкнула і наважвалася падняць з асфальту неад'емны дзявочa-жаночы атрыбут, але дзе там ёй, кволай, справіцца з няспынным і напорыстым людскім гуртом. Лёнік, распіхваючы ўсіх торсам, на нейкае імгненне змог нахіліцца і падхапіць па яго віне выпаўшую сумачку. Да самага праспекта, дзе заканчваўся парк, яны ішлі побач. Лёнік знарок не адставаў ад дзяўчыны, а яна, худзенькая, але з расчырванелым на сонцы тварыкам, здавалася, і не спяшаецца.

Ідучы ўжо не па такой шматлюднай вуліцы, Лёнік адважыўся і папрасіў прабачэння за ненаўмысны штуршок.

— Гэта вам вялікі дзякуй,— адказала дзяўчына,— калі б не вы, то мяне растапталі б разам з сумачкай,— яна прыязна ўсміхнулася.— Вось бы пагуляла сёння.

— А вы на мітынг трапілі выпадкова?..— Лёнік зірнуў у шырокія, колеру арэха, вочы новай знаёмкі.

— Так.

— Зусім выпадкова?

— Ну вядома ж. Прагульвалася па праспекце і пачула голас узмацняльніка, стала цікава, і я шуснула ў сквер. А вы спецыяльна прыйшлі?

— Ыгы.

— Я не адважылася б.

— Чаму?

— Ну самі ведаеце... Такі час цяпер.

— І тым не менш вы былі ў парку.— Лёнік усміхнуўся, калі заўважыў, як устрапянуліся танюткія шнурочкі-бровы над пераноссем у дзяўчыны.

— Была выпадкова,— яна надзьмула пульхненькія, як бутончык ружы, умела падмаляваныя вусны.

— Хай будзе так, навошта крыўдаваць,— заспяшаўся ўлагодзіць дзяўчыну Лёнік.

— Ай, хто вас ведае. Перад тым як нешта сказаць, трэба падумаць.

— І хто такой мудрасці навучыў?

— Сама дайшла розумам.

— Але калі не супраць, давайце знаёміцца. Я — Лёнік, а прозвішча, толькі не смейцеся, Лозік.

— Веранікай усе мяне клічуць. Але давайце лепш без прозвішчаў. Няўжо гэта так важна пры першым знаёмстве?

— Ды не. Як хочаце.

— Не люблю я цырымоній. Мы ж не старыя, каб «выкаць» адно аднаму. Давай прасцей, тады адчуваеш нейкую блізкасць, няма той мяжы, якая аддзяляе і нібы адштурхоўвае. Я нават недзе чытала, што ў вас, беларусаў, увогуле было раней не прынята адзін аднаго называць на «вы».

— А ты, Вераніка, не беларуска?

— Бацька ў мяне з Украіны, а маці мясцовая, з-пад Мінска. У пашпарце я значуся рускай,— яна дзіўна хіхікнула, падхапіўшы Лёніка пад руку.— Так будзе лепш.

— Што лепш? — не зразумеў хлопец.

— А ўсё, — Вераніка зноў хіхікнула. — Паглядзі, колькі цюльпанаў на клумбах. Яны і нарцысы — мае самыя любімыя кветкі. Кожны год, як толькі з'яўляюцца, то не праходжу міма бабулек, каб не купіць букецік тых ці другіх. Ёсць у іх нешта непараўнальна прыгожае, ненавязлівае, шчырае і праўдзівае. Ты так не лічыш?

— Чаму ж?

— Тады купім у той бабулі, што каля падземнага перахода стаіць.

Лёнік да кветак адносіўся абыякава. Не прывык да іх. З дзяцінства помніў, што каля іх дома маці ніколі не садзіла і не сеяла на градках кветак. Яна, як практычная жанчына і гаспадыня, пад вокнамі хаты, на прыгожа і зграбна зробленых градках, высаджвала цыбулю і часнок, моркву ці фасолю. І самае цікавае — глядзелася ўсе гэта міла і люба, лашчыла вока, саграквала душу...

Цяпер Вераніка ішла з букецікам жаўтлявых нарцысаў у руцэ. Яны здаваліся халоднымі і пругка-дзябёлымі, як толькі з маразільні. Дзіўна, чаму ў вясновай гарачыні яны не набіраюцца цяпла і пяшчоты ад прамяністага сонца, ад подыху ветру, які лашчыць усё жывое. І не толькі. Нарцысы — нібы мёртвыя, ашклянелыя кветкі, якія Лёніку ніяк не хацелася б трымаць у сваёй далоні.

— А ты сам адкуль? — зірнула арэхавымі вачыма Вераніка.

— З Магілёўскай губерні.

— Вучышся тут, у Мінску?

— Ага.

— Калі не сакрэт, то дзе?

— У політэхнічным.

— Які курс?

— Чацвёрты.

— Хутка ўжо скончыш. Зайздрошчу,— дзяўчына непадробна ўздыхнула.

— Ты пра мяне ўсё ўведала. Цяпер мая чарга. Ты згодная?

— Давай.

— Пункт першы: вучоба і курс?

— Інстытут культуры, трэці курс.

— Адкуль, з якога роду і племя?

— Мінчанка карэнная, з вуліцы Пляханава. А далей каб не пытаўся, то скажу шчыра. Мая сям'я такая: маці, тата, сястра і я. Кватэра двухпакаёвая, так што, бачыш, нявеста я не дужа завідная. Але маем яшчэ і дачу з дзесяццю соткамі. Праўда, на яе не рвуся.

Лёнік не ведаў чаму, але, ідучы разам з Веранікай, гледзячы на расквечаныя тратуары рознакаляровымі, лёгкімі жаночымі сукенкамі, маладой лістотай на каштанах і, урэшце, кідкімі плямамі клумбаў паўз вуліцы, пачуваў сябе лёгка і вольна. Хацелася вось так ісці і ісці, не зважаючы на таўханіну і шматлюддзе тратуараў, на прыдушліва-спёртае, да казытання ў горле, паветра — машыны смуродзілі празмерна. Толькі ж і ў іх няспынным бегу і гуле, рыпенні тармазоў, вохканні і шыпенні каля святлафораў бачылася невыказная шчырасць радасці вясне.

То была першая сустрэча Лёніка з Веранікай, іх першы дзень. Яны доўга хадзілі па горадзе, няспешна блукалі па невялічкіх скверах, прысаджваліся на крэселцах пад вялікімі парасонамі каля кавярань, пілі фанту і колу, разы два смакавалі густую чорную каву і цешыліся сустрэчай (ва ўсялякім разе так здавалася Лёніку).

Далёка за поўдзень яны дайшлі да вуліцы, дзе жыла Вераніка. Даўгаваты пяціпавярховік хаваўся ў двары, на якім густа раслі гонкія бярозкі. Некаторыя з іх выцягваліся аж да апошняга паверха. Тут было суцішна і прахалодна, а калі не лічыць трох мальцоў на дзіцячай пляцоўцы, то і бязлюдна.

— Давай прысядзем на лавачцы, вунь пад тым адзінокім клёнікам,— папрасіў Лёнік.— Не хочацца разыходзіцца, а карціць пабыць разам яшчэ хоць хвілінку.

— Можна пасядзець і тут,— Вераніка сарамліва адвяла позірк,— але ў мяне дома нікога няма. Я ж табе гаварыла, што мае паехалі на дачу, то чаму б не зайсці ў кватэру, паспрабуеш, як гатую я каву.

Лёнік не чакаў такой прапановы, на нейкую хвіліну разгубіўся, а сэрца моцна затахкала ў грудзіну, быццам пасля спрынтарскай стометроўкі.

Вераніка была першай з дзяўчат, з якімі ён сябраваў і якая вось так проста, у першы дзень знаёмства, запрашала да сябе.

Яны няспешна падняліся на чацвёрты паверх, ключ шчоўкнуў два разы ў замку, і ласкавая прахалода кватэры агарнула іх, закалыхала, залашчыла, прытуліла адно да аднаго.

## V

— Лярва ты бяздумная, шэльма непрытульная! — загаварыла з парога Вольга Гарбацэвіч.— Ці ў цябе мазгі градам адбіла, ці ўжо ў няцерпіцу зашлыкатала між ног, каб так родную матку ганьбіць! Калі ўжо смыліць бязмерна шлунне тваё, я знайду, чым лячыць, махнаткі ў мяне пад рукамі шторання, выхаплю і ўпіхну ў тваю кумагерку, за адзін уздых усё выпаліць дашчэнту. Выгадавала сабе на галаву дачушку, лепей, чым ты адна, няхай бы ў мяне пяць хлопцаў гадавалася, погань ты паршывая, гадаўка! Ану прызнавайся, да каго ноччу на злучку бегала! — Вольга бяссільна села на табурэтцы каля чапельніка, звялай рукой сцягнула з галавы лёгкую хустку і цярнула ёй памакрэлыя вочы.

— Шышкаўка гудам гудзіць, быццам выдраны мядзведзем рой, бабы на мяне глядзяць, як на залатушную. А я ж, дурніца, гавару ім пра тое ды сёе, гаманю, як штодня, пячонкай адчуваючы няладнае, а яны смяюцца ў вочы, зубы сушаць на сонцы, няхай бы іх косці высушыла. Скуль мне знаць, што дачушка мая скурвілася.— Гарбацэвічыха перавяла дых, машынальна цярнула з барады тыльным бокам вольнай рукі няспынна набеглыя слёзы, глуха выдыхнула, як быццам з плячэй скінула гнёткі мех.— Пытаю апошні раз — з кім ноч была, блудніца? Маўчыш? Ну-ну, памаўчы... Гэта ж каб не кума Наста, так і хадзіла б я, ліха не ведаючы, а бабы нашынскія цешма б цешыліся. Ці ж я дабра табе не хацела ці не хачу? Лялькай у мяне жывеш, як яечка, берагу цябе, парушынкі здзімаю, а яна наравіць, каб ад горкіх дум у мяне, маткі, каўтун завёўся. Кажы, дзе і з кім была! Періазімчыха ўсіх «абзваніла» каля калодзежа,

усім данесла пра твае гульбішчы-любішчы.— Вольга задыхана ўсхапілася з табурэта, падскочыла да прыціхлай Дуняшы, якая ляжала з кнігаю на невялічкай рыпучай канапцы паўз дзверы, што вялі ў чысты пакой-залу, і хусткай затрапала па светлавалосай галаве дачкі. Дуняша не абаранялася, а толькі прыкрыла твар далонямі. Ды і якую шкоду магла зрабіць лёгкая хустка маці? Сагнаўшы крыху злобу, Вольга прысела побач:

— Дачушка мая, ці ж я табе вораг? Як самой сабе верыла, а што цяпер? Мо ты нічога бяздумнага і не зрабіла, а бачыш, што людзі гавораць, як у вочы мне смехам-соллю сыпяць. Не дай бог, у вушы бацьку ўвядуць, ён жа цябе на вуліцу і светлым днём не выпусціць, не кажучы ўжо пра вечар.— Вольга зноў памаўчала, паставіўшы локці рук на калені, а далонямі абхапіла галаву, захітала ёю, нібы старалася абтрэсці з валасоў, зачэсаных на патыліцу, нябачную павуціну ўедлівага суму, пякучага дакору, што сціскаў яе, мацярынскую, душу і цела.

Так прайшло некалькі хвілін. У куце пад іконаю, там, дзе стаяў стол, пакрыты саматканым, яшчэ свекрыві, белым абрусам з мудрагелістымі карункамі на сподзе, мірна і заспакоена цікаў нядаўна куплены будзільнік. Па шыбінах двух акон стомлена, але настойліва зумкалі некалькі мух, парываліся вырвацца на двор. Хатнім яны пакуль што дужа не дакучалі, гэта ж табе не спасаўскія і не восеньскія мухі, што джгаюць, прыліпаюць да цела і кусаюць пякучым агнём.

— Прызнайся, дачушка, і мне палягчэе, буду хоць ведаць, каго за сватоў лічыць, з кім у першую чаргу на вуліцы вітацца. Мо пабярэцеся з гэтым хлопцам? — Вольга ўстрапянулася.— Ён хоць наш, шышкаўскі? — Адчувалася, што Гарбацэвічыха паспакайнела, стала больш разважлівай і ўдумлівай.

«Ну і што, калі дачка прыйшла дамоў разам з маладым сонцам, якое пабудзілі гарластыя пеўні? — падумала сабе.— Ці мала дзе магла дзяўчына затрымацца, заседзецца? Гэта ж яшчэ не канец божага свету. Гады ў яе такія: няхай адпачне і палашчыцца, толькі б галавы не губляла. А яна, Дуняша, у яе, Вольгі, кемлівая і наравістая, у крыўду сябе ніколі не дасць. Урадзілася такой, пайшла характарам у Івана, бацьку свайго. А тое, што старая пляткарка Перазімчыха вярзе, дык няхай ёй скула на языку ўскоча. Сваіх дзяцей ніколі не мела, то за чужымі

і цікуе, небыліцы розныя ўзводзіць, без агню дыму шукае. Не, не буду я Вольгай, калі не перацягну старую па спіне кіем. Хай ужо і грэх на душу вазьму, толькі ж хто абароніць роднае дзіця, калі не я, матка... А бабы нашанскія ўжо такія цацкі, смехам душацца, колка пазіраюць. Няхай не забываюцца, што кожная, лічы, сваю незамужнюю дачку мае, во за імі няхай і прыглядаюць, кволяцца. А то ж Шаўчыха, даруй ёй Божа, два гады таму дапякала Кацярыну Перагудаву, у якой дачка зацяжарала ад прыблуднага шафёра, што, калі б мая дачка такое зрабіла, то яна б, Шаўчыха, ні хвіліны не думаючы, паклала б даччыну галаву на парог і сякерай па шыі. Праз гадок жа і яе донечка-дзесяцікласніца ў падоле двойню прынесла — хлопчыка і дзяўчынку. Шкода, што мёртвымі нарадзіліся. Няхай бы раслі дзеткі, усім месца на матухнезямлі хопіць».

Вольга цяжкавата паднялася з канапы, на якой моўчкі так і ляжала Дуняша, адвярнуўшыся тварам да сцяны.

— Як крыху спадзе жара, выберы на градах гуркі, замачы іх гадзіны на дзве ў выварцы, а вечарам разам упарадкуем. Сама пайду на дальні гарод, пагляджу, ці счэзлі жукі з бульбоўніку, бацька ўчора труціў іх тамака. Ты мяне чуеш? Анямелай ляжыш! Перш чым зрабіць нешта, падумаць трэба, во тады і ладам усё ісці будзе. Глядзі, гуркоўніку не пакамеч, а то ён і так жаўцець пачаў.— Вольга начапіла сваю, здаецца, нязменную лёгкую хустку, якую ўсё трымала ў руках, і, лёгка націснуўшы клямку дзвярэй, выйшла ў двор.

«Ну ўсё, здаецца, абышлося і ўляглося крыху». Дуняша ўсхапілася з канапы, задаволена пацягнулася, прыгладзіла далонямі кароткія светлыя валасы на галаве, зірнула на сябе ў старое цьмянае люстэрка, што вісела на сцяне паміж двума вокнамі, і, саўгануўшы ногі ў напаўзношаныя тапкі маці, выскачыла з прахалоднага пакоя хаты ў дзённую спякоту.

Сонца напаліла паветра так, што калі яго ўдыхаеш, то здаецца, апякаеш лёгкія. Не раўнуючы, як у лазні, калі заходзіш у парыльню са студзеньскага марозу.

Дуняша прысела на лаўцы каля ўзорыстай веранды. Добра, што тут яе ніхто не мог бачыць. Бацька абгарадзіў двор высокімі дошкамі з разнымі варотамі. І будзь ты хоць два мет-

ры ростам, але нічагусенькі не ўбачыш, што робіцца на двары ў Гарбацэвічаў.

Дуняша пасля дзесяцігодкі паступала ў Магілёўскае медвучылішча. Ёй вельмі хацелася хадзіць у белым халаціку, які насіла б абавязкова вышэй калень, а на галаве — высачэзны хрумсткі каўпак. Пры яе сярэднім росце яна мела б яшчэ і туфелькі на высокім абцасіку-шпільцы. Тут ніводзін хлопец не ўстояў бы, зірнуўшы на яе. Але... Вярнулася яна з Магілёва пасля першага іспыту заплаканая і расчараваная.

«Значыць, не лёс, дачушка,— суцешвалі бацька з маці,— знойдзеш сваю яшчэ дарогу ці сцежачку ў жыцці. Толькі рукі апускаць, як тапельцу, нягожа».

Пагаравала Дуняша тыдні са два, а праз месяц нанялася працаваць у кааператыўны кіёск у Маластоўцы, іх раённым цэнтры, які знаходзіўся за пяць кіламетраў ад Шышкаўкі. Гэта ўсё ж табе не вёска, людней і весялей, моладзі і аднагодкаў болей. А яшчэ і тое-сёе модна-дэфіцытнае можна перахапіць, прытрымаць і самой выкупіць. Што крывіць душою, капейчына вальнейшая ў кішэні з'явілася. Гаспадар кіёска Халіл, а ў яго іх было каля дзесятка, не дужа каб улягаў ды сачыў за ўсім. Дуняшы, можна сказаць, ён заўсёды верыў на слова, абы выручку не затрымлівала, своечасова здавала. Разоў колькі Халіл падлабуньваўся да дзяўчыны. Яна ж адпіхваць не адпіхвала, але вельмі і не гарнулася, не давала празмернай зачэпкі для больш інтымных адносін. Гаспадар ёсць гаспадар, яму ўсміхнешся нават тады, калі сэрца ў грудзіне сукравіцай сыходзіць, а на душы гаркота, мацнейшая за настой палыну. Але ў Дуняшы такое рэдка здаралася. Чаго ў яе гадкі дужа ўбівацца і сумаваць? Усё яшчэ наперадзе, і яе казачны прынц недзе блытаецца, дарогі пакуль не знайшоў да кіёска. Толькі ж Дуняша ўмее чакаць, яна ўпартая і настойлівая — нікуды не дзенецца, прыедзе-прыскача, вось тады яна і пакажа, на што вартая...

Зусім нечакана прынца дзяўчына ўбачыла ў сваёй Шышкаўцы. Колькі гадкоў яна побач хадзіла з Лёнікам Лозікам, у клубе сустракаліся, перакідваліся слоўцам-другім, а гэтым летам быццам усё змянілася, прасвятлела. Калі шчыра пры-

знавацца самой сабе (хоць Дуняша адганяла гэты ўспамін), то яшчэ два гады таму спазнала яна ласкавасць Лёнікавых рук і прагную, неўтаймаваную любашч ягоных губ.

Было тое на пачатку жніўня, у бункеры жытняй саломы на калгасным полі. Але ёй усё тое падалося недарэчнай дзіцячай забавай, як гавораць у Шышкаўцы, «балаўством». І вось сапраўднае каханне. Ад яго проста-такі дранцвела цела, нічога не хочацца есці, а толькі б знаходзіцца побач з Лёнікам, слухаць яго жартаўлівыя словы, гладзіць па стрыжаным вожыку валасоў, цалавацца, затаіўшы дыханне, аж пакуль не пацямнее ўваччу.

Ужо з тыдзень Дуняша начуе ў Лёніка ў хлеўчуку на сене.

«Усё ладна было б, каб не зоркія (няхай яны зацягнуцца бяльмом) вочы Перазімчыхі. Угледзела. Добра, што хоць не бачыла, адкуль бегла. Лёніку ад пушчаных старой каргой плётак ніякай шкоды не будзе. Дый хлопцу гэтыя пагалоскі ганьбы не нясуць.

Што б прыдумаць такое важнае і бяскрыўднае, каб маці адпусціла сёння вечарам з дому? Лёнік жа будзе чакаць каля возера. Перагавару-ка я з Наташай, яна, як суседка, няхай зойдзе да мяне, быццам каля хаты на лаўцы пасядзець, а там ужо ніхто не зможа ўтрымаць. Палячу да свайго прынца ластаўкай. Добра, што хоць адпачынак цяпер, не трэба ў Маластоўку ездзіць, інакш не ведаю, што і рабіла б... Адно дрэнна — у Лёніка хутка заканчваюцца канікулы, але ён паабяцаў, што прыме мяне ў горадзе пасля восені на зіму. Вось там раздоліца, ні на каго звяртаць увагі не трэба, рабі што хочаш і як хочаш. Хутчэй пачалася б зіма».

Дуняша так задумалася, што не пачула, як на двор зайшоў бацька.

— Ты чаго, дачушка, сядзіш на санцапёку? Пачырванела, што печаны рак. Яшчэ рана косці грэць, сабралася б ды на рэчку ці возера разам з дзяўчаткамі схадзіла. Вада дасюль угрэлася, і жаніха сабе выбрала б. А то я з вамі, бабамі, замучыўся. Удзвёх як уссядзеце, хоць каравул крычы.— Іван Гарбацэвіч аж рагатнуў ад свайго дасціпнага жарту.

Быў ён высакаваты і падцягнуты, шэрыя і выразныя вочы

хаваліся пад шырокімі густа-чорнымі брывамі, а квадратны, з ямінкай, падбародак, які між тым не выглядаў груварстка-цяжкаватым, здавалася, вытачаны ўмелай рукой майстра. Між брывамі, на нацягнутай скуры лба, пралягала вертыкальна глыбокая баразёнка.

Дуняша зірнула з цёплай любасцю на бацьку. Ён хоць і быў строгім мужчынам, так усе лічылі ў Шышкаўцы, але да яе, дачкі, адносіўся пяшчотна, ніколі не падвысіў голасу, не кажучы ўжо пра славутую папругу, якой звычайна іншыя бацькі выхоўваюць сваіх дзяцей. Іванава рука ніколі не паднялася на адзіналюбую Дуняшу. Хутчэй маці магла раней перацягнуць неслуха-дачку чым-небудзь па плячах ці галёнках — бацька ж ані разочку.

— Я і пайшла б, толькі маці загадала гуркі выбраць на градах,— неяк абыякава азвалася Дуняша.— Калі не зраблю да яе прыходу, сам ведаеш, колькі папрокаў пачую.

— З ёю разам мы справімся. Толькі ж куды яна збегла?

— Пайшла на дальні агарод.

— Так-так, інспекцыя па кантролю ў дзеянні, здаецца, гэтак пісалі ў нашай маластоўскай райгазеце.

— Усё ты помніш, тата.

— Ну я ж у цябе яшчэ не сівабароды дзед, і на печ ты мяне пакуль не падсаджваеш. Ці правы я, га?

— Вядома, тата.

— Значыць,так: збірайся і ідзі на возера, там вада цяплейшая, а гуркі нікуды не дзенуцца, да суседзяў з градак не перабягуць, плот не пусціць. А я папалудную і зноў у гараж. На рамонце стаю сёння.— Бацька зайшоў у хату.

«Дзякуй табе, Божа, ніякіх плётак не чуў,— з радаснай палёгкаю выдыхнула Дуняша.— На рэчку, дык на рэчку. А бабскія нагаворы няхай спрахнуць разам з іхнімі доўгімі языкамі. Я нікога не забіла і нічагусенькі не скрала. Навошта ж сябе зводзіць, па-дурному перажываць!»

Дуняша ўскочыла ў веранду, схапіла з шуфляды камода яркі купальны касцюм, доўгі мяккі ручнік і, як вясенняя маланка, шуганула за вароты на вуліцу.

## VI

Андрон пад дрывотняй перабіраў пні-смалякі, якіх нацягаў мінулым летам з дзялянак. Іх цэлая брыгада падрыўнікоў дынамітам выдзірала з зямлі для раённай смалакурні. Ці не з месяц у вёсцы толькі і чуліся прыглушаныя вухканні ўзрываў. Спачатку Андрону, мо дні з тры, было ніякавата і жахліва. У памяці адрадзіліся, здавалася, ужо даўно забытыя адгалоскі вайны. Але пакрыху прывык і ўжо праз які тыдзень не ўздрыгваў ад лясных узрываў, а вечарам, узяўшы тачку-двухколку, ішоў на дзялянку і з вялікіх яршыстых грудаў пнёў выбіраў самыя ядраныя і, як гусіны тлушч, жоўтыя смалякі. Зімою на падтопку ў печы лепшага і не прыдумаеш. Сякерай тоненька наскяпаеш некалькі жменяў і жыві прыпяваючы. Не трэба табе ані газета ці папера нейкая. Ды і адкуль яму, Андрону, узяць тую паперу: дзяцей або ўнукаў-школьнікаў няма, спісаных і непатрэбных сшыткаў ці кніжак — таксама. Газет жа ён і падаўней не выпісвае — дарага. На пенсію па цяперашнім часе дужа не параскашуеш. Вось тут смалячкі і прыдадуцца, выручаць.

Андрон упарадкаваўся ўжо з пнямі-смалякамі, лепшыя адклаў на зіму, а тыя, што жывіцаю напоўнены не вельмі, пакінуў бліжэй пад рукамі. Яны пойдуць на падтопку летам і восенню. Сыпун выйшаў з-пад паветкі, прысеў на калодзе паўз хляўчук, выцягнуў з кішэні старога, працёртага на локцях пінжака пачак папярос, размерана і павольна, як усё ён рабіў, чыркнуў запалкай па карабку, закурыў. Тут, у цяньку пад страхою, добра сядзелася і вальней дыхалася. Па двары, які зарос густым мурагом, сонна праходжваліся некалькі курыц, яны лянівa, быццам не хочучы, сашчыпвалі траву, грэбаліся ў трэсках, якія Андрон не паспеў прыбраць. Гэта, можна сказаць, і ўся гаспадарка Сыпуна. Да Пасхі трымаў ён яшчэ і парсюка, але перад самым святам закалоў, памагаў яму Іван Гарбацэвіч. Добры, спагадлівы мужчына. Андрон з ім вадзіў сяброўства. Ды і Івану, відаць, падабалася тады-сяды пасядзець са старым, пагаманіць, паслухаць пра ранейшае, тое, што яшчэ жыло ў памяці Сыпуна.

Андрон сабраўся ўжо ісці ў хату, засіліць коўшык хлебнага квасу, які ўвесь час рабіў па сваім рэцэпце, ды прагнаць у

горле свербна-гаркавы прысмак ад тытуню. Але нечакана рыпнулі варотцы, і на двор узбеглі цыганяты-падшыванцы. Яны адразу ж заўважылі старога і подбежкам падскочылі да яго.

— Дзед Андрон, мы прыйшлі да цябе па грушкі. Хлопцы казалі, што яны ўжо саспелі. Учора вечарам лазілі праз штыкетнік і дужа хвалілі,— старэйшы, Васька, гаварыў узахлёб.— Ці можна назбіраць нам, дзед Андрон?

— Гаворыш, лазілі ўчора? — задумаўся Сыпун.— Во ўжо калыглуззя неўгамоннае, а я-то кумекаю сабе, хто б гэта мог пацерці так бульбоўнік пад грушкаю?

— То ж не мы лазілі, дзед, а хлопцы большыя,— з перасцярогаю пачаў тлумачыць Васька.

— Ведаю, ведаю,— супакоіў малых Андрон,— калі б вы лазілі, то не прыйшлі б прасіць. А хто гойсаў праз частакол? — хітравата прыжмурыў вочы Сыпун.— Ці скажаш мне па-сяброўску, га?

— Мы не ведаем,— спуджана зірнуў хлапчук на брата з сястрою,— проста на вуліцы чулі, як нехта гаварыў. Праўда-праўда, дзед.

— Ну няхай будзе так. Ідзіце збірайце, але дужа не тапчыцеся, асцярожненька бульбоўнік разгортвайце, а то спляжыце тое, што яшчэ засталося пасля ўчарашняга набегу.

Дзеці пайшлі на агарод. Андрон правёў іх позіркам, уздыхнуў. «Цыганяты. Якія яны цыганяты? Трошкі цямнейшыя ад іншых ды гавораць не зусім так, як усе ў Шышкаўцы. Ведама ж — прыезджыя. Аднекуль з Расіі лёс закінуў. Бацька з маткаю ў чарку ўлягаюць, а яны, бедалагі, на падножным корме лецейка цалюткае. Трэба па скібцы хлеба з цукрам даць ім. Ці не з паўбатона белага яшчэ засталося з учарашняга». Андрон зірнуў на агарод. Разлапістая і кучаравая груша з рэдкімі ўсохлымі галінамі выпрасталася вышэй страхі хаты. Ранняе і адзінокае ў Сыпуна пладовае дрэва. А яшчэ тры гадкі таму больш дзесяці яблынь, груш, сліў і вішань густа расло на яго агародзе. За адно лета-лецейка ўсе ўсохлі. Быццам пошасць напала на сад. З вясны ж і лісточкі на кожным дрэве распусціліся, белай і ружовай квеценню галіны шчодра ўсыпаліся, а праз месяц няўклюдна змізарнелі, яшчэ праз тыдні два ўчарнелі, што вуголле на папялішчы, і стаяў сад

голы-галюткі, быццам зіма на вуліцы, а не краснае лета. З кім толькі ні раіўся Андрон, што толькі ні рабіў ён, каб выратаваць сад, але ўсё дарэмна. Паадставала кара ад ствалоў яблынь і груш, аблупілася голле на слівах ды вішнях, і стаялі дрэвы пад высокім цёплым небам, як абвараныя. Адно што мазолілі вока ды болем адгукалася бяда ў сэрцы. Без патрэбы цяпер заміналі яны на агародзе. Вохкаў і войкаў Сапун, ходзячы па мёртвым садзе, гладзіў шурпатыя дрэвы, там, дзе яшчэ кара засталася, лашчыў вузлавата голыя, як выветраныя на сонцы косткі, ствалы, а ніякай рады даць ужо свайму саду не мог.

Са скупымі слязамі ўчыніў Андрон вядро бражкі, выціснуў-выгнаў трохлітровік самагону і паклікаў пляменніка Віцьку, каб той прыхапіў бензапілу і пазразаў з кораня дрэвы. Было гэта ўжо глыбокай восенню. Каб не бачыць, як ляжа сад аднойчы і назаўсёды на зямлю, Сыпун пайшоў з дому. Узяў кошык і патупаў у лес, быццам назбіраць позніх апенек. А вочы засціла слязівіца-смуга, праз яе не то што грыбоў, сцежкі Андрон не бачыў.

Віцька пасля, калі ўжо сядзелі ў хаце, а белавата-цьмяныя пянькі блішчэлі ў надвячоркавым сутонні, расказваў Сыпуну, як цікавала за ім Надзюха Перазімчыха, некалькі разоў падыходзіла са свайго агарода да плота Андрона і, усміхаючыся, крыху прыкрыўшы бяззубы рот далонню, пыталася:

— Віцечка, ці гэта здурнеў на сыходзе веку Андрон, што наважыўся спляжыць такі сад? Ён мо да наступнай вясны і набраўся б сілы ды моцы, а яго бяздумна пад жалезны ножык пускаеце. Няхай бы пастаяў яшчэ, відаць, год неспрыяльны для Сыпуновых дрэў. Але я помню, такое ж было перад самай вайною ў Пракопа Дуліча. Высах увесь сад, а праз Седміцу і сам Пракоп Богу душу аддаў, то мо і па Сыпуну будзем хутка салодкія бліны есці?

Андрон тады змоўчаў, адно што абыякава махнуў рукою ды наліў у чаркі яшчэ пітва. Віцьку за работу, а сабе, як на памінках па нябожчыку, ва ўспамін аб садзе. Пякучы самагон драў нутро, гарчыў душу, выціскаў з вачэй старога ніцую слязіну. Перажыў Сыпун і гэта гора, адлягло, памякчэла на сэрцы, крыху забылася. Але ўсё роўна, ідучы міма ўчарнелых

пнёў на агародзе, ён спыняецца каля кожнага і адчувае ў роце смак баравінкі і цітаўкі, залатой налівістай антонаўкі і мяккага, па яго зубах, белага наліву.

Пакуль Іпамінаў ды ўзгадв аў сваё, на двор выскачылі цыганяты. Кішэні ў зашмальцаваных і там-сям падраных штоніках няроўна тапырыліся, і ў руках па некалькі грушак. Самая ж меншая дзяўчынка (Андрон нават не ведаў яе імя) назбірала сакавітых пладоў у прыполле сваёй сукеначкі.

— Дужа не ўлягайце на зяленіва, а то жываты паўздувае,— параіў стары,— хадземце ў хату, хлеба з цукрам дам.

Дзеці зашлёпалі босымі нагамі па масніцах у сенцах, зайшоўшы ў пярэднюю, селі паўз печ на самаробнай разной лаве. Андрон пачаставаў цыганят, і яны, адкусваючы па ладным кавалку прысалоджанага хлеба, увішна жавалі, раз-пораз крадком кідаючы позіркі на стол, дзе застаўся ляжаць акраец батона і стаяла драўляная, зробленая ў даўнія гады Сыпуном, цукроўніца. Стары перахапіў позіркі дзяцей, раскроіў рэшту хлеба, зноў пасыпаў цукрам і, калі яны даелі, падаў па новай лусце.

— Дзеду, а праўда, што ў цябе пад печчу жыве дамавік? — церануўшы рукавом кашулі рот, нечакана для Андрона запытаў Васька.

— Хто вам такога нагаварыў, дзеці? — здзіўлена зірнуў ён на цыганят.

— Баба Перазімчыха страшыла. Казала, каб мы не хадзілі да цябе, інакш твой дамавік нас зачаруе і вушы абарве.

«Во лярва старая,— узлаваў пра сябе Андрон,— ужо дзяцей адпуджвае. Сама век нікога не пачаставала, не прывеціла, а цяпер завідкі бяруць, што цягнуцца да мяне на дворышча мальцы-падшыванцы, не абходзяць бокам. Няхай ад злосці жоўцю сваёй захлібнецца. Дзяцей не абманеш, яны сэрцам, хоць і маленькім, адчуваюць, хто да іх з душою і спагадай ставіцца».

— Не бойцеся, дзеткі. Дамавікі ў кожнай хаце жывуць. І ў вашай таксама. А мой зусім добры, любіць вас, бачыце, сахарку з хлебам прыбярог, каб падсаладзіць у роце.

— Дзеду, раскажы нам пра дамавіка, а то, дзе раней мы жылі, іх там не было.

— Так і не было?! — з непрыхаванай сярдзітасцю буркнуў Андрон.— Яны, дамавікі, ні аднаго дворышча не абмінаюць. Вось паслухайце, што я перакажу, ад маіх бацькоў яшчэ чутае, а ім-то верыць трэба, дужа ж праведнымі людзьмі былі, сапраўднымі хрысціянамі, праваслаўнымі, вернікамі. Ды што вам пра гэта гаварыць і пераконваць — верце на слова. Дык вось, дамавік цэлы год жыве смірна і ладна ў любой гаспадарцы, клапоціцца пра ўсё дома і на двары, лепш чым другі мужык-нядайдзіца ці гаспадыня-раскідуха. Глядзіць дамавік за агародам, не дае разгуляцца ў садзе лесавіку, адганяе ведзьмаў ад кароў ды коней. У добрага дамавіка ўсё ў хаце спраўна, ад усяго прыбытак, усім сытна і наедна. А бывае другім разам, што і ўзбунтуецца ён немаведама чаму. У такія часіны, дзеткі,— Сыпун пахітаў перад сваім носам заскарузлым пальцам,— ён злуецца на ўсіх, гатовы разбурыць хату, пазганяць усю жыўнасць на балота, можа коней падперці пад саменькія яслі, а ў кароў адбіць ахвоту да яды — веры не дасцё — перакусае ўсіх сабак, па двары параскідае сані ды калёсы, самому гаспадару, які не ўлагодзіў, падкотваецца пад ногі. А ўсё гэта бывае, каб вы ведалі, не раней, як у канцы сакавіка, калі ў бярозках сок ускіпае, неба сіняй глыбінёю поўніцца, а каля сваіх дамкоў шпакі цвінькаюць. Буяніць раз на год дамавік, як і гаварыў я, звычайна трыццатага сакавіка. Запомніце гэта добра, не пашкодзіць. У гэты дзень пачынае ён сваё гульбішча з ранняй зоркі-зараніцы і да поўначы, як запяюць першыя пеўні. А пасля ўлагоджваецца і зноў дбае пра свайго гаспадара, яго хату і саму гаспадарку.

Многія гаварылі, што на пачатку вясны скідае дамавік старую скуру і ад гэтага так бесіцца, боль жа невычэрпны пераносіць ён, а другія нашанскія старажылы завяралі, што ў той дзень нападае на дамавіка чорная чума, ну хоць бы як і на сабаку ці карову, і ад гэтага ён так сваволіць і шкоду прыносіць на ўсё дворышча. А бацька казаў, што ў гэты дзень прыходзіць расправа дамавікам ад нячыстай сілы на цалюткі год. Матка ж мая, пухам няхай ім зямля будзе, спорыла з бацькам, пераконвала, што глумлівы дамавік трапляецца толькі тым, хто паспрачаўся некалі з вясковым знаха-

рам Гардзеем, вось ён і надзяляе сям'ю такіх сварліўцаў злым і непакорлівым дамавіком.— Андрон зірнуў на цыганят. Яны ціхенька сядзелі на лаве, прыціснуўшыся плечукамі адно да аднаго. Меншая дзяўчынка не зводзіла вачэй з падпечча, каля якога стаяла бляшаная закопчаная засланка. Чорныя вочкі дзяўчынкі сіліліся нешта выгледзець у густой цемры падпечча.

— Ну вось і напужаў я вас,— скупа ўсміхнуўся Андрон,— але вы дужа не лякайцеся. Мой жа дамавік добры, любіць дзяцей, я пра гэта напачатку гаварыў. Так што не бойцеся прыходзіць. Як толькі чаго захочацца, адчыняйце дзверы ў маю хату, я і падсоблю, чым змагу. Добра, Васька? — Сыпун падняўся.— Бяжыце цяпер пагойсайце, а то заседзеліся разам са мною, байкі слухаючы. Ды і мне не выпадае без справы час церці, плот хачу падправіць, частаколіны мацней прыбіць, а то вашыя дружбакі пашкуматалі яго добра. Эх-хэ-хэ, цяжка папрасіць. Я ж не адмовіў бы, бярыце і ежце ад пуза. Мне ж аднаму ўсё не спажыць, заходзьце, дзеткі, часцей і не слухайце бабу Перазімчыху, яна ўжо з розуму выжыла.

## VII

Вечарэла хутка. Натруджанае за дзень сонца скочвалася за вёску паспешліва. Яно імкнулася саступіць нябеснае бязмежжа свайму вечнаму брату-вандроўніку, месячыку. Быццам гэтым гаворачы, што няхай і ён, пасля доўгага дзённага спачыну, паслужыць не толькі сусвету, але і тым людзям, каму яшчэ не спіцца, хто шукае пад яго халаднаватым вокам свайго шчасця і спатолення душы і цела.

Лёнік выйшаў за брамку свайго дворышча ў лёгкай кашулі з кароткімі рукавамі — і ў даволі паношаных джынсах. Ён спадзяваўся мінуць некалькі суседніх дамкоў і загароддзем, абыходзячы выган, прайсці паўз самы лес да возера. Туды вяла ўтаптаная сцежка. Але не паспеў хлопец зрабіць і дзесятка паспешлівых крокаў, як яго аклікнула некалькі галасоў з супрацьлеглага боку вуліцы. Хоцькі-няхоцькі, але ён адгукнуўся, запаволіў хаду і павярнуў, на першы погляд, да нябачнай людской купкі. Разгалісты стары вяз хаваў іх ад цікаўнага чужога вока.

— Куды гэта ты навастрыўся, сябрук? — пазнаў Лёнік голас Жэнькі Кузьміцкага.— Клуб, здаецца, у другім баку. Ці ты забыўся ўжо?

— Не, ён любіць кругі наразаць,— хмыкнуў Віктар Кавалёў.— У горадзе ж па прамой ніхто не ходзя. Там больш за ўсё зігзагамі ўвіваюцца. Я праўду кажу, Лёнь?

Лозік змоўчаў. Адно павітаўся з вяскоўцамі за руку. Дастаў пачак цыгарэт, пстрыкнуў запальнічкай.

— Ого,— пацягнуўшы носам да сябе выпушчаны Лёнікам тытунёвы дым зацяжкі, загаманіў плюгавенькі Сяргейчык Маньчын.— Хлопцы, ён курыць нянашанскія цыгарэткі, дым зусім не смярдзіць, а пахне дарагім дзікалонам. Дай і мне адну, Ленік.

— Любіш ты, Сяргейчык, дармавое,— штурхануў яго локцем Кузьміцкі.— Мы вось вырашылі трошку падагрэцца перад клубам, вінцом пабалавацца,— гэта ён тлумачыў Лёніку.— Пагаворваюць, што сёння прыедуць шчупаць нашых дзевак ельненцы. Мы і хочам учыніць ім гарачы прыём. Сербані трохі і ты,— ён працягнуў Лёніку бутэльку.— Разгані згусцелую за дзень кроў. Няхай яна шпарчэй пабяжыць па жылах. Нашы ўсе дамовіліся сабрацца ў клубе гадзін у дванаццаць, калі самы разгар будзе.

Лёнік зрабіў некалькі глыткоў. Усярэдзіне пацяплела.

— Не саромейся, пі,— падахвочваў Віктар Кавалёў,— у нас яшчэ непачатых тры «фаўсты».

— Хопіць з мяне, хлопцы,— аднекваўся Лёнік.

— Давай, давай, цягні,— не адставаў і Жэнька.

— Глядзіце, а то вам застанецца мала,— сам сабе ўсміхнуўся Лёнік і добра-такі прыклаўся да рыльца.— Ух, праняло,— аддаючы бутэльку Віктару, выдыхнуў Лозік.

Хлопцы зарагаталі.

— Ну, мне трэба бегчы.

— Баішся, што тваю козачку другі ў кустах пакрые? — з'ехіднічаў Сяргейчык.— Не бойся, мы яму тое-сёе на вузел завяжам.

Усе зноў прыцішана гагатнулі ад дасціпнага жарту сябра.

— Бярыце па цыгарэце, а я пабег.

Хлопцы моўчкі апалавінілі пачак, задымілі.

— Глядзі, не пазніся!

— Твой кулак не лішні будзе!

Словы сяброў ляцелі ўслед за Лёнікам.

Колькі сябе памятае Лёнік, нават яшчэ з бясштаннага, як гавораць, дзяцінства, а міру паміж моладдзю Шышкаўкі і Ельні ніколі не было. Варта толькі прыехаць ельненцам да іх у клуб — адразу разборкі і бойкі. Мо ўсё з-за таго, што ў Шышкаўцы было напалову больш хлопцаў, чым дзяўчат, і яны раўніва аберагалі іх. А тыя, наадварот, льнулі да чужакоў, заводзілі сабе кавалераў-ельненцаў, тым самым грэбуючы сваімі. А каму такое даспадобы прыйдзецца?

Лёніку, крыху захмялеламу, прыгадаўся мінулагодні прыезд ельненцаў. Было гэта ці не ў такі ж сяродлетні час. Лёсікава Кацярына, ёмкай косткі дзяўчына, была яшчэ не замужам. За ёй убіваўся шышкаўскі Андрэй, а з Ельні ўлягаў за дзяўчынай стаматолаг-зубнік. Вось ён, як потым уведалі, падгаварыў, перад гэтым добра напаіўшы ельненскіх хлопцаў-забіяк, правучыць Андрэя, адбіць у яго ахвоту заляцацца да Кацярыны. Слова за слова, і пачалася «кулікоўская бітва». Усім хапала, але бедалагу Андрэю найбольш. І калі Кацярына заўважыла, што зубнік ледзь не скача па змэнчаным ад рук ельненцаў яе Андрэю — не вытрымала. Схапіла яна ацынкаванае вядро прыбіральшчыцы і ўварвалася ў самую гушчэчу бойкі. Праз дзве хвіліны ўсё было скончана. Кацярына так сплюшчыла вядро аб галовы і целы ворагаў і сваіх, што яго прыйшлося выкінуць на сметніцу. Вось так яно — ведай нашых. А недзе праз месяц Кацярына з Андрэем згулялі вяселле і забыліся на дарогу да клуба.

Месячык высвечваў сцежку. Лёніку ішлося добра, на душы было прыемна і ўзнёсла. Ён не задумваўся, ад чаго гэта, мо ад блізкай сустрэчы з Дуняшай, а мо ад выпітага. У галаве злёгку шумела, але ўсё роўна здавалася, што ён ясна чуе, як дробныя хвалі на рэчцы набягаюць, шапочуцца з абгладжанымі вадою каменьчыкамі, лашчацца, любяцца між сабою. А вецер, як сапраўдны бацька ўсясвету, ненавязліва і асцярожна гайдае на сваіх урасянелых крылах гэту святую ідылію вечнасці. Але ж да рэчкі яшчэ далекавата, і цячэ яна крыху воддаль ад сцежкі, што бяжыць да возера. Лёнік успомніў, як мінулай восенню ці

не з самага ранку ішоў ён вось па гэтай жа сцежцы, няхітрыя вуды боўталіся на плячы, угіналіся сваёй пругкасцю ў такт хады. Свяціла скупаватае сонца, не, яно не было яшчэ сцюдзёна-халодным, пад яго промнямі, у зацішку, добра было пагрэць плечы, але нечакана на неба вецер нагнаў табунок воблакаў, і на зямлю пырснуў шклянавата-халодны дождж, зацюкаў па рэдкіх, зжаўцелых, агніста-яркіх лістах бялёса-зялёных асін. Чаму гэта зараз Лёніку прыгадалася? Чаму менавіта ўжо даўно забыты той восеньскі дзень? Навошта ён хаваўся ў глыбіні памяці, у падсвядомасці? Можа, прыгадаўся з-за цяперашняга нястрымнага і багатага трымцення лістоты на асінах? Яны дрыжаць, трасуцца пад няўлоўным ветрам. Няма ім спакою з Хрыстова прышэсця на зямлю. Ліхаманіць асіны, прабірае іх няведамы жах, менавіта жах, а не нейкі там лёгкі сполах. І нават чалавеку, так здаецца Лёніку, які ідзе паўз густую сцяну асінніку, на душы робіцца трывожна і вусцішна. Быццам робіш кожны крок у невядомасць. Што чакае там цябе, за наступным паваротам, узгоркам ці лагчынай? Якім будзе слова, сказанае за першым? І чаму ў чалавека пачынае балець без дай прычыны душа сярод асінніку? Няўжо ж такое паганае яно дрэва? Толькі ж зімою для ласёў, и разам з імі і зайцоў яны, асінкі, найлепшая спажыва. Эх, асіны, асінкі...

Лёнік перайшоў неглыбокі роў па хісткіх кладках, абагнуў топкую балацявіну, якая штогод адсвечвае ржавай асакой-разучкаю, і выйшаў на вольнае месца. Адсюль ужо добра бачыліся дубкі, а далей, за імі, цямнела, хутчэй угадвалася шырачэзная азёрная прахалода. Толькі ж прахалода возера ўгадвалася, але сёння не адчувалася. Лёнік ведаў, што возера дыхае цеплынёю, ад вады падымаецца пакуль нябачная яму пара і сцелецца па бліжэйшых кустах лазы і цупкіх сцёблах валяр'янніку.

Калі падышоў бліжэй, то хлопец не адразу заўважыў Дуняшу. Яна, відаць, знарок схавалася за кражысты ствол дрэва. Быццам гаворачы гэтым: «Ага, даражэнькі, ты ўжо тут, а мяне няма, мамка з таткам узялі і не пусцілі». З хвіліну Лёнік узіраўся наўкол, вышукваў знаёмую постаць. Дарэмна. Дзіўнавата хмыкнуўшы сам сабе, ляпнуў далонню па кішэні, дастаў пачак цыгарэт, наважыўся прыпаліць, вось тут і выпырхнула Дуняша.

— Ты нягоднік, Лёнік, Лёнік-нягоднік,— капрызліва штурханула яна ў грудзіну хлопца.— Я з паўгадзіны, як чакаю, вочы прагледзела, сэрца тугою скруціла, а яму хоць трава не расці. Вось так мяне ты кахаеш. Можа, гуляеш, як той кот з мышкаю, а калі надакучу...— Дуняша змоўкла, недагаварыўшы, што ж тады будзе.

— З хлопцамі парай слоў перакінуўся. Яны збіраюцца ельненцаў сёння таўчы.— Крыху памаўчаўшы, дадаў: — Віном пачаставалі, прасілі, каб і я прыйшоў у дапамогу.

— Псіхі.

— Ну.

— Неспакойна нешта ў мяне на сэрцы, Лёнічак. Клопатна неяк. Увесь час думаю, што з'едзеш ты ў свой горад і забудзеш, што я па табе сохну. Канечне, там у вас дзяўчат, як проса ў мяшку, а што я? Я так сабе...— Дуняша гаварыла ўсё гэта з тайнай думкаю, што Лёнік адразу кінецца пераконваць яе, клясціся і запэўніваць пра сваю адзіную любоў-каханне да яе, Дуняшы. Хлопец жа маўчаў і дыміў прыпаленай цыгарэтай.

— Вось ты нічога і не кажаш,— скрушна ўздыхнула і дзяўчына, тулячыся спінаю да шурпатага, парэпанага старасцю ствала дуба. Памаўчалі. Дуняша загаварыла першая.

— Людзі ўжо языкамі менцяць, што гуляшчая я. Абы толькі каго ў штанах убачыла, то і гатовая, як курыца пад пеўня прысесці.

— Дуняш,— Лёнік падышоў бліжэй, таксама плячуком упёрся ў ствол дрэва,— бязглуздзіцу ты нейкую гародзіш, у якую і сама не верыш. І чым больш я пачну пераконваць цябе ў адваротным, тым злей пачнеш даказваць сваю праўду.

— Халодны ты сёння, Лёнік.

— Давай абнімемся. Ну, давай, Дуняша,— ён асцярожна абняў дзяўчыну за плечы, прытуліў да сябе, адчуўшы, як па целе прабегла дрыготкая хваля.— Ну, любая, які я, га? Сіберна-халодны ці, наадварот, быццам з лазні?

Лёніку было сорамна за свае бязглузда-пустыя, недарэчна-смешныя словы. Што ж паробіш з сэрцам? Хлопцу больш усяго хацелася быць вось тут, каля возера, пад шацістымі шапкамі гэтых магутных дрэў з Веранікаю. Цяпер пакуль та-

кой далёкай для яго. «А мо Вераніку зараз таксама нехта абдымае, туліць да сябе? Ці яна пад кімсьці ўжо? Божа мой!» Лёнік аж сцепануўся ўсім целам.

— Што з табою? — заклапочана спытала Дуняша, ловячы позірк вачэй хлопца ў месячным скупаватым святле.— Табе блага? — Дуняша, як клапатлівая маці, асцярожна дакранулася да лба хлопца. — Вой, які халодны, а ўвесь успацелы. Не трэба піць было разам з алканаўтамі той атрутнай заразы. Яны звычныя да ўсяго, а табе, сам бачыш, як кепска.

«Не ад выпітага мне блага»,— круцілася на языку ў хлопца. Душа зашчымела ў яго ад жадання хутчэй патрапіць у горад, пабачыць Вераніку, абняць яе, прытуліць да сябе і моўчкі глядзець у глыбіню яе вачэй, адчуць, як б'ецца сэрца пад пругкімі грудзямі ўпадабанай дзяўчыны. Вераніка больш гаваркая і падатлівая. Яна ніколі не азіраецца, не баіцца, што хтонебудзь з суседзяў пабачыць іх разам, данясе бацькам і тыя ўчыняць разборку. Вераніка столькі разоў, без усялякага хвалявання і перасцярог, прыходзіла да Лёніка ў інтэрнат, заставалася начаваць. Праўда, сусед Лозіка па пакоі, Валодзька Кухар, бурчэў, што яму часта прыходзіцца шукаць сабе месца, каб перадрамаць да раніцы. Але ж справы маладыя. І Лёнік тадысяды кімарыў у пакоях сяброў. Валодзька ж не манах. Сам каханак прыводзіў неаднойчы. Дзіўнавата адно: Кухар шчупленькі, хіленькі, як падлетак, а дзяўчат выбіраў заўсёды ёмкіх, круглатварых, як у вёсках гавораць — дзеўкі-крэмень. А Валодзька з імі спраўляўся. Як? Для хлопцаў усяго інтэрната заставалася тайнай...

— Давай прысядзем? — папрасіла Дуняша.— Тут і пагорак за дзень сонцам прыгрэты. Табе палепшае. І слухай мяне: каб гэтай брыдоты, што жлукцяць хлопцы днямі, нават не тое што ў рот не браў, а не прыгубліваў. Чуеш?

— Ыгы,— толькі і выціснуў з сябе Лёнік.

«Глядзі ты, ужо і загады аддае. Быццам я законны мужык у яе. Не, так усё можа далёка зайсці. Так далёка, што і выбрацца, скінуць цуглі не змагу. Усё добра тое, якое добра заканчваецца».

— Зноў маўчыш. Я ж цябе нічым пакрыўдзіць не хацела.— Дуняша бліжэй пасунулася да хлопца, прytулілася пад-

стрыжанай галавой да яго пляча, глыбока ўздыхнула: — Сёння, Лёнічак, я не пайду на сенавал. Баюся, што маці сачыць будзе, у колькі гадзін дамоў прыйшла. Трэба нам асцярожней цяпер. І ўсе турботы праз нягодную Перазімчыху.

— Няхай плявузгае, нам жа ад гэтага не свярбіць і не колецца,— Лёнік абняў Дуняшу за плечы.

«І ўсё ж не благая яна дзяўчына. Шкода будзе, калі патрапіць у дрэнныя рукі».

Дуняша быццам адчула думкі хлопца. Яна ласкава, як кошка, цярнулася шчакой аб шчаку Лёніка і прыцішаным голасам спытала:

— Ты мяне не падманеш? Праўду гаворыш, што пасля восені забярэш да сябе ў горад, паможаш уладкавацца на работу? А там, калі ўсё добра складзецца, то пад вясну і пажэнімся. Я так гэтага, Лёнічак, хачу. Заплюшчу вочы і бачу, як мы з табою разам жывем, як я цябе чакаю, гатую вячэру і стараюся, каб смачна было, табе падабалася...

«Во, дурніца, без мяне мяне жаніла. Нават не дадумалася спытаць, ці хачу я гэтага. Ну і разуменне ў дзеўкі, калі з тыдзень крадком паспаў з ёй, то і пад вянец весці павінен, смех ды і годзе. Так, улежнасцю тут больш не свеціць. Трэба нейк рваць когці. А то і на самай справе ажэніць на сабе».

— Скажы ж, што праўду гаварыў, не жартаваў, га, Лёнічак? — Дуняша спаднізу зазірала ў вочы Лозіку. Яна нечым нагадвала запалоханага звярка, які даверыўся чалавеку, а зараз у сумненні: ці правільна зроблена, ці не падвёў прыродны інстынкт самазахавання?

— Прыедзеш. Чаго дарэмна хвалявацца,— неяк занадта абыякава, быццам адмахнуўся ад надакучлівага бомкалы-чмяля, прамовіў Лёнік. І адразу ж спахапіўся. Больш цяплей і лагодней дадаў: — Я ж нікуды не дзенуся з таго горада.

Хлопец ямчэй абняў Дуняшу, наблізіў яе твар да свайго і крыху сасмяглымі пасля выпітага віна губамі намацаў пульхныя і падатлівыя вусны дзяўчыны.

Месячык лашчыў сваім нязмушана мяккім святлом разгарачаную пару на беразе возера. Нагрэтая за дзень вада аддавала цеплыню наваколлю. Яна тумановай павуцінай падымалася над люстраной гладдзю і роўнай суцэльнай паласой

напаўзала на кусты і чарот, на ўрасянелую траву і лугавыя кветкі, на Лёніка з Дуняшай. Прырода спрыяла каханню, аберагала яго ад чужых, непатрэбных тут вачэй. У недалёкім кустоўі гаманліва і залівіста спявалі начныя птахі. Іх галасы гарманічна спляталіся са шматграннасцю казачнай ночы. Нават пугач, які сядзеў на старым ссівелым дубе, прыцішыўся, не спяшаўся залапатаць крыламі, а цярпліва чакаў заканчэння рамантычна-ўзнёслых хвілін любові і замілавання тых, хто ў хмельным забыцці кахання зачынаў новае жыццё, жыццё ЧАЛАВЕКА.

## VIII

Андрон збіраў першы ўраджай з незлічоных каліваў свайго тытуню. Ён асцярожна і звыкла абрываў ніжнія лапушыстыя лісты і складваў у кошык. Да гэтага стары паспеў ужо абшчыкнуць на кустах кветкі. Праўда, кожны год ён пакідаў дзесяткі два каліваў нечапанымі. Яны цвілі і спелі да глыбокай восені, да той пары, калі пачыналіся ўедлівыя штодзённыя дажджы. Вось тады Сыпун абрываў карычневыя выспелыя тытунёвыя бомбачкі на насенне, пакуль жа да гэтага яшчэ далёка. Цяпер трэба справіцца з першым ураджаем, затым будзе другі, а пасля і насенне. Радаваўся Андрон, што дачакаўся першага збору, што хутка зможа зрабіць самакрутку са свайго «табачку», а не душыцца папяросамі ды цыгаркамі з крамы. «І як іх толькі людзі штодня кураць? — дзівіўся ён, зацягваючыся «беламорынай» ці «Астрай».— Гэта ж не курыва, а смярдзенне адно». Мінулым годам стары садзіў таксама вялікую дзялку тытуню, думаў, што ніколі не здолее апрастаць ладны, вядры на два, мяшэчак, аж не — разышлося. «Дзякуй Богу,— заўсёды ўсміхаўся Сыпун,— нашы, шышкаўскія, мужчыны падсобілі».

А яно і сапраўды было так. У вясковай краме часта здараліся перабоі з прывозам цыгарэт, ды і ў райцэнтры, Маластоўцы, танныя рэдка былі, а ўсё замежныя, дарагія. Вось шышкаўцы і адведвалі Андрона, прасілі на самакруткі. А ён і рады быў, штодня можна з людзьмі пагаманіць, пра навіны даведацца, якія адбыліся не толькі ў вёсцы, але і да-

лей, па белым свеце. І ўсё гэта ўведаеш, не выходзячы з падворка.

Сёння Андрон цешыўся цёмна-зялёнаму, хрумсткаму ўраджаю. Кожны лісток з куста ўзважваў, аглядаў, абтрасаў рэдкія камячкі зямлі і асцярожна, быццам шкляную цацку, клаў у кошык. Ён не спяшаўся. Засталося некалькі каліваў абарваць. Дзень пагодлівы. Паспее яшчэ насноўдаць шпагатных вяровачак у некалькі радоў пад страхою і паразвешваць пукі тытуню, каб сохлі.

Пракуранымі, як кара алешыны, пальцамі Андрон абрываў на некаторых лістах жаўтлявыя плямкі. Гэта, як ён ведаў, атрымлівалася ад хімічных угнаенняў. Напрыканцы вясны стары «падкормліваў» расаду чырвоным калійным россыпам. Здаецца ж, і асцярожна ўсё рабіў, шчапоткаю сыпаў, але дзенідзе і недагледзеў, крупіцы патрапілі на лісточкі. Нічога, бяды вялікай няма, а карысць ад «падкормкі» ого якая — тытунь рос, не раўнуючы, як на дражджах.

Сонца ўдушліва прыпякала, нават шолаху ветру нідзе не чутно. Здаецца, што стаіш над дубовай бочкай, у якую для запаркі пад гуркі вылілі вядро кіпню. І ты, нахіліўшыся над яе прадоннем, дыхаеш густою, задушлівай, аж слёзы на вачах выбівае, параю.

Ці не з тыдзень не было ўжо дажджу. Сонца, як прывязанае, з самага ўсходу і да вячэрняга змяркання, нястомна выпальвала, высушвала зямныя сокі, пацямнела, абвяла лістота на бярозках ды ліпах, зжоўкла трава на пагорках, але затое дачасна выспелі чарніцы ў лесе. На небе ж ані аблачынкі.

«Дзіўна ўсё ў прыродзе,— маракаваў сам сабе Андрон,— то непрасветныя дажджы заліваюць, то спёка, што не вытыркнуць галавы з хаты. І чалавеку ніяк нельга ўгадзіць. Усё яму не так. У халады хочацца цяпла, а ў спёку хоць нейкай хмурынкі. Забываемся мы, людзі, што ўсё робіцца па волі божай, што ён адзіны валадарыць над намі. Гасподзь карае за грахі нашы, але ж ён міласцівы, даруе нам і на шляхі праведныя ўзводзіць!»

— Здароў, дзядзька! — нечакана пачуў за спінаю Андрон.— Гляджу, што заюшыўся так, хоць мяшок на галаву ўздзявай.

— Няўжо ты, Іван, прыйшоў? — распраміўся стары і пацiснуў працягнутую руку Гарбацэвіча. — Збіраю во на зіму прыпасы,— кіўнуў галавою на дзялку тытуню Андрон.— Трэба ж, каб і вам было што ў замець ды мароз курыць. Інакш ачахнеце без самасаду.

— Праўду кажаш, дзядзька. Без гэтай, прабач, заразы, як без хлеба.

— Пайшлі ў цянёк, пасядзім,— запрасіў Сыпун.— А то ў мяне ўжо спіну разломвае, хоць пудовы камень да яе прывязвай.

— А ты б не перасільваўся. Як гавораць — у Бога дзён многа.

— Яно-то так, Іванка. Але калі ўжо ўзяўся за нешта, то хочацца зрабіць, не адкладваць у доўгі сяннік. Сам ведаеш: адклад не ідзе на лад. Вось я з раніцы і шчыплю, абразаю лісцейкі. Думаю, што калі раней з гэтым спраўлюся, то і другі збор лепшы будзе. Кусты сілу набяруць, а ніжнія лісты сокі цягнуць лішнія перастануць. Сядай вось тут, на ганку, бачыш, як зацяніста, лацве і пасядзець.

— Папяроску будзеш? — выцягнуў Гарбацэвіч з кішэні пачак.— Учора ў Маластоўцы купіў.

— Давай засмалім. Усё не дачакаюся свайго самасаду. Але такой пагодаю тыдні праз два пачну самакруткай пыхкаць.

Хвілінку памаўчалі, пускаючы перад сабою шызаваты дым.

— Я, дзядзька, вось па якой справе,— пачаў Гарбацэвіч,— ці дасі ты пару сталоў на заўтрашні дзень. У кума Петрака вяселле збіраецца.

— Няўжо Колька яго жэніцца? — шчыра здзівіўся Сыпун.

— Нягож хто,— Іван зласнавата цыркнуў слінай праз зубы.— Смаркач яшчэ, нават у войску не служыў, а жанілка спакою не дае, смыліць . Прывёз дзеўку, такую ж зялепуху, з-пад Краснаполля. Заўтра заадно і справяць вяселле. Каб быў маім сынам, то я паказаў бы яму жаніцьбу на спіне. Вусы яшчэ як след пад носам не прабіліся, а ён ужо пладзіцца надумаў. Няхай бы толькі мая Дуняша заікнулася пра вяселле...

— І нічога ты не зрабіў бы,— перапыніў Андрон Гарбацэвіча.— Збіраў бы сталы і на стол. А што да Колькавых вусоў, не дужа гэта і важна,— Сыпун зноў шчыра ўсміхнуўся

і аж закашляўся ад дыму.— Калі хочаш, то раскажу, як мяне падшыванцам вадзілі ў сваты. Канечне, дзеля смеху, а ўсё ж...

Галадуха ў той год выдалася — страшна ўспамінаць. Да Дабравешчання ў засеках і клеці ўсё падабралі. Душылася сям'я такой-сякой нішчымніцай, абы ногі, як гавораць, не працягнуць. Ратоў жа ў нашай хаце было аж дзесяць, праўда, разам з татам і маткаю. Маладога шчаўя і крапівы, думалі, што і не дачакаемся.

Але такое не ў адных нас было. Ці не большасць людзей у вёсцы клалася спаць пад буркатлівую, аж у вушы аддавала, музыку жыватоў, з ёй жа і падымаліся.

Я ў сям'і быў перадапошнім з хлопцаў. Ішоў мне дзевяты год. Адным вечарам мы ўжо павячэралі, пасёрбалі жыдкай бульбы. Калі не ведаеш, то тлумачу табе, што гэта за патрава.

— Я ведаю.

Андрон прымаўкае, выкідвае далей ад ганка дакураную папяросу і нейкую хвіліну засяроджана ўглядаецца паўз частакол агарода на лугавы выган.

— І што далей, дзядзька? — асцярожна пытае Іван.

— Зараз і далей будзе,— вусны старога скрывіліся ў нацягнутай усмешцы.— Значыцца, дзевяты год мне ішоў. Худы ж быў, як цапок. Хоць гладкіх, уедзеных на той час у вёсцы знайсці было цяжэй, чым канапляніну ў горцы проса.

А недалёка, двары праз два ад нас, жыла сям'я Смалякоў, перад вайной з'ехалі яны ў Расею. І была ў Смалякоў дачка Праскута. Дзеўка два дзесяткі гадкоў разменяла, а ў сваты ніхто не ішоў. Дужа ж брыдкаю з твару ўдалася. Самі Смалякі жылі заможна: і хлеба мелі, і скаціны ў хляве. Адным словам, не галадалі.

Вось у той зімні вечар браты, пухам ім няхай зямля будзе, і надумалі звадзіць мяне ў сваты да Смаляковай Праскуты.

— Якія сваты? Табе ж, дзядзька, дзевяць было, а ёй за дваццаць,— здзіўлена перапыняе Андрона Іван.

— Ты слухай, слухай,— усміхаецца стары.— Хоць і галоднымі былі, а жартаваць умелі. Значыцца, збіраюць мяне ў сваты, нейкую торбачку спакавалі, у пляшку вады налілі. Усё сур'ёзна робяць, і я не адмаўляюся, згодны ісці. (Браты казалі,

што ў Смалякоў кожны дзень буду есці ад пуза.) Ужо апрануліся, да парога падыходзім, а тут бацька з печы і гаворыць: «Слухайце, хлопцы, як вы Андрона паведзяце ў сваты, у яго ж яшчэ і яйцы не касматы».

Што ж рабіць? Забедавалі браты, а найбольш за ўсіх я. Тут нечакана бацька з печы зноў параду дае: «Вы прывяжыце Анд-рону аўчынку, вось і гатовы жаніх пад вянец».— Сыпун ад смеху зноў закашляўся, аж слёзы на вачах выступілі.

Іван Гарбацэвіч жа, ляснуўшы па каленях далонямі, зарагатаў так, што напалохаў пеўня, які корпаўся недалёка, за перагародкаю двара, у смецці.

— І што? Прывязалі-такі аўчынку? — праз рогат пытаецца Іван.

— А куды дзенешся. Сяк-так прывязалі з'едзены моллю лапік ад старога кажушка. Я не праціўіўся, а рады быў, што ў Смалякоў цяпер пачну жыць ды штодня смачна есці. Але ж браты-бэйбусы, пасля таго як усё зрабілі, ад смеху каталіся па падлозе, а я горкімі слязамі заліваўся і ўсё прасіў іх ісці да Праскуты ў сваты. Вось як яно, Іванка, бывае. А ты кажаш, што ў Колькі яшчэ і вусы як трэба не выраслі.

Успомні Мікіту Шавэркіна. У яго за ўсё жыццё ні аднаго воласа на твары не было. Баба бабаю на выгляд, а васьмёра дзяцей састругаў. Ніколі, да самай смерці не галіўся, не расло шчэцце, і ўсё тут. Помніш жа, які ён гладкі быў ды ёмкі. Адзін трохпудовыя камяні з агарода зносіў, на дзвюх кароў сена за тыдзень накошваў. Вось табе і безбароды.

— Клопатаў лішніх затое не меў,— пагаджаецца са старым Іван Гарбацэвіч.— Добра яму было.

— О не, хлопец,— перапыняе Андрон.— Каб ты ведаў, колькі кпінаў ды брыдкіх жартаў Шавэркін зносіў, не пазаідаваў бы ты яму. Мікіта, бедалага, цураўся хадзіць у лазню разам з другімі мужчынамі. Сам для сваёй сям'і зляпіў нейкі буданок-баньку, там і мыўся. Усё ж мужчына павінен быць мужчынам. Трэба, каб і барада з вусамі расла, ды і яшчэ тамсям кучаравілася.

— Слухай, а чаму ў старых і пажылых баб вусы і барада пачынаюць перці, як не ў сябе,— далікатна пытае Іван.—

Вазьмі хоць Перазімчыху. Ёй самы час пачаць галіцца. Ты б, дзядзька, зрабіў суседцы добрую паслугу. Клікнуў бы як-небудзь вечарком ды разам і саскрэблі б валассё з твараў, а там, глядзіш — і пабраліся б разам. Весялей жылося б і цяплей зімою спалася.

Іван ведаў, як варагуюць між сабою старыя, таму знарок сказаў гэта. Хацелася паглядзець на рэакцыю Андрона, паслухаць, што ён скажа.

Сыпун здзекліва зыркнуў на Івана, хмыкнуў сабе пад нос і надзіва няспешна загаварыў:

— Ты, хлопча, падтрунівай над сваімі равеснікамі, а нада мною — без пользы гэта. У хаце барадатым ды вусатым павінен быць нехта адзін. Значыць, я ў сваёй гаспадару, а яна ў сваёй парадак вядзе. Ды і ўрэшце, што дрэннага я зрабіў табе? — Андрон напусціў на твар штучна наіграную патхмурнасць. У вачах жа жэўжыкамі скакалі прыхаваныя іскрынкі ўсмешкі.— Я слепаваты ўжо. Баюся, што парэжу Перазімчыху, калі галіць пачну, а ты з зоркім вокам мог бы і паспрыяць старой. Яна, глядзі, паўлітэрак табе за ўвішнасць не пашкадуе. Га, Іван?

— Ну і сказаў ты, дзядзька, як у бочку кашлянуў! Хочаш, каб без нажа, адным языком Перазімчыха мяне з белага свету зжыла? Лепш усё жыццё непітушчым быць, чым паскваліцца на яе паўлітэрак. Няхай у тваёй «сяброўкі» хоць да пупа барада адрастае, а вусы за вушы зачэсвае. Не, не піць мне яе гарэлку, як ніколі не галіць і не стрыгчы. Во, пакуль гаварыў, аж задыхаўся.— Гарбацэвіч прымоўк. Маўчаў і Андрон.

На вёсцы стаяла цішыня. Не чутно было нават дзяцей. Яны, відаць, у такую спёку, як маладыя вывадкі качанят, боўталіся ў прахалодзе рачной ці азёрнай вады. Лацвей, што Шышкаўка стаіць у такім прыдатным месцы: вакол лес, шырокі луг, глыбокае возера і хуткаплынная, вірлівая рэчка. Разумны, гаспадарлівы быў той чалавек, хто першы выбраў для вёскі такое добрае і зручнае месца...

— Ці чуў ты навіну?

— Якую? — зірнуў на Гарбацэвіча стары.

— Бойка ў клубе была паміж нашымі хлопцамі-прасталыгамі і ельненцамі. Жонка гаварыла, што Віцьку Кавалёва прымясілі. Увесь у сіняках і нос зломлены.

— І чаго ім не хапае, гэтым маладым? Як пеўнікі-сёлеткі, між сабою дзяўбуцца? — забедаваў Андрон.— У мае зялёныя леты такога не было. Ад жыру цяпер бесяцца. Каб пра хлеб думалі ды з мазаля жылі, глядзіш, і кулакі б не распускалі. Не хапала б на такое балаўство часу. З зараніцай штодня падымаліся б і пры святле поўні на падушку галаву клалі б. Вось і ўвесь мой сказ... А Дуняша твая ці бегала ў клуб? Мо яшчэ што расказвала?

— Пэўна ж, была і яна там. Я не дапытваўся, а сама нічога не гаварыла. Ты, дзядзька, пра ўсё дазнайся ў Перазімчыхі. Хто-хто, а яна кожную навіну, як на споведзі, выкладзе,— Іван скрытна ўхмыльнуўся, апусціўшы галаву.

— Яд-дрытваю за нагу! — не стрымаўся Андрон.— І дакуль ты нада мною ёрнічаць будзеш? Ведаеш жа пра нашу любоў з Перазімчыхай, а ўсё падколваеш, кпіны строіш, як малец. Сур'ёзны ж мужчына, а над старым падтруньваеш. Глядзі, пажалюся тваёй Кацярыне, яна спуску не дасць. Жонка ў цябе разумная і не балбатлівая, у каршэнь атрымаеш.

— Ды я так, дзядзька, дзеля жарту,— пачаў апраўдвацца Гарбацэвіч.

— І я жартую,— піхнуў Івана ў плячук стары,— што ж, нам і пасмяяцца над сабою ўжо нельга? Разумныя людзі кажуць: лепш з сябе зубы пасушы, чым з чужога чалавека.

— Яно і праўда,— згаджаецца Гарбацэвіч,— нікому балюча не зробіш, а самі сябе, дзядзька, мы і так ведаем... Заседзеўся я.— Іван падняўся з ганка, разганяючы кроў, зварухнуў плячыма.— Прыбірай са сталоў, панясу ўжо, а то кум падумае, што пайшоў і затапіўся. На вяселле, думаю, і цябе паклічуць. Прыгубіш чарку ды нагою тупнеш яшчэ.

— Не, Іванка, адпіў і адтанчыў я сваё. Бывае, што і без гарэлкі галаву з боку ў бок водзіць, перад вачыма нябачныя мухі лятаюць. Весяліцеся ўжо вы, маладыя, а мая весялосць — на печы ляжаць ды балбатню з радыё слухаць. На мінулым тыдні зламіўся тэлевізар. Паказваць паказвае, а маўчыць. Шамкаюць у ім людзі ратамі, як рыбіны безгалосыя, хоць бы слоў-

ца праравалася. Трэба некага клікнуць, няхай бы паглядзеў ды наладзіў. Усё ж весялей вечарамі сядзець. Не так адзінота агортвае тады.

— Днямі я падскочу, нешта з дынамікам у тэлевізары,— паабяцаў Гарбацэвіч.— Думаю, што змагу наладзіць, счакай трохі.

— Добра, добра, Іванка. Хадзі забірай сталы... Я хацеў яшчэ вось што параіць: ты мужчына самастаяцельны, завідны ў вёсцы, то не перабірай дужа гарэлкі. Кажуць, што яна цяпер занадта дрэнная. Многа разоў чуў — людзі труцяцца ёю, дачасна ў дамавіну кладуцца. Ды і Перазімчыха, калі перабярэш, абславіць паўсюль. Яна ж ведае, што з табою дружкуем. Будзе папракаць мяне. Маўляў, я цябе да гарэлкі прывучыў. Як толькі зойдзеш, то быццам і стаўлю на стол пляшку. Дурнаватая баба. Каўтун галаву з'еў, а яна не каецца, спакою не набярэцца.

«Дзяцініцца стары Андрон,— вырашыў пра сябе Іван Гарбацэвіч,— але ж і гады ў яго зайздросныя. Бач, папярэджвае, як бацька. Прыемна, што чужы чалавек, а клапоціцца».

## IX

Дачакаліся нарэшце шышкаўцы дажджу. З самай раніцы сонца, якое сляпуча вісела на неабсяжным нябесным прасцягу, хуценька пачало зацягвацца богведама адкуль нахапіўшыміся аблокамі. Далёка, недзе за лесам, глуха і ленавата, нават стомлена, вуркатнуў гром. Праз міг вока ягоны голас памацнеў, стаў грубейшы і больш блізкі да вёскі. Пацямнела неба, змейкаю паласнула маланка, а вецер, які нахапіўся густой навалаю, зашумеў, забуяніў у лістоце і голлі пасадачных дрэў і кустоў, халя хат шышкаўцаў.

Перазімчыха ў такую непагадзь, каб дарма не гулялі рукі, узялася лапіць падраныя мяшкі. Рыхтавалася да восені. Бульбу ж трэба ў полі кудысьці высыпаць ды, перабраўшы, занесці ў пограб. Зіма, як вядома, усё падбярэ і падчысціць.

Памытыя палатняныя мяшкі горкаю ляжалі каля ног старой. Спрытна хадзіла іголка з ніткаю ў руках Надзюхі. Часам, калі ляскаў недалёкі пярун за акном і нізкае неба праломвала-

ся крываватай стралою маланкі, Перазімчыха выпускала з рукі іголку і паспешліва хрысцілася, бязгучна нешта шэпчучы сабе пад нос.

Яна так заюшылася работаю, што не заўважыла, як з-за невялікіх перакошаных варотцаў прамільгнула нечая постаць у дажджавіку. Не пачула старая і ўкрадлівых крокаў у сенцах. Спахапілася Надзюха толькі тады, як ленавата рыпнулі дзверы хаты.

— Добрага здароўя табе, цётка,— на саматканым ходніку стаяла каля парога цыганка. З яе дажджавіка танюткімі раўчукамі сцякала вада. На заўсёды азызлым твары, пасля ледзь не штодзённых п'янак, гуляла штучна напушчаная ўсмешка. Вочы ж, скіраваныя на Перазімчыху, пажадліва-пакутна гарэлі.

«Прыйшла прасіць на апахмелку,— не адказваючы на прывітанне госці, здагадалася Надзюха.— Чамярыцы ёй з каланіцаю, а не выпіўкі трэба. Лепш бы дзяцей удосталь накарміла. Дык не ж, чарка з гарэлкаю белы свет радном засцяліла. Хоць бы такія бабы часта сяяліся, ды рэдка ўзыходзілі. І чаго ж яна да мяне прыперлася? Заўсёды мінала хату, а сёння ў такое надвор'е, калі па вялікай бядзе на вуліцу вышмыгнеш, яна прыперлася. Ведае, што ў мяне, хоць і на калені стане, ды не выпрасіць і ламанай капейчыны, не гаворачы пра пякучы глыток...»

— Пытаюся пра здароўе тваё, цётка. Ці ўжо зусім нічога не чуеш? А мо спецыяльна прыкідваешся? Нядобра людзей так сустракаць.

Перазімчыха неўзлюбіла, зазлавала на гэта.

— Не бачу людзей! — Надзюха кіданула недалаплены мяшок на падлогу.— І хто ж такое ў галаву тваю прапойную ўбіў, што ты чалавек, га? Алкашка, і ўсё тут!

— Ну, не злуйся, не злуйся.— Цыганка скінула дажджавік з плячэй, трасянула яго і павесіла на цвік паверх пінжака гаспадыні, затым ленавата, нібы не хочучы таго, прайшла да стала і прысела на самаробны яшчэ табурэт.

— Слухай, ці не пазычыш на хлеб грошай? Я днямі аддам. Чыстую праўду гавару. Мае дзеці без хлеба і гарчыцы анічагусенькі есці не хочуць, да любой стравы падавай ім хлеб

з гарчыцаю. Калі няма — галоднымі застаюцца, а за стол не ідуць і не садзяцца.

— Не брашы, як сучка! — ускіпела Перазімчыха.— Халеры табе ў бок. Грошай на хлеб яна просіць. Гарэлкай бясстыжыя гузікі хочаш заліць. Вунь бельмы аж чырвоныя ад перапою... Хай пасля навальніцы дзеці самі прыйдуць, ім на хлеб не паскуплюся даць. Цябе ж, навалач, сранай мятлою з хаты напаганю. Няма пра што нам гамонку весці. Усё. Бяжы па наступных дворышчах. Мо хто і зжаліцца над такой нядайдзіцай, плескане ў шклянку ванючай гары. Дай бог, каб захлынуліся вы, прапойцы! Ці мысліма ж гэта? Раней толькі мужчыны зрэдку пілі, а цяпер і бабы ўпоравень душацца гэтай атрутай. Срамніца ты, срамніца,— захітала галавою Надзюха Перазімчыха.

— Не ерапенься! — гнеўна зірнула на старую цыганка.— З радасцю дасі мне грошай. Дасі, а не пазычыш. І не на адну бутэльку.

— Людцы мае! — здзіўлена пляснула далонямі Надзюха.— Дзе ж гэта бачана, каб сярод белага дня рабавалі?! Вон з маёй хаты! — старая ўсхапілася на ногі.— Зараз жа кaціся за парог, каб і духам тваім не смярдзела!

— Садзіся! — загадала цыганка.— І ўважліва слухай мяне,— жанчына ўперлася локцямі ў свае калені, схаваўшы ў лодачцы далоняў сухі і вастраваты падбародак.— Пачнем з таго, як ты неяк купіла за тры літры самагонкі ў хлопцаў, сама ведаеш якіх, а калі забылася, то магу напомніць, два мяшкі салетры. Ну, ці помніш? — Цыганка, звузіўшы вочы, пільна глядзела на Перазімчыху.— Маўчыш? Значыць, помніш. Купіла ты не для таго, каб падсеяць ячмень ці траву на лужку, а з адною думкаю: нашкодзіць Андрону, суседу свайму блізенькаму.

Перазімчыху быццам электрашокерам сцебанула. Яна здрыганулася ўсім целам, аж хустка спаўзла з патыліцы на вочы. Раскрыла рот, каб нешта адказаць, але не змагла і так сядзела, уталопіўшыся ў нязваную госцю.

— Працягнем далей,— зноў загаманіла цыганка.— Ты думаеш, што ніхто не ўгледзіць, як ты, векавуха, той ранняй вясною, зямелька ледзь-ледзь растала, пад схoвай ночы, пры ме-

сячыку адкопвала карнявішчы саду Андрона і пасыпала, не скупячыся, салетрай. Два мяшкі на дзесятак дрэў хапіла. Я ўсё бачыла свамі вачыма. Вось гэтымі,— цыганка мірганула.— Угробіла ты сад суседа, знішчыла, звяла пад корань. Ведала, чым дапячы Андрону. Ён жа за яблынямі і грушамі, сліўкамі ды чарэшняй глядзеў быццам за роднымі дзецьмі. А ты, цётачка, пад пілу прымусіла сад пусціць... Калі не дасі на гарэлку, то перакажу ўсё не толькі Андрону, а кожнаму шышкаўцу: ад малога да вялікага. Вось тады ўжо точна ў вёсцы табе месца не знойдзецца. Як ад чумной кожны адварочвацца пачне.

У Надзюхі запалалі шчокі і вушы, заламала ў патыліцы. Відаць — падняўся ціск, які шмат гадоў Перазімчыха ўтаймоўвала настойкамі чарнаплоднай рабіны ды прыхопленай марозам каліны.

Што было рабіць старой? Палезла яна ў шыфанерку за занавескай-шырмаю, каб нашчупаць у патаемным месцы вузельчык з грашыма.

— Дзякуй, цётачка,— загаманіла цыганка, бёручы скамечаныя паперчыны з рук Надзюхі.— Усе кажуць, што ты скупая, аж не, памагаеш бедным людзям, такім, як я, лепш за родную матку.

Перазімчыха стаяла моўчкі, адвярнуўшы галаву ад нахабнай госці.

## X

Ужо больш месяца, як з'ехаў Лёнік з Шышкаўкі. Вучыўся і гуляў недзе па шырокіх вуліцах і праспектах вялікага горада. Восень пакрыху, няспешна агортвала зямлю, рыхтавала яе да зімовага спачыну.

Дуняша, як заўважылі бацька з маці, апошнімі тыднямі вельмі замаркоцілася і схуднела. Для іх было нязвычным, што дачка стала абыякавай да яды, нават любімых страў. Кацярына Гарбацэвіч крадком і з падазронасцю глядзела на Дуняшу. Некалькі разоў, калі Івана не было ў пакоі, яна спрабавала пагаварыць з донечкай, распытаць, чаму пры запалых шчоках у яе так круглее жывоцік. Дуняша пры першых жа намёках маці выскаквала з хаты на вуліцу. Крадком плакала, затуліўшыся дзе-небудзь у закутку.

Лёнік не пісаў каля двух месяцаў. З'ехаў і як у густым і непраходным лесе схаваўся. Хоць бы адзінае слоўца даслаў. А ён жа абяцаў ёй, Дуняшы, што забярэ да сябе, падшукае жыллё і будуць яны разам галубіцца ды жыццё ладкаваць. Дуняша ледзь не кожны тыдзень адсылала лісты ў Мінск, ад Лёніка ж ні гу-гу. І як ёй далей жыць? На каго і на што спадзявацца? Як схаваць ад бацькоўскіх і людскіх вачэй цяжарнасць? Хоць ты ў сіло лезь ці ў возера кідайся. Дзе ён і з кім? Няўжо ўсё тое, што было між імі, засталося ў мінулым? Мо яе любы захварэў ці патрапіў у бяду? Не. Пра гэта адразу б пайшла пагалоска па вёсцы. Лозікі ж, бацькі Лёніка, колькі разоў іх Дуняша бачыла, заўсёды вясёлыя, прыветлівыя.

А сны... якія недарэчныя і брудныя яны сняцца. За цэлую ноч хоць і звядзеш, змружыш на імгненне павекі — ніводнага светлага і радаснага моманту.

Гэтым разам, адпрацаваўшы ў кіёску, Дуняша крочыла па маластоўскай дарозе ў бок Шышкаўкі. Пранізліва-едкі вецер даймаў праз скураную куртачку. Па вышчарбленым асфальце кружлялася счарнелая лістота з дрэў, а ўзбоч дарогі, у выпетрана-высахлых кусточках піжмы і палыну, чулася самотная, аж сэрца нудой захліствалася, мелодыя блізюткай зімы, якая вось-вось абрынецца на абшары зямлі і людскія плечы. Хоць было нясцерпна холадна, але Дуняша не спяшалася дамоў. Што новага яна пачуе ад маці, акрамя папрокаў ды вострых і пякучых позіркаў. Як ні старалася Дуняша, але не змагла схаваць ад яе вачэй свой жывоцік. «Гулянчая». Вось тое слова, якім часцей за ўсё сустракала і праводзіла яе маці.

«Шукай, лярва, пакуль не позна, жаніха. Прыхаваеш, срамніца, сваю ганьбу. Нас з бацькам, дасць Бог, ад пазору зберажэш. Хоць за маленькага, плюгавенькага, але, гулянчая, пойдзеш! Чым дурнейшым вахлаком будзе, тым лепей табе. Не глядзі: шыла ён ці матавіла, аберуч хапайся, акручвай. Інакш, павер майму слову, з двара зганю. Не хачу да скону свайго веку хамутоўніцай хадзіць!»

Успамінаючы гэтыя словы, Дуняша не заўважыла, як каля яе спынілася машына. Спахапілася толькі, калі пачула сігнал.

— Замерзнеш на дарозе, прыгажуня,— адчыніўшы дзверцы, вызірнула калматая і рудая галава хлопца.— Куды ідзеш? Мо нам па дарозе, то падвязу.
— У Шышкаўку мне трэба,— абыякава прамовіла дзяўчына.
— Сядай, падкіну.
Адразу адчуліся цеплыня і зацішнасць у кабіне машыны.
— У госці да каго? — з усмешкаю спытаўся вадзіцель.
— Ды не. З працы дамоў дабіраюся.
— А дзе ж такія красатулі робяць? — хлопец падміргнуў. Дуняша, чырванеючы, адвяла вочы.— Калі сакрэт, то пытацца не буду.
— Кіяскёр я. Сакрэту няма.
— Ого, нядрэнна. Давай знаёміцца. Міхасём бацькі мяне назвалі, а табе якое імечка далі?
— Дуня Гарбацэвіч,— патупіўшы вочы, прамовіла яна.
— У Заполлі я жыву,— працягваў далей Міхась. – Хоць і другі гэта раён, але мы, лічы, суседзі. Нас жа ўсяго чатыры кіламетры аддзяляе. Год ужо, як з войска прыйшоў, цяпер шукаю жонку.
Дуняша заўважыла, як хлопец, не саромеючыся, зірнуў на яе правую руку. Відаць, што шукаў заручальнага пярсцёнка, якога, як вядома, не было.
Міхась заўважна пасмялеў.
— Бяры мяне,— немаведама як вырвалася ў Дуняшы.
— А ты пойдзеш? — сур'ёзна паглядзеў на дзяўчыну Міхась.
— Пабачым,— гулліва адказала яна.

## XI

— Сёння зноў на заняткі не хадзіў? — адразу з парога запытаўся ў Лёніка Валодзька Кухар, сусед па пакоі.— Далежышся, што турнуць з інстытута, вось тады і задумаешся па-сапраўднаму. Захочаш локаць грызануць, а не ўдасца. Папоўніш рады беларускага пралетарыяту.
— Заткніся,— няхоцькі агрызнуўся Лёнік.
— Мне няцяжка і памаўчаць. Толькі ж хто цябе, пустадомка, розуму вучыць будзе? Смешна падумаць, што ты, хлопец

не толькі з рукамі і нагамі, а яшчэ і з неблагой галавою, прычынай найвялікшай трагедыі ў свеце зрабіў дзяўчыну. Цьфу на цябе! — Валодзька шпурлянуў на свой ложак дыпламат з канспектамі і, грукнуўшы дзвярыма, выйшаў з пакоя.

Лёнік зноў застаўся адзін і моўчкі глядзеў у патрэсканую столь. Яму анічагусенькі не хацелася рабіць ці на злом галавы некуды спяшацца. Вось ужо з месяц ён не можа сустрэцца з Веранікай. Звоніць кожны дзень, а ў яе адны пустыя адгаворкі.

Часта спрабаваў тэлефанаваць вечарам, толькі ж ніколі не мог застаць яе дома. Бацькі альбо сястра гаварылі, што яна пайшла да сяброўак, з'явіцца позна. Лёнік адным разам не вытрымаў і пад'ехаў да яе інстытута, па раскладзе заняткаў даведаўся аўдыторыю і высачыў усё ж Вераніку. Яна здзівілася, пабачыўшы хлопца.

— Ты што тут робіш? — выдыхнула першыя словы.

— Цябе шукаю,— вінавата прамовіў Лёнік.

Калі пабачыў Вераніку, злосць на яе адразу ж некуды знікла, выпарылася. Сэрца зашчаміла ад радасці. Яны адышлі ў закутак калідора, прытуліліся каля падаконніка.

— Якое ж ты яшчэ дзіцё, Лёнічак,— іскрыста ўсміхнулася дзяўчына.— Сотню разоў тлумачыла па тэлефоне, што зараз у мяне спраў па самую макаўку. Ні дня, ні ночы не ведаю. Дужа цяжкі семестр. Прадыхнуць няма калі, адно ў галаве бібліятэкі і заняткі.

— Ну хоць бы разкі з два, тры мы можам сустракацца ў тыдзень? З гадзіну пагуляць, некуды зазірнуць, пагаварыць альбо проста моўчкі пагля дзець адно аднаму ў вочы,— Лёнік вінавата зыркнуў на каханую.

— Да цябе, як да слупа, нічога не даходзіць! — засердавала дзяўчына.— Я ж тлумачыла, што ў нас наперадзе цэлае жыццё. Трэба крыху счакаць, пакуль паменее спраў і клопатаў. Вось пасля ўжо і будзем любавацца.

— Я адчуваю, што ты, Вераніка, пахаладзела да мяне. Стала не такой, як раней. Быццам бы мы зусім чужыя.

— Ды люблю я цябе, дурненькі мой хлопец! — Яна хуценька дакранулася губамі да шчакі Лёніка.— Уласнік ты непераадольны. Пагля дзіш — праз нейкі час паспеюць надаку-

чыць да помараку ў галаве і размовы, і сустрэчы. А пакуль набярыся цярпення, і ўсё будзе, як у самых лепшых і шчаслівых казках. Цяпер едзь да сябе. Мне трэба яшчэ на адну лекцыю. Больш сюды не прыходзь. Праз некалькі дзён я сама заскочу да цябе ў інтэрнат.

Вось ужо з месяц ён і чакае прыходу Веранікі. Першы тыдзень, ды і другі яшчэ, на кожны стук у дзверы ён падбягаў да іх і з расчараваннем адыходзіў, калі бачыў на парозе зусім іншыя твары. Лёнік стаміўся чакаць...

А слёзныя пісьмы ад Дуняшы з яго роднай Шышкаўкі ўсё ішлі і ішлі. Ён перастаў іх распячатваць. І цяпер канверты ляжалі стосам на яго тумбачцы.

«Навошта ты мне, дурніца,— зірнуўшы на канверты, думаў Лёнік.— Пазабаўляліся крыху, і хопіць. Няхай тое, што было, адыдзе назаўсёды разам з былымі летнімі навальніцамі. Відаць, так нам хацелася на той час...»

Звечарэла. Лёнік не запальваў святла. Ён усё яшчэ перабіраў у памяці тыя шчаслівыя дні і гадзіны, калі з Веранікай быў разам. Іх гарачыя абдымкі і пацалункі, хвіліны саладкавата-беспрытомнай блізкасці. Словы любові, што апякалі душу і часцей прымушалі біцца сэрца, і цяпер гучаць у вушах.

Пстрыкнуў выключальнік. Святло асляпіла. Як праз дрымоту, Лёнік пачуў голас Валодзькі Кухара:

— Ты зусім даўбануўся, смаркач! (Кухар быў старэйшы за Лозіка на два гады.) Распусціў нюні, як баба шклоўская. Мужчына мне называецца! З-за спадніцы вазьмі ды з акна выкінься. Хацеў маўчаць, не гаварыць табе, але ж вымушаеш. Прастытуткай робіць твая Вераніка. Святую знайшоў. Сам некалькі разоў бачыў яе на «стометроўцы» каля цырка. Шлюха яна!

Лёніка быццам варам аблілі. Ён усхапіўся з ложка, і з вачыма вар'ята падскочыў да сябра, замахнуўся кулаком. Валодзька перахапіў руку Лёніка, моцна сціснуў у запясці:

— Супакойся! Не распускай слюняў. Калі не верыш мне, то набярыся смеласці і схадзі гадзінам к васьмі вечара на тую «стометроўку». Паглядзіш, як твая ненаглядная каханка будзе садзіцца ў іншамарку. А не пасаромеешся, падыдзі бліжэй і паслухай, колькі баксаў яна запросіць. Ну, чаго ж ты абвяў, як малады лісток ад кіпеню? Ці зноў сабраўся легчы на ложак і

ўталопіць вочы ў столь? Што? Духу не стае праўду агораць? — Валодзька адштурхнуў Лёніка да стала, аж звалілася на падлогу лямпа. Шкло рассыпалася пацеркамі па чырвона-цёмных, выцертых пантофлямі дошках. — Знайшоў сабе нявінную цэлку, а на ёй ездзіць любы той, хто ўдосталь мае ў кішэнях зялёненькіх. Даляры ёй патрэбны, а не каханне жабрачнага студэнціка,— гэта Валодзя прамовіў больш прыцішана, выходзячы за дзверы.

Лёнік, не спяшаючыся, быццам паралізаваны, падышоў да вешалкі з адзеннем, зняў паліто, усунуў ногі ў начышчаныя, але месцамі парэпаныя туфлі і, не надзеўшы на галаву шапкі, выйшаў у калідор інтэрната...

Паўгадзіны Лёнік цікаваў з другога бока вуліцы на «стометроўку». Ён і раней чуў пра гэту галоўную ў горадзе панель для прастытутак. Чуць-то чуў, але веры вялікай пачутаму не даваў. І вось цяпер на свае вочы ён бачыць кідка апранутых дзяўчат, якія па адной, па дзве ці тры ленавата прагульваюцца па шырокім тратуары. Тут жа, каля яго, па шашы няспешна праязджаюць легкавікі розных марак. Машыны прытарможваюць каля ўпадабаных «паненак», яны хвіліну аб нечым гамоняць і, калі знойдзена агульнае паразуменне, «начныя мятлушкі» ўпырхваюць у салоны аўтамабіляў.

Як ні ўглядаўся, але пакуль што Веранікі Лёнік не бачыў.

«Нагаварыў, паскуднік, на бязвінную. Прыеду ў інтэрнат, заб'ю Кухара, нават рука не задрыжыць. Вераніка — прастытутка... Не! Хутчэй сам ты шылахвосты педэраст!»

Лёнік збіраўся ўжо на прыпынак тралейбуса, калі заўважыў знаёмую постаць на «стометроўцы». У грудзях усё схаладнела, быццам зацягнулася тоўстым ільдом.

Вераніка павольна крочыла пад руку з нейкаю дзяўчынай. Вось яны зусім запаволілі хаду, каля іх спынілася шыкоўная машына, і праз імгненне няма на тратуары ні Веранікі, ні яе сяброўкі па начных заробках.

Лёнік памкнуўся кінуцца праз шырокі праспект да той машыны з Веранікаю, але яго ногі нехта нябачны быццам замураваў у асфальт. Яны не слухаліся свайго гаспадара. Даўно знікла машына з яго каханкаю, а хлопец, як мармуровы ідал, стаяў усё на тым жа месцы.

## XII

У хаце Гарбацэвічаў з самай раніцы рыхтаваліся да прыезду сватоў. Кацярына быццам заведзеная круцілася каля газавай пліты: гатавала, трахтавала ўсё смачнае, рэдкае, каб людзям на стол было што паставіць. Жанчына аж свяцілася ад радасці. «Бач ты, не падвяла Дуняша пасля сур'ёзнай гаворкі пра жаніха. Знайшла-такі сабе хлопца. Не будзе мне з Іванам сорамна за дачку перад вяскоўцамі. Законна народзіць дзіця, ніхто не папракне малое, што байструком прыйшло ў гэты свет. Малайчына дачка. Аж з Заполля найшла жаніха. Вушлая яна ў мяне. А па маладосці з кім не бывае промаху. Хто з нас не ўлюбляўся з надзеяй на лепшае, на толькі сваё, адзінае, здавалася, шчасце. Абшыбілася Дуняша, але ж во, глядзіш, сама і выправіла перад людзьмі свой грэх».

Так думала Кацярына. Яна быццам памаладзела. Вочы іскрыліся. Паменела маршчынак на твары, шчокі паружавелі (не то ад агню пліты, не то ад радасці), белая хусцінка на галаве падкрэслівала блакітную глыбіню яе вачэй.

«І Міхась завідны хлопец. Разкі тры Дуняша прыводзіла яго ў хату. Пазнаёміла. Толькі б у іх усё наладзілася. А маленькі падман з нашага боку няхай Усявышні прабачыць... Трэба будзе клікнуць на заручыны радню, Дуняша сваіх сябровак прывядзе, Андрона пазавем абавязкова. Ён жа, як Іванаў сябра, павінен сядзець на пачэсным месцы... Вой, толькі б усё паспець. Дачка няхай паляжыць, пагартае кніжкі. Яе асноўны клопат яшчэ наперадзе. Добра, што ў мяне Іван запаслівы мужчына. Няма клопатаў з гарэлкаю. Ледзь не цэлая скрыня ў кладоўцы стаіць. Цяпер яна як знойдзена... Дуняша сказала, што гадзінам к чатыром сваты прыедуць. А чаго пазніцца? Цяпер жа не лета, а глыбокая восень. Кожны наступны дзень больш і больш зімою пахне... Суседзі, глядзі ты на іх,— прыкмецілі, што Дуняшу кожны дзень нейкі хлопец прывозіць пасля работы з Маластоўкі. Нічога, здаецца, нельга схаваць ад чужых вачэй. Ды і што нам хаваць? Выбачай, Божа. (Кацярына цішком перахрысцілася.) Усе мы з грахом пад табою ходзім... А Перазімчыха дакуль ужо будзе няўседлівай бабай? Усё шны-

рае, штодня ходзіць, падазрона пазірае на Дуняшу, пра Міхася выпытвае: хто бацькі і адкуль ён ды як? Навошта старой у яе гады ўсё ведаць? Ды Бог з ёй, з Перазімчыхай. Няхай ведае, што Міхась з Заполля, што сёння чакаем сватоў, што наша дачушка замуж вось-вось пойдзе. Бяды ад гэтага ніякай».

Кацярына зірнула на насценны гадзіннік. Быў якраз полудзень. Значыць, яна паспее ўсё зрабіць да прыезду дарагіх і чаканых гасцей.

## XIII

...Ніхто з шышкаўцаў не бачыў, як раніцай, яшчэ прыцемкамі, апрануўшыся быццам на свята, у бок Заполля па бязлюднай лясной дарозе шыбавала Надзюха Перазімчыха.

## XIV

...Дарэмна ў той дзень у хаце Гарбацэвічаў да позняй ночы гарэла святло і чакалі сватоў. Чакалі з надзеяй і спадзяваннем. Сваты не прыехалі.

## ЗМЕСТ

**Казлоў А.**

К 14 Незламаная свечка: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 2000.— 222 с.

ISBN 985-02-0070-7.

Аповесці таленавітага празаіка створаны на сучасным і супярэчлівым жыццёвым матэрыяле, дзе рэальнае спалучаецца з фальклорна-міфалагічным. У цэнтры ўвагі аўтара — моладзь са сваімі адвечнымі праблемамі — пошукамі, часам цяжкімі і пакутлівымі, свайго месца пад сонцам. Дапамагаюць ёй у гэтых памкненнях — нязгасны аптымізм, шчырасць, душэўная цеплыня і светлае каханне.

**УДК 882.6-3**
**ББК 84(4Беи)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

Казлоў Анатоль Сяргеевіч

НЕЗЛАМАНАЯ СВЕЧКА

Аповесці

Рэдактар І. І. Капановіч. Мастак Г. Г. Малышаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Камп'ютэрная вёрстка Н. П. Драп. Карэктары Я. А. Бебель, Я. Ф. Харко.

Падп. да друку 01.02.2000. Фармат 70x100 $^{1}/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 9,10. Ум. фарб.-адб. 9.26. Ул.-выд. арк. 12,00. Тыраж 1300 экз. Зак. 5054.

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме.
Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Аддрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.